**Вячаслаў Рагойша**

# І адгукнецца слова ў слове

*Літаратурна-крытычныя артыкулы, эсэ, дыялогі*

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1992

Пафосом новизны, первозданности наполнены статьи и эссе известного белорусского критика и литературоведа Вячеслава Рагойши. Новые и забытые факты, своеобразный взгляд на литературные явления, объективность и профессионализм анализа читатель встретит и в рассуждениях о творчестве белорусских писателей, и в разговоре о литературных взаимосвязях, и в обсуждении вопросов теории и практики художественного перевода.

# Папярэднікі і сучаснікі

## СЕЙБІТ

У беларускай літаратуры, багатай сваімі драмамі і трагедыямі, постаць Сяргея Палуяна (1890—1910), бадай, самая трагічная. Ад прыроды надзелены, не пабаімся сказаць, геніяльнымі задаткамі, вялікі жыццялюб і працалюб, ён змог папрацаваць у літаратуры ўсяго адзін год, загінуў у дзевятнаццаць з палавінай гадоў, налажыўшы на сябе рукі. Чалавек адкрытай душы, выключна таварыскі, ён у той жа час, па словах М. Багдановіча, «быў, як месяц, адзінокі: самотна жыў, самотна ўмёр». Нарадзіўшыся ў даволі заможнай сям'і, ён сваё нядоўгае самастойнае жыццё правёў у страшэннай галечы. Нарэшце яму, хто меў выключныя здольнасці да навукі, не ўдалося скончыць нават звычайнай гімназіі, давялося здабываць веды самавукам.

На ўсім гэтым ляжаць адзнакі дакастрычніцкай рэчаіснасці, змрочнай сталыпінскай рэакцыі, калі панаваў жорсткі сацыяльны і нацыянальны ўціск, душылася ўсё светлае, прыгожае, маладое. Разам з тым праглядваюцца тут і рысы незгібальнай натуры, якая ўпарта адстойвае свае ідэалы і можа пад цяжарам невыносных жыццёвых абставін нават зламацца, але — ніколі не стане на калені, не сагнецца!

Аднак жа давайце звернемся да творчасці гэтага самабытнага пісьменніка. Тым больш што зрабіць гэта цяпер не цяжка: у выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла кніга Сяргея Палуяна «Лісты ў будучыню» (1986).

Першая друкаваная праца С. Палуяна — артыкул «Пра нацыянальную школу на Беларусі», змешчаны ў часопісе «Українська хата» (1909, № 5). З гэтага артыкула, як з пачатковага пункта, разыходзяцца два вызначальныя жанравыя вектары яго творчасці: публіцыстыка і крытыка. Артыкул па форме нагадвае рэцэнзію на першы нумар культурна-асветнага часопіса «Белорусский учитель», які выйшаў у Пецярбургу ў 1909 годзе. Па сутнасці ж гэта — палкае публіцыстычнае выступленне ў абарону нацыянальнай школы, роднай мовы, напісанае з выпадку выхаду ў свет названага часопіса.

У справе народнай асветы, дэмакратызацыі школы, развіцця нацыянальнай свядомасці С. Палуян асноўнае месца адводзіў настаўніку. Ен бачыў, у якое цяжкае становішча пастаўлены пры царызме настаўнік, які «павінен пашыраць у народзе асвету пад «неукоснительным наблюдением» кожнага «власть имеющего»,

пачынаючы ад соцкага, школьнага старасты, і канчаючы інспектарам — гэтым царом і богам, валадаром жыцця і смерці настаўніка». У «недержавных» народаў сацыяльны прыгнёт накладваецца на нацыянальны, «сотня вачэй пільна сочыць за кожным яго рухам, за кожным адхіленнем у бок «сепаратызму». Аднак, нягледзячы на ўсё гэта, піша С. Палуян, беларускае настаўніцтва «не схавалася ў казённы футляр», яно разам з народам ідзе цярністым шляхам да лепшай будучыні, першым падхоплівае ідэі народнага вызвалення. Яно вяло вялікую палітычную працу ў час рэвалюцыі 1905 —1907 гг., арганізоўвалася ў грамады, саюзы, збіралася на з'езды. Цяпер жа асноўная задача настаўніцтва,— лічыць С. Палуян,— садзейнічаць нацыяналізацыі школьнай справы, бо толькі «адна гэта нацыяналізацыя можа рассекчы гордзіеў вузел беларускай блытаніны, яна адна можа вывесці беларускі народ з таго тупіка, у які завялі яго нашы ўласныя вышэйшыя слаі сваёй антынароднай палітыкай, і паставіць яго на шлях агульначалавечага развіцця». Прычым нацыяналізацыю школы С. Палуян разумеў шырока — і як «адзяржаўленне» яе, і як дэмакратызацыю школьнай справы, і як увядзенне ў школе выкладання на роднай мове.

Пашырэнне грамадзянскага статуса роднай мовы — адна з галоўнейшых тэм палуянаўскай публіцыстыкі, якая знайшла ўвасабленне ў многіх публікацыях, і перш за ўсё — у цыкле артыкулаў «З нашага жыцця». Родную мову С. Палуян называе «народнай», бо галоўны яе захавальнік — працоўныя народныя масы. У той час,як вышэйшыя слаі грамадства здрадзілі народу, вельмі хутка пераанялі пануючую культуру, апалячыліся ці абруселі, народ, «забіты беднасцю і непамернай працай... усё ж такі глыбока захаваў у сваіх брудных вёсках бацькоўскую мову». Мова — галоўны фактар духоўнага жыцця нацыі. Таму «беларускі нацыянальны рух, як вялікая жыццёвая гістарычная сіла, можа быць толькі тады, калі пад яго будзе падведзены такі фундамент, як гібка абробленая мова дый літаратура і навука ў гэтай мове».

І вось тут С. Палуян прыходзіць да акрэслення дзвюх праблем першапачатковай важнасці. Першая — гэта пытанне пра крыніцы ўзбагачэння беларускай літаратурнай мовы, пра тыя кузні, «у каторых можна было б з мовы вясковага ўжытку, з мовы цёмных сялян выкаваць мову культурнай нацыі: без такой культурнай мовы нельга шырыць і самае культуры». Другая праблема датычыцца формы і сродкаў пашырэння роднага слова ў дэнацыяналізаваным грамадстве.

Узбагачэнне мовы можа адбыцца рознымі шляхамі: праз запазычанне, шляхам актывізацыі нацыянальных моўных рэсурсаў і г. д. С. Палуян не быў пурыстам, ён сам не раз ужываў у сваіх артыкулах іншамоўныя запазычанні, у прыватнасці рускія і ўкраінскія словы і выразы. У той жа час ён, як і пазней Якуб Колас, заклікаў перад увядзеннем запазычання «абшарыць кішэні сваей памяці»: звярнуцца да дыялектаў, да гістарычнай памяці народа, увасобленай у старых рукапісных і друкаваных тэкстах. «Нам трэба шмат новых слоў, а пазычаць у суседзяў не надта хочацца,— пісаў С. Палуян,— вось і прыходзіцца карыстаць старымі беларускімі словамі».

«Кузняй» літаратурнай мовы, важнейшым сродкам прапаганды роднага слова з'яўляецца нацыянальны друк. С. Палуян заклікае падтрымліваць — маральна і матэрыяльна — першыя беларускія друкаваныя выданні. А для гэтага трэба «кінуць згубны адвечны сон», пашыраць у народзе беларускія газеты і кніжкі, залучаць ім новых чытачоў. Трэба трымацца разам, бо «толькі ў еднасці — сіла, і калі мы хочам зрабіцца сілай, то трэба нам моцна трымацца адзін за аднаго».

Адным з важнейшых сродкаў развіцця культуры, мовы, нацыянальнай свядомасці С. Палуян справядліва лічыў нацыянальны тэатр. Пра вялікую ролю тэатра ў жыцці народа пісьменнік выказваўся ў цікавым артыкуле «Беларускія вечарыны», у шэрагу іншых публікацый («Першая беларуская вечарынка», «Віленскія газеты аб беларускай вечарынцы», «Этнаграфічны вечар у Вільні» і інш.). Гатымі сваімі працамі С. Палуян паклаў пачатак беларускаму тэатразнаўству як асобнай галіне ведаў. «Ролю тэатра ў сучасным беларускім жыцці,— пісаў С. Палуян,— немагчыма параўнаць нават з роллю тэатра на Украіне ў часы адміністрацыйных забаронаў і прыцяснenняў». Яшчэ да вядомага выказвання М. Гарэцкага аб выключнай ролі беларускага тэатра ў культурным жыцці нацыі аўтар «Беларускіх вечарын» прарочыў яму вялікую будучыню: «Ен будзе ўсім адначасова — і нацыянальнаю школаю, і асветным таварыствам, і клубам, і, што найгалоўней, імпульсам для развіцця мастацтва наогул і літаратуры ў прыватнасці».

Дарэчы, спраўдзілася яшчэ адно прароцтва С. Палуяна, выказанае ў артыкуле «Беларускія вечарыны». Упамінаючы славуты верш Янкі Купалы «А хто там ідзе?», пакладзены на музыку Л. Рагоўскім, С. Палуян пісаў, што гэты твор «павінен стаць гімнам беларускага адраджэння». Прычым сказана гэта было яшчэ да таго, як М. Горкі ў артыкуле «Пра пісьменнікаў-самавукаў» (1911) выказаў такую самую думку: верш, «магчыма, на нейкі час стане народным гімнам беларусаў». Так яно, вядома, і сталася.

С. Палуян у «Беларускіх вечарынах» прасачыў развіццё беларускага тэатра, пачынаючы з сярэдзіны 90-х гг. мінулага стагоддзя, з часу пастаноўкі ў Радашковічах аматарскім гуртком п'есы Ядвігіна Ш. «Злодзей». Многае С. Палуяну было вядома як сучасніку ці нават відавочцу падзей беларускага культурнага жыцця, таму яго сведчанні маюць вялікае значэнне і цяпер. Так, гаворачы пра пастаноўку камедыі М. Крапіўніцкага «Па рэвізіі» ў Мінску ў пачатку XX ст., ён піша: «Гэты вечар меў вялікі поспех і прынёс добры прыбытак. На гэтыя грошы ў 1903 годзе быў выдадзены ў Пецярбургу зборнічак вершаў «Вязанка». Гісторыя выдання зборніка Я. Лучыны «Вязанка» да канца яшчэ не высветлена. Указанне Палуяна можа даць штуршок для новых пошукаў гісторыкаў літаратуры. Тым больш што прасочваюцца цікавыя аналогіі ў спосабе пераадолення цэнзурных перашкод пры пастаноўцы спектакля «Па рэвізіі» і пры выданні кнігі «Вязанка». І ў першым, і ў другім выпадку, абыходзячы ўказ аб забароне беларускай мовы на сцэне і ў друку, беларускія культурныя працаўнікі дзейнічалі, па сутнасці, аднолькава: паведамілі царскім уладам, што п'еса Крапіўніцкага іграецца па-ўкраінску, але «з беларускім акцэнтам», а што датычыцца кнігі Лучыны, то яна быццам бы напісана на ... балгарскай мове. У абодвух выпадках поспех быў дасягнуты: і спектакль, і кніга ўбачылі свет.

Духоўнае адраджэнне роднага народа было сэнсам існавання С. Палуяна. Пачатак яго ён звязваў з першай рускай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыяй («палітычнай завірухай», «завірухай», «часам свабоды» — паводле эзопавай мовы С. Палуяна), якая «ад краю да краю скалыхнула ўсё Расейскае гасударства» («Аб беларускім нацыянальным адраджэнні»), Сацыяльнаму і нацыянальнаму разняволенню народа ён служыў як мог. Аднак С. Палуян ніколі не замыкаўся ў нацыянальных межах, ніколі не праяўляў нацыяналістычнай абмежаванасці і высакамер'я. Наадварот, ён, больш за ўсё любячы родны край і народ, нястомна заклікаў вучыцца ў іншых народаў. Раскатурхваючы нацыю ад летаргічнага духоўнага сну, нязменна звяртаўся да вопыту суседзяў — рускіх і ўкраінцаў, палякаў і літоўцаў. С. Палуян першы ў беларускім дарэвалюцыйным друку напісаў пра чувашоў («Нацыянальнае адраджэнне чувашоў») і якутаў («Якуцкі нацыянальны рух»), пра якіх увогуле мала хто ведаў у тагачаснай Беларусі.

Ён расказаў сваім суайчыннікам пра нацыянальнае адраджэнне гэтых народаў, якое звязваў з рухам нізоў, працоўных. Так, гаворачы пра якуцкі нацыянальны рух, С. Палуян указваў, што «гэтага баяліся якуцкія багатыры — тафанье. Разам з начальствам яны рупіліся аб

тым, каб задушыць у самым пачатку пачынаючыйся рух». Беларускі публіцыст верыў у светлае будучае малых народаў Расійскай дзяржавы. Якуты, пісаў, у прыватнасці, С. Палуян, «працуюць не пакладаючы рук і смела з надзеяй чакаюць лепшых часоў. І яны дачакаюцца іх».

Зразумела, асаблівае месца ў сэрцы С. Палуяна займалі Украіна, украінская культура, справы нацыянальнага адраджэння ўкраінскага народа. Пяру яго належаць шэсць «Лістоў з Украіны» — палова з сістэматызаванага газетнага-публіцыстычнага цыкла, пачатага Я.Журбою. С. Палуян пастаянна інфармаваў беларусаў пра ўкраінскае грамадска-палітычнае і культурнае жыццё, новыя ўкраінскія выданні, цікавасць украінцаў да беларускай літаратуры і г. д. Яго допісы насычаны багатым фактычным матэрыялам, прасякнуты духам братэрскай павагі да Украіны і яе народа, напоўнены пачуццём удзячнасці за разуменне і дапамогу. С. Палуян дае характарыстыку навуковаму і літаратурнаму жыццю тагачаснага Кіева, выказвае сваю перакананасць у тым, што «Кіеў можа і павінен зрабіцца (пакуль у нас на беларускай зямлі не будзе высшых школ, у каторых наша моладзь магла б вучыцца, не выязджаючы з роднага краю) адным з цэнтраў беларускай нацыянальнай работы». Звяртаючыся да моладзі з заклікам яднаць свае сілы, каб дапамагчы свайму народу «выбіцца з цемнаты адвечнай», здабыць светлае і шчаслівае будучае, С. Палуян заканчвае адзін са сваіх лістоў словамі вялікага Кабзара:

І чужому научайтесь,
Й свого не цурайтесь,
Бо хто матір забуває,
Того бог карає...

У «Лістах з Украіны» С. Палуян выступае таксама і як тэарэтык перакладу. Сам ён перакладчыцкай працай, відаць, не займаўся (прынамсі, мы не ведаем пакуль што яго перакладных твораў), але як пісьменнік меў добрае адчуванне мовы і стылю, а паколькі працяглы час жыў на Украіне, то няблага ведаў украінскую мову. Менавіта таму ён змог даць навукова аб'ектыўны аналіз усёй тагачаснай літаратурнай прадукцыі ў галіне ўкраінска-беларускага і беларуска-ўкраінскага перакладу. Правільна разумеючы пераклад як адно з выяўленняў дружбы паміж народамі, Палуян падкрэсліваў і іншае ў перакладных творах: «Апроч таго, што яны знаёмяць украінскае грамадзянства з нашай літаратурай у яе лепшых рэчах, яны яшчэ знаёмяць і з душою народнай, бо калі твор літаратурны выканаы

добра, то ў ім адбілася і нацыянальная душа аўтара, а значыць, і народа». С. Палуян выказаў правільнае і на сённяшні дзень меркаванне пра дакладнасць мастацкага перакладу, куды ўваходзяць сэнсавая блізкасць да арыгінала, захаванне духу нацыянальнай паэзіі і высокая ступень мастацкасці (« артыстычнасць »).

Да «Лістоў з Украіны» прымыкае і невялікі допіс «Украінскія часопісы», пададзены як рэдакцыйная «ўрэзка» да газетнага фотаздымка вокладак васемнаццаці ўкраінскіх дарэвалюцыйных перыядычных выданняў. У нататцы падкрэслівалася, што так званая «свабода друку» стала фікцыяй: з васемнаццаці часопісаў і газет закрыты дванаццаць (у тым ліку такія прагрэсіўныя выданні, як «Шершень», «Украіна», «Українська думка»,— яны не называліся з-за цэнзурных меркаванняў, а толькі паказваліся на здымку). Як на прыклад, які трэба пераймаць, указвае С. Палуян на падтрымку ўкраінцамі сваёй нацыянальнай прэсы. «Усе, для каго непрыемна адраджэнне зацiснутага народа,— піша ён,— заўсягды касым вокам пазіралі на ўкраінскія нацыянальныя газеты. Але ўкраінцы так моцна трымаюцца за свой родны грунт, што нічым іх не адстрашыш. I вось яны падтрымліваюць на сваёй зямлі столькі розных часопісаў...» Гэтыя словы С. Палуяна нібы гучалі і зваротам да беларусаў: падтрымлівайце і вы, як украінцы, свае нешматлікія выданні, выпісвайце і прапагандуйце іх...

Увогуле, пра што б і пра каго б ні пісаў С. Палуян, заўсёды ён думаў і дбаў пра родны народ, родную культуру. Тое, што робіцца ў іншых краях, сярод іншых нацый і народаў, ён суадносіў са становішчам у сябе дома. Гэта выразна відаць у «Лістах з Украіны», у закліку «прыкладаць да работы ўсе свае сілы, каб як мага хутчэй даганяць нашых старэйшых братоў у развіцці нацыянальнага жыцця». А вось ён, скажам, піша пра чувашоў, пра тое, што «з народу сталі выбівацца больш здольныя людзі». I тут жа дадае: «Але не пакінулі яны яго, як гэта ў нас робіцца, не — яны засталіся на месцы і пачалі працаваць над адраджэннем свайго народа».

Гэты «позірк» збоку, суаднясенне духоўных здабыткаў свайго народа з дасягненнямі іншых народаў ляжаў і ў аснове літаратурна-крытычнай творчасці С. Палуяна. Да прамых міжлітаратурных супастаўленняў, паралеляў і аналогій ён адрасаваўся не часта. Але ў самой методыцы яго крытычнага аналізу, у «шкале» ацэнак літаратурных з'яў нязменна адчувалася арыентацыя на той эстэтычны ўзровень, які дасягнулі на той час руская і ўкраінская літаратуры. Гэта адразу прыдало грунтоўнасць і аб'ектыўнасць літаратурна-крытычным працам С. Палуяна, а тым самым —і ўсёй

тагачаснай беларускай літаратурйай крытыцы, паколькі менавіта Палуян з'явіўся адным з яе пачынальнікаў.

Літаратурную крытыку С. Палуян, услед за В. Бялінскім, разумеў як «рухомую эстэтыку», як пасрэдніцу паміж пісьменнікам і чытачом. Ён выступаў за літаратуру баявітую, высокаідэйную і высокамастацкую, якая б выхоўвала ў чытачоў дэмакратычныя погляды, высмейваў тых, хто лічыў, што «народ можна карміць толькі салодзенькаю юшкаю з навару народна-сентыментальнай пісаніны» (Выдавецтва «Час»), С. Палуян быў за тэндэнцыйную літаратуру. Аднак у сапраўдным творы тэндэнцыя, справядліва лічыў ён, «не вылазіць наверх, як шыла з мяшка, а ляжыць у самой сутнасці паэтычнага таленту аўтара», пэўныя ідэі «прышчэпліваюцца... не гучнымі словамі, а паэтычнымі вобразамі» («Якуб Колас. Другое чытанне для дзяцей беларусаў»). Мастак павінен не прапаведваць сухія ісціны, а «тварыць і паказваць». Толькі ў такім выпадку літаратура можа мець выхаваўчае значэнне.

Гэтыя палажэнні знайшлі сваё ўвасабленне ў рэцэнзіях С. Палуяна на кнігі Якуба Коласа «Другое чытанне для дзяцей беларусаў», Ядвігіна Ш. «Дзед Завала», ананімную паэму «Тарас на Парнасе», а таксама на «першы беларускі каляндар «Нашае нівы» на 1910 год». Часам, аднак, рэцэнзент, ацэньваючы творы па самым высокім рахунку, забываецца на прынцып гістарызму, і тады заўважаецца недаацэнка некаторых ранніх твораў беларускай літаратуры («Энеіды навыварат», «Тараса на Парнасе», «Беларускага лемантара» К. Каганца, «Першага чытання для дзетак беларусаў» Цёткі і інш.). Здараецца гэта ў тых выпадках, калі крытык факты літаратурнага жыцця вычляняе з канкрэтна-гістарычных умоў іх узнікнення і развіцця і, без усялякіх агаворак, уводзіць іх у кантэкст сучаснага яму літаратурнага працэсу. Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што бывае такое не часта.

С. Палуяну належыць першы ў беларускай крытыцы гадавы агляд літаратуры. Артыкулам «Беларуская літаратура ў 1909 годзе» ён распачаў літаратурна-крытычны жанр, які затым плённа прадаўжаў і развіваў М. Багдановіч («Глыбы і слаі. Агляд беларускай краснай пісьменнасці 1910 г.»; «За тры гады. Агляд беларускай краснай пісьменнасці 1911-1913 гг.»), У артыкуле, зыходзячы са сваіх метадалагічных установак, С. Палуян коратка ахарактарызаваў творчасць беларускіх літаратараў за адзін год. Найбольшую ўвагу, зразумела, ён удзяліў Я. Купалу, ад якога «Беларусь можа чакаць многа», перад якім «вялікая будучыня, калі толькі ён не сойдзе з выбранага гасцінца». У сярэдзіне 1909 г. С. Палуян заўважае

«паварот» у творчасці Я. Купалы: «Новыя творы яго акуратна абдуманыя, тэм розных многа, форма лёгкая, усюды артыстычна апрацаваная. Калі і бачым дзе-якія няхваты, дык відаць і ўнутраная сур'ёзная работа, праўдзівае разуменне задач літаратуры». З іншых літаратараў, творчасць якіх заслугоўвае ўвагі, крытык вылучае Цётку, Я. Коласа, М. Багдановіча, Ядвігіна Ш., К. Буйло і А. Паўловіча. Прычым, гаворачы пра Я. Коласа, ён падкрэслівае «ненармальныя ўмовы яго жыцця», якія «не даюць яму можнасць акуратна развівацца». Я. Колас у той час сядзеў у мінскім астрозе. На гэтую акалічнасць якраз і намякаў С. Палуян.

Дакладнасць і аб'ектыўнасць ацэнак Палуяна-крытыка, дадзеных ім у артыкуле «Беларуская літаратура ў 1909 гаду», знайшлі пацвярджэнне ў працы М. Багдановіча «За тры гады». Па сутнасці, ацэнкі гэтыя супалі.

С. Палуян стаў і адным з першых гісторыкаў беларускай літаратуры. Яго даследаванне «Беларуская паэзія ў яе тыповых прадстаўніках. І. Народная славеснасць і першыя спробы штучнай паэзіі» — гэта першая ў беларускім літаратуразнаўстве спроба стварыць сістэматычны курс гісторыі новай беларускай літаратуры. Вызначальнай для С. Палуяна з'яўляецца думка, што «адраджэнне любога народа пачынаецца з нараджэння ў яго сваёй уласнай літаратуры». У адпаведнасці з гэтым «зачаткі» новай літаратуры ён адносіць да канца XVIII — пачатку XIX стст.— так, як гэта прынята і ў сягонняшнім літаратуразнаўстве. Даследчык бачыць грамадска-палітычныя і культурныя чыннікі, якія прывялі да зараджэння беларускай літаратуры. Сярод іх ён вылучае палітычнае банкруцтва Рэчы Паспалітай і ўваходжанне Беларусі ў склад Расійскай дзяржавы, «цікавасць да ўсёй беларушчыны» з боку рускіх і польскіх вучоных (этнографаў, фалькларыстаў, гісторыкаў), а таксама росквіт рамантызму, які «прымушаў заглядаць глыбей у народ, у яго духоўны свет, у яго мінулае, прымушаў тварыць красу з гістарычных мясцовых перажыткаў». На развіццё беларускай літаратуры непасрэдны ўплыў аказвалі палітычныя падзеі, што адбываліся на беларускай зямлі (польска-шляхецкае паўстанне 1830-1831 гг., паўстанне 1863 г. у Беларусі і Літве). С. Палуян паказвае, як мясцовы патрыятызм, што «нарадзіўся і вырас... з шчырага пачуцця сувязі з народам і абавязку перад ім», прыводзіць урэшце да першых спроб беларускай моўнай творчасці — «наіўнага дзіцяці наіўнага рамантызму». Гэта «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», вершаваныя творы А. Рыпінскага, Яна Чачота і Яна Баршчэўскага. С. Палуян, як на сённяшні погляд, іх яўна недаацэньвае, лічыць, што «ні адзін твор гэтага часу не застанецца ў

гісторыі літаратуры». Сапраўдным жа «першым беларускім пісьменнікам, першым літаратурным імем на безлітаратурнай Беларусі» ён называе В. Дуніна-Марцінкевіча, які «набыў сабе бяссмерце сярод свядомых беларусаў».

На жаль, смерць не дазволіла давесці даследаванне да канца. А наступнай павінна была быць публікацыя пра В. Дуніна-Марцінкевіча.

Жывучы ў Кіеве, «у эміграцыі», як гаварыў С. Палуян, ён сачыў уважліва і за развіццём украінскай літаратуры. Сярод шырокай плыні літаратурнай прадукцыі беларускі крытык здолеў вылучыць і належна ацаніць творчасць І. Франка, М. Кацюбінскага, В. Стафаніка, У. Віннічэнкі. Так, характарызуючы дзейнасць найбольш папулярнага тады выдавецтва «Час», С. Палуян, выступаючы з пазіцый крытыка-дэмакрата, адзначае, што як перакладныя, так і арыгінальныя творы часта «ўражваюць тэндэнцыйным падборам сюжэтаў і іх апрацоўкі». Сюжэты трагічныя, а апрацоўка саладжавая, сентыментальная. «А дзе ж Віннічэнка, Кацюбінскі, Стафанік (асабліва Стафанік), Франко і іншыя?» — з абурэннем пытаецца крытык.

З той за вымогай улічваць патрэбы чытача з народа, асабліва чытача-селяніна, С. Палуян рэцэнзуе «Народны каляндар «Село» на 1910 год», супастаўляючы яго з іншымі ўкраінскімі і рускімі календарамі.

Цікавіўся С. Палуян і развіццём украінскай драматургіі. Так, яго ўвагу прыцягвае драма Г. Вашчанкі «Сляпы». І хоць нічога з творчасці гэтага пісьменніка не вытрымала выпрабавання часу, аднак да гэтай п'есы даследчыкі ўкраінскай драматургіі звярталіся часта, паколькі яна цікавая сваімі жанравымі адзнакамі. Гэта псіхалагічная п'еса, якая па форме нагадвае сучасны сцэнарый.

Паўз увагу крытыка не магла прайсці і творчасць У. Віннічэнкі. С. Палуян, як і іншыя літаратурныя крытыкі пачатку XX ст., бадай, пераацэньваў уклад У. Віннічэнкі ва ўкраінскую літаратуру. Аднак трэба ўлічваць, што С. Палуян быў сведкам пачатку літаратурнай творчасці ўкраінскага пісьменніка, калі той яшчэ ўвогуле рэалістычна адлюстроўваў жыццё вясковых пралетарыяў («Каля машыны», «Галыцьба» і інш.). Разам з тым нават у той час ён прыкмеціў ідэйна-мастацкі паварот у творчасці Віннічэнкі, абумоўлены зменамі ў яго светапоглядзе пасля паражэння рэвалюцыі 1905-1907 гг., што прывяло пазней аўтара трэцяй кніжкі « Апавяданняў» да адыходу ад ранейшых творчых прынцыпаў. «Віннічэнка не ўтрымаўся ў сферы чыста мастацкай творчасці,— заўважыў С. Палуян,— а захацеў агністым словам загаварыць да сучаснікаў. Ды яшчэ ж вялікае

пытанне, ці зможа (не захоча, а зможа!) пачуць грознае слова натоўпу ў вялікім базарным шуме жыцця?» Зрабіць гэта Віннічэнку не заўсёды ўдавалася.

Публіцыстыкай і крытыкай творчасць С. Палуяна не абмяжоўвалася. Паводле сведчанняў сучаснікаў, ён пісаў «вершы з багатым зместам, апавяданні на сучасны лад», п'есы для тэатра, складаў «зборнік цудоўных малюнкаў-сімвалаў» для дзяцей, хрэстаматыю па гісторыі Беларусі, навукова-папулярныя кніжкі для народа. З усяго гэтага захавалася толькі апавяданне «Вёска» і верш у прозе «Хрыстос уваскрос!», апублікаваныя ў свой час на старонках «Нашай нівы». У «Вёсцы» ў алегарычнай форме паказваецца разарэнне, гібель старой беларускай вёскі, асуджанай на смерць варожаю ёй сілаю. Сіла ж гэта (хоць яе Палуян прама не называе, але яна легка ўгадваецца) — жорсткі сацыяльны і нацыянальны прыгнет. Супрацьлеглы «Вёсцы» па настрою і танальнасці верш у прозе «Хрыстос уваскрос!». У ім пісьменнік, пераасэнсоўваючы агульнавядомы міф аб уваскрасенні Хрыста, гаворыць пра непазбежнасць духоўнага адраджэння Беларусі, называе свята вялікадня — «святам адвечнага ажыўлення», выказвае цвёрдую ўпэўненасць, што родны край уваскрэсне, скіне «з шыі ярмо адвечнага гора і нуды». Рэлігійны міф, як бачым, напаўняецца новым, алегарычным зместам.

Такім чынам, у сваёй творчасці С. Палуян выявіў сябе чалавекам перадавых поглядаў, прадаўжальнікам традыцый вялікіх расійскіх рэвалюцыйных дэмакратаў В. Бялінскага і Т. Шаўчэнкі, М. Дабралюбава і М. Чарнышэўскага, адным з выразнікаў ідэй беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Лексікон яго ўвабраў паняцці і тэрміны выразна класавага, а падчас і марксісцкага словаўжывання: народныя масы, класавы антаганізм, нацыянальны антаганізм, ход прагрэсу, свядомы нацыянальны патрыятызм, правінцыялізм і г. д. Логіка і вобразнасць яго выказванняў былі зразумелыя і даступныя чытачам: «...Пакуль што трэба раскідаць усё новае і новае насенне. Мо і кепская доля спаткае яго, мо і зніштожыць яго нягодай ды сцюдзёным сіверам,— але не сяўцам думаць аб гэтым! У іх адна мэта — болей зёрнаў кінуць у сагрэтую сонцам раллю».

Сёння, цешачыся багатым плёнам з нівы роднай культуры, мы шчырым словам удзячнасці згадваем і яго, Сяргея Палуяна, аднаго з першых сейбітаў «у родных слоў сяўбе» (Я. Купала).

## АЎТАР «ГОДА БЕЛАРУСА»

У Валожыне на вуліцы Савецкай, 49 прыцягвае да сябе ўвагу ўрослая ў зямлю старасвецкая хаціна з прымацаванай да яе шыльдай: «У гэтым доме да 1914 года жыў вядомы беларускі збіральнік фальклору, паэт і публіцыст Стары Улас (Уладзіслаў Пятровіч Сівы-Сівіцкі)». «Вядомы» — сказана, відавочна, з разлікам на будучыню, на перспектыву. Бо хто сёння ў рэспубліцы (на вялікі жаль!) асабліва ведае Старога Уласа? Бо хіба можна назваць вядомым пісьменніка, у якога дагэтуль выйшла з друку ўсяго толькі адна кніжка? Аднак наш час тым і вызначаецца, што мы вяртаем з забыцця асобных цікавых творцаў, даём ім новае жыццё, надзяляем вядомасцю...

Дык хто ж ён быў, Стары Улас? Чым заслужыў нашу ўвагу і павагу?

Нарадзіўся Уладзіслаў Пятровіч Сівы-Сівіцкі (10) 23 красавіка 1865 года ў валожынскіх сялян Пятра і Людвікі. Бацька яго, каб зарабіць на сям'ю (быў малазямельны), наняўся кухарам у мясцовы маёнтак графа Міхала Тышкевіча, аднаго з найбагацейшых магнатаў былой Расійскай імперыі. Але ў 1874 годзе, калі сыну было ўсяго дзевяць гадоў, бацька памірае. Тым жа летам не стала і маці. Круглага сірату ў сваю немалую сям'ю прымае цётка Юзэфа Емільянская. Неўзабаве Уладзіслаў ідзе ў памочнікі да кухара таго ж графа Тышкевіча. Відаць, кемлівы і працавіты хлопец кінуўся ў вочы самому графу. Бо праз нейкі час яго, ужо дзецюка, прызначаюць кухарам, а пасля, калі яму было каля трыццаці, ён становіцца аб'ездчыкам і, урэшце, ляснічым.

Кожны дзень Сівы-Сівіцкі конна аб'язджаў бясконцыя лясы графа, абшары Налібоцкай пушчы, судакранаючыся з прыродай ва ўсе поры года і сутак. Родныя краявіды цешылі сэрца, узнімалі настрой, абуджалі прагу творчасці. Праца аб'ездчыка і ляснічага давала магчымасць глыбей спазнаць і само жыццё: турботы і скупую радасць ваколічных сялян, мітусню засцянковай шляхты, панскія забавы, пыхлівую разбэшчанасць царскіх чыноўнікаў. Усё гэта давала тэмы для вершаў і вершаваных апавяданняў, кладася ў радкі, увасаблялася ў творах пра беларускую восень і зіму, вясну і лета, пра нялёгкую, але адначасова радасную сялянскую працу, пра рэальнае і легендарнае ў жыцці роднага народа. Штодзённыя зносіны з дзесяткамі людзей насычалі лексікон Старога Уласа моўнымі самародкамі, абагачалі яго памяць і ўяву пярлінамі вуснапаэтычнай творчасці.

Сяляне паважалі высокага, прыгожага, з вусамі і невялікай — клінам — бародкай ляснічага, які паводзіў сябе з імі як з роўнымі, спачуваў ім, дапамагаў лесам, заступаўся за іх, калі трэба было, перад самім графам. З сялянамі Сівы-Сівіцкі заўжды гаварыў пабеларуску, што выклікала насмешкі, а то і нараканні мясцовага панства і засцянковай шляхты. Нават у роднай сям'і лічылі гэта своеасаблівым дзівацтвам, а то і здрадай «польскасці». Сям'я Старога Уласа была каталіцкай, а ва ўяўленні шматлікіх беларусаў-католікаў каталіцкае веравызнанне атаясамліваецца з польскай нацыянальнасцю. Сам жа паэт-ляснічы веравызнанне і нацыянальнасць выразна адрозніваў. У яго пашпарце ў адпаведных графах было запісана: рэлігія — рымскакаталіцкая, нацыянальнасць — беларусін...

Уладальнікі лясоў не давалі сваім службоўцам доўга затрымлівацца на адным месцы (успомнім хоць бы лёс лесніка Міхала — бацькі Якуба Коласа). У 1914 годзе Сівога-Сівіцкага перавялі на службу пад Ашмяны (нейкі час жыў у Варнянах цяперашняга Астравецкага раёна). Праз пэўны час пераехаў з сям'ёй у Вільню, а ў неспакойным 1920 годзе перабраўся ў Сужаны Немянчынскай гміны Віленскага павета. У 1934 годзе за больш чым саракагадовую службу атрымаў ад графа Тышкевіча кавалак зямлі ў суседніх Шашэльгішках і тут на сваёй гаспадарцы дажыў апошнія гады. Памёр ад запалення лёгкіх 30 верасня 1939 года. Пахаваны на Сужанскіх могілках.

Усё жыццё Стары Улас цягнуўся да навукі. Як падкрэслівае руплівы біёграф пісьменніка Г. Каханоўскі, «толькі праз самаадукацыю, дзякуючы прыроднай настойлівасці, дайшоў да ўсяго сам, стаў пісьменнікам». Калі яшчэ ў Валожыне не было і пачатковай школы, самавукам авалодаў рускай і польскай граматай (пісаў беларускай лацінкай, каліграфічным почыркам і амаль без памылак). Потым імкнуўся даць асвету сваім і чужым дзецям. Аддаў пад вясковую школку палову сваёй хаты, у якой вучыла — дарэчы, на роднай мове — спецыяльна нанятая настаўніца, тыповая беларуская «дарэктарка». Але ўлады пад пагрозаю закрыцця прымусілі перавесці выкладанне ў школцы на рускую мову. Усе дзеці Старога Уласа (а іх было васьмёра: чатыры сыны і чатыры дачкі) атрымалі сярэднюю адукацыю, а двое — вышэйшую. Пісьменнік на пачатку стагоддзя сабраў неблагую як на той час хатнюю бібліятэчку з рускіх і польскіх кніг, якія даваў чытаць суседзям і знаёмым. Калі ж у выніку рэвалюцыі 1905-1907 гг. з'явіліся легальныя беларускія кніжкі і газеты, яны таксама папоўнілі кнігазбор паэта-ляснічага. Чытанне, індывідуальнае і калектыўнае, стала добрай традыцыяй у вялікай сям'і Старога Уласа.

Пісаць паэт-самавук пачаў спачатку на «панскай», польскай мове — складаў вершы ў гонар сваёй нявесты, а потым жонкі Антаніны, уроджанай Вайцяхоўскай. Выпадковая сустрэча ў 1906 годзе з першай легальнай беларускай газетай «Наша доля» адкрыла яму вочы на працэс беларускага адраджэння. З гэтага часу ён пачынае пісаць толькі па-беларуску, значна пашыраюцца ідэйна-тэматычныя і жанравыя абсягі творчасці.

Пісаў звычайна на золку, калі ўсе спалі, ці ў святы і прысвяткі, калі не трэба было ісці на службу і нельга было («грэх!») займацца фізічнай працай на сваёй невялікай гаспадарцы. Складаліся вершы і ў часе шматлікіх вандровак па лесе. Паступова складанне вершаў ператварылася ў прывычны штодзённы занятак, стала звычкай і, на жаль, не заўсёды (асабліва ў канцы 20-х — 30-я гады) забяспечвалася творчым натхненнем, абумоўлівалася высокімі ідэаламі Паэзіі. Ужо на пачатку 30-х гг. у Старога Уласа было звыш тысячы вершаваных твораў, якія ён акуратна перапісваў у агульныя сшыткі, нумараваў, даваў ім нярэдка безаблічныя аднатыпныя назвы («Абразок»). Але да таго часу беларуская паэзія (і не толькі савецкая, але і заходнебеларуская) дасягнула значнага ўзроўню, у ёй з'явілася многа цікавых і арыгінальных творцаў. Вершаванне ж валожынскага паэта-самавука яўна адстала ад гэтага ўзроўню, і вершы яго перасталі друкаваць. Ен стаў пісаць пераважна «для сябе», застаўшыся ў памяці чытачоў лепшымі дарэвалюцыйнымі творамі...

Першыя публікацыі Старога Уласа адносяцца да 1909 года: допіс пра Валожын — 16 красавіка, верш «Сонейка прыгрэла» — 28 мая. З таго часу ён стаў актыўным аўтарам «Нашай нівы», апублікаваў у гэтай «народнай газеце» (А. Лойка), бадай, усё лепшае, што належыць яго пяру. Даючы ацэнку творчасці Старога Уласа, у сваёй вядомай «Гісторыі беларускае літаратуры» (Вільня, 1920) Максім Гарэцкі пісаў: «Яго творы цэнны для нас і арыгінальны тым, што паказваюць, як творыць сам народ. Нічога інтэлігенцкага ў іх няма, яны й ня вельмі часам складны, але чуецца ў іх сіла самое зямлі, беспасрэдны павеў самога жыцця беларускай вёскі. Яны — натуральны адростак народнай паэзіі, казак і гутарак, легенд, жартаў... Стары Улас і Лявон Лобік, а болей-меней А. Петрашкевіч і іншыя (паэты-нашаніўцы, сучаснікі Старога Уласа.— В. Р.) маюць у нашай паэзіі літаратурна-маральнае значэнне як песняры з мазольнаю рукою, што ня толькі «з народа», але і «сам народ». Жывець душа народа — жывець народ!» Гэта ацэнка, па сутнасці, не ўстарэла і сёння. Сціплае, нягучнае, але шчырае, панароднаму простае, часам дасціпнае слова Старога Уласа і сёння можа парадаваць нас, як радуюць няхітрыя ўзоры народных

майстроў: ганчароў, бондараў, рэзчыкаў па дрэве... Наша сённяшняе разуменне гэтага слова не разышлося і з кароткай заўвагай Максіма Багдановіча, зробленай ім у літаратурным аглядзе «За тры гады» (1913): «Л. Лобік і Стары Улас далі некалькі дужа няхітрых, але верных і таму цікавых малюнкаў нашай вёскі». Відавочна, аўтар славутага «Вянка» адзначыў тут самыя істотныя якасці паэзіі Старога Уласа, якія з цягам часу толькі паглыбляліся, выяўляліся больш выразна і своеасабліва.

Па характары таленту Стары Улас, несумненна, паэт эпічнага складу. Лірычных твораў у яго адносна няшмат, ды і многія з іх вызначаюцца апавядальнасцю, падзейнасцю. Такія малюнкі вясны («Вясна»), восені («Восень»), начнога пажару («Пажар»), сцэнкі сватаўства («Сватаўство»), здарэнні на вясковай вуліцы («Спрытны адказ»), на кірмашы («Пірог») і г. д. Сустракаюцца ў яго (праўда, нячаста) і радкі чыста лірычныя — як чалавечы ўздых ці выдых, выкліканыя захапленнем (некім ці нечым), нейкімназіраннем, жыццёвай высновай. Накшталт гэтага чатырохрадкоўя:

Слоўца адно, а часам другое,
Сказана мудра, у пору,
Душу адсвежыць, мысль заспакоіць,
Як бы адверне з плеч гору.

Жывучы сярод народа і з народам, Стары Улас бачыў сацыяльную няроўнасць, сялянскую галечу, нішчымніцу. Для яго самога не ў навіну была сітуацыя, калі

Часамі хлеба ні крупінкі,
Ані ўламаць, ані уліць,
А тут яшчэ і для скацінкі,
Бывае, трэба прыкупіць.
(«Каму што»)

Ці ўсведамляў паэт, чаму так дзеецца і што трэба зрабіць, каб палепшыць жыццё? З аднаго боку, у яго ёсць разуменне, што «ў нашым краі дрэнь, брат, парадкі» («Цярплівы нябожчык»), што мужык «гаруе век свой на другіх», а на яго «пазірае ўзвысока духоўнік, пан, чыноўнік, жыд, Хоць з яго працы будзе сыт» («Пра паноў»), заклікае багатых скінуць «атласы і ядвабы, шубу з сабалямі», пакінуць пыху і «разам працаваць на кавалак хлеба» («З Новым годам»). Аднак гэта разуменне, так сказаць, стыхійна класавае, своеасаблівая, пачатая беларускай літаратурай яшчэ ў XIX стагоддзі «гутарка аб усім чыста, што баліць, але чаму баліць — не ведаем». Не ведаў і Стары Улас рэальнай прычыны тагачаснага народнага болю, не мог знаць, як ад гэтага болю пазбыцца. Далекаваты ён быў ад ідэалаў рэвалюцыйных

дэмакратаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча... Тым больш далека — ад памкненняў пісьменнікаў-рэвалюцыянераў з сацыялістычнай арыентацыяй: Цёткі, Алеся Гаруна, Цішкі Гартнага... Чалавек глыбока рэлігійны, які ва ўсіх жыццёвых сітуацыях звычайна кіраваўся пастулатамі дзесяці запаведзяў, ён стараўся не ўмешвацца ў палітыку, жыць па законах агульначалавечай маралі. Як у жыцці — гэтак і ў творчасці. На вяку Старога Уласа ўлада мянялася каля дзесяці разоў. Пражыўшы большую палову жыцця пры цару, паэт быў сведкам лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый 1917 года, акупацыі беларускіх зямель войскамі кайзераўскай Германіі, легіянерамі Пілсудскага, дажываў век у міжваеннай Польшчы, перад самаю смерцю сустрэў вызваленчы паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь... Здавалася б, колькі тэм для паэта-патрыёта! Аднак у вершах Старога Уласа — нават напісаных для «хатняга ўжытку», недрукаваных — мы не знойдзем прамога водгаласу ніводнай з гэтых падзей.

Чым жа тады жывілася творчасць паэта-самавука? Чым яна можа прывабіць нас сёння?

Найперш — сцвярджэннем здаровай народнай маралі, маральных прынцыпаў чалавека-працаўніка. А таксама — шчырай любоўю да роднага краю, беларускага селяніна, акварэльнымі малюнкамі беларускай прыроды, непаўторнымі краявідамі роднай зямлі.

Стары Улас услаўляў працу як аснову людскога агульнажыцця і чалавечага дабрабыту («Год беларуса», «Не спанатрыў»). З мяккім гумарам, а то і са здзеклівай іроніяй ён выкрываў асобныя людскія заганы: гультайства («Спрытны адказ»), п'янства сялян («Прыгавор»), іх залішнюю даверлівасць («Праўда»), казнакрадства аканомаў, пісараў і іншых дробных службоўцаў («Гдзе бярозы расахаты...»), непатрэбныя сваркі паміж суседзямі, хабарніцтва судовых работнікаў («Суд»), самадурства паноў («Іголка»), сквапнасць ксяндзоў («Легенда і праўда»), ілжывасць папоў («Патрапіла каса на камень»), Выказаўся ён і на адвечную тэму ўзаемаадносін бацькоў і дзяцей («З кутка праўды»). Пры гэтым не падтрымаў нараканні бацькоў на дзяцей, бо калісьці, у маладосці, на думку паэта, бацькі былі такія ж, як іхнія дзеці, а можа, яшчэ і горшыя. Не прымаў Стары Улас і вайны як сродку вырашэння канфліктаў паміж чалавечымі супольнасцямі («З Новым годам»).

Часам паэт звяртаўся да народных легенд, паданняў. Але і тут яго цікавілі не легендарныя падзеі самі па сабе, а іх маральная падаснова. Так, у «Кумавых Магілах» апавядаецца пра тое, як на кумоў, што везлі ў санях толькі што ахрышчанае дзіця, напалі ваўкі. Каб самім уратавацца ад лютых звяроў, кумы кінулі ім дзіця. Але

ваўкі не звярнулі на яго ўвагі, а дагналі хросных бацькоў і разарвалі. Дый гэта не ўсё пакаранне за такое антычалавечае злачынства: роўна трыста гадоў душы двух грэшнікаў вымушаны лётаць над месцам, празваным у народзе «Кумавы Магілы», палохаючы падарожных. Вось як караецца чалавечы эгаізм, жаданне выратаваць сваё жыццё за кошт іншага! — гаворыць нам паэт сваім творам у поўнай згодзе і з народнай мараллю, і са сваім светаразуменнем.

З такім жа падтэкстам-высноваю і іншыя апрацоўкі народных легенд Старога Уласа: «Курган», «Цікавы» і інш. І ўсё ж больш яго цягнула да рэальнага жыцця, асабліва — да рэальных малюнкаў прыроды цэнтральнай і паўночна-заходняй Беларусі, якую ён як работнік лесу добра ведаў і як сапраўдны патрыёт шчыра любіў. Перад намі — цэлы вершаваны беларускі каляндар: «Зімою», «Вясна», «Сонейка прыгрэла», «Прамчаўся май», «У дажджлівы час», «Восень»... І вяршыня гэтага календара — напісанае ў 1909 годзе вершаванае апавяданне, дакладней — паэма «Год беларуса», адметны твор не толькі ў спадчыне Старога Уласа, але і ва ўсёй беларускай дарэвалюцыйнай паэзіі.

Пачынаецца «Год беларуса» з апісання роднага краю, якое нагадвае «малюнкі родныя і з'явы» Якуба Коласа:

Край беларускі, край ты наш родны,
Неўраджайны ты і бязводны,
Нечарназёмна твая зямліца:
Глей, або гліна, ці камяніца.
Дробны загоны і скібы тонкі,
А замест межаў дык баразёнкі,
Доўгія ніўкі і надта вузкі,
Як быццам мотуз ад добрай стужкі...

Ёсць у «Годзе беларуса» і апісанне народа, што жыве ў гэтым краі:

Народ наш ціхі, прытом нясмелы —
Яго згубілі часты раздзелы.
Акром бядоты у беларуса
Добрае сэрца, хоць часам куса;
Вось, як той кажа, і з ім бывае,
Ен дае раду, не наракае...

Беларускі селянін і беларуская прырода — галоўныя дзейныя асобы паэмы Старога Уласа «Год беларуса». Вясна, лета, восень, зіма — гэта і прадмет паэтычнага выяўлення, і фон, на якім паказана жыццё беларускага мужыка ў розныя поры года. Тым самым «Год беларуса» выклікае ў памяці вядомую паэму класіка літоўскай літаратуры Крысціёніса Данелайціса «Чатыры пары года». Хаця тут,

несумненна, не запазычанне, нават не творчая вучоба (наўрад ці ў тыя часы беларускі паэт мог што-небудзь ведаць пра Данелайціса), а звычайнае тыпалагічнае падабенства. Розныя цыклы сялянскай працы знайшлі адлюстраванне ў «Годзе беларуса» — вясновы («Аруць, і сеюць, і барануюць... То стрэхі правяць, платы гародзяць, Ячмені сеюць, гнаі вывозяць І садзяць спешку або хунтоўку...»), летні («Бліснуць на сонцы сярпы і косы, Звіняць мянташкі, растуць пракосы»), асенні («Жніво ярное — гэта ўжо восень... Тут жыта сеяць, снапы ўбіраці, Араць на зіму і ляны рваці...»), зімовы («Малаціць трэба і веяць збожжа... Хто каля дому корміць каровы, А хто да лесу едзе па дровы»). Самыя розныя віды сялянскай працы апісаны ў паэме: прадзіва кудзелі, тканне, догляд скаціны, сенаванне, начлег, нават няхітрыя грашовыя падзаробкі («...на соль, на боты, На мерку газы ці на фунт мазі»). Так, як і ў жыцці,— найперш цяжкая, але жаданая і патрэбная праца («Працуюць людзі, поту не чуюць...»; «Хоць залівае з Працы пот вочы, Кожан вясёлы, кожан ахвочы...»), паміж якой — кароткія ўцехі: вясковыя ігрышчы («Пачнуць усе гуртам песенькі пеці, Скачуць, гуляюць, крычаць, як дзеці...»), народныя абрады («Есць маладзіца, дык мой ты браце, Ну, дык снапшчыну тады спраўляюць, А усе жнейкі гулянкі маюць...»)...

«Год беларуса» — узор жывой беларускай народнай мовы, яе цэнтральных і паўночна-заходніх гаворак, што склалі аснову літаратурнай нормы. Увогуле, мова Старога Уласа даволі багатая, па-народнаму сакавітая, у ёй увасобіліся народны тып мыслення, тыпова народная вобразнасць. У паэме дзесяткі назваў тыпова беларускіх з'яў прыроды, раслін, жывёл, уласных імён. Верш паэмы — акцэнтна-складовы (дакладна — чатырохакцэнтны дзесяціскладовік), пераходная форма ад сілабікі да сілаба-тонікі. Ён надае твору гутарковасць, інтанацыю нязмушанай размовы — традыцыя, якая ідзе яшчэ ад ананімных беларускіх гутарак XIX стагоддзя. Усім гэтым паэма таксама прыцягвае нашу ўвагу. Яна застаецца не толькі помнікам пэўнага часу, але і творам, які можа (і павінен!) уключыцца ў жывую плынь сённяшняга літаратурнага працэсу, узбагаціць чытача духоўна і эстэтычна.

Уяўленне пра Старога Уласа як літаратара і чалавека пэўным чынам пашырае яго публіцыстычная творчасць. Допісы, падпісаныя псеўданімам Стары Улас, пачалі з'яўляцца ў «Нашай ніве», як ужо адзначалася, з 1909 года. Аднак, па ўсёй верагоднасці, пісьменнік стаў кантактаваць з газетай крыху раней. У прыватнасці, у № 2 «Нашай нівы» за 1908 год была надрукавана наступная невялікая нататка за подпісам Валожынскі, якая і па змесце, і па стылі надта

блізкая да таго, што і як пазней друкавалася тут за подпісам Стары Улас: «М. Валожын Ашмянскага павета Віленскай губерні. У в. Пешкуры ўжо няма хлеба, ядуць бульбу, дый яе мала. Заработкі слабыя, па дварах за малацьбу плацяць 15 к. у дзень. А п'юць валожынскія беларусы больш ды больш, п'юць не толькі манапольку, але і «саматужку», і «лякероўку». П'юць мужыкі, п'юць і «інтэлігенты». Вось які глухі, цёмны і няшчасны наш кут! Народ абяднеў яшчэ і таму, што няма пашы, сервітуты неяк адабралі. Ад гэтага і скаціны сталі мужыкі менш гадаваць. Скаціну прыходзіцца трымаць на выгане, гдзе нічога не расце».

9 красавіка 1909 года ў рубрыцы «Паштовая скрынка» рэдакцыя газеты, звяртаючыся да валожынскага карэспандэнта, пісала: «М. Валожын Віленскай губерні Ашмянскага павета. Старому Уласу. «Цяперака многа пішуць і гавораць, што мужыкі не ўмеюць дабівацца сваіх правоў; можа, гэта і праўда, але як прыйдзецца іх дабівацца, дык ніхто не парадзіць нашаму брату, і часта ён ходзіць так, як сляпы каля плоту, і то там, гдзе, здаецца, павінен быў бы ён знайсці добрую параду і апеку...» — Мы даведаемся аб гэтай справе акуратне і вас заведамім, што рабіць!» А ўжо праз тыдзень «Наша ніва» змясціла допіс валожынскага аўтара, падпісаны: Стары Улас. У нататцы апісвалася мястэчка Валожын, нацыянальны і рэлігійны склад яго жыхароў («дзве часці яўрэяў, а трэцяя часць хрысціянаў, больш праваслаўных»), яго тагачасны «культурны патэнцыял» («ёсць воласць, аптэка, дзве манапольki; ёсць 4 вучылішчы, у тым валаснoе рамеснае, гдзе вучаць плесці кошыкі»). З таго часу на працягу пяці гадоў у «Нашай ніве» рэгулярна з'яўляліся допісы Старога Уласа. Пра што ён пісаў? Пра надвор'е і ўраджаі, пажары і самагубствы, пашырэнне п'янства і абыякавыя адносіны да продкаў, іх магіл, факты зладзейства і спадману, рыначныя цэны, розныя бытавыя здарэнні... З гэтых допісаў праглядвае спагада Старога Уласа да чужога гора, чужой бяды, яго паважлівае стаўленне да прадстаўнікоў іншых народаў (пра пагарэльца яўрэя І. Шварца: «Шкада, бо гэта добры чалавек, і прытым небагаты»), да бедных і цёмных сялян («Бедныя, цёмныя людзі! Калі ж да іх загляне сонца ў ваконца?»). Ужо самі назвы асобных допісаў — па-народнаму дасціпныя, дакладныя, афарыстычныя — шмат што гавораць і пра літаратурныя здольнасці валожынскага карэспандэнта, і пра самую сутнасць яго нататак: «Думаем — за морам, а смерць — за плячыма», «Служы пану верна, а ён нос адверне», «Праспаў бядак ногі», «Бядуй не бядуй, а за працу бярыся», «Канец света, бо не ўскрэсла прасвета», «Кепскае тое ігрышча, дзе кулак свішча», «Вінаватых шмат, а ў атвеце Ігнат», «У нас

калі хочаш каго знайсці, то мусіш у карчму пайсці», «П'юць, п'юць і душу прадаюць»...

Мужычая беднасць, п'янства, бойкі, калецтвы... І ўсё гэта, на думку дапісчыка,— ад беззямелля. «У нашай воласці вялікая зямельная цесната,— пісаў Стары Улас у «Нашай ніве» 7 мая 1909 года.— У нас мужыцкі надзел быў ад 8 да 12 дзесяцін, а цяпер многа людзей падзялілася на 6, 8, 10 і 16 часцей, не гаворачы аб трацінках і чацвярцінках. У Валожынскай воласці жыве 13 тысяч душ, хат усяго 2062; з іх 673 хаты маюць менш адной дзесяціны, 833 хаты маюць па дзве дзесяціны, 377 хат ад двух да трох дзесяцін і толькі 178 хат маюць больш трох дзесяцін. На душу наогул выходзіць трохі больш як палавіна дзесяціны — з усіх валасцей павету Валожынская найбяднейшая». І тут жа дадаваў: «У нашым двары (відаць, меўся на ўвазе двор графа Тышкевіча.— В. Р.) прадаецца зямля па 100 рублёў дзесяціна, а банк дасць 40-50 рублёў, дык багаты купляе зямлю, бо можа далажыць, а бедны не мае сілы купіць. Так і гінем ад малазямелля; хто можа, пераязджае ў Амерыку, Пецярбург і другія месцы».

Стары Улас прапанаваў і свае рэцэпты ад хранічнай хваробы малазямелля: арганізацыя сялянскіх хаўрусаў, пераход на хутары («Браты беларусы! Кідайма старыя парадкі, а пераходзьма жывей на хутары. Будзе менш няшчасцяў, а карысці многа»). Як на сённяшняе наша разуменне, такія лекі не былі адэкватныя хваробе, не маглі яе вылечыць або хоць бы запабегчы. Аднак пісьменніку нельга адмовіць у шчырым жаданні дапамагчы братам-мужыкам, паказаць некаторыя пуцявіны да больш культурнага і заможнага жыцця.

Шчырасць і праўдзівасць усяго, што было напісана Старым Уласам, напісана вершам і прозаю, яшчэ задоўга да рэвалюцыі прыцягнула да пісьменніка чытацкую ўвагу. Яго вершы і вершаваныя апавяданні сістэматычна перадрукоўваліся ў штогадовых «Беларускіх календарах», дзе змяшчаліся побач з творамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна і іншых найвыдатнейшых беларускіх паэтаў. Пяць яго вершаваных апавяданняў («Год беларуса», «Тры зладзеі», «Кумавы Магілы», «Не спанатрыў», «Цікавы») у пераважнай ступені абумовілі характар і вартасць тагачаснай мікраанталогіі беларускай паэзіі — зборніка «Апавяданні і легенды вершам розных аўтараў» (Вільня, 1914). Асобныя творы Старога Уласа ўключаліся ў розныя чытанкі, дэкламаваліся на літаратурных вечарах, нават за межамі Беларусі (гл. у прыватнасці: «Наша ніва», 1912, № 4). На жаль, пазней імя паэта-самавука стала прызабывацца. Толькі пару яго вершаў трапіла на старонкі першага тома «Анталогіі беларускай паэзіі» (1961) і зборніка «Беларуская дакастрычніцкая паэзія» (1967).

І вось нарэшце ў 1990 годзе, у 125-ю гадавіну з дня нараджэння Старога Уласа, яго першая і пакуль што адзіная кніга «Год беларуса» з'явілася ў свет. У яе ўвайшлі выбраныя вершы і вершаваныя апавяданні пісьменніка, а таксама яго допісы ў «Нашу ніву». Тым самым збылося і жаданне вялікага Янкі Купалы: ён думаў пра такую кніжку, нават быў гатовы стаць яе рэдактарам.

Дарэчы, Іван Дамінікавіч і яго жонка Уладзіслава Францаўна былі па-чалавечы ўдзячныя Старому Уласу: у Вільні на пачатку стагоддзя ён іх упершыню пазнаёміў, стаў, па-сутнасці, іхнім сватам...

Чытачы атрымалі магчымасць па-сапраўднаму пазнаёміцца з паэзіяй і публіцыстыкай Старога Уласа, светам яго думак і перажыванняў.

## НА ЗЛОМЕ ЧАСУ

У вершы Валерыя Маракова «Жыццё як мора-акіян», напісаным у «год вялікага пералому», у 1929-м, ёсць такія радкі:

Шчаслівы я, што тут жыву,
Й за гэты край вясной вялікай,
Быць можа,
Знімуць галаву,
Праколюць цела гострай пікай.

Дзе песні
Новых дзён гудуць
І сцяг праменіцца Саветаў —
ДруПя творцы
Павядуць
Наш край да ленінскае мэты.

Што гэта? Юнацкая бравада (аўтару ў той час было ўсяго дваццаць гадоў)? А можа, прадчуванне, прароцтва, якое неўзабаве спраўдзілася? Думаецца, якраз апошняе. Прадчуванне, якое ўзнікла падсвядома з тагачаснай рэальнасці, калі распачаты Леніным такі цяжкі, але спадзеўны рух савецкага грамадства да сацыялізму стаў перапыняцца сталінскім сваволам. Якраз тады, на хвалі першых значных дасягненняў у эканоміцы, сельскай гаспадарцы і культуры, пачыналіся масавыя рэпрэсіі супраць творчай і тэхнічнай інтэлігенцыі (барацьба з «нацдэмамі», «буржуазнымі спецамі»), сялян («раскулачванне», пад якое траплялі серадня́кі і нават беднякі), рабочых (барацьба са «шкоднікамі на вытворчасці»)... У тым жа 1929 годзе са

сваіх пасад былі звольнены Цішка Гартны (дырэктар Дзяржаўнага выдавецтва БССР і рэдактар «Полымя»), Міхась Чарот (рэдактар «Савецкай Беларусі»), навісла бяда над М. Гарэцкім, У. Дубоўкам, Я. Дылам, У. Жылкам, А. Бабарэкам, Язэпам Пушчам і некаторымі іншымі вядомымі пісьменнікамі (іх арыштавалі і асудзілі ў наступным годзе). Што ж за дзіва, калі ў такой перадналаньнічнай атмасферы паэту прымроілася і свая пагібель. Пагібель, якая, зрэшты, неўзабаве і наступіла: творчая — праз шэсць гадоў (апошнія выступленні В. Маракова ў друку датуюцца 1935 годам), фізічная — праз восем (арыштаваны ў 1936 годзе, ён, як стала цяпер вядома, быў расстраляны ў 1937-м).

А ў другой палове 20-х — першай палове 30-х гадоў імя Валерыя Маракова было добра вядома аматарам беларускай паэзіі. Нарадзіўшыся за восем гадоў да Вялікага Кастрычніка (27 сакавіка 1909 года, в. Акалонія, пазней увайшла ў межы Мінска), ён ужо ў семнаццаць гадоў трымаў у руках свой першы паэтычны зборнік «Пялёсткі», а ў васемнаццаць — другі, «На залатым пакосе». За свой дзесяцігадовы творчы шлях (1925-1935) паэт паспеў выдаць чатыры паэтычныя кнігі (яшчэ — «Вяршыні жаданняў», 1930 і «Права на зброю», 1933). Аднак чытачу паэзія В. Маракова да нядаўняга часу была амаль невядомая. Хіба сапраўднае ўяўленне пра яе маглі даць невялічкі, на пару дзесяткаў старонак, зборнічак «Лірыка», што выйшаў да таго ж больш трыццаці гадоў таму назад (1959), або тыя тры вершы, якія апублікаваны ў 1961 годзе ў другім томе «Анталогіі беларускай паэзіі»? Што да раней названых кніжак паэта, публікацый у даваеннай перыёдыцы, іх маглі пабачыць, бадай, толькі асобныя літаратуразнаўцы, якім даступны самыя буйныя кнігасховішчы краіны. Адчуваючы чытацкую цікаўнасць да творчасці В. Маракова, выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла яго кнігу выбраных твораў «Вяршыні жаданняў» (1989). Гэта грунтоўнае выданне яшчэ раз пацвердзіла, што лепшае з творчай спадчыны Маракова не страціла сваёй не толькі гісторыка-літаратурнай, але і мастацкай каштоўнасці да нашага часу. І сёння, і яшчэ доўга наш духоўны свет можа (і павінна!) узбагачаць творчасць таго, хто

У казках, і ў песнях, і ў думках,
У шуме і звоне дарог
Сэрца, сагрэтае сумам,
Роднаму краю збярог...

Як жа нам сёння бачыцца паэзія Валерыя Маракова?

Умоўна творчасць паэта можна падзяліць на два перыяды: тое, што напісана да 1930 года (уключаючы зборнік «Пялёсткі», «На

залатым пакосе», «Вяршыні жаданняў»), і — творы 1930-1935 гадоў. В. Маракоў — паэт выразнага лірычнага даравання, што арганічна лучылася з яго спакойным, ураўнаважаным, далікатна-цнатлівым характарам, з яго дабрынёй, чуласцю, справядлівасцю. Думаецца, гэтыя ўсе якасці паэта і чалавека найбольш плённа і арыгінальна выявіліся ў першы перыяд яго творчасці, калі грамадская атмасфера яшчэ дазваляла раскрыцца кожнаму таленту па-свойму, па-асабліваму. Паэт у гэты час належаў да літаратурных арганізацый «Маладняк» і — з самага канца 1928 года — БелАПП, якая на першым часе (да 1930 года) многае рабіла па ідэйным выхаванні літаратурнай змены, стварэнні пралетарскай літаратуры, пашырэнні сувязей беларускай літаратуры з літаратурамі народаў СССР і не была прасякнута пазнейшай вульгарна-сацыялагічнай агрэсіўнасцю, нецярпімасцю да іншадумцаў.

На гэты час прыпалі і першыя вершаваныя практыкаванні, творчая вучоба паэта. Сын муляра, сам муляр, потым — студэнт Мінскага Белпедтэхнікума, Маракоў вучыўся ахвотна, старанна, аднак, як і іншым маладнякоўцам, яму не заўсёды ставала вопыту, а то і часу вылучыць у творчасці сваіх настаўнікаў галоўнае, істотнае, аддзяліць яго ад часовага, другараднага, непатрэбнага. Так з'явіліся ў творах паэта імажыніскцкая квяціста-зацемненая вобразнасць, матывы тугі і суму, пэўныя эратычныя пераборы, залішняя разнасцежанасць душы і слова. Адным словам, прыкметы тагачаснай усесаюзнай «паэтычнай хваробы», вірус якой ішоў перш за ўсё ад «Масквы кабацкай» С. Ясеніна (Максім Лужанін тут яшчэ бачыў Надсана і нават... Хадасевіча). Вось адкуль усе гэтыя «сінь», «цвець», «разгул», «згараць і жыць» і г. д. Ці можна ўсё гэта назваць «культываваннем ясенішчыны», «упадніцтвам», «замыканнем у сваю асобу», ды яшчэ прычыну гэтага бачыць у «антаганізме паэта з рэчаіснасцю», «мяшчанскім сацыяльным асяроддзі», «дробнабуржуазнай бесхарактарнасці», а то і ў наўмыснай падтрымцы «шкодных анарха-дэкадэнцкіх настрояў, чужой і варожай нам філасофіі «тугі і завядання»?

Думаецца, што не. А якраз так вытлумачвалі ў пачатку 30-х гадоў (ды і намнога пазней) звычайную вучнёўскую некрытычную залежнасць Маракова ад горшых узораў лірыкі Ясеніна, а таксама асобныя матывы тугі і смутку, што ішлі, канечне ж, не ад «светапогляду і светаадчування», а ад звычайнага юнацкага максімалізму, неразздзеленага першага кахання, разлукі з роднымі, сябрамі і г. д. Не трэба забываць, што Маракову ў той час не было і дваццаці гадоў, ён, як пісаў у рэцэнзіі на кнігу «На залатым пакосе» А. Лясны (А. Мардвілка), «яшчэ не дасягнуў грамадзянскага паўналецця».

Ды і матывы расчаравання і бязвер'я, якія быццам бы пераходзілі з верша ў верш,— гэта яўнае перабольшанне. У супрацьвагу некаторым беларускім крытыкам (А. Адамовіч, Р. Кр-скі, С. Левін) украінскі паэт і крытык Т. Масэнка ў 1928 годзе слушна пісаў: «У настроях вершаў Маракова пераважае мажор. Мажор, у якім адчуваецца радасць жыцця, радасць творчай працы» («Молодняк», 1928, № 2). Думку гэту можна легка пацвердзіць. «Усе трывогі — глупства, трэба знішчыць іх, Каб квітнела шчасце ў нівах дарагіх»,— па-заліхвацку выгуквае малады паэт у вершы «...Я цяпер з хлапцамі ў радасці бягу» (зб. «Пялёсткі»), «О, выходзь, маладняцкая раць, На прасторах маёўкі спраўляць!» — а гэта ўжо заклік з аднайменнага верша, што ўвайшоў у кніжку «На залатым пакосе». Тут жа, толькі ў іншых вершах,— тыя ж «прызнанні ў радасці»: «Сёння радасць б'е ў грудзі» («...А яшчэ так нядаўна, учора»), «Радасць звоніць у грудзёх» («Вясной») і г. д.

Што да ўплываў, то гэта былі найперш уплывы ў галіне мастацкай формы (вобразнасць, вершаскладанне, рыфма). І часам — вельмі станоўчыя ўплывы. У першай палове творчага шляху ў Маракова, бадай, не заўважаецца голай рыторыкі, прасталінейнага ілюстравання нейкіх фактаў і з'яў грамадскага ці асабістага жыцця. Эмацыянальнасць, душэўная адкрытасць, вобразная шчодрасць і неардынарнасць, шчырая спавядальнасць — гэтыя «ясенінскія» рысы пераважалі ў той час у яго паэзіі. Паэт уносіў пэўны ўклад і ва ўзбагачэнне беларускага верша, у прыватнасці — рыфмы і рыфмоўкі. Гэта датычыцца перш за ўсё рыфмы прыблізнай, недакладнай, карнявой (сад — казаў, душы — жыць, зары — згарым, паласой — лясоў, асфальт — фальш). У Ясеніна і рускіх імажыністаў малады Маракоў, такім чынам, пераймаў не толькі слабое, часовае, але і моцнае, тое, дзякуючы чаму рускі паэт стаў класікам паэзіі.

А пра тое, што Маракоў умеў адрозніць у творчасці Ясеніна галоўнае ад другараднага, добра сведчаць успаміны С. Шушкевіча. Праўда, адносяцца яны ўжо да першай паловы 30-х гадоў, калі паэт вучыўся ў Вышэйшым педінстытуце імя Максіма Горкага і калі слова «ясенінічына» стала страшным палітычным ярлыком. Аднойчы дэкан знайшоў у аднаго са студэнтаў крытычна-творчага аддзялення двухтомнік «кулацкіх упадніцкіх твораў» і тут жа запатрабаваў выключыць студэнта з інстытута. На агульным сходзе за таварыша заступіўся Маракоў, які, спаслаўшыся на «Паэму пра 26», зборнік «Русь савецкая», паказаў і тое станоўчае, савецкае, што было ў творчасці Ясеніна, а разам з тым давёў, што яго таварыш можа

адрозніць патрэбнае ад шкоднага. Студэнт быў выратаваны, скончыў інстытут разам з усімі.

Каханне, радзіма, прырода — асноўныя тэмы лірыкі Маракова 20-х гадоў, дзе ён наймацней паказаў сябе. Пачынаючы з самых першых публікацый, выяўляліся ў творчасці паэта (і з кожным годам усё выразней) грамадзянскія матывы. Не будзем забывацца, што першымі вершамі Маракова былі «Піянерыя», «Піянерская восень», «Муляр», «Гораду» (усе — 1925), «Кастрычнік» (1926), якія пазней дапоўніліся такімі творамі, як «Ленін», «Камсамолу Мазыршчыны», «Янку Купалу», «Цішку Гартнаму», «Беларусі». Відаць, у паэта такога складу, як Маракоў, грамадзянскія настроі маглі арганічна «ўрастаць» у пейзажную і нават інтымную лірыку. Як, у прыватнасці, у вершы «...Пракрычалі пеўні ўночы» (1930):

Пракрычалі пеўні ўночы,
Месяц зноў, як твар каханай...
Хто мне сёння напрарочыў
Пра журбу і пра туманы?

Я пішу ў сваім пакоі...
Ноч, як снежная русалка...
Сніцца мне зусім другое,
Што жадаю гэтак палка.

Сніцца сон далінных кветак,
Родны край ў вянках змагання.
І, наіўны сам падлетак,
Спатыкаю ў полі ранне...

Аднак наступаў час, калі з усіх лірычных жанраў пачаў прызнавацца толькі адзін — грамадзянская лірыка, ды і то разумелася яна толькі як «зброя класавага змагання», дакладней — як паэтычная ілюстрацыя дасягненняў у галіне індустрыялізацыі і калектывізацыі, праслаўлення «мудрэйшага з мудрэйшых, правадыра ўсіх часоў і народаў» — Сталіна. Злы дэман, што прысмактаўся да жывога цела маладой беларускай літаратуры, галоўны ідэолаг БелАППа Л. Бэндэ навучаў: «Трэба нашым пісьменнікам, асабліва пачынаючым, рашуча адмовіцца ад думкі, што верш пра «месяц», пра «вясну» і інш. вузка асабістыя перажыванні, набыўшыя вершаваны выгляд, маюць якуюнебудзь вартасць» («Чырвоная змена», 1929, 7 ліпеня). Хто гэтага не разумеў — абвінавачваўся ў «надкласавасці», імкненні «адарваць мастацтва ад палітыкі», гэта значыла — «зрывах творчага і ідэалагічнага парадку», «палітычнай блытаніне» і г. д. Што ішло за гэтым — здагадацца не цяжка...

Некаторыя крытыкі пачалі «ўпарта пнуцца перагатаваць Маракова, не ведаючы яго ўласцівасцей» (словы Максіма Лужаніна). І, трэба сказаць, з часам гэта дало свае вынікі. Паэт, насуперак сваёй творчай натуры, крок за крокам адступаў ад лірыкі ў бок вершаванага эпасу. Ён пачаў пісаць расцягнутыя вершаваныя рэпартажы пра Асінбуд («Да тысячы новых тваіх Асінбудаў») і запалкавую фабрыку («Першы дзень на запалкавай фабрыцы»), новыя заводы (« Адтуль, дзе палыхаюць домны») і калгасы («Зямля бунтуе»), пра «іляжэўдарніка Абрамава» («Іляжэўдарнік Абрамаў з фабрыкі «Дзвіна») і вынаходніка Капусціка («Вынаходніцтва майго сябра Капусціка»)... Голая рыторыка, барабанная траскатня ўсё больш і больш чуюцца ў радках, зробленых на гэты раз «пад Маякоўскага», нават лесвічкай напісаных. Крытыкі тыпу Саламона Левіна хваляць, паказваюць шлях паэта як суцэльнае ўзыходжанне на вяршыню. Вось яго «Нататкі пра творчасць Валерыя Маракова» ў «Літаратуры і мастацтве» (1933, 26 лістапада). Спачатку, у «Пялёстках», быў, маўляў, «тупік, да якога прыйшоў В. Маракоў у выніку хістанняў». У «На залатым пакосе», хаця паэт яшчэ «вельмі блізка падыходзіць да разумення паэзіі С. Ясеніна», усё ж ёсць нейкі зрух... У «Маёй паэме», напісанай «у гады актывізацыі нацдэмаўскіх пісьменнікаў», рэчаіснасць «засланяецца вузка індывідуалістычнымі перажываннямі паэта». А вось «Вяршыні жаданняў» прасякнуты здаровай тэматыкай, нягледзячы на тое, што «паэт яшчэ перажывае вялікі груз сваёй старой вобразнай сістэмы»... І — гэтак далей, і — усё ўгору. А чаму? Таму што «паэт увесь гэты час знаходзіўся пад кіраўніцтвам БелАППа» (?!).

Праўда, у зборніку «Права на зброю», куды ўвайшлі ўсе пералічаныя вышэй вершы, падчас не-не ды і шугане полымя сапраўднай лірыкі.

А ў астатнім — як вучаць «разумныя» крытыкі: каб пабольш радасці, бадзёрасці ў праслаўленні «пралетара-рабочага», у паказе «вёскі ў яе руху па шляху да сацыялізму, рэальных класавых сіл, што вядуць паміж сабою смяротэльную барацьбу, рэальнага ворага» (Л. Бэндэ).

Аднак нічога не дапамагло, не застрахавала ад новых нападак вульгарных сацыёлагаў, што практыкаваліся па лініі палітычнага даносу.

Не паспела кніга выйсці з друку, як у «Літаратуры і мастацтве» (1934, 12 студзеня) з'явілася вялікая — на трэць першай газетнай паласы — рэцэнзія М. Клімковіча «Пра кніжку В. Маракова «Права на зброю». Па сваёй сутнасці гэта рэцэнзія — рэдкі ўзор слоўнай эквілібрыстыкі, падтасоўкі фактаў, дэмагогіі, па стылю — суровае абвінавачванне.

Вось некалькі зусім бяздоказных пунктаў гэтага «абвінаваўчага акта»:

«Асноўныя памылкі палітычнага парадку ў гэтых вершах зводзяцца да наступнага:

1. Прапаганда буржуазнай тэорыі надкласавага мастацтва.

2. Сцвярджэнне «права» паэта — стаяць у баку ад практыкі сацыялістычнага будаўніцтва (што з'яўляецца выцякаючым з першай «тэорыі»).

3. Няправільнае, скажонае адлюстраванне нашай рэчаіснасці, а адсюль і няправільныя вынікі, няправільныя рэцэпты выпраўлення недахопаў і прарываў, якія абураюць паэта.

4.Пасіўная роля наглядальніка прыводзіць паэта да пасівістычных вобразаў, да хворага песімізму, які нярэдка мяжуе ў адным вершы з радкамі ўздымаючымі, жыццярадаснымі».

У той час ужо аднаго пункта такога абвінавачвання было даволі, каб чалавека не стала. М. Клімковіч значна аблегчыў работу следчых НКУС...

У тым жа 1934 годзе В. Маракоў канчае педінстытут, едзе настаўнічаць у Бабруйск. Знаходзячыся «пад каўпаком», тое-сёе ўсё ж друкуе з вершаў і перакладаў (з А. Гідаша, М. Дудзіна, А. Новікава-Прыбоя). Аднак ужо не можа выдаць зборніка сваіх перакладаў твораў кітайскага пралетарскага паэта Эмі Сяо, скончыць працу над лібрэта оперы «Куды ідзеш». У 1935 годзе яго зусім перастаюць друкаваць. А яшчэ праз год — арышт і турма...

Не так даўно стала вядома пра апошнія месяцы і нават дні паэта. Пракурор Беларускай ССР Г. С. Тарнаўскі расказаў карэспандэнту БелТА, як Валерыя Маракова і Гаўрылу Іванавіча Гарэцкага (акадэміка АН БССР, вядомага вучонага-геолага, лаўрэата Дзяржаўных прэмій СССР і БССР, роднага брата пісьменніка Максіма Гарэцкага) абвінавацілі ў прыналежнасці да трацкісцкай контррэвалюцыйнай партыі і не менш міфічнага «Саюза вызвалення Беларусі». Аднак ні ўгаворы, ні пагрозы, ні страшэнныя катаванні не змусілі іх нагаварыць на сябе, паклёпнічаць на іншых. Як сведчыць, засноўваючыся на следчых матэрыялах, Г. Тарнаўскі, «мужна трымаўся В. Маракоў. Пратаколы допытаў нязменна завяршае фраза: «Абвінавачаны вінаватым сябе не прызнаў». На судзе ён заявіў, што ўсе выстаўленыя супраць яго абвінавачанні—прымітыўная хлусня, і чаму іншыя падсудныя яго абгаворваюць, ён не ведае і растлумачыць гэта нічым не можа. Пасяджэнне ваеннай калегіі Вярхоўнага суда БССР працягвалася ўсяго 15 мінут — В. Д. Маракова прызналі вінаватым і прыгаварылі да найвышэйшай меры пакарання. Праз дзень, 29

кастрычніка 1937 года, прыгавор быў прыведзены ў выкананне» («Звязда», 1988, 25 чэрвеня).

У «Лісце да паэта Петруся Броўкі» Валерый Маракоў пісаў:

Так многа
патрэбна сказаць нам,
так многа,
каб песня пяшчотай
і куляй была...
Каб нашыя сэрцы
над слаўнай дарогай,
якой мы ідзем,
не кранала імгла.

На жаль, многа сказаць паэту лёс не наканаваў. Аднак лепшае з таго, што ён пакінуў нам, імгла часу не кране.

## ПЛЁН ШЧОДРАЙ СЯЎБЫ

Пятрусь Броўка (1905-1980) пакінуў яскравы след у беларускай літаратуры і культуры ў цэлым. І хоць пра пісьменніка напісана нямала (даследаванні Н. Перкіна «Творчасць Петруся Броўкі», 1952; М. Барсток «Пятрусь Броўка», 1955; М. Яроша «Пятрусь Броўка: Нарыс жыцця і творчасці», 1981; шматлікія артыкулы ў асобных навуковых выданнях і перыёдыцы), усё ж творчая спадчына яго яшчэ як след не асэнсавана.

А яна, творчая спадчына, сапраўды агромністая. Толькі ў арыгінале выйшла звыш пяцідзесяці асобных кніг пісьменніка, выдадзены Зборы твораў у сямі (1975-1978) і дзевяці (1988-1992) тамах. Апрача таго, кнігі П. Броўкі неаднойчы друкаваліся на рускай мове (у 1981-1982 гг. нават выйшаў чатырохтомны Збор твораў), у перакладзе на азербайджанскую, грузінскую, кіргізскую, латышскую, літоўскую, малдаўскую, туркменскую, узбекскую, украінскую, эстонскую і іншыя мовы народаў СССР, а таксама некаторых замежных краін.

Петруся Броўку чытачы ведаюць перш за ўсё як паэта, у прыватнасці аўтара кнігі «А дні ідуць...», адзначанай у 1962 г. высокай Ленінскай прэміяй (дарэчы, гэта была першая такая прэмія ў беларускай літаратуры). Аднак з юных гадоў і да апошніх сваіх дзён народны паэт Беларусі пісаў і прозу. Яго пяру належаць аповесці «Каландры», «Донька-Даніэль», вядомы раман «Калі зліваюцца рэкі», многія апавяданні. Пісаў Броўка і оперныя лібрэта («Міхась Пад-

горны», «Алеся»), нарысы, публіцыстычныя, гісторыка-літаратурныя і крытычныя артыкулы, мемуары (асобныя з артыкулаў і ўспамінаў увайшлі ў выдадзеную ў Маскве кнігу «Пишу о сердце человечьем», 1974). У Беларусі вядомы і Броўка-перакладчык, які дапамог па-беларуску загаварыць паэтам розных нацыянальнасцей — рускім У. Маякоўскаму, А. Пракоф'еву, А. Твардоўскаму, М. Ісакоўскаму, украінцам Т. Шаўчэнку, П. Тычыну, М. Бажану, паляку У. Бранеўскаму, англічаніну Дж. Байрану і інш.

Многія пісьменнікі і непісьменнікі ведалі Петруся Броўку і асабіста. Актыўна-рухавы, падцягнуты, гаваркі, вечна нечым заклапочаны, гатовы зразумець чалавека, дапамагчы яму — такім запомніўся пісьменнік не аднаму мне. Такім ён быў і ў той восеньскі дзень 1978 года, калі я вырашыў узяць інтэрв'ю ў паэта для штомесячнай «Тэлевізійнай бібліятэкі», якую я тады рыхтаваў і вёў. Надарылася і добрая нагода:якраз завяршылася выданне сямітомнага Збору твораў народнага паэта рэспублікі.

Пад час двух-трох сустрэч і невялікай перапіскі (у часе адпачынку Броўкі на Нарачы) удалося атрымаць згоду на гутарку і нават узгадніць прыблізнае кола пытанняў, на якія хацелася б пачуць адказ.

Нарэшце, тэлевізійныя камеры былі ўстаноўлены ў кабінеце галоўнага рэдактара Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Пачаўся запіс інтэрв'ю.

Выданне новага, сямітомнага Збору твораў з'явілася падзеяй не толькі ў біяграфіі Петруся Броўкі, але і ў рэспубліканскім літаратурным, культурным жыцці ўвогуле. Да гэтага ні ў аднаго з беларускіх пісьменнікаў пры жыцці зборы твораў у сямі тамах не выходзілі. Нават у Янкі Купалы яны абмяжоўваліся шасцю тамамі. Такая была «такса», уведзеная ўсесаюзнай кнігавыдавецкай манаполіяй — Дзяржкамвыдам СССР. Таму цікава было даведацца: як ставіцца сам аўтар да гэтага выдання? Як ён ацэньвае працу выдавецкіх работнікаў, паліграфістаў?

Вось што адказаў Пётр Усцінавіч (словы Броўкі ўзнаўляю па магнітафонным запісе, зробленым у час выхаду ў эфір «Тэлевізійнай бібліятэкі» 29 студзеня 1979 года):

— Што я Вам скажу? Сем тамоў — гэта падсумаванне маёй творчай працы за цэлае паўстагоддзе. Бясспрэчна, што я задаволены. І задаволены таму, што вельмі ўважна паставіліся ўсе, хто выдаваў гэты Збор твораў. І выдавецтва «Мастацкая літаратура», якое прыцягнула добрых мастакоў да афармлення. І рэдактар Рыгор Барадулін, дарэчы, мой зямляк, малодшы намнога за мяне, уважна паставіўся да рэдактуры. Павінен сказаць, што і паліграфічны

камбінат, з якім я даўно сябрую, таксама зрабіў па-належнаму. Ёсць некаторыя, відаць, дзе-небудзь недакладнасці. Крытыкі знойдуць, можа, якую памылку, ды і арфаграфічныя некаторыя памылкі закраліся. Ну што ж, без гэтага амаль не бывае: сем тамоў — гэта ўсё-такі вялікая праца. Але ў асноўным усё зроблена добра, і, скажу Вам па шчырасці, я вельмі ўдзячны за гэтае выданне. Што яшчэ хацелася б сказаць? Я не ўсё ўключыў у гэты Збор твораў, што напісана мною. Па-першае, я не ўключаў таго, што, на мой погляд, слабавата і не выпрабавала, так сказаць, часу. А пісаў жа я ўсё-такі цэлае паўстагоддзе. За паўстагоддзе ўменне маё ўсё-такі павялічвалася. Былі і слабейшыя рэчы, якія я не палічыў патрэбным ўключаць. Па-другое, не ўключаў я і лібрэта опер. Тут ужо другая прычына, таксама, як з перакладамі. Я ўключыў з перакладаў толькі адну паэму У. Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін». І ўключыў я яе таму, што яна як бы асвятляе мой творчы настрой на ўсё далейшае. Я перакладаў, і нямала. Даволі многа перакладаў вялікага ўкраінскага Кабзара Тараса Рыгоравіча Шаўчэнку. Я не кажу ўжо пра маіх сучаснікаў з многіх рэспублік. Творы гэтыя па другой прычыне не ўключыў. Не таму, што не хацеў, а таму, што памер выдання ўсё ж не дазваляў. Спадзяюся, што некалі, можа быць, я здолею ўключыць у Збор твораў і ўсе мае пераклады.

Пачуўшы развагі Пятра Усцінавіча пра ягоную перакладчыцкую працу, я тут жа паспрабаваў высветліць, якімі якасцямі, на думку пісьменніка, павінен валодаць перакладчык. Багаты творчы вопыт Броўкі мог бы ўзбагаціць як тэорыю, так і практыку мастацкага перакладу, і найперш такую яго складаную дзялянку, як паэтычны пераклад.

Адказ Петруся Броўкі, думаю, можа цалкам задаволіць і перакладчыкаў, і перакладазнаўцаў:

— Па-першае, з уласнага вопыту ведаю, што брацца трэба за той твор, які ты па-сапраўднаму любіш, які ты па-сапраўднаму разумееш. Я вельмі паважаю перакладчыкаў — самых добрых паэтаў. Я не згодзен з тым, што пераклад павінен быць дакладны, амаль даслоўны. Можна часам і другімі словамі выказаць такі ж самы настрой, на такім жа высокім узроўні, як у арыгінале. Мне здаецца, што і аўтар, і перакладчык павінны быць добрымі майстрамі, мусяць неяк аднолькава адчуваць і жыццёвыя з'явы, і майстэрства паэзіі.

У сямітомнік Петруся Броўкі ўпершыню ўвайшлі яго літаратурна-крытычныя працы: выступленні на літаратурныя тэмы, рэцэнзіі, артыкулы. Ім быў адведзены ўвесь сёмы том і частка шостага.

Хацелася даведацца, што Пётр Усцінавіч думае пра сучасную беларускую крытыку? Чаго ёй, можа быць, не стае, чым яна моцная?

— Гэта праўда, што я ў гэты сямітомнік уключыў і маю паэзію, і прозу, і публіцыстыку. І гэта я зрабіў свядома, таму што хоць мяне больш за ўсё прызнаюць як паэта, аднак, мне здаецца, ёсць у мяне і проза, якая заслугоўвае ўвагі чытача. Што датычыць публіцыстычных артыкулаў, то пісаў я іх і па просьбе, і па сваім жаданні, і па сваім абавязку. Я быў доўгі час, як Вы ведаеце, старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў і па сваім абавязку кіраўніка Саюза павінен быў выказвацца аб становішчы нашай літаратуры. Як я стаўлюся да сучаснай крытыкі і літаратуразнаўства? Вельмі станоўча. Па-першае, сучасная крытыка і літаратуразнаўства па сваім ўзроўні, я смела магу сказаць, стаіць вышэй таго, што было ў пачатку станаўлення беларускай савецкай літаратуры. У нас былі асобныя выдатныя крытыкі і ў той час, я не магу іх назваць усіх, але становішча крытыкі было значна ніжэй і яна часамі не разумела сваіх задач. Былі дзіўныя рэчы. Старэйшыя пісьменнікі памятаюць той час, калі асобным маладым паэтам і крытыкам здавалася, што яны адкрываюць нешта асабліва новае, што нават такія нашы патрыярхі, як Купала і Колас, устарэлі для іх. Яны пачыналі гаварыць, што трэба іначай пісаць, чым Купала і Колас, і спрабавалі гэта рабіць. І нават браліся не то ў рожкі, не то ў дубкі са старымі. Ну, як бачыце, жыццё паказала, што і Купала і Колас засталіся на вякі. А многіх з тых, хто пачынаў гэту барацьбу са «старымі», я не адчуваю і не бачу ні ў крытыцы, ні ў паэзіі. Іх недаўгавечнае літаратурнае жыццё скончылася.

Я варочаюся да нашага становішча крытыкі. Я павінен сказаць, што вам, крытыкам,— я і Вас стаўлю ў гэту шарэнгу, у шарэнгу першых нашых літаратуразнаўцаў,— пашанцавала. Вы прыйшлі ў крытыку з высокай адукацыяй, добра падрыхтаванымі, чаго, на жаль, крытыка ў цэлым у наш час не мела. Былі ў нас і агла-бельшчыкі, якія без ніякае прычыны нападалі на пісьменнікаў. Я не люблю з таго часу групавых выступленняў. Яны рэдка, але ўсё-такі ёсць і цяпер. Часам чытаеш рэцэнзію на кніжку пісьменніка, а ў ёй з нейкім асаблівым усхваляваннем напісана і тое, чаго пісьменнік не заслугоўвае. Прыгледзішся — гэта справа групавая. Не патрэбна гэта. Трэба нам аб'ектыўна глядзець на рэчы. А ёсць і беспадстаўныя адмаўленні.

У кожнага ёсць свой густ, ды і кожны — мае права любіць творчасць таго ці іншага пісьменніка. Але гэта не дае падстаў закасоўваць усё астатняе. Гэта проста і няправільна, і бескультурна.

Асноўную жылплошчу ў сямі тамах заканамерна заняла паэзія — вершы і паэмы, многія з якіх даўно сталі хрэстаматыйнымі ў нашай сучаснай літаратуры, вывучаюцца ў сярэдняй і вышэйшай школе. Цікава, а якія паэтычныя творы найбольш дарагія для аўтара? Хацелася таксама пачуць пра гісторыю напісання хаця б аднаго нейкага твора. І Пётр Усцінавіч расказаў...

— Тое, што падабаецца — мяняецца з часам. Некалі, калі я пачынаў пісаць, мне мой першы надрукаваны верш тады падабаўся больш за ўсё. Я хадзіў па вуліцах Полацка, бясконца шэпчучы яго радкі, і мне здавалася, што ўсе на мяне глядзяць: «Во, гэта той, што напісаў такі харошы верш!» Прайшоў пэўны час, і гэты верш здаўся мне не такім ужо дасканалым. Але ўсё-такі ёсць рэчы, якія мне больш падабаюцца. Я назаву вам колькі вершаў. Вось «Палессе» — напісанае яшчэ да вайны. У вайну: «Будзем сеяць, беларусы!», «Надзя-Надзейка», «Кастусь Каліноўскі». Падабаюцца мне творы, напісаныя пасля вайны: «Пахне чабор», «Дубовы ліст»... Як я напісаў, у прыватнасці, «Дубовы ліст». У Ждановічах у мяне ў садку расце маленькі дубок. Неяк я іду.Ужо снежня пачатак. Зіма была позняя, і яшчэ мала снегу. Бачу, на гэтым маленькім дубку ўсяго адзін лісток, і так ён моцна трымаецца за галінку! Гэта адразу ж навяло на думку: ён, лісток, як быццам прыкрывае далонню сваю галінку. Сівер, мароз, а ён прыкрывае тую мясцінку, дзе некалі прарос. Я падумаў: дык гэта ж вельмі падобна і да чалавека, які сабой прыкрывае тую мясціну, дзе ён нарадзіўся і ўзрос. І я напісаў гэты верш. Я рады, што ён даспадобы шмат каму.

Скажу Вам папраўдзе, што з гадамі незадаволенасць тым, што робіш, усё-такі ўзрастае. Здаецца, як быццам і нядрэнна, але ўсё ж такі хацелася б нечага большага, нечага лепшага.

Меладычныя, песенныя вершы Петруся Броўкі даўно ўпадабалі беларускія кампазітары, і не толькі беларускія. Многія песні на яго словы сталі вельмі папулярнымі. Дастаткова прыгадаць хаця б «Александрыну», якая стала адной з асноўных у рэпертуары «Песняроў». Таму наступнае пытанне было пра творчую садружнасць паэта з кампазітарамі.

— Яна ў мяне пачалася, гэтая сувязь, даўно. Ну, перш-наперш, з Яўгенам Карлавічам Цікоцкім, з якім мы працавалі над дзвюма операмі. Гэта неяк нас пароднила. Потым, сапраўды, шмат кампазітараў пісала песні на мае творы. Вось і нядаўна я атрымаў часопіс «Нева», выдадзены ў Ленінградзе. Гляджу — там музыка нябожчыка Дзяржынскага на мой верш «Крыніца». Вы ўспомнілі «Александрыну». Яна пайшла далека, яе ведаюць і тут, у нас, і за межамі Беларусі. І

песні Любана, Лучанка, і песні Алоўнікава, і песні Семянякі — яны мяне проста ўсцешваюць. Мне цяжка ўсё і ўсіх прыгадаць, але скажу, што мне хацелася б папрацаваць з кампазітарамі больш шчыльна. Кампазітары дагэтуль бралі ў мяне ўсё гатовае. А можа, варта было б і спецыяльна што-небудзь для іх напісаць. Адным словам, я вельмі паважаю музыку і нашых кампазітараў, якія заслужана карыстаюцца добрай славай у Савецкім Саюзе.

Сямітомнік Петруся Броўкі быў багата ілюстраваны. У сямі тамах я налічыў каля шасцідзесяці цікавых, рэдкіх, падчас унікальных фотаздымкаў. Хацелася пачуць каментарый аўтара Збору твораў хаця б да двух-трох здымкаў. У прыватнасці, да здымка, змешчанага ў сёмым томе, дзе Броўка сфатаграфаваны разам з Янкам Купалам. Вось што расказаў мне Пётр Усцінавіч:

— Пад здымкам, як бачыце, напісана: «Першая сустрэча з Янкам Купалам. Мінск, 1930 г.». Гэта, можа быць, і не зусім так, таму што я ўпершыню Купалу пабачыў у 1925 годзе, і гэта было ў Доме працасветы, дзе ён выступаў. Што я любіў Купалу даўно, з дзяцінства, гэта ўсім вядома. І не толькі я яго любіў і люблю, любіць увесь народ. А гэты здымак зроблены так: у 1930 годзе (я тады яшчэ вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце) я зайшоў у Дом пісьменніка. Быў нейкі вечар. Нават не вечар, а літаратурнае выступленне ўдзень. Я там выступаў таксама. А Янка Купала быў вельмі гасцінны і добразычлівы чалавек. Ён любіў маладых. Калі я выходзіў з Дома пісьменніка, да мяне падышоў Купала і гаворыць: «Петрусёк, пойдзем да мяне зойдзем». Я нечакана быў здзіўлены і вельмі ўзрадаваны. Мы пайшлі з ім разам у кірунку да пляца Волі, дзе на Кастрычніцкай вуліцы Янка Купала ў той час жыў. І раптам народны паэт кажа: «Пятрусь, паглядзі, напісана: «Фатаграфія». За пяць хвілін здымак зробім. Давай зойдзем, здымемся». Мы зайшлі, зняліся, і якраз праз пяць хвілін нам далі гэты здымак. Пасля таго мы пайшлі да Купалы дахаты, чыталі вершы. Ён любіў, калі маладыя чыталі яго вершы, прыслухоўваўся да голасу. Асмеліўся і я яму прачытаць свой адзін верш. З таго часу ў мяне пачалася з Купалам доўгая, моцная, сапраўдная дружба. Як малодшы я заўсёды прыслухоўваўся да яго і вельмі яго любіў.

Быў у сямітомніку яшчэ адзін здымак — Броўка з Уладзіславам Бранеўскім. Спытаўся я і пра гэты здымак...

— Уладзіслава Бранеўскага я таксама ведаў. У прыватнасці, сустракаў яго ў часе вайны ў Маскве. А гэты здымак зроблены на возеры Свіцязь. Адзначалася стагоддзе з дня смерці вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча, адкрывалі музей у Навагрудку. Да нас

прыехала дэлегацыя польскіх пісьменнікаў на чале з Бранеўскім. І вось пасля цудоўнага вечара, які адбыўся ў Навагрудку, мы вярталіся ў Мінск і спыніліся каля Свіцязі. Успомнілі Адама Міцкевіча, пакланіліся яшчэ раз і яму і яго творчасці. А тут непадалёк — нейкі буфет. Мы знайшлі лёгенькага вінца і рашылі ўзняць чарку за вялікага польскага песняра...

Пытацца дык пытацца! Карцела даведацца пра гісторыю яшчэ аднаго здымка: Броўка сярод студэнтаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта...

— Студэнтаў мы ўсе любім. А гэты здымак, я прыгадваю, зроблены ў часе Другога з'езда пісьменнікаў Савецкай Беларусі. Нас, групу пісьменнікаў, удзельнікаў з'езда — Аляксандра Твардоўскага, Канстанціна Сіманава і мяне — запрасілі студэнты універсітэта. Я Вам павінен сказаць, гэта была вельмі цікавая, гарачая сустрэча. Студэнты любяць паэзію і любяць паэтаў. Я і цяпер сустракаюся са студэнтамі, але мне цяжка прыгадаць такую цёплую сустрэчу, якая была тады.

Я ведаў: Броўка — былы студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Мне і сотням другіх выпускнікоў і супрацоўнікаў гэтага універсітэта, несумненна, цікава было ведаць пра стаўленне паэта да БДУ...

— Я паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта ў 1928 годзе, а скончыў яго ў 1931 годзе. Гэта быў дачасны выпуск. Спецыялістаў у той час было мала, і нас выпусцілі раней. Я заўсёды з вялікай любоўю ўспамінаю Беларускі дзяржаўны універсітэт. Ён фактычна дапамог мне стаць тым, кім я цяпер ёсць.

Прызнацца, такі адказ славутага пісьменніка быў прыемны. Асабліва таму, што некаторыя «мэтры», якія па тых ці іншых прычынах не змаглі атрымаць вышэйшай літаратурнай адукацыі, збівалі з тропу асобных філфакаўцаў — літаратурных пачаткоўцаў. «Чаму вы навучыцеся ў тых універсітэтах? Лепш кідайце тую вучобу ды пішыце самі больш!» — павучалі яны маладых літаратараў. І здаралася, што здольныя пачаткоўцы кідалі вучобу. А пасля горка каяліся, бо прыходзілася davучвацца саматугам ці так і заставацца маладасведчанымі ў літаратуры, гісторыі, мове.

Напісаць за сваё жыццё столькі, колькі напісаў Пятрусь Броўка, трэба, сапраўды, было быць Героем Сацыялістычнай Працы. А ў сямітомнік увайшло ж далека не ўсё, што напісаў ён. Ды і пісалася гэта паралельна з ягонай працай на розных пасадах, з выкананнем высокіх і адказных грамадскіх абавязкаў. Вось і незадоўга да інтэрв'ю яго ў чарговы раз абралі дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР... Як жа

арганізаваны працоўны дзень паэта, што ён з усім спраўляецца, усюды паспявае? Пётр Усцінавіч усміхнуўся і пачаў адказваць:

— Мой працоўны дзень за паўстагоддзе быў розны. Гэта залежала ад таго, што я рабіў у гэты час: працаваў ці вучыўся. Будучы студэнтам, я выбіраў час для творчай працы паміж вучобай, а калі працаваў у газеце і часопісах, пісаў, калі выпадала, найбольш пасля працы. Ды гэта залежала і ад узросту. Наогул, шкадую, што ў маладыя гады працаваў неарганізавана і недастаткова.

Як працую цяпер? Звычайна раніцай, да снядання, калі ўсе яшчэ спяць. Галава свежая, і ўсё прадуманае напярэдадні, ды і за ноч — выяўляецца неяк найбольш яскрава. Вечарамі, тым больш па начах, не пішу. Не пішу я і кожны дзень. Я ніколі не быў згодзен з заклікам: «Кожны дзень — па радку...» А навошта каму той радок, калі ён і самому не лезе ў галаву? Навошта ён без натхнення, без творчага гарэння — без таго, чым жыве паэзія? Нядаўна ў «Новом мире» і Марыэта Шагінян, якая славіцца выключнай працаздольнасцю, адмовіла, што калі-небудзь такі заклік яна выказвала.

Пішу тады, калі сапраўды ўсхваляваны чым-небудзь. Хоць і гэта не заўсёды адразу ўдаецца. Вось прыклад: каля дзесяці год час ад часу я спрабаваў напісаць тое, што пазней вылілася ў паэму «Голас сэрца». Лёс маёй маці і наогул усіх матак, загубленых праклятым фашызмам, вельмі хваляваў мяне. Я думаў, знаходзіў тое-сёе, садзіўся за працу, але так, як я хацеў — не выходзіла. І, нарэшце, аднойчы прыйшло: я не выходзіў з хаты дзесяць сутак, пісаў, не лічачы гадзін, былі хваляванне і нават слёзы, і напісаў паэму, як кажуць, адным дыханнем. Вось як бывае! Шукаў дзесяць год, а напісаў за дзесяць дзён.

Акрамя творчай працы, у мяне было заўсёды шмат абавязкаў — і як у старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, і як у галоўнага рэдактара БелСЭ... І цяпер у мяне розных абавязкаў шмат, але я навучыўся, каб яны мне не перашкаджалі.

Зрэшты, як планаваць працоўны дзень,— справа кожнага. Адно вядома: трэба працаваць!

Нарэшце прыйшла пара для апошняга, традыцыйнага пытання: што зараз на рабочым стале паэта? Якімі творчымі клопатамі ён заняты цяпер?

— Што я раблю цяпер і пра што я думаю? — перапытаў Пётр Усцінавіч.— Я перакананы, што калі раскажаш, бывае, што і не напішаш. Таму адказваю коратка: буду працаваць над вершамі, а задумы прыходзяць і абнаўляюцца часта. Хочацца яшчэ працягнуць кніжку апавяданняў, падобных да «Донькі-Даніэля». Хацелася б, хаця я і стары, напісаць аповесць аб сапраўдным каханні, але, канечне,

пра моладзь сённяшнюю, калгасную. На жаль, я ўжо недастаткова ведаю про сённяшняе калгаснае і саўгаснае жыццё, пра новы побыт у вёсцы, пра адпачынак, пра ўзаемаадносіны маладых. Для гэтага трэба было б дзе-небудзь хоць паўгода пажыць і ўзбагаціцца. Але як мне знайсці гэтага паўгода? Тут і праца, і абавязкі грамадскія, і здароўе нярэдка падводзіць... Аднак трэба ж спадзявацца!

Так здарылася, што пасля той такой памятнай для мяне (а можа, і для некаторых іншых) гутаркі, паказанай па Беларускім тэлебачанні, Пятрусь Броўка пражыў толькі крыху больш года. У свой апошні год ён часта і доўга хварэў, хвароба пашкодзіла і галасавыя звязкі — паэт амаль перастаў гаварыць уголас. Гэта інтэрв'ю аказалася, бадай, апошнім у яго жыцці. Як і апошнім стаўся прыжыццёвы яго Збор твораў у сямі тамах.

Якое шчасце, што народны паэт Беларусі змог яшчэ ўбачыць багаты плён сваёй шчодрай творчай сяўбы!

## ЧАЦВЁРА З АДНАГО ПАКАЛЕННЯ

*У вянок роднай культуры*

Свой жыццяпіс, змешчаны ў свой час ў кнізе «Пра час і пра сябе», Юрка Гаўрук (1905-1979) пачаў так: «Мне думаецца, што галоўнае ў чалавеку — праца і творчасць».

Усё жыццё вядомага беларускага перакладчыка і паэта Юрыя Паўлавіча Гаўрука — неаспрэчнае пацвярджэнне гэтай глыбока жыццёвай ісціны. Сын слуцкага цесляра і столяра, па-сялянску цягавіты і няўрымсны, ён з самага малалецтва адчуў сапраўдную радасць і каштоўнасць чалавечай працы, перш за ўсё той, «што ў творчасць перайшла» (М. Рыльскі). Працалюбства і працаздольнасць, якія ў розных варунках яго нялёгкага жыццёвага шляху выяўляліся па-рознаму, у залежнасці ад канкрэтных умоў і сферы прылажэння тых ці іншых — разумовых або фізічных — намаганняў, загнездаваліся ў ім вельмі рана, яшчэ са школьных дзён. Пятнаццацігадовы юнак знайшоў у Слуцку, на гарышчы пакінутага панскага дома, кучу французскіх і польскіх кніг. І вось з апантанай настырнасцю, радок за радком, прачытвае ён у арыгінале раман Віктора Гюго «Сабор Парыжскае Божае Маці», пашыраючы такім чынам набытыя ў гімназіі адносна невялікія пазнанні ў французскай мове. У той час, калі яго равеснікі гойсалі па вуліцах правінцыйнага гарадка або віслі на платах суседскіх садоў, Юрка ходзіць да аднае высокаадукаванай

бабулі, якая за невялікую плату давала прыватныя ўрокі нямецкай і англійскай моў. «Бывала, сядзе ў крэсла, пачне вязаць панчоху, а я чытаю ёй уголас Шылера ці які-небудзь англійскі тэкст, калі чаго не разумею, спыняюся. Яна мне тлумачыла, часцей па французску альбо па-польску...»

Набытыя самавукам веды па замежных мовах і літаратурах прыдаліся вельмі хутка. У 1922 г. Юрка Гаўрук паступае ў маскоўскі Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя Валерыя Брусава —гэты асяродак тагачаснай прафесійнай літаратурнай адукацыі. Зноў нястомная, аж да фізічнага знясільвання, да хворасці, праца — у студэнцкіх аўдыторыях, чытальнях, у Румянцаўскай бібліятэцы (цяпер Дзяржаўная бібліятэка імя У. І. Леніна ў Маскве). Наведванне сталічных музеяў, выставак, тэатраў. У інстытуце канчаткова акрэсліваецца прызванне Юркі Гаўрука. Хоць ён піша ўласныя вершы, прычым на добрым прафесійным узроўні (у 1969 г. многія з іх увайшлі ў кнігу яго арыгінальных паэтычных твораў «Іскры з крэменя», у 1990 г.— у кнігу «Узвіхраны ветразь», выдадзеную ў «Бібліятэцы беларускай паэзіі»), даследуе і збірае беларускі фальклор, займаецца тэатральнай і літаратурнай крытыкай, краязнаўствам, выбар падае на мастацкі пераклад.

У год сканчэння інстытута (1925) Ю. Гаўрук перакладае з англійскай мовы камедыю Шэкспіра «Сон у летнюю ноч». Пераклад прызначаўся для беларускай тэатральнай студыі, што распачынала сваю дзейнасць у Маскве. Спектакль быў паказаны спачатку ў сталіцы нашай Радзімы, потым неаднойчы ставіўся ў Віцебску, куды неўзабаве пераехалі студыйцы — ужо як артысты Другога Беларускага дзяржаўнага тэатра (зараз тэатр імя Якуба Коласа). Гэтая падзея, па сутнасці, і акрэсліла далейшы літаратурны лёс слуцкага юнака. Нягледзячы на тое, што Юрка Гаўрук скончыў інстытут не толькі па класу мастацкага перакладу, але яшчэ па класах крытыкі і фальклору, што пазнейшыя яго абавязкі дацэнта кафедры беларускай літаратуры Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі (1925-1931) і Магілёўскага педінстытута (1931-1935), загадчыка літаратурнай часткі Дзяржаўнага тэатра імя Янкі Купалы (1957-1967), а ў яшчэ большай ступені — лесаруба і будаўніка Крайняй Поўначы і Сібіры, дзе ён, незаконна рэпрэсіраваны, правёў каля дваццаці гадоў, прамых адносін да перакладчыцкіх клопатаў не мелі,— усё ж праца перакладчыка стала вызначальнай у яго жыцці.

У 1928 г. Юрка Гаўрук выдаў зборнік сваіх выбраных перакладаў «Кветкі з чужых палёў». Перакладчык упершыню перасадзіў на беларускую глебу асобныя ўзоры класічнай і сучаснай англійскай,

французскай, нямецкай і польскай паэзіі. Пасля гэтага былі шматлікія новыя пераклады — вершы і паэмы Байрана і Гейнэ, Верлена і Бадлера, Міцкевіча і Шылера, паэтаў брацкіх савецкіх рэспублік А. Пушкіна, В. Брусава, Л. Украінкі, П. Тычыны, Г.Эміна і інш. Выйшлі з друку і перакладзеныя Ю. Гаўруком некаторыя празаічныя творы — раманы француза А. Стыля «Любіць будзем заўтра» (на беларускую мову), «Люба Лук'янская» і «Пошукі будучыні» К. Чорнага, «Серадзібор» П. Пестрака (на рускую мову). Ва ўсіх гэтых перакладах адчуваецца натхненне, талент, вопыт сапраўднага майстра сваёй справы. Лепшыя з іх пазначаны высокай дакладнасцю ўзнаўлення мастацкай сутнасці арыгіналаў, калі перадаецца не слова — словам, а паэзія — паэзіяй, мастацтва — мастацтвам. Яны сталі здабыткам нашай культуры, пашырылі ідэйна-тэматычныя, жанравыя, моўна-стылявыя мажлівасці сучаснай беларускай літаратуры. Але асаблівы поспех напаткаў Юрку Гаўрука пры перакладзе драматычных твораў.

Сёння нават цяжка ўявіць рэпертуар беларускіх тэатраў без п'ес, перакладзеных старэйшынам нашага мастацкага перакладу.« Улада цемры» Л. Талстога, «Мяцеліца» Л. Лявонава, «Тысяча франкаў узнагароды» В. Гюго, «Ліса і вінаград» Г. Фігейрэду, «Забыты ўсімі» Н. Хікмета — пераклады гэтых твораў, зробленыя з прыцэлам на сучаснага гледача, прываблiваюць сваім натуральным гучаннем, высокай перакладчыцкай культурай. Аднак сапраўднай падзеяй у нашым духоўным жыцці сталі п'есы Шэкспіра «Атэла», «Канец — і справе вянец», «Гамлет», «Кароль Лір», перакладзеныя на беларускую мову Юркам Гаўруком. Менавіта яны, гэтыя несмяротныя тварэнні англійскага генія, дазволілі надзвычай высока ўзняцца перакладчыцкаму таленту Ю. Гаўрука, раскрыўшы пры гэтым і неабыякія выяўленчыя магчымасці беларускай мовы, і здольнасць беларускай нацыянальнай культуры абжываць самыя дасканалейшыя ўзоры іншаземнага мастацтва. Паэтычны лад мыслення Шэкспіра з яго густой метафарычнасцю, умоўнасцю, падтэкстам знайшоў у асобе Ю. Гаўрука, таксама паэта па характары творчай натуры, інтэрпрэтатара ўдзячнага, добрасумленнага і высокаталенавітага.

Шэкспір — першая пажыццёвая любоў Юркі Гаўрука. Пачаўшы сваю дзейнасць перакладчыка ўзнаўленнем яго камедыі «Сон у летнюю ноч», ён усё сваё жыццё не расставаўся з творамі славутага драматурга. Як вядома, «супрацiўленне слова» пры перакладзе твораў Шэкспіра асабліва значнае. Апрача чыста моўных «пастак» (стара-англійскую мову драматурга сёння ў многіх выпадках не разумеюць нават самі англічане), нямала цяжкасцей звязана з перадачай глыбіннай філасафічнасці, афарыстычнасці і паэтычнасці трагедый і каме-

дый Вялікага Брытанца. Каб усё гэта пераўвасобіць сродкамі роднай мовы, перакладчыку патрэбна быць і літаратуразнаўцам, і мовазнаўцам, і філосафам, і таленавітым пісьменнікам адначасова. А яшчэ — чалавекам глыбока эрудыраваным, чуйным да ўсіх адценняў і гукаў роднага слова. І да ўсяго — вельмі працавітым. Усімі гэтымі якасцямі ў поўнай меры валодаў Юрка Гаўрук. Пра гэта сведчыць, у прыватнасці, яго пераўвасабленне, бадай, ці не найцяжэйшай для перакладу трагедыі Шэкспіра — «Гамлет».

Упершыню да «Гамлета» Ю. Гаўрук звярнуўся яшчэ ў 30-я гады. У 1934 г. частка твора ў яго перакладзе ўвайшла ў хрэстаматыю па літаратуры для сярэдняй школы, а ў наступным годзе п'еса (ужо без прозвішча перакладчыка, бо пачалося яго палітычнае шальмаванне) выйшла асобным выданнем. Да гэтага твора Ю. Гаўрук звяртаўся неаднойчы: перарабляў, дапрацоўваў, удакладняў. Адшліфоўваў кожны маналог, кожную фразу, рэпліку. Паралельна з гэтым заняткам даследаваў твор як літаратуразнаўца, рабіў тонкія супастаўленні арыгінала з ужо вядомымі перакладамі. І вось — поспех! «Нядаўна я адчуў вялікую радасць як чытач,— гаварыў у 1972 годзе на Усесаюзнай нарадзе па пытаннях мастацкага перакладу вядомы рускі паэт і перакладчык Арсеній Таркоўскі.— Мне давялося прачытаць пераклад «Гамлета» на беларускую мову, выкананы Юркам Гаўруком. Гэта лепшы пераклад «Гамлета» з усіх, што мне калі-небудзь даводзілася чытаць на даступных мне мовах. Для перакладчыка не існавала цяжкасцей, ён не ведае памылак супраць стылю, гэта ідэальны з пункту гледжання нашага мастацтва твор». Каб зразумець увесь сэнс гэтай зусім аб'ектыўнай, старонняй ацэнкі працы беларускага перакладчыка, трэба мець на ўвазе, што аўтару выказвання А. Таркоўскаму былі даступныя амаль усе асноўныя еўрапейскія мовы, што «Гамлет» толькі па-руску перакладаўся звыш дваццаці разоў!

Тыя, хто ведаў Юрку Гаўрука (а сярод іх пашчасціла быць і мне), не мог не захапляцца сапраўднай інтэлігентнасцю, высакародствам, дабрынёю гэтага статнага, прыгожага і ў сваёй старасці мужчыны. Нават не верылася, што ён столькі перажыў, перамучыўся, столькі вытрываў розных жыццёвых нягод. Пра тое ён звычайна не гаварыў: не той быў час, ды і не такі ён быў чалавек, каб скардзіцца, гневацца ці тым больш выхваляцца. Толькі самыя блізкія ведалі, што горкаперажытае час ад часу адлівалася ў радкі пра 30-40-я гады, калі

За вернасць і любоў прыйшла расплата:
Наган халодны і усмешка ката.

Сёння мы гэтыя радкі (побач з вершамі ранейшых, 20-х гадоў: «Максім Багдановіч», «Крымская ноч», «Дума», «Пяць гарадоў» і інш.)

можам прачытаць. Як, у прыватнасці, асобныя радкі У. Жылкі, Л. Геніюш, С. Грахоўскага і іншых беларускіх паэтаў — вязняў «архіпелага ГУЛАГ».

Дзіравы, неацеплены барак.
Лясныя людзі каля печы труцца,
Падсушваюць авёс, пякуць бурак,
Як цені ў пекле, сварацца і б'юцца.

Халодная была мая пасцель.
Хацеў я спаць, а думы ў голаў лезлі:
Мне сніліся Рэмбрант і Рафаэль,
І валасы мае к сцяне прымерзлі.

Чытаеш гэтыя радкі з выдатнай паэмы «Развітанне з самім сабой», напісанай Юркам Гаўруком у 1945 г. на станцыі Інта (Комі АССР), і захапляешся мужнасцю паэта. Сапраўднага паэта, які стаічна вынес усе выпрабаванні часу і лёсу, высакародна аддаў усяго сябе служэнню літаратурнаму пабрацімству.

...Памятаеце, як пачынаецца аўтабіяграфія Юркі Гаўрука? Далей жа ідзе наступнае выказванне: «І вартасць пражытага мераецца не багаццем асабістых уражанняў, а тым, што паспеў зрабіць чалавек. З гэтага пункту гледжання я не магу расцаніць сваё жыццё высока. Пражыта многа, а зроблена вельмі мала».

Пяром перакладчыка, калі ён пісаў гэтыя словы, вадзіла яго прыроджаная звышсціпласць. З такой думкай, зразумела, пагадзіцца ніяк нельга. Бо для беларускай савецкай культуры зроблена Юркам Гаўруком надта многа. Бо нашы чытачы і гледачы беларускіх тэатраў яшчэ не раз удыхнуць водар тых непаўторных кветак, што рупна ўплецены ім у неўвядальны вянок роднай культуры.

## ***Права на верш***

У Аляксандра Амвросьевіча Каратая — такое сапраўднае прозвішча пісьменніка Максіма Лужаніна (нарадзіўся ў 1909 г.) — ёсць твор, які называецца «Права на верш». У ім — развага над сутнасцю літаратурнай творчасці, над матэрыялам і характарам паэтычнага выказвання:

Калі цябе, майстра, хваляць,
Не ўзносся, надумай перш:
Самае звонкае слова —
Гэта яшчэ не верш.

Першааснова паэзіі,— сцвярджае паэт,— у жыцці, у еднасці з родным народам, яго клопатамі і турботамі:

Углыб урасце карэнне —
Выбухам не ўзарвеш.
І скажацца ўсё дарэшты,
Што думаеш, што нясеш ты,
Так легка, нібы дыхнеш.

Гэтак яно прыходзіць,
Права тваё на верш.

Сам Максім Лужанін гэтае «права на верш» здабываў усім сваім жыццём. І тады, калі на зары савецкай улады тонкім дзіцячым галаском чытаў барадатым дзядзькам «вялізарныя прасціradлы ў вёску хлынуўшых газет». І тады, калі пакінуў свае родныя Прусы, што на сённяшняй Салігоршчыне, пачаў штурмаваць навуку ў сценах Мінскага беларускага педтэхнікума, а потым — Беларускага дзяржаўнага універсітэта. І тады, калі ў якасці афіцыйнага прадстаўніка Савецкай улады ездзіў на Палессе арганізоўваць калгасы. І тады, калі зброяй паэтычнага слова змагаўся з фашысцкай навалай.

Зрэшты, кожны паэт здабывае сваё права на верш, здабывае ўсё жыццё, ад першага ўздыху і да апошняга выдыху. І Максім Лужанін тут, безумоўна, не выключэнне. Яму, як літаратару, многае дала праца ў часопісах «Узвышша», «Вожык», у газеце «Звязда», на рэспубліканскімі радыё, у Інстытуце літаратуры АН БССР, на кінастудыі «Беларусьфільм». Нямала новага розумам і сэрцам спасціг пісьменнік як дэпутат Вярхоўнага Савета БССР (1967-1985) пад час шматлікіх паездак на новабудоўлі, у калгасы і саўгасы рэспублікі і ўсёй краіны, у часе падарожжаў за мяжу.

Мастацкая рэалізацыя здабытага права на верш пачалася ў Максіма Лужаніна даволі рана. Першы свой верш ён змясціў у друку ў 1925 г. А ўжо праз тры гады, калі паэту-юнаку не споўнілася і дзевятнаццаці, ён трымаў у руках і свой першы паэтычны зборнік «Крокі». З кожным годам паэтычная хада Максіма Лужаніна набірала ўсё большы імпэт. У 1930 г. ён выдае дзве кнігі, у наступным — тры, у 1932-м — яшчэ дзве. І хоць гэтыя кніжкі былі невялікія па памеры і многія вершы перавандроўвалі з аднаго выдання ў другое, усё ж нельга не падзівіцца з творчай нястомнасці літаратара, жадання неадкладна адгукацца на ўсе больш-менш значныя падзеі часу, звязаныя з жыццём вёскі і горада, рабочага і калгасніка, чырвонаармейца і студэнта. Было ў тых кніжках яшчэ шмат вучнёўскага, агульна-рытарычнага, невыразнага. Былі вершы «пад Ясеніна», крыху пазней — «пад Маякоўскага». Але скрозь слоўную палову праблісквала

і чыстае, раджайнае зерне паэзіі. Як вось у гэтых радках, узятых з верша «Рух таварных цягнікоў» (1932):

Поруч з бегам святла
і, гарачы, як чутка,
ўдарыць вочы
кур'ерскі
і знікне, як зніч.
Бліскавіцаю шкла
прамігціць
заклапочаны хуткі,
пратуркоча паштовы,
прасыпле
вясёлы транзіт.

Нельга не звярнуць тут увагі на вельмі багатую паэтычную сінаніміку (цягнік «прамігціць», «пратуркоча», «прасыпле»), на смелую паэтычную вобразнасць («гарачы, як чутка, «бліскавіца шкла»), на жывую рытміка-інтанацыйную плынь верша — усё тое, у чым памастацку дасканала ўвасабляліся рытмы і фарбы новага жыцця.

Пра пачатак сваёй паэтычнай дарогі Максім Лужанін так выказаўся ў сваёй аўтабіяграфіі: «Хоць напісаў я ў тыя гады ці мала зялёнага, да чаго цяпер не дужа хочацца прызнавацца, затое навучыўся разумець: літаратура не любіць напалавіну прыкладзеных рук, не да астатку раскрытае душы. А калі так — не шкадуй на твор часу і работы». І не віна, а бяда пісьменніка, што, рана зразумеўшы гэтую ісціну і жадаючы даастатку раскрыць сваю душу ў паэтычным слове, ён не знайшоў належнай падтрымкі. «Тады была самая незразумелая і не вельмі лёгкая пара ў маім жыцці,— прыгадваў Максім Лужанін.— Усё напісанае дружна бралі ў кіі крытыкі і някрытыкі, паэты і непаэты». Ды і сам ён, паддаўшыся масаваму вульгарнасацыялагічнаму псіхозу, не вельмі шанаваў сваіх апанентаў. Але час не шкадаваў ні тых, каго білі, ні тых, хто біў. У выніку паэту давялося змоўкнуць амаль на дзесяць гадоў. Аднак калі зноў, яшчэ ў часе вайны, з'явілася магчымасць друкавацца, ён адразу заявіў пра сябе як сталы, вопытны літаратар, якому многае пад сілу.

Пасляваенны перыяд у творчасці паэта — самы плённы. Калі метафарычна выкарыстаць назвы паасобных яго кніг, то далейшы творчы шлях Максіма Лужаніна можна акрэсліць наступным чынам: Паказаўшы «Шырокае поле вайны», паэт «Моваю сэрца» ўславіў непагаснае «Святло Радзімы», яе нястрымны пасляваенны «Поступ». У другой палове 50-х гадоў перад ім, як і перад іншымі савецкімі літаратарамі, адкрыліся новыя «Прасторы». Цяпер паэту падуладна многае ў жыцці — ад непаўторнай свежасці «Росаў на коласе» да

неўтаймоўнай «Прагі крыла». «Вачыма часу», мудра і зацікаўлена ўглядаецца ён і ў тое, «Як нараджаўся новы свет», і ў наш сённяшні мірны дзень. «Паразмаўляй са мной, Зямля»,— даверліва звяртаецца ён да нашай планеты-карміцелькі, і Зямля давярае паэту свае радасці і трывогі, свой боль і свае надзеі.

За што б ні браўся Максім Лужанін, пра што б ён ні пісаў,— усюды відаць рупнасць і плён сапраўднага майстра. Ён не даруе — ні сабе, ні другім — не толькі невыразнай думкі ў творы, нясвежага пачуцця, але і каструбаватага радка, старой, як свет, рыфмы, не да месца сказанага слова. Што да апошняга, то ў пасляваеннай беларускай літаратуры няшмат знойдзецца пісьменнікаў, роўных Максіму Лужаніну ў адчуванні роднага слова, веданні яго вобразатворных мажлівасцей. Менавіта ўсё гэта і прадвызначае трываласць і хараство многіх твораў паэта.

На высокім узроўні паэт увасабляе тэмы самыя розныя. У яго сустрэнем творы пра Радзіму, родны народ, Камуністычную партыю, маладосць, каханне і г. д. А побач — сатыра, ад мяккай усмешкі і да з'едлівага сарказму. У адным радзе з вялікімі сатырычнымі паэмамі (успомнім хаця б «Сілівонавы прыгоды») — гумарыстычныя карацелькі. Як, напрыклад, гэтая:

Тунель.
На гэты раз даўжэй.
Святло знікае, слепнуць сведкі.
Сусед глядзіць у бок суседкі
І ціха сунецца бліжэй.

Безумоўна, на творчым шляху кожнага паэта, як і ўвогуле на шляху чалавечага жыцця, здараецца ўсялякае: знаходкі і страты, радасці і засмучэнні, пад'ёмы і спускі. Не абышоў усяго гэтага і Максім Лужанін. І ў ягонай творчасці можна знайсці радкі лепшыя і горшыя, творы больш удалыя і менш удалыя, кнігі этапныя і проста чарговыя, т. зв. прахадныя выданні. Аднак паэт надзвычай патрабавальны да сябе, да кожнага свайго радка, кожнага слова. Ён, можа, самы бязлітасны крытык уласных твораў. Менавіта гэта, як мне здаецца, дапамагае яму ў няспынным творчым росце заваёўваць новыя і новыя мастацкія вышыні.

Нават высокую пахвалу ў свой адрас ён успрымае з мудрай усмешкай і вельмі сімпатычнай, хоць, мабыць, і залішняй самакрытычнасцю:

Падхвальваючы мой няхітры спеў,
сябры гавораць — сто разоў ім дзякуй! —
што быццам я сабаку ў рыфме з'еў,

а я ж дасюль жую таго сабаку.

Лепшыя творы Максіма Лужаніна, такія, як вершы «Драч», «Вільнянка», «Права на верш», «Вадаспад», «На сцежцы Пушкіна», «...Гэта першая кніга, якую складаў», паэмы «Матчын дом», «Як нараджаўся новы свет», «Лявоніха», і многія іншыя— неаспрэчна сведчаць: перад намі пясняр шырокіх творчых магчымасцей, выдатны майстар верша, тонкі знаўца роднага слова. У падтрымку гэтых думак можна паклікаць многіх, хто выказваўся пра творчасць Максіма Лужаніна, у тым ліку самога Якуба Коласа.

Такі ён, паэт Максім Лужанін.

Аднак, называючы Максіма Лужаніна толькі паэтам, мы тым самым значна звужаем абсяг яго творчасці.

Права на верш, здабытае ўсім нялёгкім жыццём паэта-грамадзяніна, увасабляецца ў многіх літаратурных жанрах, у якіх ён плённа працуе. Сёння шырока вядомы і Лужанін — празаік, публіцыст, кінасцэнарыст, перакладчык, мемуарыст... Чытачы з прыемнасцю сустрэлі ў свой час кнігу цікавых, арыгінальна ўкладзеных мемуараў «Дванаццаць вячорных вогнішчаў». Страсны, багаты на паасобныя назіранні і шырокія сацыяльныя абагульненні амерыканскі «Рэпартаж з рубцом на сэрцы» прымусіў згадаць Юліуса Фучыка не толькі адной сваёй назвай. Кніга прозы «Людзі, птушкі, прастор» увабрала ў сябе шэраг апавяданняў і лірычных замалёвак пісьменніка. Ва ўсіх гэтых выданнях добра відаць асоба апавядальніка — разумнага, пасялянску разважлівага, умудронага багатым жыццёвым вопытам.

Максім Лужанін зрэдку піша і для дзяцей (паэма-казка «Хто робіць пагоду»), займаецца літаратурнай крытыкай (кнігі «Вачыма часу», «З ранку да вечара»). Ён — аўтар сцэнарыяў некаторых беларускіх фільмаў, такіх, як «Паўлінка», «Народны паэт», «Першыя выпрабаванні», «Запомнім гэты дзень (два апошнія напісаны ў сааўтарстве з А. Куляшовым). Пераклаў на беларускую мову многія творы паэзіі, прозы і драматургіі, у тым ліку «Гора ад розуму» А. Грыбаедава, «Вечары на хутары ля Дзіканькі» М. Гогаля, «Падарожжа з Пяцярбурга ў Маскву» А. Радзішчава, «Маладая гвардыя» А. Фадзеева, асобныя вершы А. Пушкіна, А. Міцкевіча, У. Сыракомлі, У. Маякоўскага і інш.

Але як бы высока мы ні ацэньвалі кнігі прозы, крытыкі і перакладаў пісьменніка, усё ж над усімі імі ўзвышаецца арыгінальная, па сваім характары адзіная ў беларускай літаратуры кніжка — «Колас расказвае пра сябе». Можна без перабольшання сказаць: напісаўшы яе, Максім Лужанін ажыццявіў творчы подзвіг.

Ён здзейсніў тое, што ў свой час зрабіў Экерман, запісаўшы свае славутыя «Гутаркі з Гётэ пра мастацтва», што зрабілі шматлікія сябры і родзічы Льва Талстога, пакінуўшы нам падрабязныя запісы выказванняў вялікага рускага пісьменніка па самых розных пытаннях жыцця і літаратуры.

Будучы многія гады ў самых блізкіх штодзённых стасунках з народным песняром Беларусі, Максім Лужанін змог уведаць, а затым і расказаць нам, чытачам, пра Якуба Коласа такое, пра што з іншых крыніц, вусных і друкаваных, даведацца немагчыма. Чытаючы кнігу «Колас расказвае пра сябе», пранікаешся асаблівай сімпатыяй да яе аўтара і не раз ловіш сябе на шкадаванні, што, на жаль, не знайшлося ў свой час чалавека, які б вось гэтак добрасумленна і скрупулёзна занатаваў «дні і турботы» другога класіка роднай літаратуры — Янкі Купалы...

У адным са сваіх вершаў Максім Лужанін пісаў:

Пісаць вучуся кожны дзень наноў,
Пампую словы з рупнасцю адною,
Каб на радок, што на душы ўзышоў,
Мог сябар абаперціся душою.

«Абаперціся душою» можна на многія радкі Максіма Лужаніна, бо ўсе яны забяспечаны надзейным запасам трываласці.

## ***Шчодрая асяніна***

Голас Аляксея Аляксандравіча Зарыдкага (1911-1988) з першых пасляваенных гадоў выразна, молада і ўпэўнена загучаў у хоры не толькі беларускай, але і ўсесаюзнай паэзіі. Яго не зблытаеш з галасамі іншых беларускіх паэтаў-франтавікоў — Васіля Віткі, А. Вялюгіна, М. Калачынскага, К. Кірэенкі, П. Пранузы, П. Прыходзькі, А. Пысіна, А. Русецкага... У цэлым жа для гэтых паэтаў характэрны асаблівая знітаванасць з лёсам Радзімы, беззапаветная адданасць яе светлым ідэалам, пераважанне грамадзянскага жанру лірыкі над усімі астатнімі, выразная прысутнасць ваеннага духоўнага вопыту ва ўсім напісаным— ад тэматыкі да пафасу творчасці. Прыгадаем хаця б напісаную ў 1945 г. « Арліную крыніцу» Зарыцкага, якую так высока ставіў Аляксей Пысін. Або створаны праз дваццаць гадоў верш «Пад асенні дождж»:

Імжыць імжа,
Імжыць імжа.
—Нябёсы плачуць, нехта іх крыўдзіць?

—Не, гэта плача мая душа
Па тысячах нашых лідзіц.
Боль па загубленых не заглушыць.
Удзень і ў пару начную
Трывожна іхні попел шуршыць.
Я чую гэта.
Чую.
Ён што ні год — то яшчэ гарачэй,
Ён сэрца пячэ, гэты попел...
А дождж асенні, як слёзы з вачэй,—
Рыданне ледзь чутнае кропель.

«Арабінавая гронка» (1986), адна з апошніх паэм Зарыцкага,— таксама пра вайну. Дакладней, пра адзін эпізод з бітвы пад Масквой у 1941 годзе, пра выйграны нашым разведчыкам «халодны» бой са збітым нямецкім асам... Значны вайсковы вопыт Зарыцкага (а праслужыў ён у арміі з невялікім перапынкам з 1938 па 1946 г.), веданне спецыфікі ваеннай разведкі (адзін час ён быў памочнікам начальніка разведаддзела штаба аднаго з паветрана-дэсантных карпусоў), памножаныя на талент, высокую культуру верша, выдатнае веданне роднага слова, прывялі да творчай удачы.

Вельмі моцная духоўная сувязь была ў Зарыцкага і з падзеямі сучаснасці. Дастаткова сказаць, што большасць яго вершаў, што склалі кніжкі «Дняпроўскае рэха» (1946), «Праз бурныя парогі» (1957), «Размова з сэрцам» (1961), «Мая асяніна» (1971), «Каля вячэрняга кастра» (1979) і інш., а таксама паэмы «Аповесць пра залатое дно» (1953), «Вяртанне на Зямлю» (1968), «Каля Траецкай гары» (1965) і інш. прысвечаны мірнай нашай рэчаіснасці, працы, каханню, асваенню космасу — адным словам, усяму таму, чым нядаўна жыў савецкі чалавек. Прычым пераважае ў паэзіі Зарыцкага апавядальны, эпічны пачатак. Нават у аснове вершаў, як правіла, ляжыць нейкі эпізод — з жыцця самога паэта (найчасцей), яго знаёмых ці проста вымышленая падзея. Падзейнасць, сюжэтнасць — адна з асноўных стылёвых адзнак яго вершатворчасці.

Свой першы твор Зарыцкі надрукаваў яшчэ ў 1927 г., сваю першую кніжку — «Эпічныя фрагменты» — выдаў у 1932 г. За гэты час, апрача паэзіі, спрабаваў свае сілы ў крытыцы, публіцыстыцы, прозе (кніга апавяданняў «Верасовы мёд», зборнік успамінаў, крытычных артыкулаў і нарысаў «За словам — падарункам»), часам перакладаў свае вершы на рускую мову. Аднак асноўная галіна творчай дзейнасці, у якой пісьменнік дасягнуў найбольшых поспехаў,— гэта, безумоўна, паэзія. А ўслед за ёй і ўпрытык да яе — паэтычны пераклад.

Яшчэ на пачатку 30-х гг. да паэта Зарыцкага далучыўся і перакладчык Зарыцкі. Панящцем «паэт-перакладчык», здаецца, найбольш поўна і аб'ектыўна можна вызначыць сутнасць пісьменніцкай працы Аляксея Зарыцкага, характар яго своеасаблівага ўкладу ў роднае пісьменства. За больш чым паўстагоддзя перакладчыцкая муза Зарыцкага наведала шэраг савецкіх рэспублік, ледзь не ўсе краіны Еўропы. Ладны том яго выбраных перакладаў «У свет па песні», выдадзены ў 1978 г., уключыў творы шасцідзесяці аднаго паэта, якія пісалі (або пішуць) на трынаццаці мовах. Гэта рускія У. Маякоўскі, М. Ціханаў, М. Браун, украінцы І. Франко, П. Тычына, М. Рыльскі, М. Бажан, У. Сасюра, М. Нагнібеда, літоўцы Э. Межэлайціс, Б. Мацкявічус, армянін А. Туманян, казах А. Кунанбаеў, яўрэі Г. Камянецкі, М. Тэйф, Р. Рэйзін і Р. Рэлес. Дзякуючы Зарыцкаму пабеларуску загаварылі асобныя паэты аўстрыйскія (Н. Ленаў, Р. М. Рыльке) і французскія (Ф. Віён, П. Ж. Беранжэ, П. Верлен), нямецкія (Е. В. Гётэ, А. Шаміса, Г. Гейнэ, І. Бэхер, Э. Штрытматэр, Ф. Фюман) і венгерскія (М. Вёрашмарці, Я. Гараі, Ш. Пецёфі, А. Пдаш), польскія (А. Міцкевіч) і балгарскія (Ламар), сербалужыцкія (Я. Барт-Цішынскі, Ю. Брэзан, К, Лоранц) і чэшскія (Я. Нэруда). А ў кнігу выбраных перакладаў увайшло далека не ўсё, узноўленае Зарыцкім. Скажам, не змясціліся там асобныя творы іспанцаў Мігеля дэ Сервантэса, Луіса дэ Гонгары, Антоніа Мачады, класічная паэма літоўца Крысціёнаса Данелайціса «Чатыры пары года», пераклад якой высока ацэнены крытыкай і чытачамі і вытрымаў два асобныя выданні (1961 і 1983 гг.)...

Аляксей Зарыцкі, які яшчэ да вайны скончыў Маскоўскі інстытут замежных моў, валодаў асноўнымі еўрапейскімі мовамі. Гэта, а таксама спецыфічны, перакладчыцкі талент, надзвычайная працаздольнасць, глыбокае веданне замежных літаратур і культур прадвызначылі поспех перакладчыка. Яго пераклады вылучаюцца натуральнасцю гучання ў беларускай моўнай стыхіі. Прычым пад натуральнасцю трэба разумець не толькі звыкласць моўнага выказвання, яго поўную суадпаведнасць з законамі і нормамі роднай мовы, але і саму паэтычнасць, дух паэзіі, што натуральна ўбраны ў строі свайго, крэўнага слова.

Два невялікія прыклады.

Вось як дасціпна, лаканічна, а разам з тым і паэтычна гучыць перакладзенае Зарыцкім «Чатырохрадкоўе, напісанае пасля прысуду» Франсуа Віёна, французскага паэта XV стагоддзя:

Я — Франсуа. Гляджу з-за крат.
Мне, ліхадзею, гора,
Бо колькі мой заважыць зад,

Спазнае шыя скора.

А вось паэт зусім іншага часу, нацыянальнасці, творчага тэмпераменту — аўстрыец Райнер Марыя Рыльке (1875-1926). Ды і жанр твора іншы — шчымлівая, цёплая лірыка. Але і ён, дзякуючы Зарыцкаму, гэтак жа арганічна, умела, шчыра загаварыў па-беларуску.

Згасі мой зрок, цябе й сляпы знайду,
Забі мой слых, цябе й глухі пачую,
Без вуснаў шчырай песняй усхвалюю,
Без ног праз апраметны змрок прыйду
К парогу запаветнаму твайму.
Адломіш рукі, сэрцам абдыму,
Табой напоўніўшы яго глыбіні.
Прыпыніш сэрца, мроя ўгрэе скронь,
Калі ж мне мозг абпаліць твой агонь,
Кроў панясе цябе ў сваёй гарачай плыні.

Аляксей Зарыцкі разам з Ю. Гаўруком, У. Дубоўкам, А. Куляшовым, Я. Семяжонам і некаторымі іншымі вядомымі нашымі пісьменнікамі ўваходзіць у кагорту выдатнейшых майстроў беларускага мастацкага перакладу, якія перакладчыцкую эстафету пераня лі з рук саміх Янкі Купалы і Якуба Коласа. На гэтую кагорту, роля якой у стварэнні школы беларускага мастацкага перакладу надзвычай вялікая, раўняюцца сёння перакладчыкі сярэдняга і малодшага пакаленняў.

У Аляксея Зарыцкага ёсць верш «Мая асяніна» — пра «даніну», якую некалі збіраў вясковы пастух, збіраў глыбокай восенню, калі заканчвалася паша.

За век свой я няшмат
Напасвіў песень надта
І асяніне рад
Цяпер і небагатай,—

сціпла пісаў пра сябе паэт, па-свойму трансфармуючы народнае паняцце асяніны. Аднак пагадзіцца з гэтым ніяк нельга. Хіба малая «асяніна» — звыш трыццаці асобных выданняў на беларускай і рускай мовах, у тым ліку два двухтомнікі, кніга выбраных перакладаў?! Зразумела, не колькасцю, а перш за ўсё якасцю напісанага вымяраецца ўклад пісьменніка ў літаратуру і культуру народа. Аднак жа і колькасць ускосна сведчыць пра якасць: відаць, было што выдаваць...

Што да якасці «асяніны», то пра яе найперш і вялася тут гаворка.

## *Тры ўрокі ў Семяжона*

Бадай, кожны, хто мае дачыненне да крытыкі, тэорыі ці гісторыі мастацкага перакладу, бярэ ў Язэпа Ігнатавіча Семяжона (1914—1990) свае ўрокі творчасці і майстэрства. Якія гэта ўрокі і колькі іх — залежыць ад нас саміх.

Якія ж Семяжонавы ўрокі мне асабіста найбольш дарагія?

Іх было, напэўна, больш, але вылучу тры. Тыя, што — на ўсё жыццё.

Яшчэ і дасюль помніцца, як у дзесятым класе я набыў у кнігарні невялікі вершаваны зборнічак у цвёрдых малінавых вокладках — «Шатландскую славу» Роберта Бёрнса. Пасля дзесяткаў нудных праграмных вершаў, асобныя з якіх трэба было яшчэ і на памяць завучваць, гэта было як адкрыццё, як азарэнне. Паэзія сама ўваходзіла ў душу, у свядомасць, выклікала ўсмешку і слязу, гнеў і радасць. Радкі лёгка і адразу запаміналіся. З таго часу я запомніў і «Наказы», і «Усёяк вымерла наўкол...», і «Фіндлея», і «Шчаслівага ўдаўца», і «Споведзь бабыля», і многае іншае. Хоць, здавалася б, што агульнага ў савецкага школьніка з тым, пра што яшчэ ў XVIII стагоддзі пісаў шатландскі (блізкі свет!) паэт? А вось знайшлося, нягледзячы на часавыя і геаграфічныя адлегласці, і зблізіла нас, паэта і чытача, яе вялікасць Паэзія, адна з асноўных задач якой — знаёміць людзей, народы, часы, кантыненты...

Хоць мы аб хлебе і вадзе
Жывём, а гонару нідзе
Не ўступім і ў нішчымніцы.
Вунь багацей, што з нас грабе,
П'е і жарэ, як не ў сябе.
Так, брат, на свеце чыніцца.
Прыкінем так,
Прыкінем сяк,
Хай мы не каралі, брат.
Бядак сумленны —
Не басяк,
А гаспадар зямлі, брат!

*(«Чэсная беднасць»)*

Такая паэзія не магла не падабацца, не захапляць, хоць і такога рэзкага размежавання на багатых і бедных у нас, зразумела, не было, а што да каралёў, то пра іх мы толькі вычытвалі з друку ды чулі па радыё.

Альбо што агульнага ў мяне было з рабом-неграм з далёкае Афрыкі, якога вывезлі на прымусовую працу ў Амерыку? А вось камяк

падступаў да горла, слёзы засцілі зрок, калі разгортваў «Шатландскую славу» на старонцы, дзе была надрукавана «Песня раба-негра»:

У гарачым Сенегале ворагі мяне скавалі
І адправілі на здзек за мора сіняе.
Тут нуда мяне з'ядае па сваім любімым краі
На плантацыях Віргініі, Віргініі.
Агарнула сэрца чорная туга
Па табе, далёкі, мілы Сенегал!

Гэтыя вершы Роберта Бёрнса мне і маім аднагодкам былі не менш дарагія, чым такія свойскія радкі:

Ты свіснеш і ціхенька станеш за тын —
Я зараз жа выйду за посвістам тым;
Няхай сабе сварацца маці, айчым,
Ты свісні ў два пальцы — я выйду за тын.
Глядзі ж, калі будзеш ісці да мяне,
Пралаз не міні ў мураванай сцяне;
Ідзі адвячоркам, як стане цямней,
І выгляд рабі, што ідзеш не ка мне,—
Ідзеш, а як быццам зусім не ка мне.
*( «Наказы»)*

Прызнаюся: тады, у канцы 50-х гадоў адразу я не звярнуў увагі на прозвішча перакладчыка, набранае дробным шрыфтам: Язэп Семяжон. Мяне ўразіў сам паэт, які так арганічна гаварыў па-беларуску, так дасціпна, вобразна, дакладна, што многія выразы тут жа выляталі са старонак кнігі крылатымі выслоўямі: Бязмен — без змен, не зменіцца; Маладому з маладою маладое ў галаве; Ну які ж гэта муж, што ні ў прыпражку, ні ў гуж!; І ста разлукам не разняць два сэрцы-спарышы!; Лепш майстраваць і гадаваць, чым забіваць у войнах; Што клёпкі ў цябе не хапае, павер мне,— зусім не паклёп... А якія кондавыя, якія сакаўныя беларускія слоўцы пазвоньвалі, зіхцелі ў вершаваных радках! Вісус, прыхадзень, наўцёкі, цялёпкаць, прытруска, апівока, цацарка, пэцкаль, галлісты, пажытны, кажурына, льга, ласачка, дасэні, юрок, дасвецце... Шатландзец Бёрнс, дзякуючы Семяжону, адчувальна папоўніў мой беларускі лексікон.

Дык у чым жа сутнасць самага першага семяжонаўскага ўрока?

А ў тым, што галоўнае ў перакладзе паэтычных твораў — узнаўленне самае Паэзіі. Усё іншае ў параўнанні з гэтым адыгрывае ролю другарадную, дапаможную. Нават — семантычная дакладнасць, як гэта, на першы погляд, не гучыць кашчунна.

Не, я зусім не за перакладчыцкую адвольнасць, калі, бывае, скажаецца сама ідэйная задума аўтара арыгінала. У ідэальным перакладзе паэтычнасць павінна знаходзіцца ў арганічнай еднасці з

дакладнасцю сэнсавай, змястоўнай. Але рэй у перакладзе паэзіі павінна ўсё ж весці паэтычнае мастацтва. Бо пры ўсёй яго няўлоўнасці «паэтычнае рэчыва» рэальна існуе, яно такі ж кампанент твора, як змест, ідэя, вобразны свет.

I страта яго — няменшая шкода, чым скажэнне ідэйнай задумы пісьменніка або перайначванне канкрэтнага зместу твора. Бо дыскрэдытуе іншамоўнага паэта як мастака, зводзіць яго да ўзроўню сярэдняга айчыннага вершаплёта.

Зразумела, далікатна і дакладна ўзнавіць у перакладзе «паэтычнае рэчыва» арыгінала, тое, па словах Льва Талстога, «ледзь-ледзь», што робіць мастацтва мастацтвам, можа толькі паэт. Сапраўдны паэт. Ды і то не кожны. Бо талент паэта-перакладчыка яшчэ больш рэдкі, чым талент паэта арыгінальнага. Пра гэта кажа той факт, што далека не ўсе выдатныя паэты з'яўляюцца такімі ж выдатнымі перакладчыкамі.

Амаль усё, да чаго дакрануўся Язэп Семяжон, пазначана высокай паэтычнасцю. У свой час сапраўднымі падзеямі культурнага жыцця рэспублікі сталі, апрача перакладаў з Роберта Бёрнса, яго ўзнаўленні твораў італьянца Джані Радары, лацінамоўнай паэмы сярэдневяковага паэта Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра», славутай паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш»... Зусім заслужана перакладчыку за яго творчыя дасягненні былі прысвоены ганаровыя званні лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы і прэміі Саюза пісьменнікаў СССР імя М. Ціханава. Канечне, у такім значным творчым даробку можна адшукаць і паасобныя недакладнасці, агрэхі. Не забудзем, што адно ў выбранае перакладчыка — кнігу «Сем цудаў свету» (1977) — увайшлі творы 69 паэтаў, што пісалі на 13 мовах, а адзін «Пан Тадэвуш», выдатна ўзноўлены Семяжонам па-беларуску, налічвае звыш 10 тысяч вершаваных радкоў. Важней іншае: пры ўсіх прыватных недахопах (якія, зрэшты, заўважаюцца не столькі чытачом, колькі спецыялістам-філолагам) усё, што зрабіў Язэп Семяжон,— гэта агромністы, неацэнны ўклад у беларускую нацыянальную культуру. Уклад, які без боязі дыспрапорцыі можна супаставіць з укладам перакладчыка Барыса Пастарнака ў рускую культуру.

Другі семяжонаўскі ўрок датычыць перакладчыцкай стратэгіі. Каго, што, з якіх моў і літаратур перакладаць? Пытанні не такія простыя, як здаецца на першы погляд. Але Язэп Семяжон адказаў на іх даўно і адназначна. Узнаўляць патрэбна толькі творы выдатныя, якія могуць узбагаціць родную для перакладчыка літаратуру і культуру. Акно ў свет іншанацыянальнага твора — гэта яго моўная сістэма, без ведання якой за пераклад няма чаго і брацца. Несу-

мненна, каб прыйсці да такіх ісцін, тым больш — каб за імі ісці ўсё жыццё, неабходна высокая гуманітарная культура, добрае валоданне замежнымі мовамі. І тое і другое Язэп Семяжон набыў настойлівай самаадукацыяй, а таксама вучобай на факультэце замежных моў Мінскага педінстытута, які ён скончыў яшчэ ў 1938 годзе. Веданне моў (у прыватнасці нямёцкай і англійскай) удасканаліла і Вялікая Айчынная вайна: служба ў ваеннай разведцы, у сістэме радыёперахопу. Густу, кваліфікацыі перакладчыка заўсёды верыш, бо ведаеш: з першых рук атрымлівае ён эстэтычную інфармацыю.

Нарэшце хочацца прыгадаць і настаўніцкі ўрок у прамым сэнсе гэтага слова. Так здарылася, што Язэп Семяжон у сярэдзіне 60-х гадоў выкладаў нам, аспірантам БДУ імя У. І. Леніна, англійскую мову. Пасля працяглай службы ў Савецкай Арміі і працы ў Мінскім суворайскім вучылішчы Язэп Ігнатавіч на самым пачатку 60-х гг. прыйшоў працаваць у Беларускі дзяржаўны універсітэт. Некалькі пакаленняў студэнтаў і аспірантаў назаўжды запомнілі не толькі яго старанні навучыць замежнай мове, але і чыста чалавечыя якасці: дабрыню, мудрыя гутаркі не толькі пра мову, але і пра само жыццё, імкненне зразумець свайго вучня, дапамагчы яму чым мага. У той даволі суровы час Семяжона, здаралася, папракалі ў «залішнім лібералізме». Сёння, з пэўнага немалога ўжо аддалення, я бачу, што гэта ўсё было якраз тое, да чаго мы прыходзім толькі цяпер: дэмакратызм, галоснасць. Так, і галоснасць. Бо Язэп Ігнатавіч, які вельмі многае ведаў зусім не па чутках, яшчэ ў тыя гады даверліва расказваў нам і пра прымусовую калектывізацыю, і пра рэпрэсіраваных беларускіх пісьменнікаў (у тым ліку пра Уладзіслава Галубка, у тэатры якога сам адзін час працаваў), і пра невядомыя нам падзеі Вялікай Айчыннай вайны — уласна, пра тое, пра што становіцца вядомым толькі цяпер. І гэта было, мабыць, не менш важным, чым само вывучэнне англійскай мовы. Бо фармавала светапогляд, вучыла нешаблоннаму мысленню, рыхтавала да самастойнага жыцця. А ў жыцці выкладчыка, пісьменніка светапогляд значыць не менш, чым прафесійныя веды.

Не выключаю, што знойдуцца тыя, каго ў жыццёвай і творчай пазіцыі перакладчыка на задаволіць тое-сёе. Аднак і ў такім разе не спыняецца працэс навучання ў Семяжона, яго творчае ўздзеянне — няхай сабе і «ад адваротнага». Бо перад намі сапраўдны творца. Талент рэдкі і надзвычай арганічны. Класік нацыянальнага мастацкага перакладу.

# ЛЕТАПІСЕЦ БРАТНІХ СУВЯЗЕЙ

Мы заўсёды з удзячнасцю прыгадваем кожнага, хто ўнёс свой уклад у развіццё нашай культуры, хто сваёй нястомнай працай мацаваў вясёлкавыя масты дружбы паміж савецкімі народамі. У шэрагу даследчыкаў і летапісцаў братніх сувязей адно з першых месц належыць Міхасю Рыгоравічу Ларчанку.

М. Ларчанка нарадзіўся 14 лістапада 1907 года ў вёсцы Хварасцяны на Магілёўшчыне. Пасля вучобы ў школе сялянскай моладзі і Магілёўскім педагагічным тэхнікуме здольны юнак, пераадолеўшы розныя жыццёвыя цяжкасці і матэрыяльныя складанасці, у 1929 годзе паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педфака Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

У той час ва універсітэце чыталі лекцыі такія вядомыя вучоныя, як прафесары І. Замоцін, Я. Барычэўскі, С. Вальфсон, М. Піятуховіч, П. Бузук. Яны, а таксама некаторыя іншыя выкладчыкі рабілі многае для таго, каб не толькі даць студэнтам пэўную суму ведаў, але і прывіць ім уменне самастойна здабываць гэтыя веды. Гэта было асабліва важна ў той час, у гады так званага брыгадна-лабараторнага метаду навучання, калі студэнты рыхтаваліся да экзаменаў і здавалі іх цэлай «брыгадай», а адзнаку атрымліваў кожны ў сваю залікоўку індывідуальна. М. Ларчанка імкнуўся ў вучобе да індывідуальнасці. Так, ён паглыблена і зусім самастойна авалодваў рускай і сусветнай літаратурнай класікай, вывучаў крытычныя працы В. Бялінскага, М. Чарнышэўскага, М. Дабралюбава, Д. Пісарава, якія, па яго словах, зрабілі цэлы пераварот у яго свядомасці.

У 1931 годзе педагагічны факультэт універсітэта па рашэнні ўрада рэспублікі быў ператвораны ў Мінскі вышэйшы педагагічны інстытут, а літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне Белдзяржуніверсітэта стала літаратурным факультэтам гэтага інстытута. Студэнты поўным складам былі пераведзены з універсітэта ў падінстытут. М. Ларчанка датэрмінова заканчвае інстытут і ў кастрычніку 1932 года становіцца аспірантам Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР па сектары беларускай літаратуры.

1932 год — адзін з самых вызначальных у навуковай біяграфіі М. Ларчанкі. І не толькі таму, што ён становіцца аспірантам, пад кіраўніцтвам І. Замоціна піша навуковую працу «Лірыка Якуба Коласа», каб праз чатыры гады паспяхова абараніць яе ў якасці кандыдацкай дысертацыі. Менавіта ў 1932 годзе М. Ларчанка надрукаваў свой першы літаратурна-крытычны артыкул у газеце

«Віцебскі рабочы» — пра творчасць членаў віцебскай філіі «Маладняка». З таго часу, з таго невялікага крытычнага агляду і пачынаецца пяцідзесяцігадовы творчы шлях аднаго з буйнейшых беларускіх літаратуразнаўцаў.

У 1939 годзе адкрываецца філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. З таго года М. Ларчанка пачынае выкладчыцкую працу ва універсітэце, звязвае з універсітэтам усё сваё жыццё.

У 1939 годзе адбылася яшчэ адна памятная падзея ў жыцці М. Ларчанкі — ён стаў членам Саюза пісьменнікаў СССР.

З першых дзён вайны М. Ларчанка — у радах дзеючай арміі, на Бранскім фронце. У адным з баёў быў цяжка паранены, доўгі час лячыўся ў вайсковых шпіталях. Калі ж у 1943 годзе на падмаскоўнай станцыі Сходня зноў пачынае працаваць Беларускі універсітэт, М. Ларчанка, дэмабілізаваны з арміі ў сувязі з цяжкім раненнем, становіцца загадчыкам кафедры беларускай мовы і літаратуры і адначасова — дэканам філалагічнага факультэта.

Пасляваенныя гады па-сапраўднаму раскрылі не толькі арганізатарскія здольнасці М. Ларчанкі, але і яго талент вучонага-літаратуразнаўца. Трэба сказаць, што яшчэ да вайны ён апублікаваў шэраг цікавых артыкулаў, у якіх па-новаму, глыбока і зусім арыгінальна ацэньваў некаторыя літаратурныя з'явы. Так, адным з першых у беларускай крытыцы канца 30-х гг. ён пачаў адмятаць вульгарна-сацыялагічны, нігілістычны погляд на «Новую зямлю» Якуба Коласа. У артыкуле, надрукаваным у 1939 годзе ў газеце «Літаратура і мастацтва», М. Ларчанка назваў «Новую зямлю» «паэмай вялікай мастацкай сілы», выступіў з новай трактоўкай яе ідэйнай скіраванасці і асобных вобразаў. Адным з першых даў М. Ларчанка аб'ектыўную ацэнку творчасці такіх пісьменнікаў, як Ф. Багушэвіч, М. Багдановіч, Ядвігін Ш ., Алесь Гарун.

М. Ларчанка належаў да ліку вучоных-адналюбаў, якія ўсё жыццё працуюць звычайна над распрацоўкай адной або дзвюх-трох тэм. Праўда, тэмы гэтыя шырокія, даюць добры прастор для палёту даследчыцкай думкі і творчага натхнення. У М. Ларчанкі былі тры такія тэмы.

Першая — станаўленне і развіццё рэалізму ў беларускай літаратуры. На гэтую тэму М. Ларчанка напісаў і абараніў у 1955 годзе доктарскую дысертацыю, якая затым выйшла друкам у дзвюх кнігах — «На шляху да рэалізму» (1958) і «Па шляху рэалізму» (1959). У свой час гэтыя кнігі сталі для студэнтаў своеасаблівымі падручнікамі па беларускай літаратуры XIX стагоддзя, а ў беларускай навуцы пра

літаратуру ажывілі даследаванне ўзнятай праблемы, беларускай літаратуры ўвогуле. Яны з'явіліся значным укладам у беларускае літаратуразнаўства, у распрацоўку метаду крытычнага, а затым і сацыялістычнага рэалізму ў нашай літаратуры.

Другая запаветная (і, бадай, самая галоўная) тэма вучонага — узаемадзеянне беларускай літаратуры з іншымі славянскімі, перш за ўсё — усходнеславянскімі. Распрацоўка гэтай тэмы пачалася яшчэ да вайны з артыкулаў пра сувязі А. Пушкіна, М. Някрасава, М. Горкага з беларускім прыгожым пісьменствам. Працягвалася ў пасляваенных брашурах «Творчасць М. Багдановіча» (1949), «А. М. Горкі і беларуская літаратура» (1951), «Гогалеўскія традыцыі ў беларускай літаратуры» (1952), у даследаванні «Сувязі беларускай літаратуры з літаратурамі суседніх славянскіх народаў у другой палове XIX стагоддзя» (1958). Аднак найбольш поўнае ўвасабленне тэма набыла ў грунтоўных манаграфіях, такіх, як «Славянская супольнасць» (1963), «Яднанне братніх літаратур» (1974), «Жывая спадчына» (1977), «Літаратурнае пабрацімства славян» (1984). З часам не толькі пашырылася геаграфія даследаванняў вучонага — з усходнеславянскага літаратурнага ўзаемадзеяння да агульнаславянскага; не толькі пабольшалі хаі... храналагічныя рамкі літаратуразнаўчага аналізу — з нейкіх паўтара вякоў да двух-трох. Удасканалілася сама методыка аналізу, вучоны пачаў застасоўваць асобныя, найбольш перспектыўныя яе формы (напрыклад, літаратурную тыпалогію). Увёў ён ва ўжытак і новыя, невядомыя раней літаратурныя факты.

Каб убачыць своеасаблівы «почырк» вучонага, яго стыль як летапісца братніх літаратурных узаемасувязей, спынімся падрабязней на адной, мабыць, самай характэрнай для яго кнізе — «Яднанне братніх літаратур», выдадзенай «Вышэйшай школай» у 1974 годзе.

У трох раздзелах кнігі — «Руска-беларускае літаратурнае яднанне», «Літаратурнае яднанне Беларусі і Украіны» і «Літаратурнае яднанне Беларусі з заходнімі і паўднёвымі славянамі» — даследуюцца прыватныя аспекты пералічаных праблем. Так, у першым раздзеле кнігі аўтар гаворыць пра пушкінскія і някрасаўскія традыцыі ў беларускай паэзіі, пра сувязі М. Лермантава з беларускай літаратурай, у тым ліку пра творы вялікага рускага паэта, бліскуча перакладзеныя на беларускую мову народным паэтам Беларусі Аркадзем Куляшовым. М. Ларчанка прасочвае ўплыў рускай класічнай літаратуры на станаўленне творчай індывідуальнасці Якуба Коласа, раскрывае ўсю сукупнасць выказванняў М. Багдановіча пра рускую літаратуру. Распрацоўваючы пытанне пра генезіс сацыялістычнага рэалізму ў беларускай літаратуры, літаратуразнавец спыняе нашу ўвагу на

горкаўскіх традыцыях у рэалізме Янкі Купалы і Якуба Коласа. «Русказнаўчы» раздзел кнігі найбольш важкі як па ахопе матэрыялу, так і па глыбіні і арыгінальнасці яго асвятлення.

Што да літаратурнага яднання Беларусі і Украіны, то аўтар манаграфіі звяртае ўвагу толькі на некаторыя прыватныя праявы літаратурных узаемасувязей (уплыў Ф. Скарыны на ўкраінскае кнігадрукаванне, гістарыяграфія беларуска-ўкраінскіх культурных сувязей і г. д.). Найбольш поўна М. Ларчанка даследуе шаўчэнкаўскія традыцыі ў творчасці Янкі Купалы, сувязі М. Багдановіча з Украінай і ўкраінскай культурай і ўспрыманне Якубам Коласам творчасці вялікага Кабзара.

Сувязям беларускай літаратуры з літаратурамі заходніх і паўднёвых славян прысвечаны асобныя агляды беларуска-польскіх, беларуска-чэшскіх, беларуска-славацкіх, беларуска-балгарскіх і беларуска-югаслаўскіх літаратурных узаемаадносін. Сюды далучаюцца і развагі даследчыка пра скарынінскія традыцыі ў кнігадрукаванні краін славянскага свету.

У асноўным два віды літаратурных сувязей цікавяць М. Ларчанку: генетычныя (розныя праявы ўплыву аднаго пісьменніка на другога) і кантактныя (пераклады, стылізацыя, перайманне, творчыя сустрэчы пісьменнікаў, ацэнка творчасці аднаго пісьменніка другім і г. д.). Спыняецца ён і на тыпалагічных сыходжаннях літаратур. Прычым матэрыял, як правіла, разглядаецца ў храналагічнай паслядоўнасці. Перад намі, па сутнасці, сінтэтычнае даследаванне беларуска-іншаславянскіх літаратурных сувязей, своеасаблівы падручнік гэтага прадмета. Як у любым выданні такога тыпу, у ім няма поўнага ахопу ўсіх фактаў, затое ёсць пэўная навуковая канцэпцыя, сістэматызацыя матэрыялу, яго лагічнае абагульненне.

Даследчык высвятляе вузкія месцы ў міжславянскім літаратурным яднанні, звяртае на іх увагу літаратурнай грамадскасці. Так, заўважае ён, «факты сведчаць, што беларуская літаратура ў братняй Югаславіі слаба папулярызуецца, пераклады на мовы югаслаўскіх народаў сустракаюцца рэдка... Беларускімі літаратарамі зроблена больш, хоць яшчэ далёка недастаткова, што патрэбна было б зрабіць». Падобныя заўвагі, якімі насычана кніга «Яднанне братніх літаратур», асабліва каштоўныя, таму што яны фарміруюць цвярозы погляд на рэчы, дапамагаюць суадносіць рэальныя дасягненні з некаторымі ўпушчэннямі.

Трэцяя тэма, над якой не пакідаў усё жыццё працаваць вучоны,— гэта вусная народная творчасць, суадносіны літаратуры вуснай і пісьмовай. М. Ларчанка быў адным з аўтараў вучэбных

дапаможнікаў «Беларуская вусна-паэтычная творчасць» (1966) і «Беларуская народна-паэтычная творчасць» (1979).

Дарэчы, стварэнне падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для сярэдніх школ і вышэйшых навучальных устаноў — яшчэ адна сфера навуковай дзейнасці прафесара, заслужанага дзеяча навукі БССР М. Ларчанкі. Апрача ўжо названых выданняў, ён з'яўляецца адным з аўтараў «Нарыса па гісторыі беларускай літаратуры» (1956), вучэбнага дапаможніка «Старажытная беларуская літаратура» (1968; разам з П. Ахрыменкам). Пэўны час, з 1952 па 1957 гг., вучні восьмых, дзевятых і дзесятых класаў рэспублікі вывучалі беларускую літаратуру па падручніках, адным з аўтараў якіх таксама быў М. Ларчанка.

Гаворачы пра М. Ларчанку як вучонага, нельга не сказаць і пра яго вучэбна-педагагічную дзейнасць.

Колькі тысяч студэнтаў слухалі яго лекцыі, здавалі яму экзамены і залікі, каб потым сеяць «разумнае, добрае, вечнае» ў чыстых дзіцячых сэрцах! А хіба менш яму, як свайму навуковаму кіраўніку, абавязаны колішнія аспіранты— усе тыя чатыры дзесяткі кандыдатаў навук, якія пісалі свае работы пад кіраўніцтвам прафесара М. Ларчанкі?! Шэсць яго вучняў абаранілі доктарскія дысертацыі. М. Ларчанка валодаў і рэдкім арганізатарскім талентам. «Калі б Міхась Ларчанка не напісаў нават аднае кніжкі, не быў навуковым рэдактарам і аднае манаграфіі,— заўважыў вядомы беларускі мовазнавец і пісьменнік Фёдар Янкоўскі,— ён усё адно заслужыў бы нашу ўдзячнасць... Міхась Ларчанка гадаваў і выхоўваў, ствараў і стварыў цэлы вялікі калектыў, дружны і працавіты, літаратараў-літаратуразнаўцаў, гісторыкаў літаратуры, крытыкаў, вучоных-педагогаў. Я ведаю не адну-дзве літаратурныя кафедры на Беларусі і не адну-дзве за яе межамі. Але не ведаю і адной такой, як кафедры беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта».

М. Ларчанка загадваў кафедрай беларускай літаратуры БДУ імя У. І. Леніна з 1943 па 1971 гады. І заўсёды ён быў душой кафедральнага калектыву, адным з найбольш аўтарытэтных і паважаных людзей на кафедры, настаўнікам моладзі, дарадчыкам старэйшых.

Значныя заслугі ў М. Ларчанкі і перад беларускай мастацкай літаратурай. Многія члены Саюза пісьменнікаў Беларусі — выхаванцы Беларускага дзяржаўнага універсітэта, а значыць — і выхаванцы М. Ларчанкі. У асобных выпадках ён і непасрэдна ўплываў на літаратурны і жыццёвы лёс некаторых пісьменнікаў.

Адзін толькі прыклад.

Яшчэ ў ваенны час, на падмаскоўнай Сходні, выкладчык Белдзяржуніверсітэта М. Ларчанка арганізаваў сярод студэнтаў-

філолагаў літаратурны гурток. На гуртку абмяркоўваліся творы Івана Мележа, Міколы Лобана, Марыны Барсток і іншых. Менавіта тады М. Ларчанка параіў маладому І. Мележу паказаць свае першыя апавяданні Кузьме Чорнаму. Ён, дарэчы, і арганізаваў сустрэчу — класіка беларускай прозы з пачынаючым тады літаратарам. Праз Ларчанку Кузьма Чорны запрасіў І. Мележа да сябе, у маскоўскую гасцініцу «Якар». Яшчэ не ачуняўшы ад цяжкой хваробы, Кузьма Чорны тым не менш падрабязна «разабраў плюсы і мінусы» апавяданняў будучага аўтара «Палескай хронікі». Сустрэча з майстрам мастацкага слова на ўсё жыццё засталася ў памяці І. Мележа, у многім вырашыла яго далейшы літаратурны лёс.

У архіве універсітэта, у асабістай справе І. Мележа, захоўваюцца многія дакументы, да з'яўлення якіх меў самае непасрэднае дачыненне М. Ларчанка. Гэта і пратаколы Дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі 1945 года, на якіх стаіць подпіс экзаменатара Ларчанкі, і рэкамендацыя ў аспірантуру, падпісаная Ларчанкам — загадчыкам кафедры, і многае іншае. Безумоўна, будучыя гісторыкі літаратуры яшчэ не раз адшукаюць у архіўных сховішчах дакументы, напісаныя ці падпісаныя размашыстым ларчанкаўскім почыркам.

Нарэшце, нельга не згадаць актыўнай грамадскай працы М. Ларчанкі. Ажно да сваёй смерці 31 ліпеня 1981 года ён з'яўляўся членам Савета па абароне доктарскіх дысертацый пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, членам рэдакцыйнай калегіі «Весніка БДУ», старшынёй секцыі родных моў і літаратур Навукова-метадычнага савета па вышэйшай філалагічнай адукацыі пры Мінвузе СССР. Са студзеня 1964 года па кастрычнік 1971 года Міхась Рыгоравіч працаваў у Камітэце па Ленінскіх і Дзяржаўных прэміях СССР у галіне навукі.

Такім ён быў і застаўся ў памяці ўсіх, хто яго ведаў,— вучоны і педагог Міхась Рыгоравіч Ларчанка.

## ЛІНІЯ ЖЫЦЦЯ

Адна з кніг Алега Лойкі называецца «Лінія жыцця».

Лінія жыцця... Адкуль, з чаго пачынаецца гэта лінія — лінія ўсвядомленых, мэтаскіраваных паводзін і ўчынкаў кожнага асобнага індывіда ў макракосмасе чалавечых узаемадачыненняў? Відаць, не з дня нараджэння, хай сабе ён і будзе шчасліва супадаць, як у Алега Лойкі, з вясновым Першамаем. У чалавечым лёсе заўсёды

надараюцца падзеі, для гэтага лёсу выключныя, ад якіх, уласна, і пачынаецца цалкам самастойная, непаўторная, свая жыццёвая лінія. Яны ж, падзеі, звычайна прадвызначаюць і траекторыю самой лініі: яе напрамак і вышыню.

У жыцці Лойкі, які нарадзіўся ў 1931 годзе ў Слоніме, такімі вызначальнымі падзеямі сталі вызваленне Заходняй Беларусі Чырвонай Арміяй у верасні 1939 года і вучоба на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Відавочна, з гэтых дзвюх важнейшай з'яўляецца першая, бо калі б не было памятнага верасня — не вучыцца б былому заходнебеларускаму хлапчуку ў сценах БДУ. Але калі б і не сустрэча з «альма-матэр» — не ведалі б мы сёння паэта, гісторыка літаратуры, літаратурнага крытыка, перакладчыка Алега Лойку. Прынамсі, такім, якім яго зараз ведаюць тысячы чытачоў ягоных паэтычных кніг і навуковых даследаванняў, многія сотні выпускнікоў Белдзяржуніверсітэта, дзе звыш трох дзесяткаў гадоў прафесар, доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт АН Беларусі Алег Антонавіч Лойка выкладае родную літаратуру.

Зразумела, нельга не ўлічваць і некаторыя іншыя акалічнасці, якія таксама паўплывалі на характар жыццёвай лініі. А сярод іх — сустрэчы з людзьмі, якім Лойка, па яго прызнанні, вельмі многім абавязаны: пад час вайны — з настаўнікам, беларускай літаратуры Леанідам Сенчыкам (пазней яго фашысты закатавалі ў канцлагеры) і паэтам Сяргеем Новікам-Пяюном, пасля вайны — з Сяргеем Дзяргаем, які дапамагаў паэтычнай моладзі «выходзіць у людзі», з Міколам Аўрамчыкам, які надрукаваў у «Маладосці» першыя вершы паэта-пачаткоўца, з Уладзімірам Дамашэвічам, дзякуючы якому склаўся першы вершаваны зборнік. А няўжо меншае значэнне мелі спатканні з чароўным светам вусна-паэтычнай творчасці, народных звычаяў, прыкмет, павер'яў?! А хіба марна прайшло навучанне ў сямейным «універсітэце» народнай этыкі на чале з яго «рэктарам» — мудрым, шчодрым, дасціпным бацькам пісьменніка Антонам Цімафеевічам?! Разам з тым нельга не згадаць і той мілы сэрцу родны кут, які не толькі (у адпаведнасці з законам вераемнасці) надзяляе чалавека талентам літаратара, але і абумоўлівае фармаванне гэтага таленту.

Я вырас, захапляючыся тут
Высокім небам,
Шчары ціхім звонам,
Агністым сонцам, лесам задумёным,
Мурамі і людзей жыццём штодзённым,

І сэрцам палюбіў я гэты кут —
Цябе, мой старадаўні, родны Слонім.
*(«Родны горад»)*

Так, родная прырода, гарадскі пейзаж, штодзённае жыццё людзей, якое ўчэпістая дзіцячая памяць зафіксавала ў чатырох розных праявах («за польскім часам», «за тымі саветамі», пры нямецкай акупацыі, пасля Перамогі) — усё гэта таксама не магло не накласці свойго адбітку на лінію жыцця, якая вывела колішняга слонімскага падлетка ў шырокі прасцяг паэзіі і навукі.

Сорак гадоў таму назад Лойка ўпершыню ўбачыў сваё прозвішча ў друку. За гэты час ён выдаў звыш трыццаці паэтычных зборнікаў, два раманы, больш дзесятка літаратуразнаўчых прац, надрукаваў дзесяткі паэтычных перакладаў, апублікаваў каля чатырохсот артыкулаў, рэцэнзій, літаратуразнаўчых эсэ. Калі ўсё падрахаваць, выйдзе ў сярэднім больш чым па кнізе штогод! Прычым трэба ўлічыць, што гэта, за нязначным выключэннем, не перавыданні, а кожны раз новыя арыгінальныя выданні. Сярод жа іх такія капітальныя працы, як манаграфіі «Новая зямля» Якуба Коласа. Вытокі, веліч хараство» (1961), «Максім Багдановіч» (1966), «Беларуская паэзія пачатку XX стагоддзя» (1971), двухтомная «Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд» (Выд. 2-е, 1989), раманы-эсэ «Як агонь, як вада...» (1983) і «Францыск Скарына, або Сонца Маладзіковае» (1989), зборнікі вершаў і паэм «Задуменныя пералескі» (1961), «Дзівасіл» (1969), «Калі ў дарозе ты...» (1971), «Пачуцці» (1976), «Лінія жыцця» (1978), «Скрыжалі» (1981), «Талая вясна» (1990), шэраг кніжак для дзяцей, цалкам перакладзеныя зборнікі выбраных лірычных твораў класіка французскай літаратуры Поля Верлена «У месяцавым ззянні» (1974) і геніяльнага нямецкага пісьменніка Іягана Вальфганга Гётэ «Спатканне і ростань» (1981) і інш. Тры кнігі паэзіі Лойкі — «Расколдованное Полесье», «Моя планета» і «Немига» — выйшлі ў перакладзе на рускую мову. Па-руску ў папулярнай серыі «Жизнь замечательных людей» надрукаваны і яго кнігі «Янка Купала» (1982) і «Скорина» (1989).

Чым тлумачыць такі багаты творчы плён пісьменніка?

Усяму гэтаму, несумненна, садзейнічаў сам пасляваенны час, больш чым калі спрыяльны для развіцця беларускай навукі і літаратуры. Сапраўды, Беларусь у гэтым стагоддзі яшчэ не знала такога адносна працяглага — ледзь не паўвека! — перыяду мірнай працы. Параўнальна нядаўна паэт — аўтар васьмі — дзесяці зборнікаў, а таксама літаратуразнавец, на рахунку якога налічвалася чатыры-пяць манаграфій, былі ў нашай літаратуры рэдкасцю. Сёння

ж у нас працуе цэлая кагорта пісьменнікаў-вучоных (А. Адамовіч, Н. Плевіч, І. Навуменка і інш.), творчы плён якіх вымяраецца не адным дзесяткам кніг. Ствараецца ўражанне, быццам сама прырода спяшаецца кампенсаваць пэўны духоўны вакуум нацыі, які стварыўся ў выніку частых за апошнія дзевяноста гадоў катаклізмаў.

Гэта, так сказаць, аб'ектыўнае, незалежнае ад асобы творцы. Што да суб'ектыўных момантаў, то тут, як мне здаецца, найбольш важныя дзве акалічнасці. З юнацкіх гадоў у Лойкі была свая зорка, свая вядучая ідэя, якой ён сумленна служыў і служыць, якая прадвызначае літаральна ўсе яго навуковыя і ідэйна-мастацкія пошукі, якая «вядзе» яго лінію жыцця. Гэта — усвядомленая неабходнасць самаадданага служэння роднаму народу, бацькаўшчыне, палкае жаданне ўславіць родны народ і край, яго гераічнае мінулае і сённяшні дзень. Другое, на што хацелася б звярнуць увагу,— гэта надзвычайнае працалюбства Лойкі. Ні ў навуцы, ні ў паэзіі нішто лёгка не даецца. Хіба, скажам, лёгка было напісаць два тамы «Гісторыі беларускай літаратуры»? Гэта падзвіжніцкая праца, якая ў беларускім літаратуразнаўстве мае аналаг хіба што ў творчым подзвігу Максіма Гарэцкага, пад сілу, па сутнасці, толькі цэламу калектыву літаратуразнаўцаў. Альбо ўзяць паэзію. Я не раз назіраў, з якой настойлівасцю, несупакоенасцю, уседлівасцю і, калі хочаце, уедлівасцю паэт шліфаваў, адточваў свае творы, шматразова вяртаючыся да паасобнага радка, слова. Сотні публікацый Лойкі ў перыёдыцы, яго асобныя выданні — гэта тысячы праведзеных за пісьмовым сталом гадзін, калі пісьменнік, па яго словах, «гнуўся радасна ў дугу», гэта амаль поўная адсутнасць святочных і выхадных — у традыцыйным разуменні — дзён. Кепска? Цяжка? Немагчыма? Як для каго. Для таго, хто глыбакадумна разважае, як «убить время», такая «салодкая катарга» паэта і вучонага можа сапраўды здацца невыноснай. Што да яго самога, то ён адкрыта прызнаецца («Трыялет»):

На работу праменьваю ўсё,
Злым становячыся, нелюдзімым.

І не лічыць сябе няшчасным, абдзеленым. Бо шчасце для яго — занятак любімай справай, справай агульнацікавай і агульнакарыснай.

На адной са старонак кнігі «Паэзія і час» (1981) Лойка падкрэслівае: «Гэта не самае лепшае для літаратара спалучэнне — быць і паэтам, і крытыкам: «чыстыя» паэты ківаюць у такім разе, што ты, маўляў, больш крытык, чым паэт, у той час як «чыстыя» крытыкі ківаюць «наадварот». Сапраўды, нялёгкі лёс пісьменніка, які займаецца паэтычнай і крытычнай творчасцю адначасова. Тым не менш такое спалучэнне — «чыстага» пісьменніка і літаратуразнаўца,

крытыка, калі яно толькі абумоўліваецца характарам таленту,— заўсёды дабро. Бо грамадзянская відушчасць і літаратуразнаўчая «ўзброенасць» крытыка не могуць не пазначыцца на змесце і форме яго ўласнай паэтычнай творчасці. У сваю чаргу, саманазіранні над працэсам творчасці, развітае эстэтычнае пачуццё паэта ў многім прадвызначаюць аб'ектыўнасць і глыбіню яго крытычных меркаванняў. Адным словай, паэт-крытык, паэт-літаратуразнавец, які́м з'яўляецца Лойка,— спалучэнне гэта калі ўжо не для самога пісьменніка, то для літаратуры надзвычай спрыяльнае.

У апошняе дзесяцігоддзе загаварылі пра Лойку і як пра цікавага, арыгінальнага празаіка, які напісаў белетрызаваныя біяграфіі Янкі Купалы і Францыска Скарыны. Сам пісьменнік вызначыў жанр гэтых твораў як раманы-эсэ. Прыход да гэтых раманаў, лічу, зусім заканамерны. Змест іх прадвызначылі глыбокія літаратуразнаўчыя веды Лойкі — гісторыка літаратуры, жывую эсэістычную форму выкладу матэрыялу — талент Лойкі-паэта, ліра-эпіка.

Як бачым, пісьменнік выступае ў розных сваіх іпастасях. І пра кожную з іх можна было б тут зацікаўлена гаварыць. Аднак спынімся падрабязней на адной з іх — на даробку Лойкі-паэта.

У адным са сваіх артыкулаў Лойка заўважыў: «Паэзія залежыць не толькі ад часу, але і ад талентаў, якія ў гэты час нарадзіліся». Дакладна сказана! Талент Лойкі таксама ў пэўных момантах вызначае характар сучаснай беларускай паэзіі — паэзіі 60-80-х гг. XX стагоддзя. У будучым пра яе будуць меркаваць па здабытках паасобных творцаў, у тым ліку і Лойкі. Відавочна, не ўсё з яго паэзіі вытрымае суровае выпрабаванне часу, штосьці вецер гісторыі адвее, адмяце. Зрэшты, дзівіцца гэтаму няма чаго: такі лёс кожнага, нават самага вялікага паэта. Аднак ёсць у паэзіі Лойкі — у яе тэматыцы, праблематыцы, матывах, вобразнасці — тое, чаго няма ў іншых, што выяўляе ён адзін і выяўляе так, як выявіць не здольны ніхто, апрача яго. І справа нават не ў велічыні таленту, а ў тым «одном-единственном завете», кажучы словамі А. Твардоўскага,— у магчымасці сказаць тое, што знае паэт «лепш за ўсіх на свеце», і сказаць так, як ён хоча.

Алег Лойка як паэт больш за ўсё хінецца да анталагічна-класічнай традыцыі (выраз самога пісьменніка). Паэзія яго ў асноўным традыцыйная паводле вобразнасці і метрыкі, спакойна-ўраўнаважаная, мяккая па танальнасці. Аднак гэта традыцыя ў яго пастаянна знаходзіцца пад уздзеяннем двух сілавых полюсаў — вуснай народнай творчасці і навейшай пісьмовай паэзіі, а таму часта парушаецца, дэфармуецца і, зразумела, узбагачаецца. Не чужыя для Лойкі і

асацыятыўнасць вобразнага мыслення, метафарычная раскаванасць, пошукі ў галіне рытмікі, строфікі, вершаванай кампазіцыі. Пра гэта гаворыць, у прыватнасці, даволі актыўны зварот яго да верлібра.

У творчым акце паэта больш або менш відочна, аднак заўсёды адчувальна праступае думка, рацыянальны пачатак. Сутнасць лепшых твораў Лойкі (вершы «Дарог бясконцае суседства», «Такі ўжо час», «Багі», «Догмы», паэмы «Лясная песня», «Лясун», «Хлопец над вогненным плёсам» і інш.) якраз і прадвызначаюць — побач з тонкім лірызмам, шчырасцю пачуццяў, моцнай сувяззю з народнай творчасцю — глыбокі роздум над праблемамі сучаснасці, сталая філасофская развага. У паэта «гармонія» не толькі правяраецца «алгебрай», але нярэдка і вырастае з яе. Той, хто сочыць за ростам таленту Лойкі, пачынаючы з яго першага зборніка «На юначым шляху» (1959), можа засведчыць цягу паэта да паэтычнага намёку, падтэксту (прыгадайма хаця б «Люксембуржац», «Нож», «З застольных песень», «Караімы пакідаюць Чуфуткале», «Балада пра нямка», «Грыб» і г. д.). З першых зборнікаў пачынаецца і зварот Лойкі да міфаў, легендаў, прытчаў, якія паэт імкнецца прымусіць «працаваць» на сучаснасць. Безумоўна, такая «роздумная» лірыка, у якой эмоцыя падчас вырастае не так з незвычайнасці вобразных асацыяцый, як з незвычайнасці думкі або нечаканага яе павароту, патрабуе свайго чытача. Такі чытач у Лойкі ёсць. Кнігі яго на паліцах кнігарняў не залежваюцца.

У сённяшняй беларускай паэзіі Лойка з'яўляецца, бадай, самым прадуктыўным аўтарам балад. Літаральна ў кожнай яго кнізе мы знойдзем гэты жанр, якому, кажучы словамі самога паэта, «заўсёды імпанавала канкрэтнасць паэтычнага мыслення, пафас героікі, рамантычная прыўзнятасць». Асабліва шмат балад прысвечана падзеям Вялікай Айчыннай вайны («Юнак быў з-пад Слоніма родам», «Балада пра беленькія чаравічкі», «Балада пра матчына сэрца», «Балада пра жывы крыж» і інш.). Алег Лойка распрацоўвае і своеасаблівую жанравую разнавіднасць — баладную паэму, або паэмную баладу («Каб не плакалі кані», «Балада васількоў», «Балада Траецкай гары»).

Праз балады, вершы баладнага складу, урэшце, баладныя паэмы Лойка лагічна і паслядоўна прыйшоў да «чыстых» паэм. Лойка-літаратуразнавец бачыць у сучаснай савецкай паэме тры яе структурныя варыянты: 1) лірычную споведзь-маналог (напрыклад, «Яго вялікасць» А. Русецкага); 2) паэму як сістэму-панараму асобных вершаў, лірычных рэфлексій («Чужая споведзь» Г. Бураўкіна); 3) паэму з моцным лірычным струменем і шырока разгорнутым у часе сюжэтам, паказам лёсаў людзей як у рэалістычна-канкрэтных, так і

ва ўмоўных формах («Сцяна» Ю. Марцінкявічуса). Сам Лойка больш за ўсё схіляецца да першага і трэцяга варыянтаў паэмы. У яго творчасці ёсць прыклады і таго, і другога. З аднаго боку, гэта такія паэмы, як «Лясная песня», «Лясун», з другога — «Агонь і кроў», «Хлопец над вогненным плёсам». Гэта адносна невялікія, наскрозь прасякнутыя лірызмам творы, у якіх суб'ектыўны аўтарскі выклад пераважае над аб'ектывізаваным сюжэтным павестваваннем.

Асабліва запамінаюцца «Лясная песня» і «Лясун». Запамінаюцца сваёй эмацыянальнай напружанасцю, глыбінёю разваг над лёсам беларускага лесу і прыроды ўвогуле, над тым і народнымі «каранямі», якія павінны гадаваць «крону» сучаснай нацыянальнай культуры. Што да паэмы «Агонь і кроў», то, як мне здаецца, у ёй, пры ўсіх яе вартасцях, ёсць і адмоўнае: кампазіцыйная няўзгодненасць асобных раздзелаў. Паэма, па сутнасці, распадаецца на дзве асобныя часткі, якія недастаткова звязаны адна з другою. У першай узнаўляецца (дакладней, зроблена спроба ўзнавіць) вобраз вялікага сына балгарскага народа Георгія Дзімітрова, у другой прасочваецца працэс фашызацыі звычайнага «сярэдняга» немца Вілі Кеніга. Аўтару паэмы, трэба сказаць, больш удалася другая частка, што паказвае лёс простага «вінціка» ў фашысцкай дзяржаўнай машыне. Апавяданне пра Дзімітрова, на жаль, атрымалася некалькі эскізным, аблегчаным.

Гісторык літаратуры А. А. Лойка прывёў Лойку-паэта да думкі адрадзіць некаторыя старажытныя жанры. Так узніклі «Ламантацыі Кірылы Тураўскага» — цыкл вершаў з сямі «ламантацый», з уступамі і пасляспевам. Увогуле, Лойка надта ўважлівы да нашай гісторыі, блізкай і далёкай, звяртаецца да яе часта («Ефрасіння Полацкая», «Партрэт Сымона Буднага», «Сустрэча з Казімірам Лышчынскім», «На магіле Дуніна-Марцінкевіча», «Цётка» і інш.).

Алег Лойка піша і для дзяцей. Многія яго творы, што склалі некалькі вершаваных зборнікаў, палюбіліся дзетвары. Яны не складаныя па думцы, па слоўным арсенале, затое заўсёды з цікавым сюжэтам, займальныя, з добрай усмешкай. Не дзіва, што адна з кніг — «Дзе хто начуе» — перакладзена нават на польскую мову.

Не толькі ліра-эпіка і дзіцячая паэзія, не толькі грамадзянская і медытатыўная лірыка Лойкі мае сваё выразнае аблічча. Гэткай жа выразнасцю пазначана яго пейзажная і інтымная паэзія. Адзін з нешматлікіх беларускіх паэтаў — гараджан па паходжанні, Алег Лойка як мала хто з яго равеснікаў натхнёна апявае прыроду, вёску, працу хлебароба, вясковы побыт, звычаі — адным словам, тыя «карані», на якіх перш за ўсё і вырастае «крона» сучаснай беларускай культуры (паэмы «Лясная песня», «Лясун», вершы «...Ніхто са мной так

радасці не дзеліць», «...Ручаёў лясных я не мінаю», «У гэты вечар», «Запавет», «На вяселлі», «Той лясок невысок» і г. д.). Ад асобы Лойкі як чалавека, надзвычай шчырага, сумленнага, адкрытага, ідзе крынічная шчырасць яго лірыкі. Менавіта Лойка, гаворачы пра «шчасце мець сяброў», выказаў альтруістычнае правіла сапраўднага сяброўства: «Умець сяброў аберагаць, Ніводнага не страціць» («Сябрам»).

Любоўная лірыка Лойкі па-народнаму цнатлівая, задушэўная, прасякнутая падчас мяккім гумарам. Выяўленчая палітра паэта тут такая шчодрая, што нават фізічна адчуваеш намаляваную ім карціну. Як, напрыклад, у гэтым паэтычным эцюдзе:

У жыце каласістым сцежка гіне,
На ёй хусцінка васількой мільгне.
А за дзяўчынай хтосьь, як за багіняй,
Ідзе
і каласы к сабе
хіне...
Любуюся... А як жа быць іначай?..
Нішто яе, высокай, не трывож!..
За ёй пайшоў бы па вуглях гарачых,
Па айсбергах ільдзістых — басанож!..

Васілёк хусцінкі... Для паэта гэта дэталь мае не толькі выяўленчы сэнс. Васілёк у беларусаў — гэта сімвал чысціні, цнатлівасці, больш таго — сімвал роднага мастацтва. У другім лірычным вершы — «Ты кашулю мне вышый» — паэт просіць любую вышыць яму кашулю «палявым васільком». Як і ў папярэднім выпадку, тут васілёк выконвае перш за ўсё выяўленчую задачу. Як і тады, на гэты вобраз падае сімвалічная нагрузка. Разам з тым верш набывае і палемічную завостранасць у духу Максіма Багдановіча: «Бо нашто каласы, калі няма васількоў?» («Апокрыф»).

Не баючыся здацца дзіваком у наш касмічны век, паэт выяўляе зайздроснае пастаянства мужчынскага інтымнага пачуцця («Каханне», «Калі ў дарозе ты...», «...Заўсёды трошкі таямніцай», «...0 як многа табой мне дадзена»).

Калі б табе я здрадзіў раз,
Я здрадзіў бы сцяжынам тым,
Што сэрцу выбіраў свайму,
Сабе б самому чорна здрадзіў,—

прызнаецца лірычны герой паэта. А дакладней — ніякі не лірычны герой, а сам паэт, бо менавіта так ён думае, адчувае, так паводзіць сябе ў рэальным жыцці.

Зрэшты, тэрмін «лірычны герой» да паэзіі Лойкі не стасуецца. Што б паэт ні пісаў, ён выяўляе сябе самога. З дзесяткаў лірычных

твораў Алега Лойкі паўстае адзіны, цэльны, прываблівы вобраз самога паэта. Вобраз чалавека, увогуле тыповага для нашага грамадства, навуковага і літаратурнага асяроддзя. І разам з тым у чымсьці незвычайнага, самабытнага. Як незвычайная, самабытная кожная яркая творчая індывідуальнасць, кожны сапраўдны талент.

## ДАРОГАЮ ВЕРНАСЦІ

Максіма Танка я найчасцей і найвыразней уяўляю ў дарозе.

Калі б я быў мастаком-партрэтыстам, так бы і маляваў паэта: ці на палявой сцежцы, да якой прыпадае густая азіміна, ці на забрукаваным гасцінцы з «скацярынаўскімі» бярозамі, ці ў сучасным самалёце, за ілюмінатарам якога адліваюць белізною перыстыя воблакі, ці на палубе марскога лайнера, на фоне зялёнай вады, чаек, яркага сонца...

Вобраз дарогі, як ніякі іншы, стасуецца мабільнай, рухомай натуры Максіма Танка, які, па яго ўласным прызнанні, «відаць, пад сонцам цыганскім радзіўся», бо ўсе свае дні «размяняў на вандроўкі, паходы». Паэт абышоў, аб'ездзіў, аблётаў ледзь не ўвесь зямны шар.

Дарога была маёй песняй любімай,
Надзеяй на неспадзяванае шчасце,
Ратункам ад думак начных,
неспакойных,
Працягам жыцця за парог небасхілу,—

гаворыць паэт, нечакана збліжаючы паняцці дарогі і песні, руху і прыгажосці. І гэта невыпадкова. Рухам прасякнута ўся паэзія Максіма Танка, ад яе першых давераснёўскіх узораў і да твораў нашых дзён.

Глыбока сімвалічна, што першая кніга паэта, выдадзеная з дапамогай КПЗБ, называлася «На этапах» (1936). Два паэтычныя зборнікі, што выйшлі ў другой палове 70-х гг., маюць назвы «Дарога, закалыханая жытам» (1976) і «Прайсці праз вернасць» (1979). А яшчэ ж быў зборнік «У дарозе» (1954), вершаваны цыкл «З далёкіх дарог...».

Калісьці выдатны французскі пісьменнік Г. Флабэр сказаў пра рэалістычны раман: гэта люстэрка, якое праносяць па галоўных дарогах жыцця. Паэзія Максіма Танка — таксама своеасаблівае люстэрка, і праносіцца яно таксама па галоўных жыццёвых шляхах. Праўда, не заўсёды гэтыя шляхі адразу кідаюцца ў вока. Як, напрыклад, этапы былой Заходняй Беларусі. Як «закалыханая жытам» палявая дарога. Але час паказаў: менавіта этапныя шляхі, на якіх

гайдаўся цень ад паліцэйскага штыка, вялі да праўды, справядлівасці, да лепшай долі — былі галоўнымі. Калі ж сённяшні Максім Танк з асфальтаванай шашы ступае на палявую дарогу, то і тады мы выразна бачым, чым жыве зараз, што думае і адчувае савецкі народ. Бо няма цяпер такой дарогі і нават сцежкі, якія б не прывялі зацікаўленага ў гэтым мастака да галоўных чалавечых шляхоў, да Чалавецтва.

Аднак ёсць усё ж самая галоўная дарога, па якой Максім Танк крочыць ужо не адзін дзесятак гадоў.

Я спытаў чалавека,
Які прайшоў праз агонь,
І воды,
І медныя трубы:
— Што самае цяжкае
На гэтым свеце?
І ён адказаў:
—Прайсці праз вернасць.

Вернасць Радзіме. Вернасць свайму народу, роднай маці, каханай. Вернасць найсправядлівым ідэалам. Гэтай дарогай вернасці нястомна і ўпэўнена ідзе Максім Танк, ніколі нідзе не збочваючы, ведучы за сабой па краіне паэзіі многія мільёны нашых і замежных чытачоў.

А краіна паэзіі Максіма Танка надзвычай вялікая і цікавая. Яе перасякаюць амаль усе мерыдыяны зямнога шара, на скрыжаваннях яе дарог узвышаюцца сотні гарадоў і вёсак, яна населена людзьмі самых розных нацый і народнасцей. Усё хвалюе паэта: родныя краявіды і праблемы чалавечага існавання, «панарама бітвы за хлеб» (так называецца адзін з яго вершаў) і згадкі мінулых бітваў з фашызмам, пачуццё кахання і трагедыя Чылі. Назвы твораў гавораць самі за сябе: «Хвоі на акопах», «Буравая», «Партызанскія бярозы», «Ля помніка Янкі Купалы», «Сонца рэвалюцыі», «Твой цень», «Сцяг свабоды», «Ля труны Будзённага», «Куба», «Чылійская бярозка», «У Вільнюсе», «Марк Шагал» і г. д.

Аднак скрозь ідэйна-тэматычную разнастайнасць паэзіі Максіма Танка яскрава праступае і адна вядучая, дамінуючая тэма. Гэта — тэма Радзімы, роднага краю., бацькаўшчыны.

У паэзіі Максіма Танка знайшла адлюстраванне наша шматпакутная гісторыя, яе рэальныя факты і моманты легендарныя. Паэт стварыў паэмы пра Кастуся Каліноўскага і паўстанне на возеры Нарач, уславіў правадыроў народных выступленняў супраць сярэдневяковых магнатаў — Нябабу і Гаркушу, склаў песні і балады

пра многіх партызанаў Вялікай Айчыннай вайны. Нібы той рупны і аб'ектыўны гісторык, «на камні, жалезе і золаце» (кожнай падзеі — адпаведны матэрыял!) хоча пакінуць Максім Танк вартыя ўвагі нашчадкаў «адбіткі жыцця». А побач — наш сённяшні дзень. Паэт піша пра людзей чэсных і нягоднікаў, пра святочнае і будзённае, пра тыя векапомныя падзеі, якія прынеслі краіне новую яву. Тут жа — радкі пра піянераў, пра старэнькую бабулю, што збірае ў лесе лекавыя травы «ад дакучлівай ламоты, рознай там непамыслоты», пра чыстае, крыху наіўнае юнацкае каханне, шумнае вясковае вяселле і многае іншае. Адным словам — шырокая панарама жыцця, яскравы малюнак нашай сённяшняй рэчаіснасці.

Патрыятычным пафасам паэзія Максіма Танка прасякнута наскрозь. Патрыятызм — ва ўсіх учынках і паводзінах Максіма Танка як чалавека і грамадзяніна, у самім духу яго творчасці. Клопаты роднай зямлі, звычайныя, будзённыя, і надзвычайныя, святочныя,— былі, ёсць і будуць (у гэтым няма сумнення!) клопатамі і турботамі самога паэта. Мы верым паэту, калі ён шчыра прызнаецца:

Непакой за цябе, зямля мая,
За твой ураджай, спакойны сон,
За дрэва кожнае ў гаях,
За весніх песень перазвон,
Непакой за цябе, зямля мая,—
Мой хлеб надзённы.

У Максіма Танка ёсць верш «Дарога, закалыханая жытам», які даў назву ўсёй кніжцы. Вось гэты верш:

Помню, маці заўсёды клалася спаць
Толькі пасля таго, як засыналі
І дзеці ў запечку,
І куры на куросаднях,
І косы, заточаныя пад страхой,
І агонь у задымленай печы,
І вілы з памялом у качарэжніку,
І яблыня, загледзеўшыся ў студню,
І аблокі над страхой буслінай,
І палявая дарога, закалыханая жытам.
Як жа мне сёння заснуць,
Калі, яе прыгадаўшы,
Усё не спіць,
І не спяць мае думы.

Як бачым, у вершы пералічваюцца ледзь не ўсе асноўныя атрыбуты роднага котлішча, беларускага вясковага селішча — і пейзажныя, і чыста бытавыя. Заўважаецца разам з тым і тое, што яны апраменены светлым воблікам маці-працаўніцы, маці-руплівіцы,

без якой паэту немагчыма ўявіць ні роднай хаты, ні самага дарагога кутка на зямлі з дарогай, закалыханай жытам.

Маці для паэта — увасабленне і адначасова прыклад чалавечай дабрыні, высакароднасці, працавітасці. Аднымі з першых вершаў паэта былі вершы пра маці. Але тады, да верасня 1939 года, гаротніцу-маці бачыў перш за ўсё Максім Танк. Яна то жала жыта на панскім полі, перамаўляючыся са жнеямі «ўсё пра цяжкое жыццё, пра астрог, Пра каляіны этапных дарог» («Жнівам»), то несла пад «астрога сцены лютыя хлеба ў торбе» — перадачу сыну-рэвалюцыянеру («Пад астрожнай сцяной»). Цяпер жа, у савецкай краіне, клопаты і турботы маці становяцца іншымі. Яна паранейшаму хвалюецца за сваіх дзяцей, але ўжо не баіцца за іх лёс, жыццё. Засталося ў яе і ранейшае працалюбства. Можа быць, яно нават павялічылася, бо колькі працы трэба было ўкласці толькі ў аднаўленне разбуранай фашыстамі народнай гаспадаркі! Аднак праца гэтая — крыніца радасці, плён яе ідзе на карысць самога чалавека.

У партрэце маці Танк падкрэслівае адну дэталь — рукі, рукі працоўнага чалавека. Ім, спрацаваным, шурпатым, мазольным жаночым рукам, паэт прысвяціў адзін з лепшых сваіх вершаў — «Рукі маці». Твор гэты — сапраўдны гімн чалавечай працы. Пакладзе на стол свае рукі маці — і «быццам ад сонца, ад іх пасвятлее ў хаце і ў сэрцы». Але не толькі захапленне, а падчас і спачуванне выклікаюць яны ў паэта.

Памерла жанчына, маці. Нябожчыцу пачалі абмываць. Ды колькі ні мылі рукі, ні шаравалі іх шрамы і маршчыны — не адмываюцца. І — усе загаласілі, бо як жа такімі рукамі ды «ў дзверы раю грукаць»!.. («Жыццё бабкі Уляны»).

Вобраз маці — не новы ў творчасці Максіма Танка — паўстае з вершаў паэта апошняга часу неаднойчы і ў яскравай сваёй жыццёвай акрэсленасці. Вось маці, задумаўшыся, пляце «вянкі цыбулі залатой» і ўспамінае жыццё, што «праляцела і непагодай прашумела Над гэтай хатаю старой, Над яе доляй, над зямлёй...». Адна невялікая паэтычная дэталь у канцы верша — і ўвесь твор набывае неабходную мастацкую глыбіню і шматзначнасць: «Цыбуля ж горкая такая, З вачэй аж слёзы выціскае...» На пяцікрылай далоні маці, як хораша выказаўся паэт, «выраслі мы, наш хлеб, нашы песні». Менавіта маці навіла на паэтава сэрца свае песні, і ён «і сёння асцярожна, з хваляваннем» разматвае «клубок песень, каб хаця не парваць яе нітку».

З сучасных буйных савецкіх паэтаў, бадай, толькі Аляксандр Твардоўскі і Андрэй Малышка так часта, як Максім Танк, і з такой жа замілаванасцю пісалі пра маці. Прычым у кожнага з іх апяванне

роднай маці перарасло ва ўслаўленне маці і мацярынства ўвогуле, а таксама той зямлі, на якой маці пусціла чалавека ў свет,— Радзімы.

Бацькаўшчына ў паэзіі Максіма Танка ў першую чаргу якраз і ўвасабляецца, канкрэтызуецца ў вобразе маці, якая дае пачатак усяму існаму на зямлі. Разам з тым Радзіма ў паэта асацыіруецца яшчэ з адным паняццем — роднай песняй. Песня, бадай,— самае частае па ўжыванні паэтычна-вобразнае разуменне, якое выступае ў творчасці Максіма Танка як у сваім прамым значэнні («...Пяюць дзяўчаты «Рэчаньку», «...Калі гора сагне»), так і ў пераносным, нават сімвалічным («Калі трэба была песня», «...Хтось падстаўляе драбіну», «...Кропля дажджу»). Песня ў паэта ўвасабляе духоўны пачатак у жыцці чалавека, а менавіта — прыгажосць, красу, у тым ліку прыгажосць, красу Радзімы. Максім Танк, як сапраўдны матэрыяліст, заўсёды на першае месца ставіў і ставіць матэрыяльныя вытокі чалавечага жыцця (яны ў яго найчасцей акрэсліваюцца паняццем «хлеб»), але ніколі ён не забываецца і пра песню. Наогул, у яго творчасці, як правіла, «хлеб» і «песня» стаяць побач. Калісьці ў адным са сваіх вершаў паэт заклікаў пакінуць для нашчадкаў «з першабытным прысмакам» чатыры рэчы: «хлеб, песню, віно і каханне» («Пасланне вучонаму»). Цяпер жа ён таксама ставіць гэтыя паняцці побач, раячы нашым сучаснікам узвесці хлебу і песні помнікі на зямлі («...Кропля дажджу»).

Аднак ёсць у паэзіі Максіма Танка яшчэ адзін вобраз, які таксама ўвасабляе сабой Радзіму.

Як вядома, у некаторых народаў пэўныя прадметы, з'явы прыроды, расліны сталі як бы нацыянальнымі сімваламі. Так, у рускіх ім стала «кучаравая бяроза», апетая ў шматлікіх фальклорных творах, услаўленая многімі паэтамі. «Украінская» таполя — абавязковая рэалія ў творчасці пісьменнікаў паўднёвай суседкі Беларусі. Такім нацыянальна-беларускім дрэвам-сімвалам у паэзіі Максіма Танка стала сасна.

Вобраз сасны, і не толькі як найбольш тыповай прадстаўніцы беларускай флоры, але і як сімвал Бацькаўшчыны, яе сапраўднай, хоць і сціплай, някідкай прыгажосці, сустракаецца ў творчасці паэта вельмі часта і даўно. Сасна, разам з тым, сімвалізуе жыццяўстойлівасць роднай зямлі, неадольнасць яе ніякімі «бурамі», ніякай «зімой». Не дзіва, што менавіта сасна вырасла «на высокім кургане», пад якім спяць «дзеці-сокалы» — героі Вялікай Айчыннай вайны («Каб ведалі»). Менавіта сосны заўважыў Максім Танк пад час сваёй паездкі ў Амерыку ў 1961 годзе («Сосны на беразе акіяна»). Заўважыў іх, хоць, вядома, на далёкім кантыненце можна было

ўбачыць і больш экзатычныя дрэвы. Менавіта сасновая галінка нагадала паэту родны край у яго фантастычным падарожжы з Хрыстафорам Калумбам. Нагадала тады, калі ўсе падарожнікі ў пагоні за багатай здабычай забыліся нават пра само існаванне Радзімы («Сон над Нёманам»). Урэшце, невыпадкова Максім Танк увесь свой зборнік вершаў на рускай мове, за які атрымаў Ленінскую прэмію 1978 года, назваў «Нарачанскія сосны».

Гэта — нічога,
Што плашч мой і шапку
На вешалцы бачыш.
Я часта начую і днюю
Ля сосен сваіх Нарачанскіх,
Дзе ўсе беды мае,
Дзе ўсе радасці мае,
Дзе ўсе думы мае,—

гаворыць паэт у вершы «...Калі завеш мяне», а за гэтымі нарачанскімі соснамі мы бачым увесь нарачанскі край, усю Беларусь.

Зрэшты, ва ўсёй творчасці Максіма Танка апошняга часу вобразы маці, роднай песні, сасны сустракаюцца нярэдка разам, у адным і тым жа творы. Так, у звароце да «ўмудронага бачаным і пражытым» бацькі Немана паэт хоча высветліць: «Што за далечынёю гадоў Нас чакае З той сасной, Над якой Бусел крылы раскінуў, З песняй роднай — Маёй спадарожніцай вечнай — І нязменнай, Як матчына вернасць, Зямлёю?» («Над Нёманам»), Відаць, усе тры паняцці для песняра надта дарагія, калі менавіта з імі ён звязвае сваё разуменне будучыні роднага краю.

Аднак у тым і моц паэзіі Максіма Танка, што «дарога, закалыханая жытам», якая пачынаецца ля парога роднай хаты, мае сваім працягам шырокі жыццёвы гасцінец. Гэты гасцінец прыводзіць паэта да праблем агульнанародных, агульнасаюзных і нават агульначалавечых. У творчасці паэта асабістае і агульначалавечае, нацыянальнае і інтэрнацыянальнае знітаваны вельмі цесна.

Выяўленне індывідуальнага аўтарскага «я» вядзе ў яго да глыбейшага спасціжэння чалавека як сацыяльнай, гістарычна дзейснай асобы; з другога боку, агульначалавечае, інтэрнацыянальнае праяўляецца не інакш, як праз нацыянальную форму, праз вобраз канкрэтнага лірычнага героя паэта.

Максім Танк будуе сваю «гомацэнтрычную сістэму». У цэнтры яе — чалавек, дакладней — чалавечае сэрца, вакол якога паэт прымушае рухацца ўсё на Зямлі і па-за Зямлёй, нават сонца. І гэта не абстрактны homo sapiens, не чалавек увогуле, а заўсёды канкрэтны,

жывы, працоўны чалавек, плоць ад плоці сваёй эпохі, краіны, класа. У арыентаванасці на такога чалавека — канкрэтнае праяўленне выразна класавай, сацыяльнай, народнай пазіцыі Максіма Танка як пісьменніка, адна з галоўнейшых прычын яго творчага поспеху як мастака слова.

«Дзе б у чалавека ні стралялі, кулі — ўсе! — у сэрца мне траплялі»,— гэтыя словы Э. Межэлайціса з яго кнігі «Чалавек» мог бы сказаць пра сябе і Максім Танк. Аднак калі ў літоўскага паэта чалавек бярэцца ў яго найбольш універсальнай сутнасці, прычым гэта сутнасць абсалютызуецца, гіпербалізуецца («Ад Зямлі вырастаю да самага Сонца...»), у беларускага паэта — і ў гэтым яго своеасаблівасць — чалавек заўсёды — пэўны індывідуум, акрэслены часава і псіхалагічна, сацыяльна і нацыянальна. Тое ж можна сказаць і пра падзеі, у якіх ён удзельнічае, пра пейзаж, які яго акружае, і г. д. Таму ў кнігах Максіма Танка, побач з творамі (а іх абсалютная большасць) пра людзей і справы савецкай краіны («Красная плошча», «На новай вуліцы», «Калыханка партызанкі», «Мы», «Біяграфічны фільм»), сустракаем вершы пра Кубу — гэтае «Амерыкі сэрца бунтоўнае» («Куба»), чорную ноч Чылі («Чылійскі сувенір», «Ля падножжа Охас-дэль-Салады»), перамогу гераічнага В'етнама («Снег 1973 года»), У шматтысячнай масе ахвяр фашысцкага крэматорыя паэт выразна бачыць аблічча Тэльмана, Мусы Джаліля, Карбышава, Фучыка («Appelplatz»).

Імкненнем да паказу канкрэтнага чалавека, праз постаць якога выяўляецца яго агульначалавечая існасць, вытлумачваецца і надзвычай часты зварот Максіма Танка ды тых ці іншых гістарычных асоб розных эпох і народаў. Так, «Дарогай, закалыханай жытам» праходзяць маршал Будзённы, Янка Купала і Якуб Колас, паэты Авідзій, Амар Хаям і Цыпрыян Норвід, старажытны скульптар Пігмаліён, фінскі кампазітар Ян Сібеліус... У «Нарачанскіх соснах» нават вылучаны асобна вялікі раздзел такіх «персанальных» вершаў, вершаў-прысвячэнняў. У ім, апрача названых тут прозвішчаў, мы сустракаем Гамера і Дантэ, Мікеланджэла і Наракаці, Скарыну і Гётэ, Сяргея Ясеніна і Максіма Багдановіча, Валянціна Таўлая і Міхася Лынькова...

Жыццё рэальнай гістарычнай асобы — рэвалюцыянера-падпольшчыка, былога сакратара ЦК камсамола Заходняй Беларусі, потым героя грамадзянскай вайны ў Іспаніі Мікалая Дворнікава — лягло ў аснову цікавай, арыгінальна напісанай паэмы «Мікалай Дворнікаў», што ўвайшла ў кнігу «Прайсці праз вернасць». «Мне хацелася паказаць,— пісаў Максім Танк у часопісе «Коммунист

Белоруссии» пра ідэйную задуму сваёй новай паэмы,— як у чалавеку ўвасабляецца сам час, у які ён жыве і дзейнічае, хацелася раскрыць адзінства чалавека і часу, сілу праметэева агню непаўторнай рэвалюцыйнай эпохі, якую ўбіралі ў сябе канкрэтныя гістарычныя асобы, што ўзвалілі на свае плечы цяжкую ношу веступоў пралетарскага гуманізму, інтэрнацыянальнага братэрства, высокіх камуністычных ідэалаў і з гонарам данеслі яе да перамогі». Нават пры такой абагуленасці, тыпізаванасці вобраза, Мікалай Дворнікаў паўстае перад намі ў постаці жывога, канкрэтнага чалавека, сына свайго часу (30-я гг.), пэўнага сацыяльнага асяроддзя (рэвалюцыянер-падпольшчык, салдат інтэрнацыянальнай брыгады ў Іспаніі).

Дарога вернасці, па якой ідзе паэт і яго лірычны герой, прыводзіць часта і «на лінію сэрца». Можна было б пры неабходнасці скласці асобны зборнік з вершаў Максіма Танка пра каханне, жанчыну. Каханне ў паэта пазбаўлена фарысейскай крывадушнасці. Больш таго, ён злосна смяецца з тых літаратараў, героі якіх «гавораць адно пра свае працадні і рэдка калі пра каханне». Каханую, як і жанчыну ўвогуле, паэт услаўляе не толькі за яе духоўную прыгажосць, але ў няменшай ступені — за хараство фізічнае, прыгажосць цела. Ножкі, «што ў бегу зямлі не кранаюць», грудзі, «як дзве палавінкі наліва», палкія вочы, вусны,— хіба гэтага не дастаткова, каб усклікнуць у захапленні: «Я выдаў бы прэмію нават Ці богу, ці чорту, якія На радасць зямную Цябе ўзгадавалі, Марыя!» «Хай пішуць распуснікі посныя вершы, А я цябе, любая, слаўлю, як грэшнік»,— кажа паэт у іншым месцы. Ён часам можа быць памаладзечы гуллівым і папрасіць у сустрэчнай прыгажуні: «— Ты падарыла «Добры дзень», Дык падары і ноч». У вершы пра багіню прыгожосці Венеру Мілоскую Максім Танк дае арыгінальнае вытлумачэнне «бязрукасці» вядомага скульптурнага партрэта багіні:

> ...Бачу: ідзе яна лёгкай хадою.
> Рук няма. Пэўна, маланка скрышыла,
> Каб перад небам і перад зямлёю
> Грудзі свае імі не засланіла.

Ад такіх вершаў, такога разумення жаночага хараства — адзін крок да класічнага танкаўскага твора «Ave Maria!». У гэтым своеасаблівым гімне жаночай прыгажосці яна, прыгажосць,— не толькі крыніца захаплення, радасці, але і актыўная сіла, што дапамагае вызваленню чалавечай асобы з-пад улады рэлігіі, цемрашальства — духоўнаму вызваленню. Глыбока гуманістычная ідэя верша, такім чынам, вырастае з эстэтычных поглядаў паэта, яго разумення прыгажосці, перш за ўсё — жаночай.

Для Максіма Танка прыгажосць і дабрыня — якасці непадзельныя. Любую ён славіць за тое, што яна «акно засланіла ад вока ліхога, Кашулю адмыла ад пылу дарогі, Прынесла, галоднаму, хлеба кавалак...». Менавіта з гэтай дабрыні каханай вырастае пасля сталая дабрыня маці. У поглядах паэта на свет і чалавека эстэтычнае і этычнае злітаваны вельмі цесна — таксама, як і ў народным светаўспрыманні і светаразуменні, зафіксаваным, у прыватнасці, у фальклоры. У гэтым няма нічога дзіўнага: Максім Танк — песняр сапраўды народны, а беларускі фальклор аказаў і аказвае выключны ўплыў на яго творчасць.

Дабрыня, чуласць — паняцці для паэта зусім канкрэтныя і ў многім вызначальныя. Менавіта чалавечая дабрыня дапамагла і дапамагае Максіму Танку з годнасцю ісці дарогай вернасці.

У адным са сваіх нядаўніх вершаў паэт прызнаўся:

Рэкі смутку і радасці
Я пераходзіў не раз.
Хвалі іх бурныя вымылі
З сэрца нямала руды.

Толькі чамусьці пакінулі
Чуласць — нібыта яна
Самай была непадатлівай,
Самай цяжэйшай была.

Аднак калі б і не было гэтага самапрызнання, мы, чытачы паэта, самі прыйшлі б да такой думкі. Бо ўсё гераічнае жыццё народнага паэта Максіма Танка, уся яго высокагуманістычная паэзія — яскравы ўзор чалавечай дабрыні, чуласці. Сёння нават цяжка паверыць, што гэты надзвычай добры, спагадлівы, ветлівы чалавек калісьці, да верасня 1939 года, быў «цвёрдым арэшкам» для белапольскай дэфензівы, па заданні камуністычнай партыі і камсамола Заходняй Беларусі вёў актыўную прапагандысцкую працу, сустракаўся на явачных кватэрах з камуністамі-падпольшчыкамі, канкрэтнымі справамі і мастацкім словам служыў высакароднай справе ўз'яднання заходнебеларускіх земляў з БССР. Але ж мы ведаем, што і «рэвалюцыю робіць не зло, а дабро»! (А. Вярцінскі). Менавіта непатольнае жаданне зрабіць дабро чалавеку-працаўніку, аблегчыць яго жыццё, выбавіць з сацыяльнай і нацыянальнай няволі кіравала паводзінамі Максіма Танка, калі ён заклікаў «пілiць і рваць стальныя путы, муроў калючыя драты», калі са здзеклівай іроніяй кідаў у вочы панам і іх паслугачам:

Святыя вы для нас,
Вялікія над ўсімі,—
А некалі ж мы вас

Яшчэ вышэй падымем!

Зусім не дзіўна, што ў час, калі, нарэшце, і на шматпакутнай зямлі былой Заходняй Беларусі дабро пачало перамагаць зло, Максім Танк становіцца песняром «чалавечай радасці і сонца», яго ліра настройваецца на героіка-рамантычны лад. У вясёлкавым слове паэта пачынае люстравацца ўсё лепшае, што ёсць у нашым савецкім чалавеку, краіне, грамадстве. Толькі на чатыры ваенныя гады яно, лірычна-прачулае, светла-сонечнае, зноў набывае грозны, заклінальна-набатны напал. Паэт-воін заклікае бязлітасна знішчаць «банду воўчу», не шкадаваць на катаў «пораху, Куль гарачых і гранатаў» («Не шкадуйце, хлопцы, пораху...»). Што ж, гэта таксама гуманізм, ваяўнічы, мабілізуючы. Адна з форм яго выяўлення. Гуманізм, які служыць чалавечнаму ў чалавеку, дапамагае перамагчы тыя сілы, што гэтае чалавечнае губяць.

Самае светлае, запаветнае, высакароднае знаходзіць водгук у душы Максіма Танка. Калі крыху перайначыць вядомае выслоўе А. Даўжэнкі, паэта цікавяць у першую чаргу зоркі, што адлюстроўваюцца ў лужынах, а не самі лужыны. Аднак з гэтага ніяк нельга рабіць вывад, як падчас робяць некаторыя чытачы і нават даследчыкі паэта, што лірычнае пачуццё і думка яго нібыта «раз і назаўсёды» настроены на героіка-лірычны лад, элемент сатыры і сарказму «зусім адсутнічае» сярод адценняў лірычнага перажывання Максіма Танка, а тэму сучаснага мяшчанства Максім Танк быццам бы не закрануў «ні ў адным» са сваіх вершаў.

На самай справе, у творчасці паэта пэўнае месца займае сатыра ва ўсёй разнастайнасці яе «танкаўскіх» адценняў (мяккая ўсмешка, іронія, востры сарказм). Джала «смехатэрапіі», гэтае своеасаблівае лячэнне смехам Максім Танк скіроўвае перш за ўсё супраць ворага нумар адзін — сучаснага мяшчанства. Аднак мяшчанства ў разуменні паэта — не нейкая грамадская катэгорыя (кар'ерыст, спекулянт, п'яніца, бюракрат і г. д.). Гэта — духоўны застой, маральнае спусташэнне чалавека, дзе б яно, у якім асяроддзі ні праяўлялася. Скіроўваючы сваю сатырычную зброю галоўным чынам на мяшчанства літаратурнае, навуковае (прыгадайце хаця б характэрныя для Танка вобразы «акадэмікаў розных», крытыкаў «з вушамі, з норавам аслоў»), паэт тым самым змагаецца супраць любых праяў мяшчанства наогул. Духоўнае мяшчанства ўдала развенчваецца не толькі ў асобных сатырычных вершах («Ананім», «Пра аглоблю», «Выклік на дуэль», «Калі б мне далі ўладу»), але і ў «карацельках» — невялікіх эпіграмах, новых для паэта як сваім жанрам, так і формаю («Сучасная дуэль», «...Ён заўжды адмывае свае потныя рукі»,

«Калекцыянер сярэбранікаў» і інш.). Змагаючыся са злом, тым адмоўным, што яшчэ падчас мае месца ў нашым жыцці, Максім Танк застаецца верным самому сабе: сцвярджае дабро, служыць тым жа высокім ідэалам, што і ў сваіх лепшых лірычных творах.

Калі сатыра ў шматфарбным і шматгалосым свеце танкаўскай паэзіі займае ўсё ж адносна невялікае месца (найперш ён паэт-лірык), то гумар, тонкі досціп увогуле характэрны для творчасці Максіма Танка. Так і ўяўляецца: па дарозе жыцця ідзе мудры, добры і, разам з тым, дасціпны чалавек, усё бачыць, усё заўважае, усё ўзважвае на шалях свайго сэрца. Ён ведае намнога больш, чым гаворыць, бо знае сапраўдную вартасць слова. Да многіх рэчаў, як да грахоў маладосці, ставіцца некалькі іранічна, з усмешкай. Часам за гэтай іроніяй хаваецца і трывога, і душэўны боль, і многае іншае. Але трэба па-сапраўднаму суперажываць з паэтам, настроіцца з ім на адну эмацыянальную хвалю, каб адчуць, зразумець гэта, перажыць хвіліну катарсіса, як гаварылі старажытныя грэкі,— духоўнага самаачышчэння.

Сустрэў несмяротнага.
І мне стала смешна:
Блізкія і сябры пакінулі яго,
А ён, дзівак, згадзіўся жыць далей.

Падтэкст, або «затэкст», гэтага чатырохрадковіка, пранізанага прыхаванай іроніяй, вымяраецца і жыццёвым вопытам самога паэта, і вопытам многіх іншых людзей, яго папярэднікаў і сучаснікаў. Сапраўдны паэт заўсёды акумулюе, зберагае гэты маральны вопыт, каб у належны момант здабыць яго з запаснікаў свайго сэрца і перадаць сучаснікам і нашчадкам. Такі менавіта паэт Максім Танк.

Паэзія, па вобразным вызначэнні Максіма Танка, «гэта вясёлкавы мост ад сэрца людскога да мары», «адвечная цяга вяршыць да нябёс, а траваў і дрэваў — да сонца» («Трактат аб паэзіі»). Прастору паміж людскім сэрцам і сонцам чалавечай мары можа запоўніць менавіта паэзія. А для гэтага яна павінна не толькі выяўляць, адлюстроўваць рух, стымуляваць яго, але і сама быць з'явай жывою, зменліваю, рухомаю.

Паэзіі, як своеасаблівай эстэтычнай сістэме, наогул характэрна рухомасць, цяга да самаабнаўлення. Самым непасрэдным чынам гэтае імкненне да самаабнаўлення датычыцца і паэзіі Максіма Танка. Асноўным пафасам усёй творчасці паэта можна назваць пафас абнаўлення, бесперапыннага дыялектычнага абнаўлення, у аснове якога — галоўны закон дыялектыкі: адзінства і барацьба супрацьлегласцей.

Гэты рэвалюцыйны па сваёй сутнасці пафас, абумоўлены творчай натурай, светапоглядам Максіма Танка, выяўляецца не толькі ў тэматыцы, праблематыцы твораў, але нават у паэтычнай форме, прадвызначаючы яе заўсёдную гатоўнасць самаабнавіцца, паўстаць у новай якасці. Адсюль — такое багацце і разнастайнасць сучаснай паэтыкі Максіма Танка, яе рухомасць, наяўнасць у ёй шматлікіх форм і сродкаў вобразнага адлюстравання. Гэта датычыцца лірычных відаў і жанраў (лірыка інтэлектуальна-вытанчаная, філасофская і — «прымітыўна-простая», калі пакарыстацца вызначэннем Максіма Горкага, дадзеным у свой час дарэвалюцыйнай паэзіі Купалы і Коласа), паэтычнай вобразнасці (вобразнасць канкрэтна-пачуццёвая і ўмоўна-асацыятыўная), верша (класічная сілаба-тоніка, верш танічны, свабодны, дольнік, тактавік), строфікі (вершы нестрафічныя, звычайныя кантрэны і — самыя вышуканыя строфы) і г. д.

У адным са сваіх нядаўніх інтэрв'ю, адказваючы на пытанне, што вымагае настойлівых пошукаў у галіне формы, Максім Танк гаварыў: «Пошукі формы ніколі не былі ў мяне самамэтай, я заўсёды ішоў ад тэмы. Калі тэма ўсхвалявала, калі вызначаны змест, дык знаходзіцца — раней ці пазней — і форма, і, зразумела, яна павінна адпавядаць зместу, настрою. У адным выпадку гэта можа быць форма песні, у другім — свабоднага верша. І ў мяне гэтыя пошукі ідуць няспынна, яны то нарастаюць, то аціхаюць. Без пошукаў у галіне формы нельга... Я не адстойваю тую ці іншую форму, я — за тое, каб зместу надаць такую форму, якая б вывела верш на трасу чалавечага сэрца, чалавечых пачуццяў, як ракета выводзіць на калязямную арбіту касмічны карабель».

Паэзія Максіма Танка да сённяшняга дня — гэта паэзія пошуку, паэзія адзінства і своеасаблівага мастацкага працідзеяння пэўных тэндэнцый, паэзія новых адкрыццяў. «Калі і памру я»,— гаворыць паэт у адным з вершаў,— дык «ад смагі слоў новых, Якіх не хапае Для новаадкрытых планетаў, Законаў і формул, Для нашай сусветнай любві». Максім Танк ніколі не належаў да творцаў, якім наперад усё вядома, усё зразумела, ясна. Ён амаль нічога не хоча прымаць на веру, імкнецца сам пераканацца ў слушнасці ісцін. Нават у аксіёме «двойчы два — чатыры» ён сумняваецца і, дастасоўваючы да чалавечых радасцей і болю, даводзіць яе адносны характар. «Можа, і ўсе колеры ўжо адкрыты,— гаворыць паэт, тут жа спакойна дадаючы: — Мне засталіся яшчэ спалучэнні». «Можа, і ўсе гукі свету вядомыя — Мне яшчэ хопіць, што ў сэрцы я чую»,— працягвае далей, цвёрда верачы, «што дзве трэці айсбергаў мора жыцця ў глыбіні сваёй тоіць» («...Можа, і ўсе колеры ўжо адкрыты»).

Безумоўна, у гэтым імклівым руху наперад, заўсёдным творчым пошуку ёсць пагроза нешта ўбачыць павярхоўна, нечага не разгледзець, а то і адкрыць тое, што было раней самім жа адкрыта. Трэба, аднак, улічыць, што ў творчасці Максіма Танка нярэдка сустракаюцца творы, падобнасць ці супярэчлівасць якіх вытлумачваецца своеасаблівасцю мастацкай індывідуальнасці паэта, складанасцю самога працэсу творчага пошуку, у аснове якога — усё той жа галоўны закон дыялектыкі...

У зборнік «Дарога, закалыханая жытам» увайшлі два вершы, напісаныя ў форме класічнага санета. У першым з іх паэт паведамляе, што задумаў ён, «як даўнія паэты, Адправіцца на караблі санета На дальнія сузор'яў астравы». Адным словам, новае, касмічнае падарожжа ажыццяўляецца на старым караблі. Паэт спрачаецца з уяўным апанентам, які не давярае гэтаму старому караблю, вядомаму яшчэ з часоў Дантэ:

Не верыце, што я ажыццяўлю
Намер свой і вярнуся на зямлю,
Што вытрымаюць ветразі і ванты?

Наіўныя! Мой карабель — санет
Калісьці збудаваў вялікі Дантэ,
А сам Шэкспір на ім адкрыў сусвет.

Як бачым, у перакананнях паэта, у веры яго ў гэты «стары карабель» — санет сумнявацца не даводзіцца. Аднак хто ж гэты апанент, які адмаўляе старому санету ў праве і магчымасці транспартаваць новую, касмічную яву? Аказваецца, сам... паэт.

Калі ранейшы твор, які мы толькі што згадалі, адстойвае форму санета і называецца «Санет», то другі, напісаны крыху пазней,— адкрыта выступае супраць санетнай вершаванай формы, падкрэсліваючы гэта нават сваёй назвай: «Антысанет». Давайце ўчытаемся ў гэты «Антысанет»:

Што сваёй Музе рупнай, працавітай
Я падару на схіле сваіх лет?
Мо з дрэва райскага прынесены ранет,
Пярсцёнак Палікрата срэбраліты?
Мо чару, поўную вясновага блакіту,
Ці нейкіх кветак палявых букет,
А мо гарэзу прыбяру ў санет —
У вопратку багіняў старажытных?

Як гэты вабны ўбор да твару ёй!
Чаму ж не радуешся, дарагая? —

Як мне ў ім дзіцянё карміць,
не знаю,
Як працаваць і цешыцца з табой,
Калі санет твой грудзі і стан мой
Чатырнаццаццю клямрамі сціскае.

Такім чынам, з аднаго боку, санет — гэта стары надзейны карабель, прыдатны ўпаўне і ў наш касмічны век; з другога — «вопратка багіняў старажытных», знешне эфектная, нават прыгожая, але нязручная, непрыдатная для штодзённага ўжытку. Супярэчнасць відавочная. Як яна вырашаецца?

Відаць, зыходзячы з «Антысанета», нельга прасталінейна заключаць: Максім Танк у апошні час адыходзіць ад класічнай формы верша, у тым ліку класічных відаў строфаў, канчаткова аддаўшы перавагу сучаснаму верлібру. Такі вывад, пры ўсё штораз большай долі верлібра ў сучаснай творчасці паэта, быў бы, думаецца, заўчасным. У той жа «Дарозе, закалыханай жытам» мноства вершаў напісана традыцыйнай сілаба-тонікай, з выкарыстаннем «класічнай» рыфмы і рыфмоўкі. Такіх вершаў тут амаль 63 % — нават некалькі больш, чым у папярэдняй кнізе «Хай будзе святло», дзе іх было крыху больш за палавіну. Пераважаюць сілабатанічныя памеры і ў кнізе «Прайсці праз вернасць». Дарэчы, у гэтым зборніку знаходзім і добры традыцыйны санет — «Трэска з дому Шэкспіра». Відавочна, паэт застанецца да канца верны гэтай літаратурнай традыцыі.

Разам з тым Максім Танк шмат і плённа шукае. Шукае не толькі ў змесце таго жыццёвага матэрыялу, які ён адлюстроўвае, але і ў формах гэтага адлюстравання. Змяніўся — пашырэў, ускладніўся — сам жыццёвы матэрыял, змянілася і форма яго адлюстравання. Адсюль — трывожны роздум над праблемамі мастацтва, сутыкненне розных супярэчлівых поглядаў, спрэчак нават з самім сабой.

Дарэчы, такая дэталь. «Антысанет», які сваім зместам выступае супраць санета, напісаны ў форме санета! І сама гэта форма дазволіла-такі паэту вельмі добра выказаць яго думку! Ці не знаходзіць і тут своеасаблівае выяўленне той жа закон адзінства і барацьбы супрацьлегласцей, якому падначалена ўся паэзія Максіма Танка — паэзія заўсёды новая, маладая, глыбока дыялектычная? На гэта пытанне, думаецца, можа быць толькі адзін адказ — станоўчы.

Сёння Максім Танк, Герой Сацыялістычнай Працы, лаўрэат Ленінскай прэміі, акадэмік АН Беларусі, народны паэт рэспублікі,— адзін з самых знакамітых паэтаў не толькі Беларусі, але і ўсяго нашага кантынента. Кожная новая кніга яго чакаецца з нецярпеннем, нязменна выклікае ўражанне сустрэчы са «знаёмым

незнаёмцам» (В. Бялінскі) — сустрэчы жаданай, звыклай і ў той жа час у нечым непрадбачанай, нечаканай. У кожнай з гэтых кніг мы знаходзім працяг ранейшага — глыбокага і зацікаўленага — роздуму паэта пра чалавека, яго ўзаемадачыненні з грамадствам, прыродай і самім сабой, яго месца ў свеце і нават у цэлым сусвеце,— роздуму, пачатага яшчэ ў давераснёўскіх зборніках. «Я разглядаю паэзію М. Танка,— пісаў у «Литературной газете» вядомы рускі паэт А. Шасцінскі,— не толькі як творчасць выдатнага савецкага паэта, але і як аднаго з вялікіх мастакоў сучаснай славянскай паэзіі... Тое, што цяпер стварае паэт М. Танк, жыццёва важна і для выспявання новых мастацкіх з'яў у паэзіі рускай, украінскай, польскай, балгарскай...»

У прадмове да першага зборніка вершаў Максіма Танка «На этапах» Рыгор Шырма прароча заявіў: «Думаем, што нам яшчэ прыйдзецца быць сведкамі, калі ягоны талент падымецца да вялікага сузор'я Купалы — Коласа». Сёння талент паэта — у гэтым сузор'і, самім яркім сузор'і на небасхіле роднай літаратуры.

***На скрыжаванні культур***

## НА ТРЭЦІМ, ПАЭТЫЧНЫМ...

У сярэдзіне 30-х гадоў па ініцыятыве Максіма Горкага адбылася падзея, значэнне якой у жыцці нашай пісьменніцкай арганізацыі цяжка пераацаніць. Маецца на ўвазе Трэці пленум праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, які праходзіў у Мінску ў лютым 1936 г. і атрымаў назву «паэтычнага».

Таму-сяму, магчыма, здасца дзіўным, чаму мы пра пленум загаварылі (вунь колькі іх праводзіцца), у той час як нават не кожны з'езд пісьменнікаў прыгадваем. Што ж, іншы пленум па сваім значэнні не ўступіць з'езду. Ды і напомню: Другі з'езд пісьменнікаў СССР адбыўся пасля Першага (1934) толькі праз дваццаць гадоў, у 1954 годзе. Не дзіва, што «паэтычны» пленум 1936 г. неафіцыйна часам называўся «малым з'ездам»...

Рашэнне правесці ў Мінску пленум праўлення СП СССР, прысвечаны многанацыянальнай савецкай паэзіі, было прынята па парадзе Максіма Горкага яшчэ ў другой палове 1935 г. Да яго актыўна рыхтавалася ўся пісьменніцкая і літаратурная грамадскасць краіны, перш за ўсё, зразумела, беларускія пісьменнікі. Беларусі перыядычны друк, друк саюзных рэспублік, «Литературная газета»

яшчэ задоўга да пленума сталі рэгулярна публікаваць матэрыялы пад рубрыкай «Да пленума праўлення ССП СССР». 19 студзеня 1936 года ўсесаюзная радыёстанцыя ВЦСПС правяла спецыяльную радыёперадачу «Літаратурная Беларусь», у якой, пасля ўступнага слова М. Клімковіча, прагучалі ўрывак з рамана П. Галавача «Праз гады», вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, А. Александровіча, П. Глебкі, П. Броўкі. У Кіеве непасрэдна перад пленумам прайшла паэтычная нарада, у якой, апрача ўкраінскіх паэтаў, актыўны ўдзел прынялі грузінскія майстры паэтычнага слова Т. Табідзе і С. Чыкавані (пасля разам з прадстаўнічай украінскай дэлегацыяй яны прыехалі на пленум).

Нарэшце наступіў дзень, калі да перона мінскага вакзала падышоў спецыяльны «пісьменніцкі» цягнік. «На замецены снегам перон выходзілі людзі ў кучомках, у капелюшах, лісіных малахаях і унтах, у цюбецейках, паліто, кароткіх футравых дохах... Асобна стаялі замежныя госці. Яна кідаліся ў вочы сваімі букліраванымі паліто, берэтамі, нейкімі адметнымі партфелямі і акулярамі» — так прыгадвае сёння прыезд гасцей — удзельнікаў пленума — аўтар цікавых і, бадай, пакуль што адзіных успамінаў пра «Той незабыўны, паэтычны» Сяргей Грахоўскі.

У дзень адкрыцця пленума — 10 лютага 1936 г., у панядзелак — «Литературная газета» пісала ў рэдакцыйным артыкуле (апублікаваны, дарэчы, не толькі на рускай, але і на беларускай мовах): «Склікане пленума праўлення ССП СССР у Мінску — гэта знак павагі пісьменнікаў і чытачоў нашай краіны да поспехаў беларускага атрада савецкай літаратуры, да яе творцаў і майстроў. Беларуская літаратура, якая пагарджалася і праследавалася пры царскай уладзе, пышна расцвіла пад сонцам сацыялізму, і пісьменнікі ўсіх народаў СССР радасна вітаюць гэты росквіт».

Своеасаблівай ілюстрацыяй гэтых слоў з'явіліся змешчаныя тут жа ў газеце, на яе 1 — 3 старонках, шматлікія артыкулы пра беларускую савецкую літаратуру: «Літаратура бальшавіцкага аптымізму» М. Клімковіча, «Янка Купала» І. Замоціна, «Якуб Колас» І. Арлова, «Паэзія Савецкай Беларусі пасля з'езда» Я. Бранштэйна, «Новыя вершы А. Александровіча» А. Кучара, «Трэцяе пакаленне» С. Леўмана, «Новыя творчыя поспехі» М. Модэля, «Маладыя паэты Беларусі» Я. Шарахоўскага. Газета друкавала таксама вершы Янкі Купалы «Дарогі» (пераклад О. Колычава), Якуба Коласа «Янку Купалу» (пераклад М. Тарлоўскага), П. Броўкі «Палессе» (пераклад С. Леўмана), вітанні трэцяму пленуму праўлення ССП СССР ЦК КП(б)Б, ЦК ЛКСМБ, асабіста М. Галадзеда, А. Чарвякова, паведамленне «Дзяржвыдавецтва Беларусі» і іншыя беларусазнаўчыя матэрыялы.

Трэці пленум праўлення СП СССР з'явіўся самым прадстаўнічым пісьменніцкім форумам пасля Першага з'езда савецкіх пісьменнікаў. «Ні да таго, ні пасля таго столькі славутых пісьменнікаў у Мінску не збіралася» (С. Грахоўскі). У працы пленума прымалі ўдзел 250 дэлегатаў з усіх саюзных рэспублік, у тым ліку такія вядомейшыя савецкія пісьменнікі, як К. Федзін, А. Новікаў-Прыбой, М. Ціханаў, Ус. Вішнеўскі, Б. Пільняк, А. Твардоўскі, М. Святлоў, А. Пракоф'еў, М. Асееў, М. Ісакоўскі, П. Тычына, М. Рыльскі, М. Бажан, У. Сасюра, І. Джансугураў, А. Такамбаеў, Х. Алімджан, Г. Абдуло, Н. Зар'ян і інш. Прысутнічалі і выступалі на пленуме рэвалюцыйныя пісьменнікі Захаду і Усходу Іаганес Бехер, Антал Гідаш, Гуга Гуперт, Бруна Ясенскі, Радуле Стыенскі, Лінард Лайцэн, Эмі Сяо. Толькі хвароба перашкодзіла прыехаць на пленум Максіму Горкаму і Дзям'яну Беднаму.

Максім Горкі ў сувязі з адкрыццём пленума прыслаў у Мінск дзве вітальныя тэлеграмы. «На жаль, Аляксей Максімавіч не можа прысутнічаць на пленуме,— сказаў, звяртаючыся да ўдзельнікаў пленума, Якуб Колас.— Але ён, Горкі, з намі, яго вялікі ўплыў адчуваецца ўсюды і заўсёды». Затым Якуб Колас зачытаў тэлеграмы. Паколькі яны невядомыя нават многім гісторыкам літаратуры (іх няма, у прыватнасці, у зборніку «Максім Горкі і Беларусь», 1968 г.), прывяду іх цалкам. Вось першая тэлеграма: «Горячо приветствую товарищей. Желаю успеха работе пленума. Сожалею, что не могу быть вместе с Вами. М. Горький. Форос. 9.2.36 г.» («Литературная газета», 1936, 10 февраля). Другая тэлеграма адрасавана старшыні ЦВК БССР А. Чарвякову: «Минск, председателю ЦИК — Червякову. К сожалению, приехать не могу, прошу передать товарищам — литераторам Советской Белоруссии — мой горячий привет. Жму руку. Максим Горький» («Рабочий», 1936, 11 февраля).

Што да Д. Беднага, то ён завочна вітаў пленум арыгінальным вершаваным пасланнем «Першае слова» (дарэчы, таксама малавядомым сёння), у якім прызнаваўся ў любові да беларускіх паэтаў, да самой Беларусі, прыгадваў сваю першую сустрэчу з «белорусскими певцами» ў час вызвалення БССР ад легіёнаў Пілсудскага ў 1920 годзе:

Через Минск шли части фронтовые,
На панов шли красные бойцы.
Я тогда увидел вас впервые,
Белорусские певцы.
Не забыть мне кипы книжных связок
Белорусского письма.
От легенд от ваших и от сказок
Я тогда сходил с ума.

Нынче жизнь все сказки перекрыла,
Бодрый гул идет со всех концов.
И летит — звонка и быстрокрыла —
В красный Минск семья родных певцов
Из Москвы, из Киева, Казани,
Из Тифлиса и Баку,
Сходных столь по духу их писаний,
Разных столь по языку...

Трэці пленум СП СССР сярод такіх жа пісьменніцкіх форумаў 1930-х гг. вылучаецца сваім творчым характарам. Мы ведаем шэраг знакамітых даваенных пленумаў, прысвечаных юбілейным датам: 100-годдзю з дня смерці А. Пушкіна і 750-годдзю «Віцязя ў тыгравай шкуры» (1937), 125-годдзю з дня нараджэння Т. Шаўчэнкі і 1000-годдзю армянскага эпаса «Давід Сасунскі» (1939) і інш. Пленум 1936 года, у адрозненне ад іх, быў рабочым пленумам, пад час якога на аснове аналізу стану беларускай і башкірскай літаратур (даклады М. Клімковіча і А. Тагірава), рускай, украінскай і беларускай паэзіі (даклады А. Суркова, А. Сенчанкі і А. Александровіча) ставіліся і рашаліся праблемы ўсесаюзнага значэння, прагназіраваліся шляхі далейшага развіцця ўсёй савецкай літаратуры.

Востра былі пастаўлены ў дакладах пытанні павышэння ідэйна-мастацкага ўзроўню паэзіі, яе народнасці і партыйнасці, сувязі з фальклорам, гаварылася пра характар паэтычнай мовы, якасць паэзіі, запатрабаванні новага савецкага чытача. Не абышлося, праўда, без пэўных «перахлёстаў», беспадстаўных абвінавачванняў. Так, даклад М. Клімковіча пра беларускую літаратуру быў цалкам вытрыманы ў духу сталінскага тэзіса пра абвастрэнне класавай барацьбы па меры разгортвання пабудовы сацыялізму. У ім усе пісьменнікі расстаўляліся па абодва бакі барыкад, дзяліліся выразна на «белых» і «чорных». А. Александровіч агулам ганіў «нацдэмаў» — членаў былых літаратурных аб'яднанняў «Узвышша» і «Полымя», прыпісваў ім розныя неіснуючыя памылкі, супрацьпастаўляў ім маладнякоўцаў. Думаецца, апрача ўсяго, і даклады Клімковіча і Александровіча меў на ўвазе М. Асееў, калі ў сваім выступленні прыгадаў Максіма Горкага:

«Я думаю, выдатныя словы Горкага пра тое, што мы навучыліся добра ненавідзець адзін аднаго і дрэнна ненавідзець ворага, павінны быць прыняты пад увагу на пленуме. Мы павінны дружыць адзін з адным, дружыць — не чай піць хадзіць адзін да аднаго, а сачыць з трывогаю за ўдачамі і няўдачамі, якія ёсць у кожнага». Словы гэтыя былі сустрэты апладысментамі.

Пленум і стаў найперш выявай горкаўскай ідэі дружбы савецкіх літаратур, выдатнай формай узаемаазнаямлення пісьменнікаў з творчасцю адзін аднаго, іх узаемнага ідэйна-мастацкага ўзбагачэння. На пленуме, апрача рускай, беларускай, башкірскай і ўкраінскай літаратур, вялася зацікаўленая гаворка і пра іншыя, у той час малавядомыя літаратуры: абхазскую, карачаеўскую, каракалпакскую, нянецкую і інш. Знамянальна, што пра гэтыя і іншыя літаратуры гаварылі не толькі прадстаўнікі саміх літаратур, але і іншанацыянальныя пісьменнікі, перш за ўсё рускія. Так, казахскую паэзію цікава разглядаў У. Раждзественскі, башкірскую — В. Інбер, калмыцкую — А. Ісбах, узбекскую — В. Гусеў, нянецкую — А. Смірноў, літаратуры народаў Запаляр'я — А. Міронаў. Шэраг выступленняў былі прысвечаны літаратурным узаемасувязям, пытанням мастацкага перакладу. Пра гэта гаварылі, у прыватнасці, М. Бажан, М. Ціханаў, Т. Табідзе. Незаменная роля перакладу ў літаратурным і грамадскім жыцці краіны была падкрэслена і ў рэзалюцыі пленума: «Перакладчыцкая праца, што разгарнулася пасля з'езда, з'явілася фактарам агромністага культурна-рэвалюцыйнага значэння, яна ўмацоўвае дружбу народаў... Пленум даручае ССП пашырыць перакладчыцкую працу, звярнуўшы асаблівую ўвагу на якасць перакладаў, прыцягваючы да іх лепшых майстроў паэзіі, прозы і драматургіі». Дарэчы, пленум праходзіў неўзабаве пасля ўсесаюзнай нарады перакладчыкаў, што адбылася ў Маскве па начатку студзеня 1936 года. Ён, такім чынам, афіцыйна ўзаконьваў многае з таго, пра што вялася гаворка і да пленума, і на самім пленуме.

На працу пленума непасрэдна і апасродкавана аказвалі ўплыў розныя падзеі ўнутрысаюзнага і міжнароднага культурнага і палітычнага жыцця. На Захадзе падняў галаву фашызм, да ўлады дарваўся Гітлер... Вялася вострая барацьба з «трацкісцкім ухілам» у партыі, якая суправаджалася масавымі рэпрэсіямі, у тым ліку — і сярод пісьменнікаў... Пачыналася вострая дыскусія пра фармалізм у савецкім мастацтве... Толькі што прагучалі вядомыя словы Сталіна пра У. Маякоўскага як найвялікшага паэта савецкай эпохі... Культ Сталіна, абагаўленне правадыра, пошукі і выкрыццё «ворагаў народа» набліжаліся да свайго апагея... Усе гэтыя і некаторыя іншыя акалічнасці прадвызначылі і тэматыку, і праблематыку, і асноўны пафас асобных выступленняў, сам настрой пленума, гутаркі ў кулуарах.

Фашызм — гэта пагібель культуры. Такая думка выразна прагучала з вуснаў І. Бэхера, А. Гідаша, Б. Ясенскага, некаторых іншых, як зарубежных, так і савецкіх удзельнікаў пленума. «За

Маякоўскага!» — так можна выказаць пафас выступленняў М. Галоднага, Д. Алтаўзена, І. Харыка. За народнасць, высокую прастату паэзіі стаялі С. Чыкавані і А. Пракоф'еў. З фармалізмам актыўна змагаліся А. Безыменскі і А. Селіванаўскі. Пошукі арганічнай формы верша адстойвалі Б. Пастарнак і М. Рыльскі. «Здаровай» крытыкі патрабаваў таджыкскі пісьменнік Г. Абдуло. «Створым вобраз нашага правадыра!» — заклікаў армянскі паэт Н. Зар'ян. Паэзію і прозу ў іх узаемадзеянні разглядаў К. Федзін. Лірыку як род літаратуры і яе творчыя магчымасці аналізаваў А. Жараў. Цікавыя, часам спрэчныя думкі змяшчалі выступленні М. Святлова, М. Алігер, І. Уткіна, С. Кірсанава, К. Зялінскага, П. Маркіша і многіх іншых аратараў.

Неаднойчы на пленуме з пачуццём глыбокай павагі вымаўлялася імя Барыса Пастарнака — і як выдатнага арыгінальнага паэта, і як цудоўнага перакладчыка грузінскай паэзіі на рускую мову. Калі А. Безыменскі ў сваім прэтэнцыёзным выступленні «У імя бальшавіцкай дружбы» раскрытыкаваў паэта за «фармалізм», «безыдэйнасць», «адарванасць ад жыцця», то за яго заступіліся многія, і найперш — грузінскія літаратары. Т. Табідзе, у прыватнасці, заклікаў аратара пайсці следам за Б. Пастарнакам, М. Ціханавым і іншымі, хто пераўвасабляе іншанацыянальную паэзію сродкамі рускага слова, і на справе даказаць адданасць ідэям дружбы народаў. Гэта значна важней, чым простая «дэкларацыя пра паэтычную інтэрнацыянальнасць». Апрача Т. Табідзе, за Пастарнака заступіліся рускія літаратары Д. Мірскі і Я. Мустангава.

Асаблівае значэнне меў пленум для Беларусі, яе літаратуры і культуры, для разгортвання сувязей паміж беларускай і іншымі савецкімі літаратурамі, для інтэрнацыянальнага выхавання працоўных рэспублік. У падрыхтоўцы да пленума і ў яго працы ўдзельнічалі многія партыйныя і дзяржаўныя органы, установы культуры і навукі. Пленум віталі старшыня Саўнаркома БССР М. Галадзед, старшыня ЦБК БССР А. Чарвякоў. З паэтычным вітаннем «Прывет вам...» выступіў Янка Купала:

Прывет вам, вольныя паэты!
Вітае вас і мал, і стар.
Нясіце ж ленінскім заветам
Свой шчыры песень вашых дар!

Каб праз вякі вясной распетай
Дум нашых сказы ў свет ішлі...
Прывет вам, вольныя паэты,
На беларускае зямлі!

Дзяржаўнае выдавецтва БССР падрыхтавала для ўдзельнікаў пленума 250 бібліятэчак з твораў пісьменнікаў рэспублікі. Госці Мінска сустракаліся з рабочымі і інтэлігенцыяй горада, выязджалі ў іншыя беларускія гарады, у калгасы. Перыядычны друк аператыўна і ўвогуле поўна асвятляў працу пленума. Дастаткова сказаць, што «Литературная газета» ў дні пленума выходзіла ў сталіцы нашай рэспублікі, прычым выпускалася не два разы на тыдзень, як раней, а праз дзень. Што да «Літаратуры і мастацтва», то яна друкавалася штодня. Пленум абслугоўвала значная група карэспандэнтаў (у тым ліку фотакарэспандэнтаў) цэнтральных і мясцовых выданняў, радыё. На ім актыўна працавалі Кукрыніксы, якія ў кожным нумары «Литературной газеты» змяшчалі дасціпныя шаржы на вядомых пісьменнікаў, у тым ліку на Янку Купалу, Якуба Коласа, М. Асеева, М. Святлова, Б. Пастарнака, П. Тычыну, Н. Зар'яна і інш.

На пленуме з прамовамі выступіла нямала беларускіх пісьменнікаў — Якуб Колас, Кузьма Чорны, М. Лынькоў, П. Галавач, П. Броўка — якія дапоўнілі, канкрэтызавалі і ў тым-сім паправілі развагі М. Клімковіча і А. Александровіча. Якуб Колас, у прыватнасці, узняў пытанне, якое актуальнае і сёння: выкладанне літаратуры ў школе. «Да гэтага часу,— падкрэсліў пясняр,— школа не здолела зацікавіць, захапіць чароўнасцю сапраўднай паэзіі сваіх гадаванцаў. Мала таго, наша школа не паведамляе дзецям нават элементарных асноў паэтычных ведаў, не раскрывае спецыфікі паэтычнага твора. Што да школ БССР, то тут справа гэта пастаўлена зусім дрэнна. Дастаткова сказаць, што падручнікі па літаратуры начыстую адсутнічаюць».

Ацэнка дасягненняў беларускага мастацкага слова была дадзена і літаратарамі з другіх рэспублік. І ацэнка, трэба думаць, найбольш аб'ектыўная. Так, пра беларускую літаратуру з веданнем справы гаварылі рускі У. Бахмецьеў, армянін Н. Зар'ян, грузін Б. Буачыдзе, казах І. Джансугураў. Вядомы польскі пісьменнік Б. Ясенскі, які ў тыя гады жыў у эміграцыі ў СССР, расказаў, як улады белапанскай Польшчы праследуюць беларускую культуру і літаратуру, прывёў цытату з газеты «Вядомосьці літэрацке», дзе чорным па белым было сказана: «беларуская культура і беларуская мова — выдумка». Некаторыя з прамоўцаў, што гаварылі пра справы, далёкія ад беларускай літаратуры, усё ж лічылі патрэбным на пачатку свайго выступлення выказаць пачуццё павагі да гаспадароў пленума, да зямлі, на якой гэты пленум адбываўся. М. Асееў, напрыклад, пачаў прамову з выказвання адносін да творчасці У. Хадыкі: «Калі я чытаю верш Уладзіміра Хадыкі «Пры святле тваіх усмешак», я чую, у ім гучаць нейкія магчымасці абнаўлення маёй мовы новымі паэтычнымі

сродкамі». Такая падтрымка вядомага рускага паэта мела для У. Хадыкі вялікае значэнне, бо на яго ўжо ў той час пачалося паляванне вульгарна-сацыялагічнай крытыкі. Б. Пастарнак таксама загаварыў пра свае цёплыя адносіны да беларускай паэзіі: «Таварышы, я гэтак жа ўсхваляваны, як і ўсе аратары, што выступалі да мяне. Я магу сказаць, што больш за ўсіх адхваляваўся за мяне Асееў, калі гаварыў пра Беларусь, пра беларускую паэзію, калі ён гаварыў пра тую радасць, якую прыносіць блізкасць моў. Я ехаў сюды, галоўным чынам радуючыся будучай сустрэчы з Якубам Коласам, з Янкам Купалам, з Александровічам. Я абмяжуюся цяпер толькі тым, што прынясу ім сардэчную падзяку за іх існаванне (апладысменты), за тое, што яны такія чыстыя, сапраўдныя».

У час працы пленума ў беларускім друку публікаваліся шматлікія пераклады твораў (у асноўным паэтычных) многіх пісьменнікаў розных нацый, у асноўным — удзельнікаў пленума. Некаторыя вершы, прысвечаныя Беларусі, былі напісаны ў тыя памятныя дні. Сярод іх — «Прывет Беларусі» І. Джансугурава, «Беларусі» У. Сасюры, якія ў перакладзе М. Хведаровіча тады ж змясціла беларуская перыёдыка. Разам з тым пленум ажывіў цікавасць да беларускай літаратуры літаральна ва ўсіх рэспубліках Савецкага Саюза і нават за мяжою (звесткі пра пленум публікаваліся і ў замежным друку). Нараджаліся новыя міжлітаратурныя сувязі, узнікалі першыя непасрэдныя кантакты паміж беларускай літаратурай і літаратурамі шэрагу народаў Сярэдняй Азіі, Закаўказзя, Сібіры і Далёкага Усходу.

Без перабольшання можна сказаць: не было дня, каб на пленуме з любоўю і ўдзячнасцю не вымаўлялася імя Максіма Горкага. Перад самым закрыццём пленума яго ўдзельнікі паслалі ў Крым, дзе ў той час лячыўся пісьменнік, калектыўную тэлеграму. «Дарагі Аляксей Максімавіч! — гаварылася ў ёй.— Трэці пленум праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў, які сабраўся ў сталіцы ардэнаноснай Савецкай Беларусі, шле Вам гарачае сардэчнае прывітанне. У адной з сваіх гутарак у час усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў Вы гаварылі нам аб неабходнасці больш цеснай узаемнай творчай сувязі паміж пісьменнікамі ўсіх народаў Савецкага Саюза. Мы працавалі над ажыццяўленнем гэтай Вашай ідэі, і Вось наш пленум з'яўляецца сапраўднай дэманстрацыяй дружбы пісьменнікаў народу вялікага Саюза».

Яшчэ адным праяўленнем дружбы літаратур, змацаванай тыднёвай працай пленума, з'явілася своеасаблівая кніга пісьменніцкіх наказаў воінам-пагранічнікам (не забудзем, што пленум праходзіў за трыццаць кіламетраў ад мяжы з капіталістычным светам). Кнігу ў

выглядзе багата ілюстраванага партрэтамі пісьменнікаў альбома ўзяўся выдаць Асаавіяхім БССР. У беларускім друку з'явіліся ўрыўкі з гэтай арыгінальнай кнігі — паэтычныя экспромты М. Асеева, А. Гідаша, Эмі Сяо, М. Ціханава, А. Пракоф'ева, І. Сяльвінскага, П. Броўкі, А. Александровіча, празаічныя запісы Б. Пастарнака, П. Панча, Т Табідзе і інш. Вось некалькі запісаў з гэтага ўнікальнага выдання, якое, на жаль, так і не ўбачыла свет (пераклад з рускай мовы М. Хведаровіча):

Ты разумееш ў кулях толк,
Бі воўка трапнай куляй,
Якое б масці ні быў воўк,
Што йдзе да нас разгульваць.
*М. Ціханаў*

Нам век не забыць, як ішла адвага,
Як слава ўпала на кавылі
І ўсе баі пад чырвоным сцягам,
А іх нямала мы правялі.
*А. Пракоф'еў*

Ганаруся правам запісу ў гэтую кнігу і спадзяюся заслужыць гэты гонар. Прывітанне! Вы — цела ад нашага цела і крылатая наша гордасць.

Б. Пастарнак

Як Варашылаў — так страляць!
Ніхто не будзе болей страшны.
Я гэту кнігу рад вітаць
Па ўсіх граніцах нашых.

П. Броўка

Яшчэ ворагі зброю куюць —
Да адпору наш край гатоў.
Ён не раз за свабоду сваю
Праліваў тут гарачую кроў.
Трэба памятаць вам адно:
Яшчэ будзе рашучы бой,
А таму і ўночы і днём
Вы пільнуйце тут захад свой.
*І. Джансугураў*

Набліжэнне рашучай схваткі з фашызмам інтуітыўна адчувалі, лагічна прадбачылі многія тагачасныя пісьменнікі — удзельнікі пленума. Гэты матыў — і ў арыгінальным, не пазбаўленым фармальных пошукаў вершы І. Сяльвінскага «Варашылаўка», упісаным у кнігу:

Вінтоўка мая,
Варашылаўка,
З паперы мішэнь
Варушы лоўка.
Вінтавая мая,
№ 1000,
Ты бяры добра
І не тычыся.
Можа, пройдзе маёй
Стараной вайна,
Будзь гатова на бой,
Варанёная.
Будзь гатова на бой
З усёй сілаю,
Я затое цябе мілую,
Маю мілую.
У мяне для цябе
Ёсць суконца,
Рана-ранењка
Заблішчы, як сонца.
Там маслёнка ў мяне
Па-за полкаю,
Каб пела куля ў полі
Перапёлкаю...
Ты, вінтовачка, вінтоўка
Наша, свойская!
Вінтавая,
Баявая,
Камсамольская!
Агнявы дымок
Раздзьмуй пяром,
Вучыся, вучыся —
Будзеш снайперам.
Палёў і заводаў
Па старонцы —
Ты працоўных
Абаронца.
Э-эх, мая
Варашылаўка —
Ворага ў баю
Палажы лоўка!

Усе гэтыя творы вядомых савецкіх паэтаў, што засталіся толькі ў беларускіх перакладах і ўпершыню зараз перадрукоўваюцца,— не толькі сведчанне свайго часу, невядомая дагэтуль старонка беларуска-рускіх літаратурных сувязей. Яны даносяць і водар таго

паветра, якім дыхаў пісьменніцкі пленум. Паветра, што ўжо азаніравалася надыходзячай навальніцай...

Пра значэнне Трэцяга пленума Саюза пісьменнікаў СССР у гісторыі савецкай шматнацыянальнай літаратуры добра сказаў М. Ціханаў: «Сяброўскія сустрэчы, пастаянныя гутаркі зблізілі нас, многае растлумачылі, стварылі абстаноўку, пры якой паэты змаглі ўбачыць сябе ў сапраўднасці, а не ва ўяўленні. Асабліва выразна на пленуме высветлілася, што нарэшце ўпала сцяна, якая раздзяляла нацыянальныя атрады, гэта сцяна маўчання перастала існаваць».

Сказана гэта было непасрэдна пасля пленума. Увогуле правільна сказана. Але, як паказаў час, занадта аптымістычна. Бо ўжо літаральна праз год «сцяна маўчання» паміж асобнымі атрадамі савецкіх пісьменнікаў пачала ўзнікаць зноўку: многія літаратары, што былі ўдзельнікамі пленума, вымушаны былі ў 1937 годзе замаўчаць на працяглы час, а некаторыя — і на ўсё жыццё. Аднак тыя пісьменнікі, якія пазбеглі сталінскіх рэпрэсій, імкнуліся і ў самых неспрыяльных абставінах «дакрычацца» адзін да аднаго, намагаліся не парываць тых вузаў братэрства, што былі моцна «завязаны» на тым Трэцім, на тым паэтычным пленуме Саюза пісьменнікаў СССР...

## ВЯРТАННЕ МЕТЭОРА

Імя ўкраінскага паэта Грыцька Аўрамавіча Чупрынкі (1879-1921) да нядаўняга часу мала што гаварыла не толькі беларускаму, але і ўкраінскаму чытачу. І не дзіва. Пісьменніка з пачатку 30-х гг. зусім не друкавалі, яго не прынята было (дакладней: нельга было) згадваць нават у самых поўных бібліяграфічных даведніках. Прысуд, здавалася, безапеляцыйны і канчатковы: Чупрынкі не было, няма і быць не можа.

Аднак свежы вецер перамен уварваўся і ў рэзервацыю раней забароненых асоб, тэм, праблем. Сёння сумленны гісторык літаратуры не можа не ўбачыць і палымянай любові Чупрынкі да роднага краю, і актыўнага ўдзелу ў барацьбе супраць царскага ўрада, які неаднойчы знявольваў паэта, як, з другога боку,— і пэўнай класавай слепаты яго, палітычнай неразборлівасці. Апошняе, уласна, і прычынілася ў пачатку неміласэрных 30-х гг. да поўнага замоўчвання Чупрынкі, аўтара больш чатырохсот вершаў і паэм, звыш двух дзесяткаў літаратурна-крытычных артыкулаў і рэцэнзій, што змяшчаліся на старонках украінскай перыёдыкі, склалі зборнікі «Метэор», «Агняцвет»,

«Ураган» (1910), «Белы гарт» (1911), «Сон-трава», «Кантрасты» (1912), «Рыцар-Сам» (1913), тры тамы выбранай паэзіі (1918).

Наш час, час перабудовы грамадскага жыцця і грамадскай псіхалогіі, становіцца найбольш аб'ектыўным летапісцам. Краіна вяртае сваім народам яе таленавітых сыноў і дачок, творчасць якіх узбагачае не толькі нацыянальны, але і ўсесаюзны культурны фонд.

Ва ўкраінскай перыёдыцы з'явіліся афіцыйныя паведамленні, што том Выбраных твораў Чупрынкі выходзіць у свет. А штотыднёвік «Літературна Укра'іна» (1988, № 30) надрукаваў вялікі, сумленна напісаны артыкул пра пісьменніка доктара філалагічных навук, дырэктара Інстытута літаратуры імя Тараса Шаўчэнкі АН Украіны Міколы Жулінскага (разам з публікацыяй некаторых вершаў Чупрынкі). Літаратуразнавец, падрабязна разгледзеўшы ўсе даступныя сёння друкаваныя і архіўныя матэрыялы, звязаныя з жыццём і творчай дзейнасцю Чупрынкі, прыходзіць да вываду: «У яго вершах і рэцэнзіях не знаходзім і радка, які б сведчыў пра варожае стаўленне мастака да Савецкай улады, ленінскіх ідэй». Што да расстрэлу яго органамі ЧК, то ў гэтым хутчэй за ўсё выявілася «трагічная выпадковасць», якая ў тых складаных умовах грамадзянскай барацьбы здаралася не так ужо і рэдка. Згадаем хаця б лес вядомага рускага паэта Мікалая Гумілёва...

Ведучы гаворку пра Чупрынку пасля шасцідзесяцігадовага маўчання, нам, беларусам, ёсць, на шчасце, што ўспомніць. Так, на самай зары XX стагоддзя з украінскім паэтам падтрымліваў сяброўскія адносіны Сяргей Палуян. Што магло зблізіць іх, далёка не равеснікаў? (Сяргей быў маладзейшы за свайго пабраціма аж на адзінаццаць гадоў.) Відавочна, адзінства палітычных поглядаў (абодва яны ўдзельнічалі ў падпольнай рабоце РСДРП), блізкасць літаратурных упадабанняў, сумесная праца ў кіеўскім часопісе «Українська хата» з самага яго заснавання ў 1909 годзе. Вельмі шмат кажа такі факт: беларускі і ўкраінскі пісьменнікі настолькі здружыліся, што вырашылі разам падвесці рысу пад сваімі жыццямі. Вядомы вучоны-мовазнавец і літаратар прафесар П. Бузук, які многае ведаў пра беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемаадносіны, і зусім не па чутках (украінец, ён у 20-я гг. пераехаў у Мінск на выкладчыцкую працу ў БДУ), пісаў у 1928 годзе: «Сябраваў Палуян з маладым украінскім паэтам Чупрынкам, сумесна з якім быццам бы даў абяцанне ліквідаваць рахункі з жыццём. Гэта абяцанне Палуян і выканаў шчыра...» На жаль, у С. Палуяна не знайшлося маральнай і матэрыяльнай апоры ў тых невыносных умовах, у якіх ён апынуўся. У Чупрынкі такая апора знайшлася — найперш у асобе нечаканага

добразычліўца Алексы Каваленкі, які сабраў у перыёдыцы і выдаў за свой кошт усе творы паэта. Гэта, відаць, і ўтрымала яго ад самагубства ў тым ракавым 1910 годзе, дазволіўшы пражыць яшчэ адзінаццаць цяжкіх, складаных, але і пленных гадоў.

Зусім магчыма, што якраз С. Палуяна меў на ўвазе Чупрынка ў сваім вершы «Над магілаю таварыша», што выявіў у архіве і ўпершыню апублікаваў М. Жулінскі. Вось гэты верш-прызнанне, верш-развага:

Промов мені з ями, товарищу щирий,
Чи варто триматись тепер
Святоі', палко'і й могутньоі' віри,
З якою ти жив і помер?

Промов мені щиро з довічно'і хати,—
Чи варто за неі' вмирать,
Чи, може, з одчаю іти в ренегати
І в зраді інакших богів вибирать?

Бо ми вже блукаем без волі, без сили,
З залишками віри колишних борців,
Мов трупи живиі' без смерти й могили,
І просим поради собі у мерців.

Я знаю, що віри тому вже не треба,
Хто, наче снохода, блукае у млі...
Та як же так линуть і линуть до неба
І трупом нікчемним сховатись в землі?..

Ёсць падставы верыць, што менавіта С. Палуян пазнаёміў з Чупрынкам Янку Купалу і Максіма Багдановіча — сваіх блізкіх таварышаў, паплечнікаў на ніве нацыянальнага адраджэння. Жывучы ў Кіеве і ўдзельнічаючы ва ўкраінскім літаратурна-грамадскім жыцці, С. Палуян меў магчымасць назіраць літаральна за першымі літаратурнымі крокамі Чупрынкі, які 13 мая 1907 г. у газеце «Рада» апублікаваў свой першы верш на ўкраінскай мове «Мая кобза». Не ўлічваючы ранняй добразычлівай «падказкі» С. Палуяна, цяжка зразумець творчы выбар Янкі Купалы, які яшчэ ў 1908 годзе пераклаў — разам з некаторымі творамі Т. Шаўчэнкі — два вершы Чупрынкі. Першы верш — «Песняру» — мае выразна праграмны характар:

Эй, ўжо годзе песень маркотных, пясняр!
Дай волю парывам гарачым,
Вясёлым, прывабным, як сонейка жар,
Каб бліснула яснасць і спячым!

Каб бліснулі іскры ў прытухшых вачах
І вечнай свабоды раздолле,
Каб кожны пачуў сваю сілу ў плячах,
Каб кожны забыў аб нядолі!

Каб хлынула полымя праўды з грудзей,
Што ў думках здаўна мы гадуем;
Старым і малым такой песняй запей,—
Хоць раз хай аб шчасці пачуем.

Другі верш Чупрынкі (без назвы), які пераклаў на беларускую мову Янка Купала,— таксама грамадзянскага гучання і таксама пра прызначэнне паэта і паэзіі. Дарэчы, такіх твораў у Чупрынкі, які «імкнуўся лепш адмежавацца ад драматычных супярэчнасцей жыцця, чым унікаць у іх і ў меру сваіх сіл гарманізаваць» (М. Жулінскі), не так ужо і шмат. Таму прыемна ўражвае такі Купалаў (Палуянаў?) выбар твораў для перакладу.

Вось гэты пераклад:

Не каханак чарнавокіх,
Што скрозь сеюць дзіўны чар,—
Я — пясняр стэпоў шырокіх,
Краю вольнага пясняр!

Той, хто волю занядбае,
Хоць у золаце хай спіць,
Хоць царэўну хай кахае,
А не будзе ў шчасці жыць.

Хто забудзе край свой родны,
Аб такім так і пішы:
Ён, як дрэва корч нягодны,—
Ні ў ім сэрца, ні душы.

Чыім краем не шамоча
Ні няволя, ні бяда,
Хай жыве, як сабе хоча,—
Хоць як труцень, як нуда.

Хто ж маўчыць, чый край без волі
Стогне ў горы сіратой,—
Той благое зелле ў полі,
Між людзьмі скаціна той.

Упершыню купалаўскія пераклады вершаў Чупрынкі былі апублікаваны ў «Полымі» ў 1930 годзе (№ 5-6). Чаму яны не былі надрукаваны ў дарэвалюцыйны час? Цяжка сказаць. У зносцы да

палымянскай публікацыі (а ўся яна складалася з многіх арыгінальных і перакладных вершаваных тэкстаў) сам Янка Купала ўказваў, што творы, якія друкуюцца, выпадкова зберагліся ў прыватным архіве, яны ў свой час не маглі ўбачыць свет у асноўным па цэнзурных меркаваннях. Другі (і апошні) раз беларускія варыянты вершаў Чупрынкі з'явіліся на старонках друку ў 1932 годзе — у шостым томе Збору твораў Янкі Купалы. Гэта быў час, калі імя Чупрынкі на Украіне ўжо або зусім не ўпаміналася, або згадвалася толькі ў адмоўным плане. Ці ведаў пра гэта народны паэт Беларусі? Думаецца, ведаў. Але, карыстаючыся недасведчанасцю мінскіх рэдактараў, усё ж уключыў пераклады вершаў Чупрынкі ў свой Збор твораў, не пабаяўся выклікаць магчымы гнеў Бэндэ і падбэнднікаў.

Я ўжо гаварыў, што, відавочна, С. Палуян зацікавіў Чупрынкам і М. Багдановіча. З часам гэта зацікаўленасць прывяла да глыбокага знаёмства з творчасцю ўкраінскага паэта-наватара, паэта-эксперыментатара, да грунтоўнага літаратурна-крытычнага прачытання амаль усяго яго творчага даробку. Максіму Багдановічу належыць вялікі артыкул «Грыцько Чупрынка». Напісаны ён сталаю рукою майстра ўсяго за год да яго смерці і апублікаваны ў двух нумарах маскоўскага рускамоўнага часопіса «Украинская жизнь» (1916, № 11 — 12). Паўторна ён друкаваўся ў 1928 годзе ў другім томе Багдановічавых «Твораў», якія даступныя сёння толькі апантаным бібліяфілам ды вучоным. Некалькі пакаленняў чытачоў, на жаль, пра гэта даследаванне літаральна нічога не ведалі, бо нават упамінанне публікацыі не прапускалася ў бібліяграфіі 30-х і пазнейшых гадоў. У той жа час артыкул «Грыцько Чупрынка», без перабольшвання, адносіцца не толькі да лепшых літаратурна-крытычных прац самога М. Багдановіча, але і да несумненных дасягненняў усёй беларускай дарэвалюцыйнай навукі пра літаратуру.

Да творчасці Чупрынкі М. Багдановіч падыходзіць з сацыяльна-эстэтычных пазіцый — традыцыйных пазіцый рускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай крытыкі, якія сталі для беларускага пісьменніка асноватворнымі. Трэба ўлічыць, што да часу напісання артыкула яго аўтар як паэт і крытык «перахварэў» ужо на пэўнае захапленне некаторымі «ізмамі» (мадэрнізм, сімвалізм) і прыйшоў да пушкінскай няпростай прастаты, арганічнай еднасці зместу і формы. Знаўца (а падчас і вучань) К. Бальмонта, А. Блока, І. Аненскага, П. Верлена, Ш. Бадлера, аўтар «Вянка» ў апошні перыяд сваёй творчасці ўжо не мог прыняць у прадстаўнікоў паэтычнага авангарда іх негатыўнага стаўлення да надзённых грамадскіх праблем і з'яў, да сацыяльнасці ў самым шырокім сэнсе. Адсюль — такая завельмі суровая, як на

сённяшняе наша разуменне, ацэнка творчасці Чупрынкі, які — разам з Міколам Вараным, Аляксандрам Алесем, Пятром Карманскім, Васілём Пачоўскім, Міколам Філянскім — запачаткоўваў ва ўкраінскай паэзіі, як тады пісалі, «новую эру, з філасафічна-этычным напрамкам, у вольнай, артыстычнай форме».

Аналіз пачынаецца з найбольш відавочнай прыметы чупрынкаўскай паэзіі — яе імклівага, заварожвальнага, вершастваральнага рытму. Прыгадаем, што М. Багдановіч быў увогуле нераўнадушны да рытму — і як паэт, і як вершазнавец. Ён не без падстаў лічыў, што «галоўным стваральным пачаткам усялякага верша, несумненна, варта прызнаць рытм; зацвярдзеўшы ў сваім найбольш правільным, закончаным выглядзе, ён ператвараецца ў метр. Усе астатнія элементы верша адыгрываюць у адносінах да таго і другога ролю другарадную, іншы раз — чыста службовую, дапаможную і ва ўсякім разе могуць быць зразумелыя і ацэненыя ў цеснай сувязі з імі абодвума» («Краса і сіла»). Аднак Багдановіч не быў бы Багдановічам, калі б, не аддаўшы належнае рытмічнай моцы паэзіі Чупрынскі, не перайшоў ад формы да зместу. Пры ўсім яго паважлівым стаўленні да формы, зместу твора ён заканамерна аддаваў перавагу. Прычым пад ім ён разумеў нешта іншае, чым укладвалі ў гэта разуменне многія тагачасныя (ды і сённяшнія) літаратуразнаўцы. «На наш погляд,— пісаў М. Вагдановіч у заўвагах да артыкула «У. Самійленка»,— пад зместам твора ў суб'ектыўным сэнсе трэба разумець ураженне, якое робіць дадзеная рэч; а ў аб'ектыўным сэнсе — сукупнасць элементаў, якія ствараюць гэта ўраженне. Для прысваення тэрміна «змест» выключна ідэалагічным элементам твора ці тым больш проста яго тэме не бачым ніякіх падстаў».

У артыкуле «Грыцько Чупрынка» М. Багдановіч раскрывае перад намі драму паэта, які аддаў перавагу форме твора, памяняў «выразнасць слова на выразнасць рытму і гука». Гаворачы пра вершы, што ўвайшлі ў зборнік Чупрынкі «Агняцвет», крытык падкрэслівае, што некаторыя з твораў «гавораць нам пра вартага чалавека, мужныя адносіны да навакольнага свету, апраўлены ў форму простую і суровую, але поўную энергіі», яны маглі б «стаць пачаткам шырокага і слаўнага паэтычнага шляху». Маглі б... Аднак змест «глушыўся і адмятаўся рытмам, што біў фантанам, і асаблівасцямі, звязанымі з ім». У выніку — «змазанасць, бледнасць і трафарэтнасць вобразаў, нехарактэрнасць характарыстык, недакладнасць выказванняў, аднастайнасць эпітэтаў».

М. Багдановіч не проста канстатуе факты, ён імкнецца ўстанавіць іх генезіс, унутраную сувязь, пранікнуць у сутнасць,

вызначыць прычыны з'явы. Галоўную «спружыну» ўсяго ён бачыць у светаадчуванні Чупрынкі, у прыналежнасці яго да той мастацкай плыні, якая супрацьпаставіла «ідэі сацыяльнасці ідэю асабістай аўтаномнасці і публіцыстыцы ў паэзіі — аўтаномнасць прыгажосці». Адрыў ад сацыяльнага, такім чынам, дэфармуе нават несумненныя эстэтычныя каштоўнасці, важкія знаходкі ў галіне формы ператварае ў пусты гук.

Трэба сказаць, што сёння, з вышыні часу, відаць: Чупрынка не быў «чыстым» авангардыстам, як гэта тады здавалася М. Багдановічу. Ён не раз зазіраў і ў свет рэальных праблем, сацыяльных і нацыянальных, і не толькі ў першы, найбольш заземлены, перыяд сваёй творчасці. Безумоўна, можна пагадзіцца з М. Жулінскім, што хутчэй за ўсё «гэта паэт пераходнай эпохі — ад класічных традыцый украінскай паэзіі, якую ён асэнсаваў, працягваў і развіваў у абноўленых формах і рытмах, да новай паэтыкі, якая знойдзе сваё выяўленне ў паэзіі ўкраінскага неарамантызму з яе імпрэсіяністычнымі, сімвалістычнымі і экспрэсіяністычнымі вобразна-стылявымі плынямі». І ў гэтым — галоўная мастацкая непаўторнасць і каштоўнасць творчасці паэта, без якой немагчыма прасачыць эвалюцыю ўсёй украінскай паэзіі пачатку XX стагоддзя, стварыць яе аб'ектыўны летапіс.

Беларускі крытык лічыў, што Чупрынка свой «творчы шлях прайшоў да канца». Але апошнюю кропку на яго творчай эвалюцыі ён не ставіў. Па-першае, гэты шлях «пройдзены як нікім іншым і пройдзены не бясслаўна, не бескарысна». Па-другое, «скончаны шлях, але ж не вычарпаны талент!». І М. Багдановіч накрэслівае для Чупрынкі магчымасць узыходжання на новы круг паэтычнай творчасці. Нават па-сяброўску падказвае накірунак: «Змест можна паглыбіць і пашырыць, можна стварыць для яго новыя прыёмы, новыя сродкі мастацкага ўздзеяння — толькі б не паміраў дух пошукаў, не вычэрпваліся творчыя сілы».

Усё гэта было сказана ў 1916 годзе, напярэдадні грозных падзей, грамадскіх катаклізмаў эпахальнага значэння. Бурлівае жыццёвае мора падхапіла і Чупрынку. Хвалі надзей пачалі кідаць яго, як саломіну, з боку ў бок, біць аб скалы суровай рэальнасці, пакуль у 1921 годзе пад адным з буруноў ён не знік з вачэй назаўсёды. Выратавальны круг чыстага мастацтва, «святой красы», аказаўся занадта нямоцным, каб утрымаць паэта на паверхні...

Сёння, калі «шэраг цудоўных старонак», падораных Чупрынкам украінскай паэзіі, вяртаецца да чытача, глыбокі, добрасумленна-прафесійны аналіз яго творчасці, праароблены калісьці М.

Багдановічам, можа саслужыць добрую службу дзеля творчай рэабілітацыі ўкраінскага паэта, усталявання аб'ектыўна-цвярозага, без перабораў у той ці іншы бок, погляду на ягоную творчасць, дзеля далейшага развіцця беларуска-ўкраінскіх літаратурных узаемаадносін.

У прадмове да кнігі «Метэор» (1910) А. Каваленка ўжыў яскравую вобразную аналогію: «Паэзія Чупрынкі — гэта метэор на небасхіле ўкраінскай паэтычнай ночы!..» Годам раней з метэорам-знічкай параўнаў пісьменніцкі лёс Сяргея Палуяна М. Багдановіч. Сёння пісьменнікі-пабрацімы, і адзін і другі, вяртаюцца да нас. Бо, як сказаў наш славуты паэт: «Усё праходзіць, знікае як дым. Светлы ж след будзе вечна жывым».

## ДЫЯЛОГ ДРУЖБЫ

Як бяжыць час!

Здаецца, толькі ўчора мы з украінскім паэтам Раманам Лубкіўскім атрымалі ад львоўскага часопіса «Жовтень» (цяпер ён называецца «Дзвін») запрашэнне на гутарку пра беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемасувязі. Гутарка прымяркоўвалася (і была змешчана ў часопісе) да 60-годдзя з дня ўтварэння СССР. А вось прайшло ўжо цэлых дзесяць гадоў!

Нядаўна перачытаў нашу колішнюю гутарку, названую «Дыялогам дружбы». Падалося: асноўныя моманты яе не ўстарэлі, могуць зацікавіць чытачоў і сёння.

А дно — трэба помніць пра час яе з'яўлення: 1982 год.

Вось пра што тады думалася, што гаварылася.

*Р. Лубкіўскі.* Мне прыемна весці гэтую размову з Вамі, Вячаслаў Пятровіч... Вось перада мной на стале адна з апошніх Вашых кніг — «Напісана рукой Купалы». Гэта — цудоўны падарунак да Купалавага юбілею. А наогул, 100-гадовы юбілей Купалы, які па рашэнні ЮНЕСКА адзначаўся ва ўсім свеце, стаіць паміж двума славутымі юбілеямі. Першы — 1500-годдзе Кіева, гістарычнай калыскі трох братніх народаў — рускага, украінскага і беларускага. Другі — 60-годдзе ўтварэння Саюза ССР. Якая глыбінная сувязь паміж гэтымі падзеямі! Знамянальна, што пад час сёлетняга шаўчэнкаўскага літаратурна-мастацкага свята «У сям'і вольнай, новай», у якім актыўны ўдзел прыняла і беларуская дэлегацыя на чале з першым сакратаром праўлення СП БССР Нілам Гілевічам, у Кіеве адбылося

пасяджэнне Сакратарыята Саюза пісьменнікаў Украіны, прысвечанае 1500-годдзю Кіева. Усхвалявана прагучалі на ім сновы Ніла Гілевіча: «У сэрцы кожнага беларуса Кіеў заўсёды выклікаў і выклікае пачуцці асабліва цёплыя, светлыя, хвалюючыя. Гэта і зразумела, бо гісторыя беларускага народа самым цесным чынам перапляласся з гісторыяй украінскага і на гэтым непадзельным гістарычным шляху, на ўсіх перакрыжаваннях часу і падзей заўсёды ўзнікаў Кіеў...

Можна смела сцвярджаць, што для беларусаў Кіеў — горад гэтаксама свяшчэнны, як Масква, Ленінград, ён асвечаны вякамі дужа дарагіх для нашага сэрца традыцый. Кіеў мы ўспрымаем як адно з самых прыгожых жывых увасабленняў нашай усходнеславянскай гісторыі, тут мы бачым яе глыбокія сляды, тут мы дыхаем паветрам гісторыі, найсаладзейшым паветрам братэрства».

*В. Рагойша.* Вы, Раман Мар'янавіч, вельмі дарэчы пачалі размову з гэтых велічных гістарычных дат. Кіеўская Русь — наша агульная ўсходнеславянская прабацькаўшчына. Уладзімір Ільіч Ленін указваў на духоўную роднасць рускага і ўкраінскага народаў, «столь близких и по языку и по месту жительства, и по характеру, и по истории». Гэтыя словы з поўнай падставай можна аднесці да ўсіх трох усходнеславянскіх народаў — рускіх, украінцаў і беларусаў, што выйшлі з адной гістарычнай калыскі — Кіеўскай Русі, з адной старажытнарускай народнасці. «Кіеўская Русь,— як вобразна выказаўся акадэмік Б. Рыбакоў,— гэта юнацтва і маладосць трох братніх народаў — рускага, украінскага і беларускага,— якія жылі адной сям'ёй, утваралі адзіную тады старажытнарускую народнасць».

Плямёны, што складалі Старажытнарускую дзяржаву (IX-XII стст.), мелі, як адзначана ў «Аповесці мінулых часоў», «свае звычаі і законы сваіх бацькоў і паданні, і кожны — свой нораў». Несумненна, адрозніваліся і асобныя плямённыя гаворкі, на грунце якіх пазней склаліся асобныя руская, украінская і беларуская мовы. Але значна больш і ў матэрыяльным укладзе жыцця, і ў звычаях, і ў мове было агульнага — таго, што сведчыла пра адну прарадзіму, адну прамову ўсходніх славян, адну старажытнарускую народнасць...

*Р. Л.* Звычайна, як гістарычная, так і літаратурна-мастацкая памяць пра нашу супольнасць перадавалася з пакалення ў пакаленне, выпрабоўваючыся не толькі часам, але і мячом і агнём...

*В. Р.* Так, рускія, украінцы і беларусы былі разам у барацьбе з мангола-татарамі і тэўтонскім ордэнам, сумесна змагаліся супраць шведскіх захопнікаў на пачатку XVIII ст. і з войскамі Напалеона ў час Айчыннай вайны 1812 г., рука ў руку стаялі на барыкадах 1905—1907 гг., увайшлі ў Вялікі Кастрычнік, адбівалі націск унутранай

контррэвалюцыі і Антанты ў часы грамадзянскай вайны, разам з іншымі народамі нашай Айчыны здабывалі перамогу над фашызмам у Вялікай Айчыннай вайне... Дружбу і братэрства цэментавала сумеснае жыццё нашых народаў, асабліва ў апошнія 80 гадоў, у адзіным Саюзе Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Сувязі нашых народаў уяўляюць сабой, магчыма, унікальны ў сусветнай гісторыі прыклад блізкасці ўсіх без выключэння ўзроўняў матэрыяльнага і духоўнага жыцця грамадства. Сюды ўваходзіць этнічная, моўная, псіхалагічная, гістарычная, культурная, сацыяльна-эканамічная, дзяржаўна-палітычная і нават геаграфічная блізкасць, падабенства прыродных умоў — літаральна ўсе «параметры» існуючых падабенстваў і сувязей паміж народамі і краінамі.

*Р. Л.* Я назваў бы таксама ўнікальную і нашу літаратурную роднасць. Яна распачалася ў сівую даўніну, гартавалася на крутых дарогах гісторыі, нябачанага росквіту дасягнула ў нашы дні. Унікальнасць яе — гэта не толькі «век», якому, лічы, не менш тысячы гадоў; не толькі тое, што выхадцы з таго ці іншага народа з поспехам працавалі ў суседняй братняй культуры. Унікальнасць нашай роднаснасці выяўляецца і ў тым, што нашы сувязі з часам становяцца штораз мацнейшымі... Возьмем хаця б паэтычны ўзаемапераклад.

*В. Р.* Дазвольце, Раман Мар'янавіч, як казалі ў старажытнасці, пачаць «ab ovo». Бо той жа паэтычны ўзаемапераклад — з украінскай мовы на беларускую або з беларускай на ўкраінскую — мае салідную гістарычную аснову. А пра гэта надзвычай важна нагадаць сучаснаму чытачу. Карані нашых братніх узаемасувязей — пад пластамі стагоддзяў, у Кіеўскай Русі. А таксама — у Вялікім княстве Літоўскім (Літоўскай Русі, як называў гэту дзяржаву Карл Маркс), асноўную эканамічную, палітычную і культурную сілу якога складалі «русіны» (так у той час называлі сябе беларусы і ўкраінцы). У Літоўскай Русі дзяржаўнай была «заходнеруская мова» — агульная тады як для беларускай пісьменнасці, так і для ўкраінскай (вядома, з пэўнымі мясцовымі адхіленнямі ў той або другі бок). У культуру беларусаў і ўкраінцаў, як Вы слушна заўважылі, уносілі ўклад часамі адны і тыя ж дзеячы, якія, нарадзіўшыся, скажам, на Украіне, потым пэўны час жылі і працавалі на беларускай зямлі, або — нарадзіўшыся ў Беларусі, выязджалі на вучобу або працу ў Кіеў, Астрог ці іншыя мясціны ўкраінскай этнаграфічнай тэрыторыі. Гэта — браты Лаўрэнцій і Стэфан Зізаніі, Мялецій Сматрыцкі, Памва Бярында, Андрэй Рымша, Сімяон Полацкі і інш. Безумоўна, агульнакультурны клімат стваралі і тыя літаратары-асветнікі, жыццёвы лёс якіх (але не творы!) ніколі не перасякаў беларуска-ўкраінскіх этнаграфічных меж. Маю на ўвазе

найперш Францыска Скарыну, з аднаго боку, і Феафана Пракаповіча і Грыгорыя Скавараду — з другога. Адным словам, распачыналіся беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемасувязі задоўга да таго, як украінцу Тарасу Шаўчэнку давялося прайсці гаротнымі сцяжынамі абяздоленай Беларусі, а беларусу Францішку Багушэвічу — атрымаць юрыдычную адукацыю і працаваць ва ўкраінскім горадзе Нежыне...

*Р. Л.* Даруйце, Вячаслаў Пятровіч, што датычыцца Скарыны, то наш вядомы гісторык Яраслаў Ісаевіч высунуў пераканаўчую гіпотэзу пра пабыўку Скарыны ў Львове. Ва ўсякім разе вашы кінематаграфісты фільм «Я, Францыск Скарына» здымалі ў Львове... Гэта жарт, зразумела, але я схіляюся да думкі, што багата чаго з гісторыі беларуска-ўкраінскіх як і ўвогуле ўсходнеславянскіх узаемасувязей яшчэ чакае свайго даследавання. Бо без іх інтэнсіўнасці ў мінулым і гутаркі не магло б быць пра ўзаемазацікаўленне, якое заўважаем на досвітку новых беларускай і ўкраінскай літаратур — у канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзяў.

*В. Р.* Але і тут былі асаблівасці, прычым такія, што нярэдка абядняялі, звужалі гэтыя кантакты. Не будзем забывацца: калі прыняць пад увагу тагачасную маладосць літаратур, што ствараліся на цалкам новай моўнай і эстэтычнай аснове, маласікасць літаратурных сіл (асабліва ў першай палове XIX ст. і найперш у нас), іншыя акалічнасці, то няцяжка зразумець адносна невялікую прадуктыўнасць тагачасных літаратурных кантактаў. Ды і тыя кантакты царызм не толькі не падтрымліваў, а ўсяляк тармазіў (прыгадаем ленінскія словы пра тое, што царскае мінулае «ўсё зрабіла для ўзаемаадчужэння народаў»). Больш таго, царскае самаўладства чыніла ўсялякія перашкоды для развіцця нацыянальных літаратур. І нават у гэтым мы, горка ўсміхнуўшыся, можам убачыць «сувязі». Так, усе пастановы пра забарону ўкраінскага друку аўтаматычна пераносіліся і на друк беларускі. Калі ў 1887 г. студэнт Палінкоўскі падаў на разгляд пецярбургскаму цэнзурнаму камітэту пераклад на беларускую мову апавядання А. Старажэнкі «Вучы лянівага не молатам, а голадам», то камітэт забараніў яго друкаванне. Забараняючы праз некалькі гадоў «Беларускія расказы» Ф. Багушэвіча, цэнзары зноў жа баяліся, каб не прыхоўвалася ў «такого рода сочинениях тенденция, кроме «малорусской», создать еще и «белорусскую» литературу и таким образом разбить и ослабить литературное и национальное единство, а впоследствии этого и политическое могущество русского народа». У выніку ўсяго гэтага беларуска-ўкраінскія сувязі XIX ст., у адрозненне, скажам, ад руска-ўкраінскіх або беларуска-польскіх, не праходзілі як працэс, вызначаліся спарадычнасцю, выпадковасцю. Нават даволі

працяглае пражыванне некаторых украінскіх пісьменнікаў у Беларусі (А. Старажэнка, Я. Галавацкі), а беларускіх (Я. Баршчэўскі, Ф. Багушэвіч) — на Украіне не прывяло да наладжвання непасрэдных літаратурных кантактаў, нават знаёмстваў — настолькі адчувальным было культурнае размежаванне народаў, настолькі малалікімі і параскіданымі былі літаратурныя сілы. Паасобныя ж з'явы чыста літаратурных сувязей уліваліся ў рэчышча беларуска-ўкраінскага агульнакультурнага ўзаемаазнаямлення (этнаграфія, фальклярыстыка, музыка, жывапіс).

*Р. Л.* І ўсё ж, чаго не зрабілі сваёй прысутнасцю тыя ці іншыя літаратары, тое рабіў сам час. Тут, дарэчы, патрэбны пэўныя ўдакладненні і адносна мажлівасцей кантактаў, і самога імкнення падтрымліваць іх. Так, Якаў Галавацкі, стаўшы прыдворным вучоным на пенсіі, наўрад ці гарэў жаданнем, у сілу сваіх тагачасных поглядаў, мацаваць украінска-беларускія літаратурныя сувязі. Звернем свой погляд туды, дзе бачым цікавасць Шаўчэнкі да Беларусі; туды, дзе друкам і ў спісках пашыраліся вершы Кабзара. Я маю на ўвазе духоўную прысутнасць Шаўчэнкі ў культурным быцці беларусаў менавіта ў час, пра які Вы гаворыце. Вядома, што гэтая прысутнасць у значнай ступені паўплывала на фармаванне папярэднікаў Купалы, а што на ранняга Купалу — гэта агульнавядома.

*В. Р.* Вы ўспомнілі на пачатку размовы юбілей Купалы, а вось зараз мы нібы разам наблізіліся да Песняра — я якраз падумаў пра яго. «Круглы» юбілей паэта, сама постаць яго, хто так шмат зрабіў дзеля духоўнага яднання нашых народаў, накіроўваюць развагі ў рэчышча культурных, нават больш канкрэтна — літаратурных беларуска-ўкраінскіх узаемасувязей. Разам з тым, мы, лічу, слушна пачалі нашу размову з сувязей гістарычных, палітычных, бо без іх цесныя культурныя сувязі былі б немажлівымі. Зрэшты, гэта добра адчуваў і Янка Купала, раздумваючы ў паэме «Тарасова доля» аб прычынах надзвычайнай папулярнасці ў дарэвалюцыйнай Беларусі творчасці вялікага Кабзара:

Чаму вецер з Украіны
З думкаю крылатай
Далятаў да Беларусі
І шумеў над хатай?

«Далятаў да Беларусі»!

*Р. Л.* Дазвольце прадоўжыць гэтыя цудоўныя радкі ў перакладзе Міколы Тарэшчанкі:

Спільна доля білоруса
    З долею вкра'інця,

І серця 'їх були горем
Сповнені по вінця.

Вони змалку і до скону
Гнулись в самотині,
Та в ярмі тяжкім чекали
Світло'ї години.

*В. Р.* Безумоўна, сацыяльнае «ярмо» ў беларусаў і ўкраінцаў было аднолькава цяжкім, і рэвалюцыйны дэмакрат Шаўчэнка аказваў вялікі ўплыў на развіццё сацыяльна-вызваленчых ідэй у нашым грамадстве і літаратуры. Пра гэта, зрэшты, многа і добра пісалі як беларускія, так і ўкраінскія (Б. Чайкоўскі, В. Шубраўскі і інш.) літаратуразнаўцы. Аднак, думаецца, не менш, а можа, і больш важнае іншае: Кабзар для беларусаў, асабліва ў пачатку XX ст., стаў найперш званаром нацыянальнага адраджэння.

*Р. Л.* З гэтым я цалкам згодны...

*В. Р.* Новай беларускай літаратуры з самага яе пачатку быў уласцівы сапраўдны дэмакратызм і сацыяльная завостранасць. Беларускіх пісьменнікаў, «косць ад косці і плоць і ад плоці свайго народа» (М. Багдановіч), пратэставаць супраць сацыяльнай несправядлівасці штурхала само жыццё, якое яны, мала сказаць, ведалі, якім — жылі. Апрача таго, тут (калі гаварыць пра ўплывы) адчувалася ўздзеянне перш за ўсё перадавых рускіх пісьменнікаў, рэвалюцыйных дэмакратаў В. Бялінскага, А. Герцана, М. Чарнышэўскага, «музы мести и печали» М. Някрасава і інш. Словы І. Франка пра тое, што творы рускай літаратуры «мучылі нас, абуджалі наша сумленне, будзілі ў нас чалавека, будзілі любоў да бедных і пакрыўджаных», з поўным правам маглі аднесці да сябе і беларускія літаратары. Вакантным жа заставалася месца паэта-трыбуна, які мог бы заклікаць беларусаў адначасова і да актыўнай нацыянальна-вызваленчай барацьбы, які дапамог бы абудзіць у беларусаў прыспаную нацыянальную годнасць. Такім паэтам на першым, пачатковым этапе адраджэння нацыянальнай самасвядомасці стаў Тарас Рыгоравіч Шаўчэнка.

*Р.Л.* Трэба, аднак, не забывацца, што сацыяльныя і нацыянальныя матывы ў творчасці Шаўчэнкі паяднаны вельмі арганічна.

*В.Р.* І ў Янкі Купалы таксама... Як і ўкраінцаў, сваіх суайчыннікаў, Кабзар, па словах Янкі Купалы, пачаў вучыць беларусаў «любіць свабоду, родны край і мову». Свабода тут, як бачым, стаіць побач з такімі паняццямі, як родны край, родная мова. Дарэчы, абодва паэты, Тарас Шаўчэнка і Янка Купала, нацыянальную бесхрыбетнасць чалавека звязвалі найперш з яго сацыяльным паходжаннем.

Рэнегатамі, касмапалітамі ў іх творчасці выступалі ў першую чаргу (хаця і не заўсёды) прадстаўнікі пануючых класаў. У эпістале «І мёртвым, і жывым...» Шаўчэнка даў знішчальную характарыстыку пануючай вярхушцы ўкраінскага народа, якая, блакіруючыся, з аднаго боку, з царызмам, з другога боку — з польскай шляхтай, гандлявала нацыянальнымі інтарэсамі сваіх суайчыннікаў.

*Р. Л.* Нельга тут не працытаваць хаця б некалькі радкоў з гэтага Шаўчэнкавага паслання да сваіх землякоў:

...всі мови
Слав'янського люду —
Всі знаете. А своеі
Дастьбі... колись будем
І по-своему глаголить,
Як німець покаже,
Та до того й історію
Нашу нам розкаже...

Як актуальна гучаць словы Кабзара і ў наш час! Проста не верыцца, што сказана гэта было ледзь не сто пяцьдзесят гадоў таму назад. Што да «пануючай вярхушкі», бязродных касмапалітаў, то, здаецца, больш знішчальнай іх характарыстыкі і прыдумаць нельга:

Раби, подножки, грязь Москви,
Варшавське сміття...

*В. Р.* Ужо ў савецкі час у вершы «Акоў паломаных жандар» (1926) Янка Купала надзвычай рэзка выказаўся супраць прыстасаванцаў да новай, савецкай рэчаіснасці — «великорусских держиморд» (У. Ленін), выхаваных яшчэ да рэвалюцыі ў духу «самодержавия, православия и народности», назваўшы іх, услед за Шаўчэнкам,— «Масквы кароннай гразь». Якімі толькі эпітэтамі, якімі азначэннямі ні надзяляе народны паэт БССР аднаго з такіх дамарослых «обрусевших инородцев» (У. Ленін), які — сам беларус па паходжанні — рэзка выступіў супраць дзяржаўнасці беларускай мовы: «акоў паломаных жандар», «расійскі чынадрал», «слуга оцечаству, цару», «царадвор», «скінуты сатрап»... А яшчэ — таксама ў духу Шаўчэнкі — «раб»...

«Герой» верша Янкі Купалы, нацыянальны нігіліст (як мы цяпер часам мякка называем самых звычайных касмапалітаў), «спужаўся, Што хлапчук ў лапцёх, Напаўадзеты вёскі сын, У роднай мове ўчыцца змог». Спіць і ў сне бачыць «гэты царадвор, Калі надыдзе яму дзень Ізноў пад лёзгат царскіх шпор Свой распасцерці чорны цень»... Менавіта ў такім сацыяльным, класавым падыходзе да нацыянальнага пытання — адна з найбольш характэрных асаблівасцей творчасці двух геніяў літаратуры славянскага свету.

*Р. Л.* Аднак давайце вернемся да літаратурнага працэсу пачатку нашага стагоддзя, калі нашы народы, як сказаў паэт, «в ярмі тяжкім чекали світлоі' години».

*В. Р.* А «светлая гадзіна» пачала набліжацца ўжо з самага пачатку XX ст. Пасля рэвалюцыі 1905-1907 гг., адной з найгалоўнейшых заваёў якой стала з'яўленне беларускага і ўкраінскага (на левабярэжнай Украіне) легальнага друку (зрэшты, як і друку іншых раней прыгнечаных народаў: літоўцаў, латышоў, якутаў...), літаратурныя кантакты становяцца больш разнастайныя, больш ці менш планамерныя. З'яўляецца шмат перакладаў (як з украінскага, так і з беларускага боку), літаратуразнаўчых даследаванняў. Наладжваюцца асабістыя кантакты паміж дзеячамі беларускай і ўкраінскай літаратур і г. д. Я тут хацеў бы падкрэсліць асаблівую ролю Львова ў развіцці беларуска-ўкраінскіх літаратурных узаемасувязей. Менавіта львоўскія пісьменнікі і вучоныя (Іван Франко, Міхайла Паўлык, Міхайла Вазняк, Васіль Шчурат, Іван Крыпякевіч і асабліва Іларыён Свянціцкі) упершыню пазнаёмілі ўкраінцаў з гісторыяй і культурай беларусаў як асобнага славянскага народа. Менавіта ў Львове знайшла сабе прытулак і падтрымку беларуская паэтэса-рэвалюцыянерка Цётка. Менавіта на Львоўшчыне (у г. Жоўкве, цяпер Несцераў) выходзілі на роднай мове яе кніжкі. Вам, укладальніку і перакладчыку твораў нашай вялікай зямлячкі, што выйшлі да стагоддзя з дня нараджэння Цёткі ў выдавецтве «Дніпро», усё гэта добра вядома. Але я хацеў бы сказаць, што пабыўка Цёткі ў Львове — гэта тая старонка ў гісторыі нашых сувязей, з якою мяжуюць старонкі, упісаныя Максімам Багдановічам і Янкам Купалам.

*Р. Л.* Страчаная перапіска паміж Багдановічам і Цёткай дапамагла б, напэўна, вырашыць не адну праблему. Скажам, такую. Адкуль у Багдановіча такое глыбокае, паслядоўнае зацікаўленне Украінай, украінскай культурай? А грунтоўнае веданне гісторыі, этнаграфіі, фальклору, якое проста-такі ўражвае, калі перачытваеш яго нарысы «Галіцкая Русь», «Чырвоная Русь», «Угорская Русь», «Вобразы Галічыны ў мастацкай літаратуры»? Вы ведаеце, калі ў снежні мінулага года львавяне адзначалі 90-годдзе з дня нараджэння Багдановіча, вельмі часта згадваўся і яго нарыс «Львоў». Калі перачытваеш гэты твор, узнікае ўражанне, што паэт апісвае наш горад так, нібыта ён ходзіць па ім, захапляецца яго архітэктурай, дзеліцца ўражаннямі. Заканчваецца нарыс словамі пра тое, што гэты горад «унясе багата не толькі ў вывучэнне мінулага, а і ў бесперапынны рух сучаснасці».

*В. Р.* Так і сталася. Менавіта ў Львове выйшаў першы на Украіне (і наогул за межамі Беларусі) сістэматызаваны агляд новай беларускай літаратуры — грунтоўнае даследаванне прафесара Іларыёна Свянціцкага «Адраджэнне беларускага пісьменства» (1908), у якім, дарэчы, былі апублікаваны два рэвалюцыйныя, забароненыя царскай цэнзурай вершы Янкі Купалы...

*Р. Л.* А яго ж даследаванні «Асновы адраджэння беларускага пісьменства» (1913) і «Росквіт культурна-нацыянальнага жыцця Усходняй Беларусі» (1928)! Прыемна, што гэтым працам Вы прысвячаеце шмат увагі ў сваёй кнізе «Напісана рукой Купалы»...

*В. Р.* «Шчырапаважаны прафесар», як называў украінскага вучонага Купала, на маю думку, праклаў між нашымі народамі адзін з тых магутных мастоў, якія непасрэдна праляглі ў савецкі перыяд нашага духоўнага ўзаемапазнання. Без традыцый Свянціцкага немажліва ўявіць фармаванне «львоўскай школы» беларусістаў. Надзвычай прыемна, што эстафету вялікіх папярэднікаў пераняла сёння дружная і таленавітая кагорта львоўскіх пісьменнікаў — даследчыкаў, крытыкаў, перакладчыкаў, сярод якіх, безумоўна, першае месца належыць Вам, Раман Мар'янавіч. У Беларусі таксама добра ведаюць і цэняць сапраўды інтэрнацыяналісцкую працу такіх актыўных прапагандыстаў і даследчыкаў беларускай літаратуры і беларуска-ўкраінскага пабрацімства, як І. Дэнысюк, Л. Мішчанка, У. Лучук, А. Сенатовіч, Л. Бондар, Т. Сальга, А. Шаўчэнка... Хацеў бы, дарэчы, спытаць, што ўплывала, Раман Мар'янавіч, на Ваша зацікаўленне беларускай літаратурай?

*Р.Л.* У значнай меры — атмасфера Львова, Львоўскага універсітэта. Маім аднакурснікам быў малады паэт Іван Ляўчук, які пісаў вершы на беларускай мове, прывозіў з Мінска і з Брэста паэтычныя зборнікі Максіма Танка, Еўдакіі Лось, Кастуся Кірэенкі, Анатоля Вялюгіна, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна. Я палюбіў Беларусь з расказаў майго выкладчыка Івана Аксенцьевіча Дэнысюка, вобраз яе паўставаў перада мной з вершаў беларускіх паэтаў, таленавіта ўзноўленых маім старшым таварышам па пяру Уладзімірам Лучуком. Гэта было «завочнае», так сказаць, знаёмства з вашай цудоўнай зямлёю, вашым мяккім і задушэўным беларускім словам. Хацелася і самому ўнікнуць у таямніцу вашай паэзіі. Я паспрабаваў перакладаць. Гэта былі вершы Алеся Звонака. А потым — равеснікаў і старэйшых, якія неўзабаве сталі маімі сябрамі — Васіля Зуёнка, Янкі Сіпакова, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча. Толькі цяпер я, можна сказаць, «адкрыў» для сябе Пімена Панчанку. Гэта паэт надзвычайнай прастаты і сардэчнасці, глыбокі і мудры чалавек,

надзелены да таго ж тонкім пачуццём гумару. Панчанка, як і Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, Генадзь Бураўкін, імпануюць мне тым, што ў іх творчасці струменіць глыбокая любоў да Украіны. Як «закаранелы» львавянін я не абміну магчымасці адзначыць вершы тых ці іншых паэтаў, прысвечаныя Вялікаму Каменяру і калысцы яго славы — Львову.

*В. Р.* Дарэчы, мы не згадалі яшчэ адзін юбілей сёлетняга года, ці, дакладней, два юбілеі, звязаныя з адным чалавекам: 50-годдзе літаратурнай дзейнасці і 70-годдзе з дня нараджэння народнага паэта Беларусі, Героя Сацыялістычнай Працы, вялікага друга ўкраінскай літаратуры Максіма Танка.

*Р. Л.* Гэтыя даты мы добра памятаем. Яўген Іванавіч Скурко нарадзіўся 17 верасня 1912 года, а праз дваццаць гадоў, 7 красавіка 1932 года на старонках газеты-аднадзёнкі «Беларускае жыццё», якую заходнебеларускія камуністы выпусцілі ў Львове, з'явіўся верш «Заштрайкавалі гіганты-коміны», упершыню падпісаны псеўданімам Максім Танк. Яўген Іванавіч памятае пра гэтае сваё «хрышчэнне» ў Львове, а для нас гэта яшчэ адна важная вяха на шляху братэрства. А калі ўсур'ёз гаварыць пра літаратурнае хрышчэнне, якое атрымалі на Украіне беларускія пісьменнікі, то я назваў бы імёны Уладзіміра Караткевіча, Васіля Сідарэнкі, Сяргея Панізніка, Валянціны Коўтун.

*В. Р.* Вы маеце на ўвазе тое, што яны жылі, вучыліся ў вас, а Васіль Сідарэнка працуе, нават выдаў свой зборнік вершаў?

*Р. Л.* Не толькі тое. І пералічаныя, і шмат згаданых мной раней пісьменнікаў упершыню прыйшлі да ўкраінскага чытача са старонак анталогіі, што пачала серыю анталагічных зборнікаў у «Молоді» — «Маладая паэзія братніх рэспублік». Цяпер, калі гэтая серыя — пятнаццаць кніжак — ужо завершана і паспяхова выходзіць новая — «Маладая паэзія краін сацыялістычнай садружнасці»,— яшчэ раз хацеў бы нагадаць: беларуская анталогія была першай...

В. Р. Найбольш значнай падзеяй беларуска-ўкраінскіх і ўвогуле беларуска-іншанацыянальных літаратурных узаемасувязей апошніх гадоў стаў выхад у свет трох перакладных анталогій: згаданай тут Вамі анталогіі маладой беларускай паэзіі «Калінавыя масты» (Кіеў, 1969), двухтомнай анталогіі «Беларуская савецкая паэзія» (Кіеў, 1971), а таксама двухтомнай анталогіі «Украінская савецкая паэзія» (Мінск, 1975).

У «Калінавых мастах» (укладальнік Г. Кочур) прадстаўлены паэты, якія актыўна заявілі пра сябе ў другой палове 50-х гадоў, літаратары, якія мелі на той час — час выдання анталогіі — досыць значны творчы багаж, а таксама тыя, што толькі выдалі свае першыя кніжкі

— усяго сорак тры асобы. Сярод іх — Р. Барадулін, Н. Гілевіч, Г. Бураўкін, С. Гаўрусёў, А. Лойка, П. Макаль, якіх нават ужо тады хіба што ўмоўна можна было лічыць маладымі, а, з другога боку, Ю. Голуб, М. Дукса, В. Іпатава, А. Разанаў, М. Федзюковіч, Я. Янішчыц — сапраўды тады маладыя, нядаўнія студэнты. «Калінавыя масты» ўпершыню глыбока і ўсебакова пазнаёмілі ўкраінскага чытача з маладым пакаленнем беларускіх літаратараў, дазволілі параўнаць некаторыя працэсы, што адбываліся ў тагачаснай украінскай паэзіі, з аналагічнымі ці падобнымі з'явамі і працэсамі паэзіі беларускай. Адначасова анталогія адкрыла новую выдавецкую серыю — пра гэта Вы сказалі. Такім чынам, «Калінавыя масты» сталі першай камунікацыяй у цэлай сістэме «перапраў», па якіх маладая паэзія ўсёй савецкай краіны прыйшла на Украіну. У гэтай сістэме ў нечым пановаму і нам, беларусам, бачацца дасягненні і асобныя недахопы нашых вершатворцаў.

*В. Л.* Вам, напэўна, цікава будзе даведацца, што практычна той самы атрад украінскіх паэтаў-перакладчыкаў прымаў удзел у падрыхтоўцы фундаментальнага двухтомніка «Беларуская савецкая паэзія»...

*В. Р.* І гэта цудоўна, што «Калінавыя масты» сталі важным подступам да тых двух вялікіх, са смакам выдадзеных тамоў. І не толькі таму, што шмат аўтараў і вершаў заканамерна «перавандравалі» з «маладой» анталогіі ў анталогію «сталую». Выданне «Калінавых мастоў» стала своеасаблівай, надзвычай патрэбнай рэпетыцыяй для ўкладальнікаў, перакладчыкаў, рэдактараў, выдавецкіх супрацоўнікаў перад такой важнай і адказнай справай, як стварэнне грунтоўнай анталогіі нашай паэзіі. Хор беларускай паэзіі тут гучыць у дзевяноста шэсць галасоў! Ніколі яшчэ на падмостках іншамоўнай культуры не выступала адначасова столькі майстроў паэтычнага слова Беларусі — ад Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова — і да малодшых членаў СП БССР. Анталогія — уся, ад першай і да апошняй старонкі,— яскрава засведчыла моцную сувязь беларускай паэзіі з роднаю зямлёю, з думкамі, марамі, перажываннямі чалавека працы. Размешчаныя ў храналагічнай паслядоўнасці творы — вершы і паэмы, балады, вянок санетаў, оды і вершаваныя казкі — малююць выразную карціну народнага жыцця больш чым за пяцьдзесят гадоў. Цалкам слушна ў сувязі з гэтым пісаў галоўны рэдактар анталогіі, адзін з яе ўкладальнікаў (разам з А. Вялюгіным) Мікола Нагнібеда: «Наша анталогія — гэта паэтычны летапіс беларускага народа: і характарыстыка нацыянальных яго рыс,

і гісторыя яго барацьбы і імкненняў — гэта сталасць і маладосць творцаў».

*Р. Л.* З поўнай падставай можам дадаць: сталасць і маладосць вялікага атрада перакладчыкаў. У анталогіі былі змешчаны выдатныя пераклады такіх майстроў, як Паўло Тычына, Максім Рыльскі, Мікола Бажан, Іван Выргап, Уладзімір Сасюра, Андрэй Малышка. З кніжкі відаць, як плённа працавалі і працуюць на перакладчыцкай ніве Платон Воронько, Мікола Нагнібеда, Дмытро Паўлычка, Дмытро Паламачук, Любамір Дмытэрка, Сцяпан Лытвін, Барыслаў Стэпанюк, Уладзімір Лучук, Іван Драч.

Нарэшце, тут адчуваюцца намаганні перакладчыкаў «наймалодшага прызыву» — для іх гэта была школа перакладчыцкага майстэрства. Разам з тым я хацеў бы заўважыць, што занадта вялікі і ў пэўнай ступені стракаты «перакладчыцкі хор» прывёў там-сям да своеасаблівай «паэтычнай какафоніі» — гутарка ідзе пра тыя выпадкі, калі аднаго «добрага» паэта перакладае некалькі «розных», але, на жаль, не заўсёды «добрых паэтаў».

*В. Р.* Мне здаецца, што гэта ўлічылі беларускія перакладчыкі, укладальнікі і выдаўцы. У 1975 годзе мінскае выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла ў свет у перакладзе на беларускую мову анталогію «Украінская савецкая паэзія». У двух значных па аб'ёму тамах «прапісаліся» 129 творцаў прыгожага пісьменства «салаўінай Украіны». Дарэчы, папярэдняе аналагічнае выданне, што з'явілася яшчэ ў 1952 годзе, ахоплівала творы толькі 52 украінскіх пісьменнікаў. Кажучы пра гэта, я зусім не хачу прынізіць мінулыя заслугі беларускіх перакладчыкаў і выдаўцоў. Безумоўна, калі б не было анталогіі ўкраінскай савецкай паэзіі 1952 года, зборніка «Дзень украінскай паэзіі» (1957), асобных беларускіх выданняў твораў П. Тычыны, М. Рыльскага, М. Бажана, У. Сасюры, А. Малышкі, Т. Масэнкі, М. Нагнібеды, А. Юшчанкі і некаторых іншых паэтаў, усёй велізарнай працы беларускіх перакладчыкаў украінскай літаратуры,— з'яўленне «Украінскай савецкай паэзіі» было б немагчымым. Анталогія разам з тым — гэта не толькі апошні па часе, а і новы на сваёй якасці падрахунак паэтычных дасягненняў украінскага народа. Падрахунак, зроблены зацікаўлена, старанна, своечасова. Пра ідэйна-тэматычнае багацце, мастацка-эстэтычную разнастайнасць выдання паклапаціліся найперш яго ўкладальнікі — Б. Стэпанюк і Б. Алійнык. Цудоўныя знаўцы роднай паэзіі, людзі з тонкім паэтычным густам, яны здолелі з «алмазнага фонду» роднай літаратуры адабраць найкаштоўнейшыя дыяменты. А ўжо беларускім перакладчыкам выпала пачэсная, аднак і нялёгкая роля — аправіць гэтыя дыяменты ў чыстае золата

беларускага слова. Трэба сказаць, што ў цэлым яны справіліся з гэтым даволі паспяхова. Дапамог і папярэдні вопыт. У прыватнасці — вопыт «Калінавых мастоў» і «Беларускай савецкай паэзіі».

*Р.Л.* Прыгадваю, што і Вы, і іншыя аўтары (у вас — Э. Мартынава, у нас — Б. Чайкоўскі) высока ацанілі ўзровень перакладчыцкага майстэрства ўсіх трох анталогій. Мне ж асабліва запомнілася Ваша назіранне, якое я нават сабе занатаваў: «Украінская савецкая паэзія» дазволіла з новай сілай раскрыць глыбіню творчых магчымасцей нашых «многадыяпазонных» перакладчыкаў, мастацкі талент якіх дазваляе ім амаль беспамылкова настройвацца на тую ці іншую паэтычную хвалю... Адначасова ў перакладах яскрава відна і асоба самога перакладчыка, і не толькі ў выбары твораў для перакладу, а і ў характары іх узнаўлення: вобразнасці, лексіцы. І гэта пры тым, што перакладчык уважліва ставіцца да тых часам малапрыкметных нотак, якія ўзятыя разам і складаюць паэтычны тэмбр кожнага арыгінальнага мастака слова».

У гэтай сувязі Вы назвалі Рыгора Барадуліна. У нас на Украіне такім «многадыяпазонным» перакладчыкам з'яўляецца Д. Паўлычка. А што рабіць «аднаЛюбам», такім, як І. Драч, Б. Алійнык? Лічу, што такіх «аднаЛюбаў» поспех чакае там, дзе яны знаходзяць «сваіх» аўтараў. Гэта відаць, між іншым, з таго, як Рыгор Барадулін доўга «падбіраўся» да І. Драча, а Г. Бураўкін — да Б. Алійныка. Спачатку — асобныя вершы ў перыёдыцы, пасля — у «Анталогіі» (між іншым, 8 вершаў І. Драча перакладалі ў ёй... пяць аўтараў!). А сёння маем цэласную і цэльную кніжку Івана Драча «Мелодыя каліны» ў перакладзе Р. Барадуліна («Мастацкая літаратура», 1981). Гэта ж можна сказаць і пра таленавіта перакладзеную Г. Бураўкіным кніжку Б. Алійныка «Заклінанне агню» («Мастацкая літаратура», 1979). Алійныку і Драчу, як мне здаецца, больш пашчасціла, чым, скажам, Н. Плевічу або Р. Барадуліну (маю на ўвазе іх зборнікі, выдадзеныя адпаведна ў «Дніпрі» і «Молоді»). Але мы адхіліліся ад прадмета нашай гаворкі...

*В. Р.* Ва ўсіх трох анталогіях вершы і беларускіх, і ўкраінскіх паэтаў перададзены, у асноўным, на высот прафесійным узроўні, адчуваецца ўважлівае стаўленне перакладчыкаў да арыгінала, жаданне перадаць само «паэтычнае рэчыва» арыгінала, узнавіць творы ў еднасці зместу і формы. Я далёкі ад таго, каб рабіць нейкія высновы або прагнозы на будучае. Ды згодзен з Вамі, Раман Мар'янавіч: мастацкай дасканаласці паспрыяла тая акалічнасць, што асобныя перакладчыкі знайшлі «сваіх» аўтараў, блізкіх па характары творчасці, яе ідэйна-тэматычных і стылёвых прыкметах. Адначасова — тут я ўжо паўтару сам сабе — перакладныя анталогіі дазволілі яшчэ

раз раскрыцца творчым магчымасцям некаторых так званых «многадыяпазонных» перакладчыкаў...

*Р. Л.* Самае галоўнае, бадай, што дзякуючы выданню гэтых кніжак узбагаціліся нашы літаратуры, адшліфавалася перакладчыцкае майстэрства многіх таленавітых перакладчыкаў. Не будзем скідаць з рахунку і пазнавальнага моманту. Вы прыводзілі лічбы пра колькасць аўтараў. Гэтыя лічбы гучаць як музыка, а я думаю пра сотні і тысячы чытачоў, якія ўпершыню для сябе адкрылі і гэтых паэтаў, і «Калінавую мелодыю» сапраўднай паэзіі...

*В. Р.* Згодзен. Аднак давайце ўспомнім і некаторыя ўпушчэнні — хаця б укладальніцкія. «Украінская савецкая паэзія» — мабыць, ці не найпаўнейшая з тых анталогій украінскай паэзіі, якія апошнім часам выйшлі па-за межамі Украіны. І ўсё ж нават у ёй па незразумелых прычынах не знайшлося месца, каб паказаць паэтычную творчасць асобных таленавітых пісьменнікаў. У прыватнасці — І. Мікітэнкі, Ю. Яноўскага, С. Тудора (я ўжо не кажу пра некаторых сучасных). Беларускі чытач пазбаўлены радаснага для яго адкрыцця: аказваецца, даўно вядомы яму драматург (і празаік) Мікітэнка, празаікі Яноўскі і Тудор пісалі вершы! Нешта падобнае, несумненна, адчула мноства беларускіх чытачоў, знаёмячыся ў анталогіі з творамі М. Стэльмаха — пісьменніка, вядомага ў Беларусі амаль выключна як празаіка. Што да анталогіі беларускай паэзіі, то ў ёй таксама ёсць пропускі асобных імёнаў (Л. Геніюш, А. Вольскі) і твораў («Спадчына» Янкі Купалы, «Маналог» А. Куляшова, «Свята ў Палерма» П. Панчанкі). Увогуле, як мне здаецца, у анталогіях слаба прадстаўлены два струмені беларускай савецкай лірыкі — грамадзянскі і гумарыстычна-сатырычны. Так, стылёвая прыкмета сучаснага Панчанкі — гэта яго абвостраная грамадзянскасць. Ён — паэт адкрытага грамадзянскага пафасу, актыўны змагар з мяшчанствам, паборнік чалавечнасці, чалавечай дабрыні. Гэта яго словы сталі крылатымі: «Без чалавечнасці не будзе вечнасці!» А тым часам у анталогіі «Беларуская савецкая паэзія» няма ніводнага верша, які б паказваў такога Панчанку...

*Р. Л.* Я меў цудоўную нагоду прывітаць Пімена Емяльянавіча з прысуджэннем яму Дзяржаўнай прэміі СССР у час юбілейных багдановічаўскіх урачыстасцей у Мінску ў снежні мінулага года...

*В. Р.* Шкада, што пры перадруку асобных вершаў з «Калінавых мастоў» у «Беларускай савецкай паэзіі» не знайшлося месца і для такіх яскрава грамадзянскіх вершаў, як «Сустрэчы ў снах» Н. Гілевіча, «Сікейрас» П. Макаля, «Абрастаем» і «Перад брацкаю магілай» А. Вярцінскага, «Адышлі ў нябыт панегірыкі» Г. Бураўкіна і некаторых іншых. З другога боку, невялічкая колькасць сатырычных і

гумарыстычных твораў нават сее страх, каб не склалася ва ўкраінскіх чытачоў, землякоў Катлярэўскага і Вішні, памылковая думка, што, маўляў, беларусы не могуць і пажартаваць як след...

*Р. Л.* Запэўніваю Вас, да гэтага не дойдзе, бо на Украіне добра ведаюць і «Тараса на Парнасе», і «Энеіду навыварат» і ... нават сучасную вусную паэтычную эпапею пра славутых гаспадароў Лысай Гары... Цудоўнае пацвярджэнне непаўторнасці беларускага гумару — пераклад «Энеіды» Катлярэўскага, здзейснены А. Куляшовым.

Давайце ўчытаемся:

Тут каштавалі рознай стравы,
З кляновых кубкаў квас пілі;
І мяса елі, і прыправы
З гліняных місак, дзе былі
І парсюковыя галовы,
І хрэн, да слёз праняць гатовы,
З падліўкай вострай індыкі;
На закусь быў кулеш і каша,
Праснак, мачанка, сыракваша,
З мядовым макам піражкі...

Ці не здаецца Вам, што гэтая «смачная» страфа бліскуча вырашае некаторыя асабліва цяжкія перакладчыцкія праблемы? Я, між іншым, парэкамендаваў бы двум таленавітым перакладчыкам — грузінскаму Аміpану Асанідзе і славацкаму Любаміру Фелдэку,— якія менавіта перакладаюць «Энеіду», вывесіць над рабочым сталом і такую страфу ў перакладзе А. Куляшова:

І кубкамі пілі вішнёўку,
Мёд, піва, брагу і сырэц,
Гарэлку простую, зуброўку,
Курыўся дымны ялавец,
Бандура гапака іграла,
Кадрыль наярвалі цымбалы,
Падсвіствала жалейка ім,
Вальс дружна скрыпкі пачыналі,
Дзяўчаты ног не шкадавалі,
Хапала весялосці ўсім.

*В. Р.* З такім настроем нялёгка «танцаваць» яшчэ навокал некалькіх сур'ёзных хібаў...

Так, у цэлым паэтычная «Беларусіяна» ў анталогіі даволі ўнушальная. У той жа час у ёй Вы не знойдзеце ніводнага «беларускага» верша П. Тычыны, А. Малышкі, У. Сасюры...

*Р. Л.* Гэта сапраўды пралік. Скажам, вершы Сасюры — гэта не проста даніна «тэматыцы». Спашлюся на такі прыклад.

У 1925 г. на з'ездзе беларускай літаратурнай арганізацыі «Маладняк» прысутнічала трупа ўкраінскіх пісьменнікаў і сярод іх Уладзімір Сасюра. Вынікам пабыўкі паэта на братняй зямлі стаў яго цыкл «Беларусь». У адным з вершаў чытаем:

Вже пройшли революції роки.
Я в минуле з любов'ю дивлюсь.
О моя Білорусь синьоока,
о моя золота Білорусь!
. . . . . . . . . . .

Буду згадувать сосен загони,
таемниці болот і озер.
О моя Білорусь яснодзвонна,
синьоока моя БРСР...

Так упершыню ў творчасці выдатнага ўкраінскага лірыка з'яўляецца вобраз «сінявокай Беларусі» — каб у 1928 г. у вершы «Білорусь» канчаткова ўвасобіцца ў радках, якія з таго часу сталі крылатымі:

Білорусь ти моя, Білорусь,
синьооко сестра України...

Не толькі гэты шэдэўр, а і такія «мемарыяльныя» вершы Сасюры, як «Дорогий голос» і «Янка Купала», чамусьці не ўвайшлі ў анталогію... А шкада...

*В. Р.* Так, словы Сасюры і для нас, беларусаў, дарагія. Яны сталі паэтычнай формулай нашага братэрства, таксама як і словы Янкі Купалы: «Украіна, цвеце любы, сонцам гадаваны».

*Р. Л.* У маёй бібліятэцы захоўваецца паэтычная анталогія «Сястры Украіне», выдадзеная яшчэ ў 1954 годзе. Несумненна, яе можна — у значна дапоўненым выглядзе — перавыдаць. Яшчэ раз спашлюся на аўтарытэт Н. Гілевіча, які на згаданым ужо пасяджэнні Сакратарыята СПУ, прысвечаным 1500-годдзю Кіева, сказаў: «Пра Кіеў, пра Дняпро, пра Украіну пісалі Купала, Колас, Багдановіч, Броўка, Танк, Панчанка, дзесяткі іншых паэтаў. А зараз у нас пішуць, магчыма, яшчэ і больш, чым раней, бо і сустрэч, і агульных спраў пабольшала. Вершы і паэмы маглі б ужо скласці вялікую анталогію, і шкада, што яна дагэтуль не выдадзена». Адштурхоўваючыся ад гэтых слоў, я хацеў бы прызнацца Вам, Вячаслаў Пятровіч, што цяпер укладаю такую анталогію, прысвечаную Беларусі. Акрамя агульнавядомых цыклаў і вершаў Рыльскага, Сасюры, Малышкі, Нагнібеды, Усэнкі, Стэпанюка, Лучука, Тамары Каламіец, Уладзіміра Каламійца, Станіслава Рап'яха, Наталлі Кашчук, тут будуць змешчаны творы і самых маладых нашых паэтаў.

Між іншым, глыбокае асэнсаванне ўзаемнага паэтычнага імкнення знайшло сваё выяўленне ў манаграфіі Ларысы Бондар «Украінска-беларускія літаратурныя ўзаемаадносіны (1965 —1975 гг.)». Кніжка выдадзена ў 1977 годзе, а тым часам штогод з'яўляецца новы паэтычны матэрыял, такія жамчужыны, як «Вітанне Беларусі» Дмытра Паўлычкі, «Беларусі» Барыса Алійныка, «Сляза Беларусі» Івана Драча. Дазволю «сабе працытаваць некалькі радкоў з гэтага верша:

Ти — Біла Русь. Не в долі сивій,
А в долі райдуг — Білорусь!
В братерськім колі, в сонця зливі!
В твоїй сльозі, сльозі щасливій
Я теж щасливо відіб'юсь!..

Гэтыя радкі паэта наводзяць на думку, што ў шматлікіх вершах, прысвячэннях, як абагульненых, так і даволі канкрэтных (успомнім паэтычныя прысвячэнні Р. Барадуліна таму ж І. Драчу ці У. Лучуку), я бачу, як шчасліва «відбиваються» нашы шматгранныя літаратурныя і асабістыя кантакты. Іх багата. Іх будзе яшчэ больш. Кажуць, што радасць і шчасце немагчыма планаваць. Ды мне ўсё ж такі здаецца, што нашай перакладчыцкай і выдавецкай дзейнасці разумная планамернасць толькі была б на карысць.

*В. Р.* Планамернасці, скажу нават шырэй — планавасці ў перакладчыцкай працы не хапае і нам, беларусам. Праўда, у апошнія гады намаганнямі асобных перакладчыкаў і выдаўцоў (назаву тут найперш дырэктара выдавецтва «Мастацкая літаратура», перакладчыка ўкраінскай прозы М. Ф. Дубянецкага) некаторыя прагалы ў асваенні класічнай украінскай літаратуры, перш за ўсё прозы, пачалі ліквідоўвацца. Упершыню асобнымі выданнямі выйшлі «Аповесці» М. Кацюбінскага (перакладзены А. Жуком і мной), толькі што з'явіліся «Апавяданні» М. Чарамшыны (пераклад В. Рабкевіча), на чарзе выданне навел В. Стафаніка... Падкрэсліваю: я называю толькі аўтараў, якія асобнымі выданнямі ў нас не выходзілі. Зрэшты, такіх «белых плям», што датычыцца ўжо беларускай літаратуры, яшчэ нямала і на літаратурнай карце Украіны. Напрыклад, у вас ні разу не выдаваліся творы заснавальніка новай беларускай літаратуры Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, 175-годдзе з дня нараджэння якога мы будзем адзначаць на пачатку наступнага года. Роля Дуніна-Марцінкевіча — драматурга, перакладчыка, аўтара вершаў, паэм, оперных лібрэта (музыку на некаторыя з іх пісаў яго друг і зямляк С. Манюшка) — у нечым падобныя да культурна-гістарычнай ролі вашага Квіткі-Аснаўяненкі. Дарэчы, яшчэ ў 1910 годзе Васіль Шчурат

надрукаваў вялікі артыкул пра першага класіка новай беларускай літаратуры.

Зразумела, ведучы гаворку пра планамернасць у азнаямленні беларускага чытача з украінскай літаратурай, я не хачу прымяншаць таго, што ў нас робіцца дзеля прапаганды роднаснай для нас літаратуры. Па колькасці (ды і якасці) перакладаў украінская літаратура знаходзіцца ў нас на адным з першых месц. Ды і наш двухмоўны чытач мае магчымасць шырока знаёміцца з вашымі паэтамі і празаікамі праз рускі пераклад. Але ж мы перакладаем не толькі для таго, каб пазнаёміцца. У перакладзе з блізкароднасных моў азнаямленчая функцыя не асноўная. На першае месца тут выходзяць задачы грамадска-палітычныя, эстэтычныя: перакладны твор становіцца адным з элементаў нацыянальнага літаратурнага кантэксту, ён адчувальна ўплывае на літаратуру і мову, у якія ўваходзіць, служыць адным з аб'ектыўных паказчыкаў характару і інтэнсіўнасці культурнага ўзаемаабмену паміж народамі, дае магчымасць выявіцца таленту перакладчыка і г. д. У святле ўсяго гэтага і трэба найперш разглядаць сучасныя пераклады з украінскай літаратуры, у прыватнасці зборнікі Я. Шпорты «Явар» (пераклад К. Кірэенкі), Б. Стэпанюка «Матчына слова» (калектыўны пераклад), М. Нагнібеды, «Ветразі, поўныя блакіту» (калектыўны пераклад), згаданыя ўжо кніжкі Б. Алійныка «Заклінанне агню», І. Драча «Мелодыя каліны», а таксама творы, якія змяшчаюцца на старонках літаратурнага штогодніка «Далягляды». Я называю толькі частку перакладаў апошняга часу і, зразумела, найбольш паказальныя, па-мастацку дасканалыя.

У нас, на жаль, пакуль што няма спецыяльнага часопіса тыпу «Иностранной литературы» ці вашага «Всесвіту». Таму асаблівая ношка кладзецца «на плечы» перыёдыкі, асобных кніжных выданняў, а таксама «Даляглядаў». Дык вось, па маіх падліках, у адным толькі штогодніку за час яго выдання (з 1975 г.) былі апублікаваны творы васьмі ўкраінскіх празаікаў (М. Кацюбінскага, Ю. Смоліча, А. Ганчара, Г. Цюцюнніка і інш.) і дваццаці аднаго паэта (Д. Паўлычкі, П. Вараньо, Л. Кастэнка, Б. Алійныка, І. Драча, Р. Лубкіўскага, У. Лучука і інш.). Перакладалі гэтыя творы вядучыя беларускія перакладчыкі: Ю. Гаўрук, Н. Плевіч, Г. Бураўкін, А. Кудравец, Н. Мацяш... Літаральна ў кожным выпуску штогодніка змяшчаліся пераклады з украінскай літаратуры. Прычым строга захоўваўся прынцып першапублікацыі: пераклады, што змяшчаюцца ў «Даляглядах», дагэтуль нідзе не друкаваліся. Вось тут ужо праглядвае і сістэмнасць у перакладчыцкай працы. Дарэчы, у гэтым годзе на дапамогу «Даляглядам» прыходзіць штогоднік «Братэрства», у якім будуць публіка-

вацца толькі пераклады з літаратур народаў СССР. Адкрываецца мажлівасць яшчэ шырэй знаёміць нашага чытача з брацкімі савецкімі літаратурамі, у тым ліку і з украінскай літаратурай.

*Р. Л.* Пасля Вашых цікавых думак адносна сістэматызацыі перакладчыцкіх намаганняў я выказаў бы хіба што два пажаданні: каб наш украінскі альманах «Сузір'я» хутчэй перарос у часопіс і каб мы ў сваёй штодзённай практыцы выкарыстоўвалі вопыт Галоўнай рэдакцыйнай калегіі па пытаннях мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязей пры праўленні Саюза пісьменнікаў Грузіі. Але гэта тэма асобнай размовы.

Мы з Вамі гаворым пра агульна-літаратурныя праблемы. Думаю, што ў выніку ўзаемнага шырэйшага (і глыбейшага) асваення перакладчыкамі нашых літаратур вынікаюць праблемы ў нечым неспадзяваныя, на першы погляд. Я гэта адчуў і як укладальнік, і як адзін з перакладчыкаў, і як звычайны чытач,— прымаючы ўдзел у падрыхтоўцы юбілейнага ўкраінскага аднатомніка Янкі Купалы. Прызнаюся, я сумленна вывучыў усе пласты мастацкай інтэрпрэтацыі Вашага паэта — а іх з пачатку стагоддзя набралася нямала! Ёсць тут каштоўнасці, непадуладныя часу (пераклады Максіма Рыльскага), але ж давялося пераадольваць і пэўную перакладчыцкую інерцыю ва ўспрыманні Купалы як толькі «сялянскага паэта» (гэта наглядалася ва ўспрыманні і перасатварэнні дакастрычніцкай спадчыны Песняра), і прабівацца скрозь лахманы «дэкарацыйна-аздабленчых» варыянтаў, а то і з горыччу заўважаць прыкрыя кур'ёзы. Таму ці не найбольшай радасцю было яшчэ і яшчэ раз учытвацца ў арыгінал. У вялікі, сусветнай значнасці пяршатвор, імя якому — паэзія Янкі Купалы!

*В. Р.* Я разумею Вас. Мы ў Беларусі гэтаксама абавязаны па-новаму, а ў многіх выпадках і ўпершыню прачытаць Івана Франка. Некалькі слоў пра здабыткі ўкраінскага перакладу ў асваенні паэтычнага мацерыка Янкі Купалы. Беларускі Пясняр ужо даўно і трывала заняў сваё месца ў хатах і сэрцах украінцаў, знайшоў на Украіне, як любіў казаць М. Рыльскі, «другую радзіму». Толькі асобнымі выданнямі кніжкі Купалы выходзілі тут каля дваццаці разоў. А колькі іх, газетных і часопісных публікацый вершаў і паэм Песняра, друкавалася і друкуецца на старонках украінскай перыёдыкі, розных анталогій і хрэстаматый, школьных падручнікаў! Некаторыя творы Купалы маюць па два-тры і больш перакладных варыянтаў на ўкраінскай мове. Так, тройчы рознымі перакладчыкамі ўзнаўлялася паэма «Тарасова доля». А славуты верш «А хто там ідзе?» мае ўжо шэсць украінскіх адпаведнікаў!

*Р.Л.* Юбілейнае выданне Купалы планавалася як «выбранае» з багацейшай спадчыны народнага паэта Беларусі. Трэба было ўлічыць і наяўныя пераклады, апрабаваныя найлепшым рэдактарам — часам. Да іх я аднёс бы ўсё лепшае з даробку нашых класікаў — П. Тычыны, М. Рыльскага, У. Сасюры, М. Бажана, А. Малышкі. Былі выкарыстаны і некаторыя незаслужана прызабытыя пераклады (М. Шпака, С. Крыжаніўскага) — паколькі не ўсё тое новае, што датуецца днём сённяшнім. Скажам, тры старыя пераклады М. Зерава не толькі добра «ўпісаліся» ў сучаснае перакладчыцкае пісьмо, а і засведчылі салідную традыцыю перакладання Купалы ў 20-30-я гады, калі Іван Дамінікавіч так многа рабіў для папулярызацыі ўкраінскай культуры. Прынцыпова новым у інтэрпрэтацыі Купалы я лічу ўдзел у аднатомніку выдатнага нашага майстра Дмытра Паўлычкі. Ён ахвотна адгукнуўся на запрашэнне перакласці амаль усе санеты (у тым ліку адзін з польскай мовы), далей — цэлы «корпус» з першага тома сямітомнага Збору твораў (вершы 1904-1907 гг.). Дзякуючы ўключэнню цэлай нізкі вершаў, перакладзеных Д. Паўлычкам упершыню, прычым твораў надзвычай цікавых з пункту гледжання ідэйна-тэматычнага, фармальнага (санет, актава, белы верш і нават брахікалан), вобраз «украінскага» Купалы-паэта значна паглыбіўся. На жаль, няма тут магчымасці прадэманстраваць прыклады якасна новага прачытання Купалы — а гэта датычыцца і новых перакладаў Г. Кочура, Д. Паламарчука, С. Крыжаніўскага. С. Крыжаніўскі спецыяльна дапераклаў адноўленыя ў беларускім сямітомніку дзве страфы з верша «Памяці Шаўчэнкі», паднавіў сам пераклад. Рэдагаваліся або замяняліся выпадковыя пераклады. Адным словам, знімаўся перакладчыцкі і рэдактарскі рэтуш... Вы бачылі на багдановічаўскай мастацкай выстаўцы рэстаўраваныя фотапартрэты паэта? Як наблізіўся Максім да нас! Нялёгка гэта было рабіць фотамайстрам і мастакам. А тут такая тонкая матэрыя — паэтычнае слова, яго гучанне, усе тыя нюансы, пра якія Вы гаварылі спачатку. Зрушылася з месца і справа асваення «невядомага» ўкраінцам Купалы. Мне выпала шчасце, нялёгкае перакладчыцкае шчасце — упершыню паспрабаваць перакласці паэму «Яна і я», гэтую «песню песняў» беларускай паэзіі.

Я хацеў бы спадзявацца, што работа над юбілейным аднатомнікам плюс вопыт і набыткі папярэдніх выданняў пракладуць дарогу да шматтомнага Збору твораў Купалы і на ўкраінскай мове. Такім жа надзвычай неабходным здаецца мне і двухтомнік твораў Максіма Багдановіча.

*В. Р.* Вы, Раман Мар'янавіч, сказалі, што пераклалі да юбілею нізку твораў Янкі Купалы, у тым ліку і паэму «Яна і я». Несумненна, Вы сустрэліся з усімі названымі і неназванымі мною цяжкасцямі. І мне, і тым, хто нас сёння чытае, думаю, будзе цікава даведацца пра некаторыя Вашы перакладчыцкія назіранні і развагі. А пачаць размову пра гэта можна было б хоць з такой праблемы: наколькі адэкватна ўдаецца перадаць купалаўскі рытм? Скажам, радковым лагаэдам — відам верша, у якім раўнамерна чаргуюцца радкі розных метраў,— напісаны два раздзелы згаданай паэмы «Яна і я»: «Яблыні цвітуць» (тут папераменна чаргуюцца радкі шасцістопнага харэя і чатырохстопнага ямба) і «На сенажаці» (шасцістопны харэй — шасцістопны ямб). Называю гэтую форму верша, таму што яна надзвычай рэдкая. Радковы лагаэд у арыгінальнай рускай паэзіі, напрыклад, увогуле не зафіксаваны, некаторыя літаратуразнаўцы (у прыватнасці, Б. Тамашэўскі) нават лічылі яго практычна немагчымым. Праўда, Усевалад Раждзественскі, эквіметрычна пераклаўшы паэму на рускую мову, давёў неправамернасць такіх меркаванняў. І ўсё ж праблема існуе...

*Р. Л.* Праблема перадачы метрыкі гэтага твора, споўненага радасці светаўспрымання, дзіўнай гармоніі працы і красы прыроды, чалавечай асобы і бязмежнага свету, мяне, прызнацца, турбавала найбольш. Было нямала цяжкасцей, звязаных з перадачай бытавых і іншых рэалій. Зберагаю ў сябе на ўспамін «чарцёж» кроснаў, над якім дружна працавалі Алесь Жук, Рыгор Барадулін і Васіль Зуёнак, дакладна паясняючы, як ён працуе і як называецца тая ці іншая дэталь. Мае «настаўнікі» (гэта было пад час працы VII Усесаюзнага з'езда пісьменнікаў у гасцініцы «Масква») былі настолькі сумленныя, што ткацкую справу, я, прынамсі, тэарэтычна засвоіў... Намагаўся эквірытмічна перакласці паэму, ды галоўнае — зберагчы дух і каларыт твора...

Наколькі гэта мне ўдалося — няхай скажуць чытачы...

*В. Р.* Увогуле перадача нацыянальнага каларыту, своеасаблівага водару арыгінала — адна з найскладанейшых праблем пры перакладзе з блізкіх моў. А гэты водар і каларыт можа быць на розных узроўнях перакладаемага твора: у сістэме прамых і пераносных значэнняў слоў, у фоніцы, рытміцы, паэтычнай архітэктоніцы і г. д. Як Вы глядзіце на тое, каб будучую нашу размову — на старонках, скажам, ЛіМа — мы прысвяцілі гэтым пытанням, тым больш што для гэтага будзе значна больш матэрыялу?

*Р. Л.* Ахвотна прымаю Вашу прапанову. Разам з гэтай важнай праблемай мяне прываблівае магчымасць прааналізаваць з Вамі

«выхады» вашых перакладчыкаў на шырокія прасторы савецкай і сусветнай паэзіі. А ў паэзію славянскіх народаў? Тое, што робіць Н. Гілевіч у справе папулярызацыі балгарскай і югаслаўскай, П. Макаль — славацкай ці Хв. Жычка — чэшскай паэзіі, мяне цікавіць па многіх меркаваннях. Думаю, што і чытачам гэта будзе цікава. Тым больш — напярэдадні чарговага Кангрэса славістаў, які вясною наступнага года адбудзецца ў Кіеве. І гэта таксама знамянальна!

*В. Р.* Мы закранулі толькі асобныя пытанні літаратурнага ўзаемадзеяння, спыніліся на некаторых асаблівасцях мастацкага перакладу. Прычым амаль выключна гаварылі — што само сабой зразумела — пра беларуска-ўкраінскае літаратурнае ўзаемадзеянне. Аднак, відавочна, гэтых праблем значна больш. Відавочна і другое: тое, што тут гаварылася, калі не цалкам, то ў значнай ступені датычыцца беларуска-іншанацыянальнага літаратурнага ўзаемадзеяння ўвогуле.

*Р. Л.* Хачу Вас у гэтым падтрымаць. Па меры магчымасці я сачу за беларуска-іншанацыянальнымі літаратурнымі ўзаемасувязямі, у прыватнасці за развіццём перакладчыцкай справы ў Беларусі. Павінен сказаць, што гэтыя сувязі, асабліва з літаратурамі суседніх народаў — рускага, літоўскага, латышскага, у апошні час развіваюцца вельмі інтэнсіўна, плённа. Скажам, калі ўзяць толькі рускую паэзію, то вы, беларусы, можаце пахваліцца многімі дасягненнямі ў яе асваенні. Гэта найперш томікі «Выбраных твораў» М. Лермантава ў цудоўным узнаўленні А. Куляшова, кніжкі С. Ясеніна, А. Блока (у перакладзе С. Грахоўскага), А. Пракоф'ева, А. Вазнясенскага (у перакладзе Р. Барадуліна), любоўна выдадзены том вершаў паэтаў Ленінграда і інш. Перакладную прозу ведаю горш. Аднак і ў яе, спадзяюся, поспехі не меншыя.

*В. Р.* Сучасныя беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемасувязі я б назваў узорна-тыповымі. З аднаго боку, яны ўзорныя — у тым сэнсе, што, разам з беларускарускімі сувязямі, з'яўляюцца найбольш разнастайнымі па формах выяўлення, інтэнсіўнымі па сваім характары, плённымі па выніках. Адным словам — маюць усе падставы, каб на іх раўняліся, іх пераймалі, да іх «дарасталі». З другога боку, у самой структуры гэтых сувязей увасоблены ўсе тыповыя прыкметы і праблемы сучасных міжлітаратурных узаемаадносін увогуле. І пагаварыўшы даволі падрабязна пра беларуска-ўкраінскае літаратурнае ўзаемадзеянне, мы тым самым, па сутнасці, асвятлілі цэлы шэраг пытанняў, што датычыцца літаратурных сувязей наогул. У тым ліку і некаторыя з тых пытанняў — як, скажам, недастатковасць

планавасці і сістэмнасці ва ўзаемаперакладзе,— якія патрэбна неадкладна вырашаць.

*Р. Л.* Вы маеце рацыю. Таму хацелася б спадзявацца, што наша размова не толькі зацікавіць чытачоў, але і дапаможа цвяроза ўзважыць нашы дасягненні і паасобныя ўпушчэнні.

*В. Р.* З тым, каб у наступны раз мы маглі пахваліцца яшчэ большымі поспехамі ў мацаванні нашага братэрства.

## ІЛЬЯ ЧАЎЧАВАДЗЕ СЕННЯ І ЗАЎЖДЫ

У 1987 годзе Грузія адсвяткавала 150-гадовы юбілей свайго класіка, «бацькі нацыі» Ілы Рыгоравіча Чаўчавадзе.

Да гэтай даты грузіны рыхтаваліся даволі доўга і старанна. Яшчэ ў 1984 годзе быў створаны юбілейны камітэт на чале з тагачасным кіраўніком грузінскіх камуністаў Э. А. Шэварнадзе. А пасля таго, як ён пераехаў у Маскву, падрыхтоўку да выдатнай гадавіны ўзначаліў тагачасны першы сакратар ЦК Кампартыі Грузіі Д. І. Паціашвілі. Дзякуючы старанням юбілейнага камітэта, энтузіязму працоўных рэспублікі зроблена было многае. Адрэстаўраваны музеі пісьменніка ў Кварэлі (тут ён 8 лістапада 1837 г. нарадзіўся) і Сагурама (тут ён пражыў некалькі гадоў, да самай сваёй смерці 12 верасня 1907 г., што наступіла ад рукі найміта-забойцы). У Тбілісі да існуючага Дома-музея І. Чаўчавадзе на вуліцы Арджанікідзе дадаўся яшчэ адзін, па вуліцы Калініна, дзе таксама пэўны час жыў пісьменнік, дзе ён у 1877—1902 гг. выдаваў грузінскую газету «Іверыя» (у 1879—1885 гг. выходзіла ў выглядзе часопіса).

На сталічным праспекце, які носіць імя Ілы Чаўчавадзе, устаноўлены яшчэ адзін арыгінальны помнік песняру (аўтар — народны мастак СССР М. Бердзенішвілі). Кажу «яшчэ адзін», бо ў цэнтры Тбілісі ўзвышаецца групавы помнік двум вялікім сынам зямлі грузінскай — І. Чаўчавадзе і А. Цэрэтэлі.

У Дзяржаўнай карціннай галерэі працавала вялікая мастацкая выстаўка, прысвечаная І. Чаўчавадзе. У тэатрах шырока пайшлі спектаклі, пастаўленыя па яго п'есах, у кінатэатрах — фільмы, знятыя па яго творах.

Пад знакам высокага юбілею ў сталіцы Грузіі прайшоў міжнародны сімпозіум «Лёс сучаснай цывілізацыі і сусветныя літаратуры», у якім прынялі ўдзел пісьменнікі і літаратуразнаўцы з усіх саюзных рэспублік і 27 замежных краін. Паралельна працавала

ўсесаюзная навуковая канферэнцыя «Творчая спадчына Ільі Чаўчавадзе і літаратуры народаў СССР», арганізаваная Музеем дружбы народаў АН ГССР.

Да юбілею былі прымеркаваны і штогадовае «Тбілісоба» — традыцыйнае свята горада, а таксама ўрачыстасці, звязаныя з завяршэннем выдання першай універсальнай Грузінскай Савецкай Энцыклапедыі ў адзінаццаці тамах.

Юбілейныя нумары літаральна ўсіх грузінскіх газет і часопісаў цалкам (або амаль цалкам) былі прысвечаны І. Чаўчавадзе. Газета ж «Камунісці» (орган ЦК Кампартыі Грузіі) прыйшла да падпісчыкаў з не зусім звычайным дадаткам — вялікім каляровым партрэтам пісьменніка.

А 23 кастрычніка 1987 года ў Вялікай канцэртнай зале Грузінскай дзяржаўнай філармоніі адбылося ўрачыстае юбілейнае пасяджэнне, на якім з дакладам выступіў і якое вёў Д. І. Паціашвілі. Словы любові і ўдзячнасці І. Чаўчавадзе выказалі выдатныя савецкія пісьменнікі І. Абашыдзе, Т. Чыладзе, Я. Еўтушэнка, Г. Траяпольскі, І. Драч, Анар, С. Ханзадзян, Б. Шынкуба, іх замежныя калегі — сакратар Сусветнай асацыяцыі паэтаў Мімо Марына (Люксембург), прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі крытыкаў Рабер Андрэ (Францыя), вядомыя грузіназнаўцы прафесары Луіджы Магарота (Італія), Кім Брэйтвейт (ЗША), Тадао Шымоміа (Японія) і інш.

Асноўныя юбілейныя ўрачыстасці адбыліся ў канцы кастрычніка і супалі з падрыхтоўкай да 70-годдзя Вялікага Кастрычніка. Эстафету свята пераняла ўся савецкая краіна. Юбілейныя ўшанаванні грузінскага пісьменніка праводзіліся ва ўсіх саюзных рэспубліках. А 24 лістапада 1987 года юбілей Чаўчавадзе вялікім урачыстым вечарам адзначыла Масква.

Аднак жа чым заслужыў пісьменнік такую памяць і пашану, любоў і ўдзячнасць нашчадкаў? Чым ён дарагі не толькі грузінам, але і нам, беларусам, усім народам нашай неабдымнай Радзімы?

Калі думаеш пра Ілью Чаўчавадзе, на памяць прыходзяць словы Карла Маркса, сказаныя ім пра эпоху і дзеячаў Адраджэння: «Гэта была эпоха, якая патрабавала тытанаў і якая нарадзіла тытанаў па моцы духу, страсці і характары, па шматбаковасці і вучонасці». Грузія перажыла свой Рэнесанс яшчэ ў пачатку нашага тысячагоддзя, у прыватнасці ў перыяд царавання Тамар. З таго часу засталіся непаўторныя храмы і замкі, творы жывапісу, мастацкай літаратуры (у тым ліку бессмяротны «Віцязь у тыгравай шкуры» Шата Руставелі). Але і XIX стагоддзе, калі Грузія ў выніку Георгіеўскага трактату далучылася (у 1801 г.) да Расіі, таксама патрабавала людзей-тытанаў,

самаадданых падзвіжнікаў, якія б адрадзілі знясіленую шматлікімі папярэднімі войнамі нацыю, узнялі б дух народа, вывелі яго на вышыні сусветнага прагрэсу. Такой асобай і стаў Чаўчавадзе, спадчыннік старажытнага княжацкага роду, чалавек разнастайнага таленту, энцыклапедычных ведаў, нястомнай энергіі, цвёрдай волі і настойлівасці, выключнай працавітасці.

Любоў да роднай зямлі, яе гістарычную памяць, культуру пісьменнік усмоктваў разам з малаком і калыханкамі маці. Сталы ж рэвалюцыйна-дэмакратычны светапогляд яго фармаваўся пад уздзеяннем вялікіх рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў В. Бялінскага, М. Чарнышэўскага, М. Дабралюбава, А. Герцэна, у далёкім ад роднае Грузіі Пецярбургу, у сценах універсітэта. Тут Чаўчавадзе займаўся разам са сваім земляком, які пазней таксама стаў класікам літаратуры, А. Цэрэтэлі, з выдатным рускім крытыкам Д. Пісаравым, вядомымі землявольцамі М. Уціным і Л. Панцялеевым, з бацькам Ф. Дзяржынскага Эдмундам Дзяржынскім. І — з нашым легендарным Кастусём Каліноўскім, які паступіў на той жа юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта і скончыў яго, толькі годам раней. Несумненна, беларус і грузін ведалі адзін аднаго, не маглі не ведаць, паколькі ажно тры гады (1857-1860) жылі і вучыліся побач, разам удзельнічалі ў студэнцкім руху, займаліся ў адных і тых жа выкладчыкаў (у М. Кастамарава, У. Спасовіча, П. Плятнёва, М. Стасюлевіча і інш.). Ды і студэнтаў тады было не так многа, каб за тры гады не сустрэцца і не пазнаёміцца асабіста.

Пасля заканчэння універсітэта К. Каліноўскі, як вядома, едзе на Бацькаўшчыну, уключаецца ў актыўную рэвалюцыйную дзейнасць, пачынае нелегальна выдаваць «Мужыцкую праўду», становіцца кіраўніком паўстання ў Беларусі і Літве і за ўсё гэта ў дваццаць шэсць гадоў ідзе на эшафот. Што да Чаўчавадзе, то яго рэвалюцыйна-дэмакратычны светапогляд, сфармаваны ў Пецярбургскім універсітэце, пачынае неўзабаве, пасля вяртання ў Грузію, увасабляцца ў мастацкай творчасці, у шырокай грамадска-асветніцкай дзейнасці на карысць роднага народа.

Захапленне выклікае адзін пералік літаратурных відаў і жанраў, у якіх Чаўчавадзе пакінуў свой яскравы след. Ён перш за ўсё паэт, аўтар выдатных грамадзянскіх, пейзажных і інтымных вершаў («Араты», «Грузінцы-маці», «Калыханка», «Да Алазані», «Дзень падзення Камуны», «Адказ на адказ», «Базалецкае возера», «Паэт», «Вясна»), арыгінальных паэм («Прывід», «Маці і сын», «Дзмітрый Самаахвярнік», «Некалькі карцін, ці Выпадак з жыцця разбойніка»). Сваімі творамі паэт узняў на новую, небывалую датуль вышыню паэтычную

культуру, пашырыў версіфікацыйныя магчымасці грузінскай мовы. Не меншае значэнне для грузінскай літаратуры мела і дзейнасць Чаўчавадзе-празаіка, што знайшла ўвасабленне ў апавяданнях, нарысах, аповесцях. Такія яго творы, як аповесці «Ці чалавек ён?», «Расказ жабрака», «Запіскі падарожніка», «Атарава ўдава», апавяданне «На шыбеніцы» і шэраг іншых, з'явіліся выдатным узорам рэалістычнага спасціжэння рэчаіснасці, глыбіннага пазнання псіхалогіі чалавека, заканамернасцей грамадскага развіцця. Многім абавязана І. Чаўчавадзе і грузінская драматургія, а таксама гісторыя тэатра, тэатральная крытыка. У вогуле крытыка была адной з галоўнейшых галін дзейнасці пісьменніка. Ён паклаў пачатак грузінскай мастацкай прафесійнай крытыцы, адразу паставіў яе на трывалы падмурак эстэтыкі рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў. Не было, відаць, ніводнай значнай падзеі ў духоўным і матэрыяльным жыцці Грузіі другой паловы XIX — пачатку XX стст., на якую б не адгукнуўся І. Чаўчавадзе сваім пранікнёным публіцыстычным словам. А хіба меншае значэнне мела яго перакладчыцкая праца? Творы А. Пушкіна, М. Лермантава, М. Някрасава, В. Гюго, В. Шэкспіра, Ф. Шылера, Г. Гейнэ і многіх іншых дзякуючы яму загучалі высока-паэтычна і пагрузінску...

Аўтар «Атаравай удавы» — пачынальнік метаду крытычнага рэалізму ў новай грузінскай літаратуры. Пісьменнік адышоў ад традыцый рамантызму, паклаў у аснову адлюстравання рэчаіснасці не выключнае, а тыповае — тыповыя вобразы, абставіны, дэталі (псіхалагічныя, бытавыя, пейзажныя). Ён пакінуў у грузінскай літаратуры не толькі жанр рэалістычнай аповесці, але і ліра-эпічнай рэалістычнай паэмы. І. Чаўчавадзе дэмакратызаваў грузінскую літаратурную мову, ачысціў яе ад устарэлых, амярцвелых слоў і сінтаксічных канструкцый, надаў ёй жывое народнае дыханне. Па сутнасці, ён адзін рабіў тое, што ў іншых літаратурах выконвалі некалькі пісьменніцкіх пакаленняў.

І гэта яшчэ не ўсё.

Ілья Чаўчавадзе пакінуў глыбокі след у розных навуках: літаратуразнаўстве і гісторыі, эканоміцы і юрыспрудэнцыі, мовазнаўстве і педагогіцы, журналістыцы, фалькларыстыцы і сацыялогіі. На жаль, пакуль што яго глыбока змястоўныя і арыгінальныя навуковыя працы амаль не перакладзены на рускую мову і, па сутнасці, невядомы шырокаму ўсесаюзнаму чытачу. Нават па-грузінску не выдадзены яшчэ Поўны збор твораў пісьменніка. Калі гэта будзе зроблена, тытанізм яго творчай постаці акрэсліцца яшчэ выразней. Так, як акрэсліўся тытанізм І. Франка, калі мы атрымалі Збор яго твораў у 50-ці тамах (хаця, трэба сказаць, яшчэ таксама не поўны).

Ілья Чаўчавадзе да самай сваёй смерці нястомна служыў патрыятычным і гуманістычным ідэалам. Прычым, служэнне яго было дзейсным і канкрэтным. Ён не прызнаваў абстрактнага гуманізму, любові да чалавека ўвогуле, як не прызнаваў патрыятызму на словах, а не на справе. Жыццё роднага народа, жывая практыка для яго былі важней за ўсё.

У філасофскай паэме «Пустэльнік» Чаўчавадзе асудзіў аскетызм, адарванасць ад жыцця і адначасова — голае, не падмацаванае жыццёвай практыкай, служэнне ідэалам. Ён паказаў крах ілюзій пустэльніка, які, добраахвотна пазбавіўшы сябе жыццёвых радасцей, служыў толькі «вышэйшай» мэце. Але што можа быць вышэй рэальнага жыцця, служэння гэтаму жыццю!

І дарэмна некаторыя літаратары, накшталт Т. Чыладзе (гл. яго артыкул «Прарок» у «Дружбе народов», 1987, № 11), лічаць, што «Ілья Чаўчавадзе асуджае пустэльніка і судзіць яго не за здраду зямному, а за здраду духу і веры». І «дух» і «вера» самі па сабе, без «зямнога», нічога не вартыя! Гэтую думку сцвярджае пісьменнік усёй логікай сюжэтнага развіцця твора, смерцю свайго героя. І меркаваў так, дарэчы, не ён адзін. На падобных пазіцыях стаяў І. Франко. Варта адно прыгадаць яго паэмы «Святы Вікенці», «Цар і аскет», «Іван Вышанскі», каб пераканацца ў гэтым. Ды і філасофская паэма нашага А. Куляшова «Цунамі» ці не гаворыць пра тое самае?!

Што да Чаўчавадзе, то сваю філасофскую канцэпцыю ён штодзённа ўвасабляў у жыццёвай практыцы. Вось у каго слова не разыходзілася са справай! Вось у каго і сёння можна павучыцца дзейснай любові да роднага народа, канкрэтным клопатам пра яго духоўнае адраджэнне і нават матэрыяльны дабрабыт!

Слушна лічачы, што «без эканамічнай магутнасці... нацыя не зробіць і кроку ўперад, як бы ні была душа яе поўнай вялікіх дум і пачуццяў», пісьменнік арганізаваў і на працягу трыццаці гадоў узначальваў Усегрузінскі зямельны банк. «Вялікая роля гэтага банка ў акрэсленні самасвядомасці народа,— падкрэсліў на згаданым юбілейным пасяджэнні Д. І. Паціашвілі.— Гэта была не проста крэдытная ўстанова, а нацыянальны цэнтр барацьбы за прагрэс. Тут зараджаліся і ўвасабляліся ў жыццё ўсе ідэі, што служылі мірнаму пераўтварэнню жыцця народа».

Надаючы велізарнае значэнне культурна-асветніцкай працы сярод простага народа, Чаўчавадзе тры дзесяткі гадоў стаяў на чале арганізаванага ім Таварыства па распаўсюджанні пісьменнасці сярод грузін. Таварыства клапацілася пра стварэнне грузінскіх школ, забеспячэнне іх навучальнымі дапаможнікамі, выдавала для народа

танныя кніжкі грузінскіх і замежных аўтараў, збірала старажытныя рукапісы, публікавала фальклорныя запісы, турбавалася пра ўвекавечанне і папулярызацыю выдатных дзеячаў нацыянальнай гісторыі і культуры. Па сутнасці, рабіла тое, што і недаацэненыя дагэтуль украінская «Просвіта», беларускія культурнікі, згрупаваныя вакол дарэвалюцыйных газет і выдавецкіх суполак.

Ілья Чаўчавадзе слушна лічыў, што нацыянальная тэатральная сцэна можа быць «ачышчальніцай жыцця», тым высокім мастацтвам, што «вызваляе і хвалюе нашы розумы і сэрца». Разам з тым тэатр можа і павінен стаць «тым месцам, дзе мова наша паўстане ва ўсёй сваёй красе і багацці». Як, дарэчы, актуальныя гэтыя думкі і сёння! Пісьменнік узначаліў яшчэ адно грузінскае таварыства — тэатральна-драматычнае, рабіў усё магчымае для развіцця нацыянальнага тэатра: падтрымліваў яго маральна і матэрыяльна (праз зямельны банк), пісаў п'есы, рэцэнзіі на спектаклі, тэатразнаўчыя артыкулы, усяляк заахвочваў працу акцёраў і рэжысёраў. У выдатных поспехах сённяшняга грузінскага тэатра ёсць, несумненна, і заслуга Чаўчавадзе.

Літаратурная, асветніцкая, эканамічная, як і любая іншая, дзейнасць вялікага Ільі была скіравана на адно: сацыяльнае і нацыянальнае адраджэнне роднага народа, на «збіранне нацыі». Нездарма яшчэ пры сваім жыцці пісьменнік заслужыў паважлівае найменне «бацькі нацыі». «Гора таму народу, у якога высахла кроў у жылах, дзе кожны не жыве ва ўсіх і ўсе — у кожным, дзе кожны не думае пра ўсіх і ўсе — пра кожнага, дзе часта чуецца «я» і рэдка «мы»,— павучаў сваіх суайчыннікаў Чаўчавадзе, перажываючы за іх раз'яднанасць, адасобленасць. Ён штодзённа думаў пра будучае роднага народа, стаў выразнікам яго намераў, ідэалаў. Гэта давала яму права на многае: і на шчырую споведзь, і на палкую пропаведзь, і на гнеўнае асуджэнне. Ён грозна папярэджваў грузін: «Падзенне нацыі пачынаецца тады, калі народ забывае сваю гісторыю, калі ён забывае сваё мінулае, сваё ранейшае жыццё! Забыццё гісторыі, свайго мінулага і выкараненне з памяці пройдзенага жыцця — прадвеснік духоўнага і фізічнага разлажэння». Як актуальна гучаць гэтыя словы і цяпер! І, безумоўна, будуць актуальны заўсёды, пакуль будуць існаваць нацыі...

Абуджаючы ў сэрцах сваіх сучаснікаў пачуццё «нацыянальнага сораму» (К. Маркс), Чаўчавадзе з горкай іроніяй пісаў: «Ці ёсць дзе-небудзь народ, такі ж шчаслівы, як мы? Усе хціўцы, усе нямыя... сляпыя, паслушныя цуглям, усе глухія, ілжывыя... і малыя, і вялікія — усе падлюгі, махляры, гультаі... не распазнаюць ворага, здраджваюць сябру, дома смелыя, а на вуліцы баязлівыя, нічога не ведаюць,

абыякавыя і галодныя». Каб сказаць такое, трэба быць сапраўдным патрыётам, такім, якім быў Тарас Шаўчэнка, які злосна кідаў у вочы землякам: «Раби, подножки, грязь Москви, варшавське сміття...» Якім быў Янка Купала, які гнеўна кляйміў «адродкаў» Белай Русі...

Некаторыя суайчыннікі злаваліся на Чаўчавадзе: як ён можа так гаварыць пра сваіх, чаму не прыхоўвае недахопаў, а, наадварот, выстаўляе іх напаказ, гэта ж яўная нянавісць! «Гэта гавораць дурні,— адказваў на такія закіды пісьменнік,— добрае ж сэрца адразу адчуе — колькі ў гэтай нянавісці любові!»

«Збіранне нацыі» дало свой плён. Ужо ў пачатку стагоддзя грузіны былі моцныя як ніхто сваім адзінствам, сваёй гістарычнай і культурнай памяццю, верай у шчаслівую будучыню. Сваё імкненне да нацыянальнага адраджэння і дзяржаўнай самастойнасці грузінскі народ рэалізаваў у гады Савецкай улады. Сусветнага ўзроўню дасягнулі грузінская навука, культура, мастацтва. Па колькасці людзей з вышэйшай адукацыяй на тысячу чалавек грузіны знаходзяцца на першым месцы не толькі ў СССР, але і ў свеце. Грузінская мова з'яўляецца дзяржаўнай паводле Канстытуцыі рэспублікі, яна фактычна выконвае ўсе функцыі, што ёй належаць: дзяржаўна-палітычныя, адміністрацыйныя, літаратурна-мастацкія. Думаецца, Чаўчавадзе быў бы шчаслівы бачыць сваю зямлю ў росквіце яе эканомікі, культуры, народнай асветы.

Інтэрнацыяналістам можа быць толькі сапраўдны патрыёт. Бязмежная любоў да сваёй нацыі ў Чаўчавадзе арганічна спалучалася з высакароднымі адносінамі да іншых нацый і народнасцей: рускіх, армян, азербайджанцаў, украінцаў... Ён вельмі высока цаніў рускую культуру і літаратуру, заклікаў грузін «усмоктваць» у сябе рускую культуру, авалодваць рускай мовай. І гэтыя запаветы вялікага сына зямлі грузінскай увасабляюцца ў жыццё: сучасная Грузія паказвае прыклад не толькі патрыятычнага, але і інтэрнацыянальнага выхавання моладзі, не толькі мацавання, але і вывучэння братэрскіх сувязей. У Тбілісі працуе Галоўная калегія па справах перакладу і літаратурных узаемасувязей — спецыяльная ўстанова, якая займаецца ўсталяваннем літаратурных кантактаў (найперш — арганізацыяй перакладаў) паміж літаратурамі Грузіі (грузінскай, асецінскай, абхазскай) і літаратурамі народаў СССР і замежных краін. У Тбілісі, пры АН Грузіі, існуе Музей дружбы народаў — навуковая ўстанова, супрацоўнікі якой займаюцца вывучэннем грузінска-іншанацыянальных сувязей (эканамічных, культурных, літаратурных). Дарэчы, якраз у юбілейныя Чаўчавадзеўскія дні супрацоўнік гэтага музея Вахтанг Салія, колішні стажор БДУ імя У. І. Леніна, абараніў

кандыдацкую дысертацыю па грузінска-беларускіх літаратурных узаемасувязях 20-30-х гг. нашага стагоддзя.

Не можам пакуль што мы пахваліцца і перакладамі твораў Чаўчавадзе на беларускую мову. На юбілейныя ўрачыстасці ў Тбілісі асобныя новыя выданні твораў пісьменніка прывезлі ўкраінцы, азербайджанцы, армяне, казахі, венгры, італьянцы, сірыйцы... Што да нас, беларусаў, то верш «Араты» ў даваенных перакладах В. Вольскага і Р. Лынькова, апавяданне «Ніколаз Гасташабішвілі» ва ўзнаўленні Хв. Жычкі — вось, па сутнасці, і ўсё з багацейшага творчага даробку Чаўчавадзе, што мы маем сёння на роднай мове. Не шмат і напісана пра вялікага грузінскага пісьменніка ў нашым друку — літаральна пару спецыяльных артыкулаў (у тым ліку ў БелСЭ) ды некалькі кароткіх характарыстык у артыкулах агульных (пра грузінскую літаратуру). Цяпер пачала выдавацца перакладная кніжная серыя «Скарбы сусветнай літаратуры». Несумненна, адзін яе том варта аддаць творам Ільі Чаўчавадзе.

Творам, якія жывуць з намі сёння. Якія будуць жыць заўсёды.

## ТОЛЬКІ ДЗВЕ СТАРОНКІ

У кнізе беларуска-грузінскага культурнага яднання нямала цікавых, але не надта вядомых старонак. Чаму не надта вядомых? А таму, што — на жаль! — не асабліва часта ў гэтую кнігу зазірае цікаўнае вока беларускіх літаратуразнаўцаў. Іх позірк найчасцей скіроўваецца на ўсходнеславянскае духоўнае пабрацімства.

Грузінскія гісторыкі літаратуры ў асэнсаванні нашых узаемасувязей зрабілі значна больш. Дастаткова сказаць, што ў Грузіі на гэту тэму за апошнія дваццаць гадоў абаронены чатыры кандыдацкія дысертацыі — К. Кванчатырадзе, С. Кекялідзе, Н. Гапрындашвілі і В. Салія, выйшлі дзве манаграфіі — «З гісторыі грузінска-беларускіх літаратурных узаемаадносін» К. Кванчатырадзе (1973) і «Грузінска-беларускія літаратурныя ўзаемасувязі» С. Кекялідзе (1979), апублікавана нямала артыкулаў (названых даследчыкаў, а таксама І. Багамолава, А. Баканідзе і інш.). Паступова ўзнікае аб'ектыўная, паўнацэнная гісторыя беларуска-грузінскіх літаратурных узаемаадносін.

І ўсё ж да сёння ў гэтай гісторыі існуюць «белыя плямы», нават асобныя чыстыя старонкі — пераважна ў беларускай яе частцы. Паспрабуем зараз запоўніць дзве такія старонкі.

## *Старонка першая*

Пра беларуска-грузінскія ўзаемасувязі пачатку XX стагоддзя ні ў нас, ні ў грузін не надрукавана ніводнага артыкула. У той жа час дасягненні (гэтаксама як і пралікі) у духоўным яднанні Беларусі і Грузіі першых савецкіх гадоў (дый пазнейшага часу) істотна прадвызначаны падзеямі папярэдніх двух дзесяцігоддзяў.

Пагартаем старонкі «Нашай нівы» (1906-1915), у якой, па словах вядомага дзеяча польскай сацыялістычнай партыі Ляона Васілеўс-кага, не было «ні следу шавінізму, ніводнай праявы нацыяналізму».

Грузінская тэма адразу, з першых нумароў арганічна ўвайшла ў газету. Так, ужо ў яе чацвёртым нумары за 1906 год у інфармацыі «Расходы на адміністрацыю» гаварылася пра зарплату царскага намесніка на Каўказе. Аказваецца, ён атрымліваў больш, чым любы чыноўнік у тагачаснай Расійскай імперыі — 55 066 рублёў у год, нават больш, чым самы «дарагі» варшаўскі генерал-губернатар (53 790 руб.). «Калі аб'яўляецца ваеннае палажэнне, то ўсе гэтыя пенсіі павялічваюцца»,— падкрэсліваў штотыднёвік. У № 6 за той жа 1906 год у карэспандэнцыі «З Тыфлісу» паведамлялася, што «пасля паўдня 9 дзекабра нейкі чалавек выстраліў два разы з рэвальвера ў быўшага нахічаванскага павятовага начальніка — падпалкоўніка Энкеля. Кулі трапілі яму ў шыю, а сам той чалавек уцёк». Такая інфармацыя, безумоўна, не выхоўвала ў чытачоў-беларусаў пачуцця павагі да дзяржаўнага ладу; наадварот, яна выклікала пэўную радасць ад таго, што нехта, у дадзеным выпадку на далёкім ад Беларусі Каўказе, не баіцца ўступіць ва ўзброеную барацьбу з прадстаўнікамі разбагацелай на народным горы царскай адміністрацыі.

Спецыфічныя ўмовы грамадска-палітычнага і культурнага развіцця Беларусі ў пачатку XX стагоддзя, слабасць у той час беларуска-грузінскіх літаратурных сувязей абумовілі адсутнасць у «Нашай ніве» перакладаў з грузінскай літаратуры, крытычных матэрыялаў пра яе. У той ці іншай сувязі згадваліся толькі асобныя дзеячы літаратуры і культуры Грузіі. «Любая сонцу краіна» (Янка Купала) са старонак газеты паўставала найперш у інфармацыйна-прапагандысцкіх матэрыялах грамадска-палітычнага характару, якія друкаваліся звычайна ў рубрыках «З усіх старон», «Аб усім патроху», «За апошні тыдзень». Прычым падбіраліся матэрыялы з такім разлікам, каб паказаць дэспатызм царскай адміністрацыі, яе здзекі (праўда, не заўсёды беспакараныя) з грузінскага народа, асобныя спробы супраціўлення ўладзе. Такія паведамленні паступалі з усяго Каўказа. Але найчасцей у іх упамінаўся Тыфліс (Тбілісі).

Вось адно з такіх паведамленняў:

«Тыфліс. 11 студня. У Гурыі начальнік павету пад страхам збівання нагайкамі сагнаў на сабранне больш 1000 чалавек. З'явіўшыся са сваім памочнікам — камандзірам вайсковай часці, ён запатрабаваў выдачы агітатараў, якія быццам бы дзейнічаюць сярод сялян. Калі сабранне не захацела іх выдаць, тое месца акружылі салдаты і начальнік аб'явіў, што ўсё сабранне арыштавана. Пасля 12 гадзін арышту дваран і купцоў адпусцілі, а сялян больш сутак трымалі на марозе пад голым небам. У павеце пачаліся арышты грамадзян» (1907, № 4).

Газета друкавала невялікія, але красамоўныя паведамленні — пра прыстава Дзішынскага і двух яго памочнікаў-стражнікаў, якія «на допросах смажылі арыштаваных распаленым жалезам» (1912, № 17); пра разбой, учынены чатырма «стражамі парадку», якіх ваенны суд Тыфліса вымушаны быў асудзіць на смерць (1911, № 41); пра трагедыю на каўказскіх медных рудніках — «забіта 6, скалечана 28 работнікаў» (1913, № 45); пра разгляд у Тыфліскай судовай палаце справы прыстава Барнова, які здзекаваўся над людзьмі: «агаліў дзесяць сялян і, выставіўшы іх у двор, прывязаў адзін да другога за палавыя часці цела» (1907, № 10). «Наша ніва» абуралася: «І за такі жудасны здзек, пра які не чуваць ва ўсім свеце, прыстава судзілі ўсяго на тры месяцы турмы. А ў той жа дзень былўшага дэпутата Фрэнкеля за раздачу сялянам патрэбных ім кніг прысудзілі ў турму на два гады». Газета не ўдакладняла, што гэта за «патрэбныя» для сялян кнігі; чытачам і так было ясна: рэвалюцыйныя выданні. Аднак, сапраўды, як выразна адрознівалася мера пакарання, як, па сутнасці, беспакарана здзекаваліся царскія чыноўнікі з грузінскага народа!

Перапыняліся любыя, у тым ліку самыя нязначныя спробы супраціўлення ўладзе, нават звычайнае незадавальненне. Так, святар Татарышвілі выказаў сваю думку пра неабходнасць адмены смяротнае кары. За гэта «свяшчэнны сінод пасадзіў яго пад арышт у манастыр» (1907, № 15). У Тыфлісе «суд, разабраўшы справу аб камітэце сацыял-дэмакратаў, прыгаварыў на 4 гады катаргі 11 падсудзімых» (1909, № 34). «За супраціўленне паліцыі» расстралялі ў Тыфлісе двух татар (1913, № 45). У Кутаісі ваенны суд разглядаў справу рэвалюцыянераў, што належалі да арганізацыі «Красная сотня». 7 душ прыгаварылі да павешання, 14 — да катаргі (1911, № 44). З такіх паведамленняў, з судовай хронікі, якая сведчыла, здавалася б, пра немінучасць пакарання, вычытвалася і іншае: усё-ткі ёсць людзі, якія змагаюцца за праўду, не баяцца нават смерці ў імя ажыццяўлення ідэалаў справядлівасці! Часам і непрыхавана

гаварылася пра гэтае, прычым паспяховае, змаганне: «Тыфліс (на Каўказе). Ноччу нехта застрэліў начальніка жандармаў Каўказскіх жалезных дарог...» (1907, № 9).

Шэраг грузіназнаўчых матэрыялаў, якія друкаваліся ў «Нашай ніве», звязаны з паведамленнямі пра другую Дзяржаўную думу (20 лютага — 2 чэрвеня 1907 г.). Як вядома, бальшавікі, улічыўшы змены абставін, спад рэвалюцыйнай хвалі, знялі лозунг байкоту Дзяржаўнай думы, што праводзіўся ў адносінах да першай Думы, і вырашылі выкарыстаць яе трыбуну для палітычнага выхавання працоўных, выкрыцця рэакцыйнай палітыкі царызму і буржуазіі, падрыхтоўкі народа да новай барацьбы за свабоду. Тактыка «левага блока» з трудавікамі і эсэрамі ў перыяд выбарчай кампаніі прывяла да таго, што ў другую Думу было выбрана 65 сацыял-дэмакратаў, якія найбольш паслядоўна адстойвалі ў ёй інтарэсы рабочых і сялян, абаранялі справу народнай рэвалюцыі, патрабавалі канфіскацыі памешчыцкіх зямель.

«Наша ніва», якая ўскладала пэўныя надзеі на буржуазную парламенцкую дэмакратыю, на стварэнне адказнага перад Дзяржаўнай думай урада, уважліва сачыла за працай другой Думы, регулярна, на першых старонках, паведамляла пра яе пасяджэнні. Мяркуючы па газетных матэрыялах, рэдакцыйнай калегіі асабліва імпанавалі паводзіны ў Думе сацыял-дэмакратаў, сярод якіх былі і два грузіны — Пракоп Джапарыдзе (1880-1918), у будучым вядомы Бакінскі камісар, адзін з кіраўнікоў Бакінскай камуны, і Іраклій Цэрэтэлі (1881-1959), пазней адзін з лідэраў меншавізму, міністр Часовага ўрада.

Яшчэ 18 лютага 1907 года, за два дні да пачатку пасяджэння Думы «Наша ніва», прадстаўляючы некаторых дэпутатаў, паведамляла: «Кутаіс. Іраклій Цэрэтэлі. Прабыў у ссылцы ў Сібіры 5 гадоў. Належыць да Расійскай сацыял-дэмакратычнай партыі. Вельмі таленавіты прамоўца» (1907, № 7). А ўжо 23 сакавіка ў рэпартажы з пасяджэння Думы «Дапамога беспрацоўным работнікам» газета падрабязна пераказвала прамову П. Джапарыдзе: «Першы пачаў гаварыць пра беспрацоўных дэпутат Джапарыдзе, сацыял-дэмакрат. Смела можна сказаць, што ў Расіі галадае больш ста тысяч беспрацоўных работнікаў. Дзе ж прычына такой агромнай бяды народнай? Гэта стараўся растлумачыць Джапарыдзе» (1907, № 12). П. Джапарыдзе выкрываў розныя хітрыкі царскага ўрада, у прыватнасці маніфест 17 кастрычніка, указваў на неабходнасць стварэння спецыяльнай камісіі па аказанні дапамогі беспрацоўным і г. д. На тым жа пасяджэнні «Цэрэтэлі (сацыял-дэмакрат) сцвярджаў, што дзяржаўныя чыноўнікі ідуць супраць адчужэння памешчыцкай зямлі таму, што яны самі

памешчыкі; вось і не даюць нікому чапаць прыватную ўласнасць» (тамсама). У інфармацыі пра пасяджэнне Дзяржаўнай Думы 24 мая 1907 года паведамлялася пра запытанне ў Думе адносна незаконных дзеянняў карнага атрада ў Ланчхуці Кутаіскай губерні. Там салдаты «выбівалі» з людзей 52 тысячы рублёў падатку: узломвалі дзверы, урывался ў дамы, забралі шэсць чалавек заложнікаў (1907, № 21). Тут жа інфармавалася, што дэпутат Цэрэтэлі ўнёс у Думу праект сацыял-дэмакратаў аб адчужэнні памешчыцкай зямлі без выкупу і надзяленні ёю сялян. Гэтае паведамленне сяляне Беларусі — асноўны кантынгент чытачоў «Нашай нівы» — несумненна, успрынялі з захапленнем і пэўнай надзеяй, якой — на жаль! — не суджана было ажыццявіцца. Бо ўжо ў наступным сваім нумары за 8 чэрвеня газета публікуе паведамленне пра Трэцячэрвенскі пераварот — разгон царом другой Думы, арышт некаторых дэпутатаў: «Быўшыя дэпутаты князь Цэрэтэлі (с.-д.) і Джапарыдзе (с.-д.) арыштаваны на кватэры сацыял-дэмакратычнай фракцыі...» (1907, № 22). А 7 снежня ў нататцы «Суд над дэпутатамі сацыял-дэмакратычнай фракцыі II Дзяржаўнай Думы» газета падрабязна расказала пра судзілішча, што наладзілі над дэпутатамі сацыял-дэмакратамі. На гэты раз прозвішчы падсудных не называліся, але падлікі даваліся — усяго, паводле газеты, судзілі 48 чалавек (1907, № 35).

Над цікавым фактам беларуска-грузінскіх узаемаадносін пачатку XX стагоддзя заслону прыадкрывае артыкул нейкага Капца «Беларусы ў Закаўказзі», надрукаваны ў «Нашай ніве» 7 красавіка 1911 года.

Аказваецца, у 1906-1911 гг. у Тыфлісе існаваў беларускі літаратурна-асветны гурток, што аб'ядноўваў «свядомых сыноў Беларусі, якія свабоднае развіццё кожнай нацыі лічылі лепшай дарогай да сусветнага прагрэсу». У гурток, у прыватнасці, уваходзілі два журналісты, два літаратары (працавалі ў рускіх газетах), настаўнік, нейкі чыноўнік і іншыя — выхадцы з Беларусі, «найбольш мінчукі». Яны збіраліся на агульных абедах, вячэрах, рабілі прагулкі за горад, выязджалі ў горы. «У цэнтры кружка,— як пісаў Капец,— быў высокі чыноўнік: чалавек вельмі здольны, вучоны, прайшоўшы крэпкую жыццёвую школу, па духу і па крыві — беларус чыстакроўны. У яго больш за ўсё і збіраліся. Ідэйны кірунак узяў у свае рукі адзін з журналістаў, малады энергічны чалавек з вышэйшай навукай. Вучыцель добра гаварыў па-беларуску, знаў на памяць Марцінкевіча, шмат якія беларускія быліны, песні і др. Літаратары, хоць і працавалі ў каўказскіх расейскіх газетах, але духоўны корм для сваёй творчасці бралі з родных матываў і ўспамінаў аб роднай зямлі. Іншыя маглі

добра расказаць гісторыю грамадзянскага руху ў Беларусі, гаварыць беларускія казкі. Былі і спевакі беларускіх песень. Усё гэта гуртам давала корм для розуму і сэрца. Было пастаноўлена вырабіць устаў кружка і падаць яго на зацвярджэнне. Меркавалі арганізаваць сваю бібліятэку, арганізаваць беларускі тэатр з песнямі і танцамі...»

Аўтар артыкула са шкадаваннем адзначае, што ў выніку некаторых аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын праца гуртка ў апошні час пачала згортвацца («Двое, каторыя кіравалі гуртком, былі як бы яго сэрцам, прымушаны былі ў 1910 гаду пакінуць на нейкі час сваю добрую справу. Адзін — з прычыны хваробы, а другі — з прычыны выезду з Тыфліса»). Разам з тым выказваецца надзея, што «кружок яшчэ папрацуе і далей павядзе пачатую справу». Ва ўсякім разе, ужо адно тое, што ён узнік, паказвае: «нацыянальнае пачуццё ў беларуса яшчэ не зусім замерла. Беларусь можа быць удзячна сваім лепшым сынам за іх працу дзеля адраджэння і мець поўную надзею на сваё адраджэнне...»

Публікацыя «Нашай нівы» паказвае шлях да далейшых архіўных пошукаў, якія могуць прывесці да адкрыцця невядомых яшчэ фактаў беларуска-грузінскіх сувязей пачатку нашага стагоддзя.

### *Старонка другая*

На гэты раз гутарка пойдзе пра Трэці пленум праўлення Саюза пісьменнікаў СССР (Мінск, 10-16 лютага 1936 года). Уласна, не пра ўвесь пленум (пра яго я ўжо расказваў у артыкуле «На Трэцім, паэтычным...»), а пра месца і ролю ў ім грузінскіх пісьменнікаў, грузінскай літаратуры.

Пленум упісаў сваю яскравую старонку ў летапіс беларуска-грузінскіх літаратурных узаемаадносін. Кантакты паміж беларускімі і грузінскімі савецкімі пісьменнікамі пачаліся некалькі раней, у сярэдзіне 20-х гг. Адчувальнае паскарэнне яны атрымалі ў 1935 годзе, калі па ініцыятыве Максіма Горкага Саюзы пісьменнікаў Беларусі і Грузіі абмяняліся творчымі брыгадамі. Калі былі напісаны і надрукаваны значныя мастацкія і публіцыстычныя творы грузінаў пра Беларусь, а беларусаў — пра Грузію. Пленум не толькі пацвердзіў і ўзаконіў неабходнасць пісьменніцкіх кантактаў, але і значна іх пашырыў, надаў беларуска-грузінскаму «вопыту дружбы» ўсесаюзную вядомасць, прызнаў мэтазгодным распаўсюдзіць гэты вопыт на іншыя пісьменніцкія арганізацыі.

Сам факт правядзення «пленума дружбы» ў Мінску, удзел у ім вялікай групы выдатных майстроў грузінскага мастацкага слова, 15-

годдзе Савецкай Грузіі, якое адзначалася ў тым жа лютым 1936 года (дакладней — 25 лютага),— усё гэта не магло не прывесці да значнага пашырэння беларуска-грузінскіх літаратурных кантактаў, асабліва — перакладу грузінскіх твораў на беларускую мову, напісання арыгінальных беларускіх твораў (найперш паэтычных) на грузінскую тэматыку.

...Літаральна ўсе беларускія перыядычныя выданні ў пачатку 1936 года публікуюць пераклады з грузінскай літаратуры, артыкулы пра Грузію, пра грузінскіх пісьменнікаў, змяшчаюць іх фотапартрэты. Асабліва вылучаецца ў гэтых адносінах «Літаратура і мастацтва». Яшчэ напярэдадні пленума, 31 студзеня 1936 г., яна друкуе верш С. Чыкавані «Рыонзброс» у перакладзе М. Хведаровіча. У нумары за 11 лютага 1936 г. газета публікуе вялікую рэцэнзію Н. Бялькевіч на кнігу таго ж С. Чыкавані «Стихи», выпушчаную выдавецтвам «Художественная литература» ў 1935 годзе. У рэцэнзіі аўтар вершаў далучаецца да «выдатных паэтаў Савецкай Грузіі», падрабязна аналізуюцца яго творы, прыводзяцца шматлікія цытаты, якія пацвярджаюць выніковасць яго «Пошукаў героя» (так названа рэцэнзія).

У органе ЦК КП(б)Б газеце «Звязда» 26 лютага 1936г. апублікаваны ўрывак з паэмы Т. Табідзе «Усім сэрцам» у перакладзе П. Броўкі, верш М. Хведаровіча «Казбек» і нарыс Э. Самуйлёнка «Радзіма марганца». У той жа газеце (16 лютага 1936 г.) быў змешчаны фотаздымак, на якім мы бачым некаторых удзельнікаў пленума — пісьменнікаў РСФСР, Беларусі і Грузіі: М. Галоднага, А. Міронава. П. Броўку, Э. Самуйлёнка, Т. Табідзе, А. Кутатэлі, І. Масашвілі, Б. Буачыдзе, Д. Дземетрадзе, Ч. Бягізава. У «Звяздзе», дарэчы, мы сустракаем і асобныя фотапартрэты Т. Табідзе і С. Чанбы. Фотакарэспандэнт рэспубліканскай газеты «Рабочий» (11 лютага 1936 г.) зазняў момант асабістых кантактаў Янкі Купалы і Якуба Коласа з грузінскімі пісьменнікамі К. Каладзе, І. Абашыдзе, С. Эулі, Д. Суліашвілі, Д. Дземетрадзе, Ч. Бягізавым.

Я ўжо згадваў пра абмен пісьменніцкімі брыгадамі паміж Беларуссю і Грузіяй у 1935 годзе. Творчыя вынікі паездак беларускіх пісьменнікаў у Грузію і грузінскіх — у Беларусь пачалі выяўляцца адразу. Так, у прыватнасці, у газеце «Літаратура і мастацтва» былі надрукаваны вершы І. Масашвілі «Вечар на Дзвіне» (11 ліпеня, пераклад Я. Журбы) і К. Лордкіпанідзе «Канец паэмы» (31 жніўня, пераклад П. Броўкі). У «Литературной газете» К. Лордкіпанідзе змясціў апавяданне «У карчме», з цыкла «Палессе» (10 верасня, пераклад К. Чарняўскага). 24 ліпеня 1935 г. «Літаратура і мастацтва» адвяла цэлую старонку творчай справаздачы беларускіх пісьменнікаў — «Беларускія

савецкія пісьменнікі пра Грузію». Чытачы газеты маглі атрымаць інфармацыю пра канферэнцыю беларускай і грузінскай пісьменніцкіх «брыгад», якія працавалі па абмену творчым вопытам (на ёй выступалі В. Вольскі, Б. Буачыдзе, К. Лордкіпанідзе, Э. Самуйлёнак, А. Кутатэлі, Б. Мікуліч, І. Масашвілі, У. Кавальскі), прачытаць вершы М. Хведаровіча «Радзіма» і У. Кавальскага «Урэмі» (пераклад з польскай А.Звонака), нарыс Э. Самуйлёнка «Аджарыс — Ухалі», артыкулы Б. Мікуліча «Пачатак вялікай дружбы» і В.Вольскага «Вынікі работы». Аднак, зразумела, асноўныя творы былі наперадзе. І яны неўзабаве пачалі з'яўляцца. Ужо ў час работы пленума многія з іх сталі вядомыя.

Так, у «Литературной газете», якая выйшла ў дзень адкрыцця пленума, паведамлялася, што Белдзяржвыдавецтва выпусціла ў свет аповесць Б. Мікуліча «Дружба» — першае вялікае празаічнае палатно, напісанае на грузінскім матэрыяле. «У цяперашні час брыгада беларускіх пісьменнікаў, што ездзіла летам 1935 г. у Грузію,— гаварылася ў газеце,— працуе над альманахам пра грузінскую літаратуру. У кнігу ўвойдуць цыклы вершаў М. Хведаровіча і польскага паэта У. Кавальскага, нарыс пра Мінгрэлію «Сакрэт Кварацхелія» Э. Самуйлёнка, урыўкі з кнігі «Дружба» Б. Мікуліча і артыкул В. Вольскага». Альманах гэты, на жаль, свет не пабачыў. Але асобныя творы, што рыхтаваліся для яго, былі ў свой час надрукаваны і атрымалі прызнанне чытачоў. Заўважаны яны былі і крытыкай. У прыватнасці, пра аповесць Б. Мікуліча «Дружба» цёпла адазваліся ў сваіх рэцэнзіях Ян Скрыган і В. Вольскі. Цікава, што глыбокае вывучэнне іншанацыянальнага жыццёвага матэрыялу сказалася на самой творчасці таленавітага пісьменніка. «Б. Мікуліч, які раней распрацоўваў пераважна тэму інтэлігенцыі, вельмі добра справіўся з вытворчай тэмай,— падкрэсліваў Ян Скрыган.— Радуе сур'ёзнае вывучэнне аўтарам новага для яго матэрыялу. Тут няма ранейшай лёгкасці, бяспечнасці, я б сказаў, гульні ў фразу. Наадварот, матэрыял прадуманы, асэнсаваны, людзі набылі кроў, псіхіку, загаварылі натуральнаю моваю». «Даводзіцца толькі шкадаваць,— дадаваў Ян Скрыган,— што другія члены брыгады не рэалізавалі яшчэ свайго падарожжа ў братнюю ардэнаносную Грузію». Сапраўды, вядомы раман Э. Самуйлёнка пра Грузію «Будучыня» (1938) быў яшчэ наперадзе. Што да іншых членаў беларускай пісьменніцкай брыгады — Б. Мікуліча, М. Хведаровіча, У. Кавальскага,— то свае творчыя планы яны змаглі рэалізаваць толькі часткова: усе яны недзе праз год былі незаконна рэпрэсіраваны. Як, зрэшты, і сам аўтар рэцэнзіі, што рабіў гэту заўвагу...

Дарэчы, рэпрэсіі, якія неўзабаве абрынуліся на беларускіх пісьменнікаў, не дазволілі не толькі напісаць новыя творы, але і

надрукаваць ужо напісанае, перакладзенае: згаданы вышэй альманах грузінскай літаратуры, а таксама запланаваныя Белдзяржвыдавецтвам зборнік апавяданняў М. Джавахішвілі, гістарычны раман Ш. Дадзіяні, зборнік вершаў І. Масашвілі, кнігу артыкулаў пра грузінскую літаратуру Б. Буачыдзе (пра гэтыя падрыхтаваныя да друку выданні расказала «Литературная газета» 10 лютага 1936 г.). Удалося толькі выдаць у тым жа 1936 годзе раманы А. Кутатэлі «Тварам у твар» (пераклаў П. Броўка) і К. Лордкіпанідзе «Далоў кукурузную рэспубліку» (пераклаў К. Чорны).

Публікацыі ў перыядычным друку апярэджвалі, дэталізавалі, паглыблялі тое, што гаварылася пра Грузію і грузінскую літаратуру, пра грузінска-беларускія літаратурныя ўзаемасувязі на самім пленуме. Не будзе перабольшаннем сказаць, што на ім не было ніводнага дня, калі б не гучаў голас грузінскага пісьменніка ці не гаварылася б пра грузінскую літаратуру. Удзельнікі пленума з вялікай цікавасцю выслухалі выступленні Т. Табідзе, С. Чыкавані, Б. Буачыдзе, Д. Дземетрадзе, абхазскага пісьменніка С. Чанбы.

Тыцыян Табідзе (перад пленумам ён з С. Чыкавані ўдзельнічаў у Кіеве ва ўкраінскай паэтычнай нарадзе) гаварыў, у прыватнасці, пра паэтычныя сувязі народаў СССР, пра неабходнасць узаемных перакладаў, пра значэнне перакладаў іншанацыянальных аўтараў на рускую мову. «У Беларусі ёсць людзі,— падкрэсліў ён,— якія ствараюць паэзію, і ў нас у Грузіі ёсць шэраг цудоўных пралетарскіх паэтаў, якіх яшчэ не ведае наша савецкая краіна».

Сімон Чыкавані закрануў пытанні прастаты і народнасці паэзіі, сувязі паэзіі з нацыянальным фальклорам. Гаворачы пра месца фальклору ў грузінскай паэзіі, ён падкрэсліў: «На жаль, захапленне фальклорам часта выяўляецца ў стылізацыі. У вельмі многіх маладых паэтаў мы знаходзім рысы стылізацыі грузінскага фальклору. Па-мойму, гэта губіць творчую ініцыятыву паэта».

Выступленне Д. Дземетрадзе было прысвечана грузінскай савецкай паэзіі. На самае ганаровае месца ў ёй ён паставіў Галактыёна Табідзе — «буйнейшага майстра савецкай паэзіі Грузіі». Побач з ім крытык назваў шэраг іншых выдатных паэтаў розных пакаленняў: С. Эулі, І. Масашвілі, К. Каладзе, К. Лордкіпанідзе, І. Абашыдзе, С. Чыкавані, П. Яшвілі, Т. Табідзе, Г. Манідзе і інш. Прамоўца падкрэсліў: «Былая група сімвалістаў — Яшвілі, Тыцыян Табідзе, В. Гапрындашвілі, Леанідзе і інш.— мае вялікую паэтычную культуру. Частка пісьменнікаў гэтай групы падчас яшчэ адседжваецца на старых пазіцыях, і крытыка вядзе барацьбу супраць безыдэйнасці іх творчасці. Мы з задавальненнем адзначаем, што паэт Паола Яшвілі за апошні

час выяўляе тэндэнцыі да рэалізму». Слова Д. Дземетрадзе як нельга лепш упісалася ў агульную мазаіку факталагічных паведамленняў пра паэзію розных саюзных і аўтаномных рэспублік СССР (У. Раждзественскага — пра паэзію Казахстана, А. Ісбаха — пра паэзію Калмыкіі, П. Маркіша — пра яўрэйскую паэзію і г. д.).

Беніта Буачыдзе быў сярод тых, хто летам 1935 года наведаў Беларусь. Ён даволі грунтоўна вывучыў беларускую літаратуру і на пленуме гаварыў не толькі пра агульныя праблемы ўмацавання літаратурных узаемасувязей, але і канкрэтна пра літаратуру Беларусі (раман П. Галавача «Праз гады», аповесць З. Бядулі «Набліжэнне» і інш.). Расказаўшы пра дасягненне вядучых майстроў беларускага слова, найперш — Янкі Купалы і Якуба Коласа, ён зрабіў вывад, што «ўсё гэта дазваляе нам зусім свабодна, без усялякіх скідак і мяккіх адносін да беларускай літаратуры гаварыць пра яе як пра літаратуру, якая мае свой твар і свой голас».

Дарэчы, тады ж, у лютым 1936 г., Б. Буачыдзе апублікаваў у « Літаратуры і мастацтве» вялікі артыкул «Галактыён Табідзе — народны паэт Грузіі», у якім чытачам Беларусі ўпершыню падрабязна і пераканальна было расказана пра творчасць вялікага грузінскага паэта.

На арбіту ўсесаюзнай вядомасці творчасць асобных абхазскіх паэтаў вывеў С. Чанба. У прыватнасці, ён прааналізаваў некаторыя творы Д. Гулія, Л. Квіцынія, Н. Макавы і інш., паказаў нацыянальную своеадметнасць і сацыялістычны пафас іх творчасці, спыніўся на праблемах росту абхазскай літаратуры.

Грузінская літаратура ў той ці іншай ступені закраналася і ў выступленнях пісьменнікаў з другіх рэспублік. Так, адзербайджанец Алі Назім папракнуў А. Суркова ў тым, што ён у асноўным дакладзе нічога не сказаў пра такіх выдатных паэтаў, як таджык Г. Лахуці, армянін Э. Чарэнц, грузін Т. Табідзе і г.д Нібы кампенсуючы гэтае ўпушчэнне рускага сабрата, украінскі паэт М. Бажан ледзь не ўсё сваё эмацыянальнае выступленне прысвяціў грузінскай літаратуры, асабістаму вопыту ўзнаўлення на ўкраінскай мове геніяльнага «Віцязя ў тыгравай шкуры». Маскоўскі літаратуразнавец Д. Мірскі таксама падрабязна спыніўся на грузінскай паэзіі: расказаў пра «вельмі вялікага паэта» Галактыёна Табідзе, пра ўплыў грузінскай паэзіі на творчасць М. Ціханава, пра Б. Пастарнака і М. Ціханава як перакладчыкаў грузінскай літаратуры. Была падкрэслена ідэйная дамінанта ў творчасці грузінскіх пісьменнікаў: «асаблівая любоў да дадзенай мясцовасці, асаблівы геаграфічны пафас «пядзі зямлі», які «мае агромністае значэнне ў адносінах да магістральнай тэмы нашай паэзіі — тэмы Радзімы».

16 лютага 1936 года пленум завяршыў сваю працу. Гэтым жа вечарам у зале з'ездаў Дома ўрада адбыўся вялікі інтэрнацыянальны літаратурны вечар. На ім выступіла звыш пяцідзесяці чалавек, у тым ліку М. Ціханаў, І. Бэхер, М. Святлоў, С. Кірсанаў, А. Пракоф'еў, П. Тычына, М. Рыльскі, М. Бажан, Якуб Колас, П. Броўка і інш. Грузінская паэзія прагучала з вуснаў Т. Табідзе, С. Эулі і С. Чыкавані. Але не толькі. Сустрэты бурнымі воплескамі, на трыбуну паднімаецца Барыс Пастарнак. Ён чытае свае пераклады з грузінскіх паэтаў. І калі заканчвае чытаць, аўдыторыя настойліва просіць: «Прачытайце яшчэ!» І Барыс Пастарнак чытае ў сваім перакладзе прачулыя лірычныя вершы Тыцыяна Табідзе...

...Перагорнуты дзве малавядомыя старонкі з гісторыі буларуска-грузінскага культурнага яднання. Толькі дзве. А колькі іх, яшчэ нам невядомых?! А колькі — у будучым — напішацца новых, не менш значных і цікавых!

## ДАЛУЧЭННІ

### *Шаўчэнкаўская мазаіка*

Пра Тараса Шаўчэнку (1814-1861) напісаны тысячы артыкулаў, сотні кніг. У 1978 годзе ў Кіеве выйшла двухтомная Шаўчэнкаўская энцыклапедыя, сціпла названая «Шаўчэнкаўскім слоўнікам». Здаецца, нічога новага, невядомага раней сказаць пра паэта ўжо нельга. Досыць поўна даследаваны і сувязі Шаўчэнкі з беларускай зямлёй, яе культурай. Тэме гэтай прысвечаны як публікацыі ў перыёдыцы, так і асобныя манаграфіі. І ўсё ж... І ўсё ж час ад часу то ў архіве, то на старонках паўзабытых перыядычных выданняў пашанцуе натрапіць на факты, невядомыя не толькі шырокаму чытачу, але і прафесійным даследчыкам тэмы «Шаўчэнка і Беларусь»...

* * *

Лета далёкага 1847 года. Толькі што закончылася следства па справе антыпрыгонніцкага і антыцарысцкага Кірыла-Мяфодзіеўскага брацтва, ідэйным натхніцелем якога з'яўляўся Тарас Шаўчэнка. Згодна «высачайшаму» ўказу членаў таварыства пакаралі турмою або высылкай у аддаленыя губерні Расійскай імперыі. Самае цяжкае пакаранне выпала на долю Шаўчэнкі: 8 чэрвеня 1847 года ён быў здадзены ў салдаты і адпраўлены ў асобны Арэнбургскі корпус з

рэзалюцыяй Мікалая І: «Пад самы строгі нагляд з забаронай пісаць і малярваць».

Але на волі заставаліся творы Шаўчэнкі, у прыватнасці яго «Кабзар», выдадзены ў Пецярбургу ў 1840 годзе. Царскія прыслужнікі ведалі: паэт жыве датуль, пакуль жывуць яго творы. Лягчэй знішчыць стваральніка песні, чым саму песню. І вось з Пецярбурга па ўсёй імперыі паляцелі сакрэтныя дэпешы, падпісаныя самім міністрам унутраных спраў. Адну з іх, тэрмінова прысланую цывільнаму губернатару ў Віцебск, і сёння можна ўбачыць у Цэнтральным гістарычным архіве БССР у Мінску (Фонд 1430, воп. 1, адз. зах. 13136).

Вось што паведамлялася ў гэтай дэпешы:

«По высочайшему повелению. О запрещении и изъятии из продажи некоторых сочинений.

Секретно. Циркулярно.

27 июня 1847 года.

Господину Витебскому Гражданскому Губернатору Государь император высочайше повелеть соизволил: напечатанные сочинения: Шевченки — «Кобзарь», Кулиша — «Повесть об украинском народе», «Украйна» и «Михайло Чернышенко», Костомарова — «Украинские баллады» и «Ветка» — запретить и изъять из продажи.

О таковом Высочайшем повелении считаю долгом сообщить Вашему Превосходительству для зависящего с Вашей стороны к исполнению оного распоряжения,— присовокупляя, что Г. Министром Народного Просвещения предписано уже Цензурному ведомству не дозволять впредь перепечатывать означенные сочинения новым изданием.

О получении сего циркуляра и о распоряжении Вашем по оному Вы не оставите мне донести».

Праз чатыры дні сакрэтная дэпеша з Пяцербурга была атрымана ў Віцебску. І ў гэты ж дзень паляцелі спешныя ўказанні ўсім земскім спраўнікам і гараднічым. Пасля пераказу «высочайшего» загаду ішла прыпіска Віцебскага начальства: «Извещая об изъясненной Высочайшей воле Ваше Высокоблагородие, предписываю Вам иметь постоянное и строгое наблюдение, чтобы упомянутые сочинения отнюдь не были продаваемы, а между тем если таковые появятся в народном обращении, то без всякого промедления отбирать и доставлять Г. Начальнику Губернии.

О получении сего предписания и о сделанном распоряжении немедленно мне донести».

Земскія спраўнікі і гараднічыя, у сваю чаргу, прадпісалі прыставам строга выконваць загад. Пра гэта кожны з іх тут жа парупіўся пісьмова далажыць губернатару. У архіўнай справе маюцца рэляцыі віцебскага паліцмайстра, земскіх спраўнікаў і гараднічых з Полацка, Лепеля, Себежа, Рэжыцы, Дынабурга, Суража і іншых месц тагачаснай Віцебкай губерні. Адным словам, пайшла пісаць губерня...

А як жа «Кабзар» Шаўчэнкі? Ці адшукалі хоць бы адзін экземпляр? У справе няма дакументаў, якія б сведчылі пра гэта. Але добра вядома з гісторыі айчыннай літаратуры, што творы паэта яшчэ пры яго жыцці былі вядомыя і беларусам. Т. Шаўчэнка яшчэ ў 1839 годзе ў Пецярбургу пазнаёміўся з гуртком беларускіх літаратараў, у склад якога ўваходзілі Ян Баршчэўскі, Рамуальд Падбярэскі і інш. Аўтар «Кабзара» прасіў, каб беларускія пісьменнікі чыталі яму свае творы, рабіў да тых твораў заўвагі, выказваў парады. Зразумела, што і беларускія літаратары цікавіліся ўсім, што пісаў, выдаваў іх украінскі пабрацім, у прыватнасці — знакамітым «Кабзаром». Зусім магчыма, кнігі Шаўчэнкі яны прывозілі і дадому (тыя ж Баршчэўскі і Падбярэскі былі родам з Віцебшчыны). Але хіба яны маглі выдаць царскім сексотам любыя сэрцу песні? Хіба ўвогуле можна арыштаваць песню?

* * *

Шмат напісана пра ідэйна-мастацкі ўплыў украінскага паэта на творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, іншых выдатных беларускіх пісьменнікаў, пра іх творы, прысвечаныя Кабзару. Аднак да гэтага часу нават не ўпаміналася ў гэтай сувязі імя Алеся Гаруна (1887—1920), які ў гісторыі беларускай дарэвалюцыйнай літаратуры займае месца недзе побач з М. Багдановічам. Гэта, зрэшты, і не дзіўна: да апошніх гадоў Алесь Гарун замоўчваўся, яго быццам бы і не існавала ў беларускім пісьменстве.

У той жа час Алесь Гарун і па духу творчасці, і нават па асабістым лёсе надзвычай блізкі да Шаўчэнкі. Па сутнасці, ён паўтарыў (толькі роўна на шэсцьдзесят гадоў пазней) лёс свайго настаўніка. У 1907 годзе паэта-рэвалюцыянера, рабочага-столяра Алеся Гаруна арыштавалі ў адной з падпольных мінскіх друкарняў, затым судзілі і на дзесяць гадоў (на столькі, на колькі і Шаўчэнку) саслалі ў Сібір на катаргу. Толькі лютаўская рэвалюцыя 1917 года вызваліла ссыльнага паэта. Атрыманыя ў Сібіры сухоты дазволілі яму пражыць на волі ўсяго тры гады...

Несумненна, паэзія Шаўчэнкі, яго мужнасць пад час дзесяцігадовай салдатчыны маральна падтрымлівалі Алеся Гаруна ў

тым сібірскім пекле. Як і Шаўчэнка, ён і ў невыносных умовах не пераставаў складаць вершы, запісваць іх у сваю «захаляўную кніжку» ці проста «ў памяць». З гэтых вершаў пазней склаўся адзіны прыжыццёвы зборнік паэта, выдадзены ў 1918 годзе ў Мінску.

Недзе ў 1914 годзе, калі ўсе прагрэсіўныя сілы царскай Расіі, насупор афіцыйнай забароне, адзначалі 100-годдзе Кабзара, Алесь Гарун напісаў свой верш-прысвячэнне «Вечнай памяці Т. Р. Шаўчэнкі». Верш пра тое, як «за тысячу вёрст ад радзімага краю... сумуе казак па загубленым раю, па маці-Украіне цуднай». І нават не так хвалюе гэтага паэта-казака свой гаротны лёс, як тое, што «мучаць Украйну, рабуюць, ганьбуюць», што на роднай старонцы «вораг смяецца і ўсіх абдзірае памалу». Ці не выказвалася тут — праз Шаўчэнку і яго стаўленне да Бацькаўшчыны — любоў Алеся Гаруна да сваёй Маці-Беларусі, хваляванне за яе долю? Несумненна! І не адзін «пясняр геніяльны прыгону» прысягаў «народ свой — любіці да скону». Прысягаўся на гэта і сам Алесь Гарун. І прысягу сваю стрымаў.

Застаецца дадаць, што ў 1918 годзе, пасля вяртання з Сібіры ў Мінск, Алесь Гарун пераклаў і надрукаваў у «Вольнай Беларусі» (№ 3) урывак з паэмы Шаўчэнкі «Каўказ».

У Львоўскім музеі ўкраінскага мастацтва зберагаецца намаляваны Тарасам Шаўчэнкам партрэт ягонага бацькі. На невялікім кавалку паперы, наклеенай на белы кардон, з дапамогай тушы, пяра і пэндзля ўзноўлены воблік паэтавага бацькі ў поўны рост — тыповы ўкраінскі селянін таго часу, у світцы, падперазанай шырокім поясам, у шырокіх «запарожскіх» шараварах, запраўленых у боты. Унізе малюнка надпіс на ўкраінскай мове: «Се мій батько».

Сёння нават супрацоўнікі музея не ведаюць, як трапіў у яго зборы адзін з самых ранніх малюнкаў паэта-мастака. Пра гэта, аднак, мы даведваемся з невялікай публікацыі, змешчанай у 1921 годзе ў беларускім часопісе «Крывіч».

Партрэт бацькі Кабзара ў 1917 годзе падарыў Украінскаму нацыянальнаму музею ў Львове вядомы беларускі вучоны-археолаг і грамадскі дзеяч, заснавальнік Беларускага музея ў Вільні Іван Луцкевіч (1881-1919). Партрэт свайго бацькі пятнаццацігадовы Тарас намаляваў у 1829 годзе ў Вільні, калі прыехаў сюды казачком пана Энгельгарда і стаў падвучвацца маляванню ў прафесара Віленскага універсітэта Яна Рустэма. Тарас асадзіў партрэт у рамку са шклом і павесіў у сваім пакоі. Пасля пераезду Энгельгарда ў Пецярбург ўся яго мэбля і некаторыя рэчы (у тым ліку і партрэт) аказаліся ў перакупшчыкаў. Нямала гадоў партрэт Шаўчэнкавага бацькі

ўпрыгожваў адну бойкую яўрэйскую краму, ажно пакуль не трапіў на вока, а потым і ў рукі Івана Луцкевіча...

* * *

На беларускую мову творы Тараса Шаўчэнкі пачалі перакладацца яшчэ да рэвалюцыі. Два з іх (вершы «Думка» і «Гогалю») Янка Купала ў сваім перакладзе ўключыў у зборнік «Жалейка» (1908). З таго часу ў перыёдыцы і ў асобных выданнях убачыла свет па-беларуску літаральна ўся паэзія Кабзара. Толькі асобнымі выданнямі выйшлі паэма «Кацярына» (1911, 1964), «Выбраныя творы» (1941), «Выбраныя вершы і паэмы» (1948), «Кабзар» (1939, 1952) і інш. Над перакладамі працавалі лепшыя беларускія паэты — Купала, Колас, К. Крапіва, З. Бядуля, П. Броўка, П. Глебка, А. Куляшоў і інш.

Аднак вядома, што з часам у выніку развіцця літаратурнай мовы, удасканалення перакладчыцкага майстэрства, змянення густу чытачоў і некаторых іншых акалічнасцей асобныя пераклады старэюць. Узнікае патрэба ў новых мастацкіх узнаўленнях вядомых іншамоўных твораў.

У 1990 годзе згодна пастановы Дзяржкамвыда БССР выдавецтва «Мастацкая літаратура» пачало выдаваць унікальную стотомную бібліятэку на беларускай мове «Скарбы сусветнай літаратуры». І распачаць гэту бібліятэку выпаў гонар Тарасу Шаўчэнку. Яго «Вершы і паэмы» ў ранейшых класічных перакладах і некаторых новых узнаўленнях (у прыватнасці Р. Барадуліна) пабачылі свет. Беларускі чытач атрымаў яшчэ адну цудоўную магчымасць з дапамогай роднага слова прычасціцца да невычэрпнай крыніцы думак і пачуццяў несмяротнага сына братняй Украіны.

## *З роду падснежнікаў*

На самым-самым прадвесні, калі зіма яшчэ пануе ваўсю, а да сапраўднай вясны так далека, у лесе з'яўляюцца падснежнікі. Пікамі сваіх сцяблінак яны прасвідроўваюць мерзлы грунт, працінаюць зляжалы снег, каб мужна сцвердзіць і жыццё, і красу, і веру ў абавязковы прыход вясны-красны. Ад маразоў і частых зазімкаў гэтыя кветкі-вяснянкі звычайна гінуць, а тыя, якім доліць дачакацца вясны, сціпла ўступаюць месца сваім больш шчаслівым і шыкоўным суродзічкам. І ўсё ж без іх, падснежнікаў, не было б вясны на зямлі, як і без таго жураўлінага ключа, што адмыкае неба для сонца, святла і цяпла.

У духоўным жыцці нацый таксама ёсць свае падснежнікі, якія вястуюць і набліжаюць прыход вясны. Такімі кветкамі-вяснянкамі, кветкамі-падснежнікамі, што прабіліся скрозь камяністую глебу ўкраінскага Прыкарпацця ў сцюдзёную цэсарскую эпоху, уяўляюцца мне постаці трох юнакоў са славутай «Рускай тройцы» — аўтары альманаха «Русалка Днястровая» (1937) — першай украінскай кніжкі на землях былой Заходняй Украіны. І першы сярод першых быў Маркіян Шашкевіч (1811-1843).

«Да літаратараў, якія стаяць на пачатку развіцця літаратуры, трэба падыходзіць па-асабліваму. Бо, вялікія або малыя, яны ў абодвух выпадках асобы гістарычныя». Гэтае слушнае сцверджанне Вісарыёна Бялінскага ў дачыненні да ўкраінскага, беларускага і іншых прыгнечаных у мінулым народаў можна было б крыху і ўдакладніць. Бо не было ў нас, заняволеных сацыяльна і нацыянальна, раз'яднаных рознымі імперыямі, рэлігіямі, нават алфавітам, малых пісьменнікаў. Не магло быць. Ці ж «малы» змог бы дарасці ў тыя цёмнай памяці часы да ўсведамлення грамадзянскай і нацыянальнай годнасці, запаліцца палкай любоўю да чалавека-працаўніка, выступіць актыўным абаронцам яго сацыяльных правоў, мовы, культуры, засланіць яго ад нацыянальнага нігілізму, усёпаглынальнай хвалі касмапалітызму? Не віна, а гістарычная бяда наша, што ад тых неафітаў роднай культуры колькасна мала што засталося. Дайшлі да нас не фаліянты ў скураных пераплётах, а сціплыя адзінкавыя кніжкі, накшталт «Русалкі Днястровай» Маркіяна Шашкевіча, Івана Вагілевіча і Якава Галавацкага, накшталт зборнікаў Беларускага Дудара — Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, равесніка і аднадумца супольнікаў «Рускай тройцы»...

Біце ж чалом тром сакалом, дзеўкі, маладзіцы!
Гэта ж кветкі з свойскай веткі, славянскай зямліцы.

Гэтымі словамі, напісанымі з выпадку прыезду ў Мінск Станіслава Манюшкі і двух яго сяброў-музыкаў, мог бы Дунін-Марцінкевіч у свой час прывітаць і «Рускую тройцу». Мог бы... Але занадта раздзеленыя былі нашы народы, надта мала ведалі адзін пра аднаго. Далека ўперадзе былі і вызваленне ўкраінцаў і беларусаў з-пад улады капіталу, і гістарычнае ўз'яднанне таго і другога народаў у межах адзіных рэспублік, і нацыянальна-духоўны росквіт абодвух народаў, і іх дзяржаўна-палітычная еднасць у складзе СССР. А тады, у першай палове мінулага стагоддзя, на ўскраінах дзвюх імперый — царскай Расіі і цэсарскай Аўстра-Венгрыі — Маркіян Шашкевіч і Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, не ведаючы нічога адзін пра другога,

рабілі, па сутнасці, адну і тую ж справу: гартавалі народную душу, усялялі ў яе веру ў надыход вясны.

Такое прызначэнне, такі лёс падснежнікаў.

Здзіўляе і падабенства характару, размаху дзейнасці двух нашых класікаў. Маркіян Шашкевіч пісаў вершы і прозу, займаўся фалькларыстыкай і этнаграфіяй: укладаў першую ўкраінскую чытанку для дзяцей. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч перш за ўсё паэт, аўтар вершаў, вершаваных апавяданняў, паэм. У той жа час ён і першы беларускі драматург, аўтар «Пінскай шляхты», якая з поспехам ставіцца і цяпер. Ладзіў ён і тэатральныя спектаклі, у якіх сам іграў; разам са сваім сябрам і земляком С. Манюшкам пісаў і ставіў у Мінску першыя оперы...

Ім, прадвеснікам, пачынальнікам, патрэбна было ўсюды паспець, зрабіць тое, што ў іншых, дзяржаўных, народаў рабілі некалькі, а часам і некалькі дзесяткаў чалавек.

Падснежнікі доўга не жывуць. Не дажыў хаця б да пушкінскага ўзросту і Маркіян Шашкевіч — памёр у няпоўныя 32 гады. Не дачакаўся навальнічных рэвалюцыйных грымот 1848 года — еўрапейскай «вясны народаў», па вобразным выказванні Карла Маркса. Ды гэта і не была вясна для ўкраінскага народа. Яна, вясна, прыйшла да ўкраінцаў, як і да беларусаў, намнога пазней — у пачатку XX стагоддзя, і не з Захаду, а з Усходу. Але прыйшла! Не магла не прыйсці! Бо на самым-самым прадвесні, калі зіма яшчэ панавала ваўсю, а да сапраўднай вясны было так далека, скрозь лютыя снягі Прыкарпацця прабіўся да сонца падснежнік. Імя яго — Маркіян Шашкевіч...

## *Слова падзякі Г. Ф. Квітку-Аснаўяненку* (1778—1843)

Дарагі Грыгорый Фёдаравіч!

Дазвольце Вам, вечна жывому, нізка пакланіцца ад роднай сястры, блакітнавокай Беларусі!

На Беларускай зямлі, як і скрозь у нашай неабсяжнай Бацькаўшчыне, «у сям'і вольнай, новай» (Т. Шаўчэнка), шчыра любяць і глыбока шануюць Вас, нашага заўсёднага сучасніка. Я мог бы расказаць, як яшчэ ў 1847 годзе на сцэне мінскага гарадскога тэатра, побач з «Рэвізорам» М. Гогаля і «Наталкай Палтаўкай» І. Катлярэўскага, з велізарным поспехам ішоў і Ваш «Шальменка — валасны пісар»; як у тым жа XIX стагоддзі п'есы «Шальменка — дзяншчык» і «Сватанне на

Ганчароўцы» ў пастаноўцы ўкраінскіх вандроўных труп М. Старыцкага, П. Саксаганскага, М. Садоўскага, М. Крапіўніцкага і іншых нязменна выклікалі захапленне беларусаў, абуджаючы ў іх сацыяльную свядомасць і «пачуццё нацыянальнага сораму» (К. Маркс); як напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі і ў гады грамадзянскай вайны адзін з карыфеяў беларускага тэатра Уладзімір Крыловіч перапранаўся ў вопратку Вашага Шальменкі-дзяншчыка, каб злосна пасмяяцца над панамі афіцэрамі і ўсімі панамі наогул... Пра гэта і многае іншае я мог бы прыгадаць. Аднак пра ўсё гэта даволі добра вядома, пра гэта пісалі і будуць яшчэ не раз пісаць гісторыкі беларуска-ўкраінскіх літаратурных узаемасувязяў.

Я хацеў бы проста выказаць захапленне Вамі як пісьменнікам і Чалавекам, перадаць падзяку Вам ад мільёнаў беларусаў — Вашых найшчырэйшых сяброў і паклоннікаў.

Мы, беларусы, у захапленні ад шырыні, магутнасці, светланоснасці Вашага таленту — празаіка, драматурга, паэта, публіцыста, крытыка, перакладчыка, акцёра, пісьменніка, які аднолькава вольна пісаў на дзвюх мовах і стаў яскравым увасабленнем кроўнай роднасці ўкраінскага і рускага народаў, украінскай і рускай культур. Вы адзін з нямногіх ва ўсёй сусветнай літаратуры неабвержна даказалі, што не так важна, калі, у колькі гадоў пачынаць сур'ёзна літаратурную творчасць,— можна і ў сорак пачынаць — намнога важней, як, у імя каго і чаго тварыць, што пасля сябе пакінуць. Вы адзін з першых паказалі, што са смехам можна не толькі развітвацца са сваім мінулым,— са смехам можна, як гэта ні цяжка, пачынаць будучае, новае, у прыватнасці, новую нацыянальную літаратуру.

Мы, беларусы, захапляемся Вашай мужнасцю — мужнасцю чалавека, які рашуча парваў са сваім дваранскім класам, парваў ідэйна, маральна, матэрыяльна, узняўся да працоўнага народа, сялян, «оцих рабів німих» (Т. Шаўчэнка), узвялічыў іх, выказаў іх асобныя думы, намеры, надзеі. А хіба не патрэбна была мужнасць пісаць на роднай украінскай мове ў той час, калі яна адмаўлялася, забаранялася, проста высмейвалася, перспектыву якой не бачылі нават самыя празорлівыя і дальнабачныя! Мужны і настойлівы Вы былі і ў барацьбе з рознымі цэрберамі ад літаратуры, у змаганні супраць рэакцыйнага крыла расійскай літаратуры на чале з Булгарыным, Сянкоўскім, Грэчам, Кукальнікам і іжэ з імі.

Нас, беларусаў, яшчэ дасюль пячэ сорам, што адзін з гэтых апосталаў «самодержавия, православия и народности», нядобрай памяці Фадзей Булгарын, быў нашым земляком, нарадзіўся і вырас у

Мінскай губерні. Гэта яго меў на ўвазе аўтар беларускай ананімнай паэмы сярэдзіны XIX стагоддзя, славутага «Тараса на Парнасе», калі пісаў пра тых, хто пішчом лез на літаратурны Парнас:

Гляджу сабе — аж гэта сівы,
Кароткі, тоўсты, як чурбан,
Плюгавы, дужа некрасівы,
Крычыць, як ашалелы, пан.

Сёння мы, беларусы, цалкам салідарызуючыся з ідэйнай накіраванасцю Вашай аповесці «Жизнь и похождения Петра Пустолобова» — вострай сатыры на прыгоды булгарынскага «героя» Івана Выжыгіна, афіцыйна адмаўляемся ад такога «зямляцтва» і бярэм у ганаровыя землякі Вас, дарагі Грыгорый Фёдаравіч! Тым больш што Вы, пачынальнік украінскай прозы і адзін з першых украінскіх драматургаў, раскатурхвалі ад летаргічнага сну і нас, суседзяў-беларусаў, паказвалі свайму сучасніку, першаму класіку новай беларускай літаратуры, паэту і драматургу В. Дуніну-Марцінкевічу прыклад творчай няўрымснасці, служэння роднаму народу і яго культуры. І не за Булгарыным або яму падобнымі пайшоў В. Дунін-Марцінкевіч у сваёй творчасці, хоць гэта магло прынесці яму багацце і кар'еру, а за Вамі, Вашым нялёгкім, але высакародным літаратурным шляхам.

І за гэта вялікае дзякуй Вам!

## ***Роднасць***

Юрый Фядзьковіч (1834-1888) блізкі беларусам перш за ўсё сацыяльнымі матывамі сваёй творчасці: выкрыццём сацыяльна-класавай няроўнасці, трагічнага жыцця сялян і салдат, верай у магутныя сілы працоўнага народа.

У вершы «О радуйся, прачыстая Марыя!» пісьменнік з горкай іроніяй, у прыватнасці,пісаў:

О радуйся, прачыстая Марыя!
Вунь малады жаўнер на дол зваліўся,
Яго мундзір крывёю арасіўся:
Не змог расстрэльваць, то яго — другія...
Таварышы далоўку пракапалі
І на спачынак, беднага, паклалі,
Не скажа, як настане літургія:
О радуйся, прачыстая Марыя...

О радуйся, прачыстая Марыя!

Пад плотам удава гаротна плача,
Аплаквае сябе, свой лёс жабрачы,
    Сядзяць і плачуць разам з ёй малыя,—
Ды ўрэшце змоўклі, слёз не льюць больш горкіх,
Адны над імі ціха плачуць зоркі.
    Званы замоўклі, толькі вецер вые...
    О радуйся, прачыстая Марыя!

    О радуйся, прачыстая Марыя.
Вунь там блукае гора-сірацінка
Без таты, мамы, бедная дзяўчынка,
    Дачасна голад ёй магілу рые.
Зайсці на хутар хоча, бедалака,—
Куркуль спускае на яе сабаку:
    Бяжыць, упала, кроў ёй тварык мые...
    О радуйся, прачыстая Марыя.

Які трагічны малюнак сацыяльнага прыгнечання, прыніжэння! Ён, несумненна, выклікае не толькі жаласць, але і пратэст супраць такой рэчаіснасці.

У кожнага беларуса пры чытанні гэтых горкіх строф асацыятыўна ўзнікаюць іншыя па моўным ладзе і вобразнай фактуры, але такія блізкія па сацыяльным пафасе радкі сучасніка Фядзьковіча, беларускага паэта-дэмакрата XIX стагоддзя Францішка Багушэвіча:

Чым то дзеіцца на свеце,
Што не роўна дзеле бог?
Адзін ходзе у саеце,
У золаце з плеч да ног,
А другому каб прыкрыцца
Хоць анучай — велькі труд;
Весь, як рэшата, свіціцца,
Адны латы, адзін бруд!

Юрый Фядзьковіч дарагі беларусам сваёй нацыянальнай самасвядомасцю. Жывучы на Букавіне ў час жорсткага нацыянальнага прыгнечання, маючы перад сабой цудоўную, матэрыяльна забяспечаную перспектыву нямецкамоўнага паэта, ён тым не менш скінуў з сябе чужацкія вярыгі, ступіў на цярністы шлях служэння ўкраінскай культуры, украінскаму народу, роднаму слову. Юрый Фядзьковіч знішчальна высмейваў прыгнятальнікаў, розных рэнегатаў і адшчапенцаў, пісаў пасланні «Всякому тому, хто зрікається свого дому», услед за Тарасам Шаўчэнкам даказваў і паказваў неабмежаваныя культурныя і грамадскія магчымасці ўкраінскай мовы. Як гэта зразумела нам, беларусам, духоўным спадчыннікам Фядзьковічавага

сучасніка — Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, які не стаў грэцца ў променях славы свайго вялікага земляка Адама Міцкевіча, а яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя змяніў шыкоўныя строі польскага ўзору на сціплую мужыцкую світку, стаў Беларускім Дударом! Справы і думкі Юрыя Фядзьковіча надзвычай сугучныя беларускай душы, якая так выказалася вуснамі Францішка Багушэвіча: «Ці ж ужо нам канечне толькі на чужой мове чытаць і пісаць можна? Яно добра, а нават і трэба знаць суседскую мову, але наперш трэба знаць сваю... Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!

Пазнаюць людзей ці па гаворцы, ці па адзежы, хто якую носе; ото ж гаворка і ёсць «адзежа душы».

Юрый Фядзьковіч, нарэшце, родзіч беларусам і ў прамым сэнсе слова. Аказваецца, радаслоўны корань украінскага пісьменніка, накшталт радаслоўнага кораня рускага пісьменніка Фёдара Дастаеўскага, сягае ў беларускую зямлю. Хвядзьковічы (так гучала некалі прозвішча яго беларускіх прашчураў) у XVI стагоддзі валодалі Воўкавым Сялом у Мінскім ваяводстве, пазней удзельнічалі ў вызваленчым руху ўкраінскага і беларускага народаў супраць шляхецкай Польшчы 1648 — 1654 гадоў, і толькі затым лёс закінуў іх у Галіцыю і на Букавіну...

## *Вялікі запавет*

У 1886 годзе львоўская «Просвіта» прыслала беларускаму пісьменніку і грамадскаму дзеячу Вайніславу Савічу-Заблоцкаму ў Парыж, дзе ён тады знаходзіўся, некалькі гадавых камплектаў украінскага часопіса «Правда». Сярод твораў, надрукаваных у часопісе, былі і вядомыя аповесці Івана Нячуя-Лявіцкага (1838—1918) «Мікола Джэра», «Кайдашова сям'я» і «Хмары». «Не ведаеце Вы, хто такі Іван Нячуй (Лявіцкі Іван), што пісаў дзве-тры аповесці ў «Праўді», ці жыве ён яшчэ і гдзе пражывае?» — паляцела пытанне з Парыжа ў Жэневу да Міхайла Драгаманава. І адразу ж за гэтымі словамі ў тым жа лісце да Драгаманава Вайніслаў Савіч-Заблоцкі, засноўваючыся перш за ўсё на прачытаных творах Нячуя-Лявіцкага, выказвае свае адносіны да тагачаснай украінскай літаратуры, дае ёй вельмі высокую ацэнку: «Ваша літаратура ўкраінская дужа арыгінальная, для кожнага мае багата інтарэсу. Я такога поўнага рэалізму, а з гэтым і грамадскай чуткі, як у Вашай повесці та паэзіі, нідзе яшчэ не бачыў... Дзве-тры повесці Вашы, не з гарнейшых,

дадуць корму для душы і для сэрца больш, як усе творы разам узятыя з аднаго сталецця народаў лацінскіх ціболь германскіх, бо больш у іх чалавека, больш сірамахі. Хацеў бы я прастудыяваць усё гэта ад а да я. Тай, пражываўшы, напісаць аб гэтым абшырны даклад па-француску ці па-нямецку тай ім, дакладам, застацца другім Калумбам...»

На жаль, выканаць гэта жаданне Савіч-Заблоцкі не змог. Дый наўрад яго даследаванне, няхай сабе і надрукаванае ў вядомым еўрапейскім — французскім ці нямецкім — выданні, магло стаць своеасаблівым адкрыццём літаратурнай Амерыкі. Не крытыка, а найперш сама арыгінальная літаратура прабівае сабе шлях да чытача, да еўрапейскай вядомасці. Украінская літаратура гэта зрабіла яшчэ ў XIX стагоддзі. І ў вялікай ступені — дзякуючы таленту, перадавому светапогляду, падзвіжніцтву Івана Нячуя-Лявіцкага.

У першай палове 60-х гадоў мінулага стагоддзя ў Кіеўскай духоўнай акадэміі, дзе Нячуй-Лявіцкі вучыўся і дзе, па яго ўспамінах, «не было і духу ўкраінскага», студэнты аднойчы пачулі ад аднаго са сваіх выкладчыкаў: «Для интересов государства хорошо бы сжечь украинскую литературу и белорусскую, если бы она явилась на свет». Што да беларускай літаратуры, то прафесара-вялікадзяржаўніка, мабыць, вывелі з раўнавагі словы яго суайчынніка Мікалая Дабралюбава, выказаныя ў 1860 годзе ў «Современнике»: «...Вопрос о характеристике белорусов должен скоро быть разъяснен трудами местных писателей. Посмотрим, что еще скажут сами белорусы». Прафесар-духоўнік баяўся, што беларусы могуць сказаць тое самае, што сказалі ўкраінцы вуснамі Тараса Шаўчэнкі і іншых перадавых пісьменнікаў. Ды ў вялікадзяржаўнікаў-шавіністаў рукі аказаліся кароткія. Не змаглі яны ажыццявіць свайго жадання ні тады, ні шмат пазней, калі і ўкраінская, і беларуская літаратуры выпрабоўваліся на жыццяздольнасць і інквізітарскімі кастрамі, і ўсепаглынальным полымем дзвюх самых крывавых сусветных войнаў.

Сам Іван Нячуй-Лявіцкі, магчыма, больш чым хто-небудзь з тагачасных украінскіх пісьменнікаў, яго сучаснікаў, адчуў на сабе апёкі таго лютага агню. Уладаносцы баяліся яго нават як простага настаўніка. Яны з палёгкаю ўздыхнулі, калі ён, пасля дваццаці пяці гадоў настаўніцкай працы, выйшаў у адстаўку. У рамане «Над Чорным морам» пісьменнік пераказвае цынічнае ў сваёй адкрытасці выказванне дырэктара гімназіі пра настаўніка Камашку, які ў многім нагадвае самога Нячуя-Лявіцкага: «Вы чалавек таленавіты, ваша слова аказвае ўплыў, і тым вы небяспечны. Калі б вы былі тупым чалавекам, мы б вас трымалі: тупіцы не шкодныя».

Аднак уладаносцы памыліліся: настаўнік Нячуй-Лявіцкі для самадзяржаўнага, таталітарнага ладу быў менш небяспечны, чым Нячуй-Лявіцкі — пісьменнік. Аўдыторыя настаўніцкая нашмат меншая за пісьменніцкую. Ды і цяжкая настаўніцкая праца, што забірае шмат часу і сіл, не пакідае вялікай магчымасці для пісьменніцкай працы, а тым самым — і для ўплыву на шырокія масы. Пакараўшы Нячуя-Лявіцкага як настаўніка, пазбавіўшы неабходнай грашовай падмогі, уладаносцы — самі таго не жадаючы — адкрылі перад ім шляхі шырокага духоўнага самавыяўлення, а ўкраінскай літаратуры, кажучы сённяшняй мовай, «паставілі» прафесійнага пісьменніка, цалкам і поўнасцю аддадзенага літаратуры.

Нават па цяперашніх мерках тое, што напісаў Нячуй-Лявіцкі, надта ўражвае: звыш пяцідзесяці раманаў, аповесцей, п'ес, дзесяткі літаратурна-крытычных, фальклорна-этнаграфічных, мовазнаўчых артыкулаў, якія далека не змясціліся ў самы Поўны (Пакуль што) дзесяцітомны збор твораў. І ўсюды, ва ўсім — кранальная любоў да роднай зямлі, да чалавека-працаўніка, яго культуры, мовы, актыўнае адстайванне народных маральна-этычных і эстэтычных ідэалаў. Мае рацыю Алесь Ганчар: «Нячуй — гэта велічыня пастаянная ў нашай літаратуры. Высокая мастацкасць, глыбокі гуманізм забяспечылі яго творам доўгае жыццё». І не толькі, дадамо, ва ўкраінскай літаратуры, але ў літаратуры еўрапейскай і сусветнай.

Безумоўна, на працягу такога доўгага і складанага жыццёвага шляху, у часы, поўныя грамадскіх супярэчнасцей і драматызму, не цяжка было недзе і спатыкнуцца, а то і збочыць. Скажам, мы, беларусы, ніяк не можам прыняць адмаўленне Нячуя-Лявіцкага права беларускай мовы на самастойнасць, вытлумачэнне яе як гаворкі мовы ўкраінскай (маюцца на ўвазе выказванні ў артыкуле «Сьогочасне літературне спрямування», 1878 год, і ў лісце да Барыса Грынчэнкі ад 22 жніўня 1881 года). Што ж, тут толькі можна пашкадаваць, што пісьменнік-рэаліст, адышоўшы ад свайго галоўнага творчага прынцыпу, міжволі падключыўся да хору велікарускіх і польскіх шавіністаў, якія ў той час не прызнавалі беларускую мову і разглядалі яе як гаворку рускай або польскай моў. Ды не прымаючы гэта, мы прымаем у пісьменніка-рэаліста многае іншае. У прыватнасці, для нас сёння надзвычай актуальный і павучальныя выступленні Нячуя-Лявіцкага супраць дэнацыяналізацыі ўкраінцаў, яго выразнае размежаванне сацыяльнага і нацыянальнага пачаткаў у жыцці працоўнага народа.

Пабываўшы ў Карпатах і пазнаёміўшыся з жыццём галічан, Нячуй-Лявіцкі рэзка выступіў супраць апалячвання галіцкіх

украінцаў. «Ды хаця б нашы русіны,— з гневам пісаў ён,— займелі не толькі поўны рот, але і поўную хату польскіх слоў, польскае мовы, усё роўна гэта не ўзніме іх жыццёвы ўзровень, таму што з польскіх слоў не згатуеш баршчу, не спячэш смажэні, не пашыеш ботаў, не заплаціш падатку». Няўжо не меў рацыі Іван Сямёнавіч? А ў нас у Беларусі не сто гадоў назад, калі пісаліся гэтыя словы, а зусім нядаўна некаторыя «разумныя» галовы таксама пачалі выганяць з вясковых хат і гарадскіх кватэр беларускую мову, замяняць яе беларуска-рускім суржыкам: маўляў, чым менш беларускага, нацыянальнага, тым бліжэй да камунізму. О святая прастата! Яшчэ ж Іван Нячуй-Лявіцкі папярэджваў: з чужое мовы не згатуеш баршчу, не пашыеш ботаў... Забыццё гэтага вялікага запавету для нас, беларусаў, дый для саміх украінцаў, абярнулася бядой, якую можна супаставіць хіба што з чарнобыльскай...

Сёння мы, успрыняўшы ўсім сэрцам перабудову, бачачы ў ёй, апрача ўсяго іншага, гарантыю выжывання нацый і іх культур, вяртаемся да сваіх каранёў, прыгадваем многія запаветы слаўных сваіх папярэднікаў. І шчаслівы той народ, у якога такія духоўныя карані, якія па такіх запаветах імкнецца жыць.

## *Будзіў соннае жыццё*

У маёй бібліятэцы на самым відным месцы ўжо каторы год стаіць чатырохтомны «Словарь укра'інськоі' мови» Барыса Грынчэнкі (1863-1910). І не проста стаіць-красуецца, а ўвесь час знаходзіцца ў рабоце. Гэты слоўнік не замянілі і не адмянілі пазнейшыя яго суродзічы — ні шасцітомны «Укра'інсько-російский словник», ні нават акадэмічны адзінаццацітомны «Словник укра'інсько'і мови». Калі б Барыс Грэнчэнка не стварыў нічога, апрача свайго слоўніка, то і тады мы гаварылі б пра яго, як пра выдатнага дзеяча ўкраінскай нацыі і ўкраінскай культуры, як пра бессмяротнага асветніка-патрыёта.

Не будзем перабольшваць: у сучаснай Беларусі пакуль што пра Грынчэнку ведаюць нямногія, і недаравальна мала. І калі ведаюць, то не як пра пісьменніка-энцыклапедыста, усходнеўкраінскага Івана Франка, якому былі падуладны літаральна ўсе літаратурныя роды і жанры і творчая спадчына якога можа скласці некалькі дзесяткаў тамоў, а найперш — як пра лексікографа. А ён жа пісаў аповесці і апавяданні, паэмы і вершы, публіцыстычныя артыкулы і рэцэнзіі, драмы і байкі, творы для дзяцей, займаўся мастацкім перакладам, збіраў і выдаваў фальклорныя творы, праявіў сябе як літаратура-

знавец, фалькларыст, мовазнавец, бібліёграф. І вінаваты ў такім няведанні, зразумела, не самі беларусы, а абставіны, што так нелітасціва абыходзіліся з творчым лёсам пісьменіка, не давалі нават самім яго землякам-украінцам мець у сябе больш-менш поўны збор яго твораў. Яны, гэтыя абставіны, абумовілі як узлёт вядомасці Грынчэнкі ў 20-х гадах (у 1927-1929 гг. выйшаў нават дзесяцітомнік яго мастацкіх твораў), так і яго амаль поўнае замоўчванне пасля 1931 года. Першыя ластаўкі, якія з'явіліся пасля зацяжной сталінскай зімы — у прыватнасці «Твори в двох томах» (1963) і «Поезії» (1965),— вясны не прынеслі каля дваццаці гадоў, ажно да самага апошняга часу, творы Грынчэнкі на Украіне не перавыдаваліся. Таму хочацца спадзявацца, што гэтая вясна настане дзякуючы нашему рэвалюцыйна-перабудоўчаму часу, намаганням украінскіх грынчэнказнаўцаў. Для такіх спадзяванняў ёсць і пэўныя падставы: да 125-годдзя з дня нараджэння Барыса Грынчэнкі кіеўскае выдавецтва «Дніпро» выдала аднатомнік твораў пісьменніка і грунтоўную манаграфію пра ягоную творчасць Анатоля Пагрыбнога, у Луганску прайшла прадстаўнічая навуковая канферэнцыя, прысвечаная творчасці вялікага асветніка, яму пастаўлены помнік, яго імем названы вуліцы ў Кіеве і некаторых іншых украінскіх гарадах...

У пачатку веку творчая дзейнасць і само імя Барыса Грынчэнкі шмат значыла не толькі для Украіны, але і для Беларусі. Не без яго стымулявання і непасрэднай дапамогі беларуска Марыя Косіч выдала ў друкарні Чарнігаўскага земства за два гады тры кнігі: «Литвины-белорусы Черниговской губерни, их быт и песни» (1902), «Переложение некоторых басен Крылова на белорусское наречие» (1903) і вершаванае апавяданне «На перасяленне» (1903). Падзея ў той час, калі беларуская мова была афіцыйна забаронена, незвычайная. Бо нават у Пецярбургу, каб надрукаваць кнігу Янкі Лучыны «Вязанка», беларусам патрэбна было ісці на хітрасць — падаваць яе ў цэнзурны камітэт як выданне на... балгарскай мове.

Не толькі імя — сам дух Грынчэнкі, здавалася, лунаў над старонкамі адзінай тагачаснай беларускай газеты «Наша ніва». І тады, калі газета з нумара ў нумар прапагандавала дзейнасць і выданні ўкраінскай «Просвіти», натхніцелем якой быў Грынчэнка, і тады, калі расказвала пра ўкраінскую газету «Громадська думка», рэдактарам якой быў той жа Грынчэнка. А ў маі 1910 года «Наша ніва» (№ 20), адразу ж за афіцыйнымі паведамленнямі, змясціла пахавальнае слова пра Барыса Грынчэнку, сказанае з выпадку смерці пісьменніка вядомым беларускім публіцыстам Альгердам Бульбай. Несумненна, сказанае тады, у тыя горкія дні, не згубіла свайго значэння і сёння.

Менавіта цяпер, калі мы адшукваем некаторыя наўмысна абарваныя ніці ў нашым духоўным развіцці, у гісторыі беларуска-ўкраінскіх літаратурных узаемаадносін і звязваем гэтымі ніцямі пачатак і канец XX стагоддзя, неабходна згадаць тое, што было аддадзена манкуртызму. Вось што казаў Альгерд Бульба, выяўляючы адносіны да Барыса Грынчэнкі і нас, сённяшніх беларусаў:

«У момант, калі сонейка за хмарамі скрылася, калі людзі, як блудныя, кідаюцца ва ўсе бакі, калі адлюга гложа душу,— сышлі ў магілу два найлепшыя сыны ўкраінскага народа. Не маглі яшчэ думкі ачуняць ад няжданай смерці будоўцы ўкраінскай сцэны Крапіўніцкага, калі ізноў вось з-пад яснага неба Італіі прыйшла сумная вестка аб смерці той меры чалавека, як Барыс Грынчэнка. Апошнія 20-30 гадоў развітку ўкраінскага жыцця — гэта грамадская праца Барыса Грынчэнкі. Ён сваімі ўласнымі творамі і перакладамі чужых вялікіх пісьменнікаў, як Ібсен, Шылер, Гаўптман і др., будзіў соннае жыццё, паказваў агні, каторыя асвяшчаюць шлях у лепшую будучыню. Ён сваёй безупыннай працай, сваім голасам ва ўсіх справах украінскага жыцця паказваў, як гэтыя агні здабываюць. Ён — душа ўкраінскай справы. Ён чутка прыслухаецца, як б'ецца народнае сэрца, і вось бачым яго галавой асвецтова-культурнага таварыства «Просвіта». Але чалавек, каторы так шмат працаваў, павінен быў страціць здароўе — і страціў.

Паехаўшы лячыцца ў Італію, страшна маркоціцца па сваёй старонцы і, неразлучны думкамі з дарагой сваёй Украінай, памёр там.

Багаты пасеў пакінуў Грынчэнка — няхай яго думкі і яго праца густа ўзойдуць у братнім народзе. А ў смутку браты Украінцы не адны: і мы да іх прылучаемся. І калі Вашы братнія галовы схіліліся над горам, каторае Вас змагло, мы нашы схіляема перад чалавекам і народам, каторы такіх людзей мае».

І ў заключэнне — невялікі штрых: адразу ж пасля слова Альгерда Бульбы пра Барыса Грынчэнку друкаваўся некралог Элізы Ажэшкі, падпісаны В. Л. (Вацлавам Ластоўскім), на другой старонцы газеты — «Памяці С. Палуяна» Алеся Гурло... Тры культурныя дзеячы трох братніх народаў у адзін і той жа час сышлі ў магілу. Тыя, што нястомна будзілі соннае жыццё.

### *Тытан духу і працы*

Яшчэ пры жыцці Максім Рыльскі (1895-1964) заслужыў высокую годнасць народнага паэта, класіка ўкраінскай і ўсёй савецкай

літаратуры. Праўда, у вочы, тым больш у друку, так яго, бадай, ніхто не называў. Няма на Украіне, у адрозненне ад Беларусі і некаторых іншых рэспублік, афіцыйнага ганаровага звання «народны пісьменнік». Апрача таго, сам Рыльскі не любіў залішне гучных эпітэтаў, накшталт вялікі, буйны, народны, класічны... Тыя ж званні і ўзнагароды, якімі адзначылі яго літаратурную і навуковую, грамадскую дзейнасць партыя і ўрад (лаўрэат Ленінскай прэміі, Дзяржаўных прэмій СССР і УССР, сапраўдны член Акадэмій навук СССР і УССР, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, кавалер трох ордэнаў Леніна, ордэнаў Працоўнага Чырвонага Сцяга і Чырвонай Зоркі), былі рэальнай ацэнкай яго канкрэтных заслуг, яго ўкладу ў развіццё роднага пісьменства, у развіццё ўсёй савецкай культуры.

Тым не менш сёння — а з гадамі, думаю, гэта будзе ўсведамляцца ўсё выразней — мы з поўным правам у адносінах да Рыльскага ўжываем найменні «народны», «класік літаратуры». Бо ўсё тое, што рабіў і што здзейсніў Максім Рыльскі, узняло мастацкую, культурную самасвядомасць украінскага народа на новую ступень, адчувальна ўзбагаціла інтэлектуальную ўласнасць украінскай нацыі.

Народнасць творчасці Рыльскага прадвызначаецца шэрагам момантаў, на галоўныя з якіх звярнуў увагу Пімен Панчанка. Украінскі пясняр «быў непераўзыдзены мастак, чараўнік украінскага слова. Яркая вобразнасць, гнуткі верш, народная інтанацыя, тонкі гумар! І разам з гэтым высокае грамадзянскае гучанне вершаў, братэрскія пачуцці да іншых народаў, уменне бачыць радаснае і прыгожае ў нашым савецкім жыцці, у жыцці братніх народаў. І ўсюды — праўда жыцця, праўда пачуццяў, філасофская глыбіня. І ўсюды — выразны гуманістычны ідэал чалавека і ўсяго грамадства».

Больш чым паўстагоддзя доўжыўся творчы шлях Максіма Рыльскага. Пачаўся ён яшчэ ў дарэвалюцыйны час (першая кніга «На белых астравах» з'явілася ў 1910 г., калі аўтару было ўсяго 15 гадоў), скончыўся ў 1964 годзе. У васьмідзесяці прыжыццёвых кнігах змяшчаецца творчы даробак Рыльскага. Пры жыцці пісьменніка выйшаў дзесяцітомнік яго твораў. Нядаўна з'явілася ў свет новае, 20-томнае выданне Збору яго твораў.

Несумненна, найперш Максім Рыльскі — паэт. Здаецца, няма ў паэзіі таго жанру ці жанравай разнавіднасці, таго віду верша, які б не саслужыў песняру сваёй добрай службы ў выяўленні дум і пачуццяў яго сучаснікаў, у сцвярджэнні ідэалаў справядлівасці, дабрыні, чалавечнасці. Тут і песня («На белую грэчку ўпалі росы»), і медытацыя («Мы збіраем з сынам...»), і ода («Мая Бацькаўшчына»), і інвектыва («Народам свету»), Максім Рыльскі — аўтар паўтара дзесятка паэм,

сярод якіх дзве вялікія рэчы — «Марына» і «Вандроўка ў маладосць»; ёсць у яго нямала цэльных вершаваных цыклаў і ліра-эпічных эцюдаў («Ленінградскія нарысы». «Кіеўскія актавы», «Над Дняпром», «На братняй зямлі» і інш.). Вядома асаблівая цяга Рыльскага да класічных строф, да санета, актавы секстэта, у якіх ён умеў быць цалкам сучасным. Пасля смерці паэта выйшаў вялікі том яго санетаў, што склалі асобны этап ва ўкраінскім дый ва ўсім савецкім санетапісанні.

Нельга не захапляцца тонкім лірызмам паэта, яго мудрым поглядам на свет, выяўленым хаця б у гэтай лірычнай мініяцюры:

Ластівки літають, бо літається,
І Ганнуся любить, бо пора...
Хвилею зеленою здиймається
Навесні Батиева гора.

Гнуться клени ніжними колінами,
Чорну хмару сріблять голуби...
Ще от день — і все ми, все покинемо
Для блакитнокрилоі плавби.

Хай собі кружляе, обертається,
Хоч круг лампочки, земля стара!
Ластівки літають, бо літається,
І Ганнуся плаче, бо пора...

Разам з тым верш Рыльскага пры неабходнасці мог перадаць магутны публіцыстычны напал, стаць арганна-гучным, высокапатэтычным, трыбунным — як у «Слове пра родную маці», напісаным у першыя месяцы вайны:

Хто може выпити Дніпро,
Хто властен виплескати море,
Хто наше злото-серебро
Плугами кривди переоре,
Хто серця чистого добро
Злобою чорною поборе?
Настане день, настане час —
І розіллеться знов медами
Земля, що освятив Тарас
Сво'іми муками — ділами,
Земля, що окрилив Тарас
Громовозвукими словами.

У юнацтве Рыльскі звярнуўся яшчэ да аднаго роду літаратуры — да мастацкай прозы, публіцыстыкі. Ён аўтар шэрагу навел, празаічных эцюдаў. Аднак найбольшую славу яму прынеслі не гэтыя творы, а многія цікава, жыва напісаныя востра актуальныя публіцыстычныя

артыкулы, асобныя з якіх склалі ўнікальную кнігу «Вячэрнія размовы». У пачатку 60-х гадоў чытачы «Вячэрняга Кіева» рэгулярна, раз у тыдзень, звычайна ў суботу, з захапленнем чыталі развагі «вялікага жыццялюба» пра розныя пытанні грамадскага жыцця, мастацтва, педагогікі. Даверлівая, шчырая размова з чытачом пры неабходнасці набывала публіцыстычную завостранасць, палемічную скіраванасць, дыскусійны характар.

Аднак не толькі ў канцы жыцця — па сутнасці, усё жыццё Рыльскі быў таленавітым публіцыстам, якому ўласцівыя разнастайнасць тэматыкі і праблематыкі, прынцыповасць, смелая пастаноўка грамадска-палітычных і эстэтычных праблем.

Глыбокі след пакінуў Рыльскі ў шэрагу гуманітарных навук — у літаратуразнаўстве, перакладазнаўстве, мастацтвазнаўстве, мовазнаўстве, фалькларыстыцы. Таленавіты арганізатар навукі (з 1942 г. і да канца жыцця ён кіраваў Інстытутам мастацтвазнаўства, фальклору і этнаграфіі АН УССР), Рыльскі не абмяжоўваўся практычным удзелам у розных навуковых мерапрыемствах, навуковых выданнях (напрыклад, як рэдактар). Ён унёс значны ўклад у распрацоўку тэарэтычных праблем эстэтыкі, літаратуразнаўства, мовазнаўства. Толькі на шаўчэнкаўскую тэму ім апублікавана звыш сямідзесяці прац. Ён з'яўляецца аўтарам шэрагу артыкулаў і манаграфіі пра Адама Міцкевіча. Яго працы толькі пра мастацкі пераклад склалі асобны том. Прычым абсалютная большасць гэтых прац, думкі, выказаныя ў іх, нічуць не ўстарэлі, знаходзяцца ў актыве сённяшняй навукі пра літаратуру.

А хіба можна абысці ўвагай перакладчыцкую дзейнасць Рыльскага? Дзейнасць, якой ён займаўся практычна ўсё жыццё, якая склала адну з яскравейшых старонак у гісторыі ўсяго савецкага перакладу. Сярод дзесяткаў, соцень перакладаў вяршынямі ўзвышаюцца кангеніяльныя перасатварэнні «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча, «Яўгенія Анегіна» Аляксандра Пушкіна, «Арлеанскай дзевы» Вальтэра і «Слова пра паход Ігаравы».

Каб уявіць сабе тую глыбокую баразну, якую на ніве не толькі паэзіі, але і ўсёй украінскай культуры праклаў Рыльскі, варта нагадаць, што ў цяперашнім дваццацітомніку паэта-акадэміка сем тамоў адводзіцца вершаваным перакладам, пяць — даследаванням і эсэ па літаратуразнаўству, фалькларыстыцы, мастацвазнаўству і мовазнаўству, два — найбольш значнаму з публіцыстыкі. Нават ва ўкраінскай культуры, не абдзеленай сваімі тытанамі творчай працы, Рыльскі займае сваё асобае месца. Ён — адзін з гэтых тытанаў, тытанаў духу і працы.

Вядома, талент пісьменніку даецца, як кажуць, з малаком маці, ад нараджэння. Аднак распараджаецца гэтым талентам ён сам. Максім Рыльскі, апрача ўсяго, паказвае сабой прыклад, як трэба ўмела, разумна, беражліва абыходзіцца са сваім талентам, які, па сутнасці, не толькі твой, але агульна-нацыянальны набытак. Пісьменнік пражыў доўгае, паўнакроўнае жыццё, якое ўсім сваім сэнсам, усёй сваёй логікай засцерагае: з талентам, дадзеным табе прыродай, нельга абыходзіцца абы-як, нельга яго растрачваць на дробязі, нельга рознымі неабдуманымі паводзінамі, учынкамі паскараць фізічнае разбурэнне таленту. Пры ўсім тым Рыльскі не быў вегетарыянцам ні ў прамым, ні ў пераносным сэнсе. Ён любіў жыццё, не пазбягаў асобных яго эпікурэйскіх радасцей, меў сваё пазалітаратурнае хобі — рыбалоўства, паляванне...

Творчы вопыт Рыльскага гаворыць і яшчэ пра адно: здольнасці, талент — не нешта нязменнае, застылае, раз назаўсёды дадзенае. Нястомнай працай, вучобай талент трэба «шліфаваць», «граніць» — так, як мы шліфуем і гранім алмаз, калі хочам, каб ён заззяў ва ўсёй сваёй красе. Склалася так, што Рыльскі не скончыў вышэйшай навучальнай установы, пасля гімназіі пачаў вучыцца на медыцынскім факультэце, потым перайшоў на гісторыка-філалагічны факультэт так званага народнага універсітэта, які праз некалькі месяцаў у сувязі з падзеямі грамадзянскай вайны 1919 года быў закрыты. Нягледзячы на гэта, шляхам самаадукацыі Рыльскі дасягнуў энцыклапедычных ведаў, стаў, накшталт Максіма Горкага, сапраўдным вучоным-акадэмікам, і не только правадзейным членам рэспубліканскай Акадэміі навук, але і ўсесаюзнай — першым і пакуль што адзіным акадэмікам АН СССР сярод украінскіх гуманітарыяў. Акадэмік Рыльскі выступаў у якасці апанента на шматлікіх абаронах кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый. У прыватнасці, ён быў першым апанентам на абароне ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна доктарскай дысертацыі П. Ахрыменкі пра беларуска-ўкраінскія фальклорна-літаратурныя ўзаемасувязі. Асобныя з дысертацыйных водгукаў Рыльскага цяпер здабываюцца з архіўных сховішчаў, становяцца даступнымі шырокаму чытачу. Яны ўражваюць арыгінальнасцю і глыбінёй тэарэтычнага мыслення вучонага, яго навуковай прадбачлівасцю, бляскам стылю.

Талент, такім чынам, неаддзелены ад асобы мастака, яго грамадзянскай пазіцыі, месца, якое ён займае ў жыцці. А Рыльскі заўсёды, ва ўсе часы быў з народам, хоць, здаралася, яго папракалі ў адрыве ад народа, вешалі ярлык «неакласіка». Аднак, як слушна заўважыў Леанід Навічэнка, «безадказныя, груба памылковыя прыгаворы сталі

сумным кур'ёзам для тых, хто час ад часу заглядае ў старыя выданні, а «неакласік», што стаў класікам без якіх-небудзь прэфіксаў ці прылепак, вырас у сваёй паэзіі — у жыцці таксама — у вялікага грамадзяніна, які на поўную моц свайго таленту ўмее гаварыць і сцвярджальнае «так», і рашучае, адмоўнае «не».

Гэта, зрэшты, пацвердзілася ў дні Вялікай Айчыннай вайны. Як і ўсе савецкія пісьменнікі, Рыльскі — пясняр дабрыні і любові — у грозны для Радзімы час становіцца песняром гневу, барацьбы і пометы. У дні вайны ён працаваў ледзь не ва ўсіх жанрах: пісаў «баявыя маршы і песні, велічныя оды свайму народу і псіхалагічную лірыку, вершы прамога і знішчальнага публіцыстычнага ўдару (сталёва-цвёрдае «Я — сын Краіны Рад»), і цёплыя пасланні байцам на фронт, гістарычныя фрэскі, і часовыя водгукі на падзеі дня, пісаў прысвечаную 25-годдзю Савецкай Украіны паэму «Смага», і капітальную мемуарную паэму «Вандроўка ў маладосць», сагрэтую тым жа жарам любові да роднай зямлі і яе людзей. Знамянальна, што менавіта ў дні цяжкага ўсенароднага выпрабавання Максім Рыльскі быў прыняты ў члены Камуністычнай партыі, стаў яе верным байцом» (Л. Навічэнка).

Для Рыльскага — чалавека і паэта — была характэрна яшчэ адна якасць. Ён, кажучы словамі Паўла Тычыны, валодаў «аркодужним перевисанням до народів», у тым ліку — і да беларускага народа.

Максім Рыльскі добра ведаў і любіў Беларусь, беларускі народ, яго культуру і літаратуру, сябраваў з асобнымі беларускімі пісьменнікамі, найперш з Янкам Купалам і Якубам Коласам. Пачынаючы з 1936 года, калі ён упершыню прыехаў у Мінск на Трэці пленум праўлення СП СССР (дарэчы, выступіў на ім з вельмі цікавым дакладам «За арганічную форму верша»), Рыльскі неаднаразова бываў у Беларусі. Бывалі і беларускія літаратары ў гасцінным кіеўскім доме Рыльскага.

Асабістыя кантакты прывялі да творчых сувязей. Знаёмства з «сінявокай сястрой Украіны» прадвызначыла з'яўленне шматлікіх вершаў Рыльскага на беларускую тэматыку, яго артыкулаў пра беларускую літаратуру, творчасць асобных пісьменнікаў, пасадзейнічала таму, што Рыльскі далучыўся да беларускай паэзіі як перакладчык. Прычым далучэнне да беларускай культуры Рыльскі ўспрымаў як дабратворны працэс, карысны і для яго ўласнай творчасці. «Я асабіста, як чытач,— пісаў Рыльскі ў адным з артыкулаў,— не ўяўляю сябе без кніжак Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулі, Кузьмы Чорнага, Міхася Лынькова, Эдуарда Самуйлёнка, Петруся Броўкі, Пятра Глебкі, Максіма Танка, Аркадзя

Куляшова, Пімена Панчанкі, Кандрата Крапівы, Янкі Брыля. Як паэт, я часам лаўлю сябе на тым, што іменна так я напісаў уласна дзякуючы чытанню маіх беларускіх сяброў. Думаю, што гэта могуць сказаць і іншыя мае таварышы».

Паэтычная «беларусіяна» Рыльскага складаецца з васемнаццаці вершавых твораў, сярод якіх чатыры вершы прысвечаны Янку Купалу, два — Якубу Коласу. У кнігу «Далёкія небасхілы», за якую (а таксама за кнігу «Ружы і вінаград») Рыльскі атрымаў званне лаўрэата Ленінскай прэміі, увайшоў беларускі цыкл «На братняй зямлі». Цыкл гэты складаецца з вершапрысвячэння і адзінаццаці санетаў, што з'яўляюцца акрасай паэтавага санетарыя. Варта пазнаёміцца хаця б з гэтым цыклам, каб убачыць усю глыбіню любові да Беларусі, якую адчуваў Рыльскі.

Тытан духу і працы, сапраўды народны пісьменнік, Максім Рыльскі назаўсёды застаўся ў памяці ўдзячных беларусаў.

### *Сейбіт на ніве братэрства*

Заўсёды з хваляваннем адчыняю паштовую скрынку: ці няма чаго-небудзь ад украінскіх друзів? Гэтым разам — бандэроль, а ў ёй — анталогія «Сучасная беларуская аповесць», якая выйшла ў кіеўскім выдавецтве мастацкай літаратуры «Дніпро» трыццацітысячным тыражом.

Гартаю старонкі кнігі... Добра вядомыя — і не толькі ў нас — творы таленавітых празаікаў сярэдняга пакалення: Алесь Жук, «Халодная птушка»... Віктар Казько, «Цвіце на Палессі груша»... Віктар Карамазаў, «Дзень Барыса і Глеба»... Анатоль Кудравец, «Раданіца» (у перакладзе — «Проводи»)... Празаікі нашы дасканала гавораць па-ўкраінску, усё роўна як адразу напісалі свае аповесці на гэтай мілагучнай і багатай сваяцкай мове. Вока затрымліваецца на прозвішчах перакладчыкаў: А. Літвіненка, Г. Вігурская, Г. Куліціч, Б. Чайкоўскі. Пра кожнага з іх можна было б сказаць добрае слова. Але цяпер з немалой кагорты шчырых і руплівых прапагандыстаў беларускага мастацкага слова на Украіне хочацца найперш вылучыць Галіну Васільеўну Вігурскую (1909-1989).

Неяк павялося, што мы часцей пішам пра перакладчыкаў паэзіі. Можа, ёсць тут свая логіка. Паэтычная кавалерыя хутчэй за іншыя жанры літаратуры авалодвае аператыўнай прасторай на тэрыторыі іншанацыянальнай культуры. Але ж без падтрымкі цяжкой артылерыі прозы на гэтай тэрыторыі надоўга не замацуешся. Брацъ «з бою»

даводзіцца кожнае сэрца чытача, а яны, чытачы, апошнім часам ахвотней падпускаюць да сябе якраз апавяданне, аповесць, раман.

Галіна Вігурская — перакладчыца-адналюбка. Несумненна, ёсць і ў яе творчай практыцы выключэнні (напрыклад, пераклад п'есы палячкі Г. Запольскай «Мараль пані Дульскай» або рамана балгарына А. Гуляшкі «Любоў»), аднак яшчэ на досвітку творчасці, на пачатку 50-х гг., компасам свайго сэрца яна адчула магістральны напрамак — беларускі, напрамак, на якім ішла звыш трыццаці гадоў. Цяжка нават пералічыць усіх аўтараў, назваць усе творы, якія, дзякуючы Вігурскай, арганічна ўвайшлі ў магутную плынь украінскай духоўнай культуры. Тут Якуб Колас («На ростанях», «Вайна вайне») і Кандрат Крапіва («Хто смяецца апошні»), М. Лынькоў («Міколка-паравоз») і М. Гарэцкі («Віленскія камунары»), П. Броўка («Калі зліваюцца рэкі») і Я. Брыль (апавяданні), В. Быкаў («Альпійская балада») і У. Карпаў («Вясеннія ліўні», «Сотая маладосць)», І. Шамякін («Не верце цішыні») і Віталь Вольскі («Несцерка», «Дзед і жораў»), У. Дадзіёмаў («Над Нёманам») і К. Губарэвіч («На крутым павароце»), С. Александровіч («Ад роднае зямлі») і З. Бандарына («Ой, рана на Івана»)... Тут І. Мележ, Янка Маўр, М. Паслядовіч, А. Васілевіч, В. Адамчык, Б. Сачанка, А. Маўзон, Е. Лось, некаторыя іншыя беларускія пісьменнікі, апавяданні і п'есы якіх, узноўленыя Вігурскай сродкамі ўкраінскай мовы, друкаваліся неаднаразова ў перыёдыцы, гучалі па радыё, уключаліся ў розныя зборнікі і анталогіі.

Відаць, не ўсё перакладчыца ўзнавіла на аднолькава высокім узроўні, не ўсюды яе напаткаў творчы поспех (як, зрэшты, не аднолькавай мастацкай вартасці і арыгіналы). Аднак большасць яе перакладаў апраменена свяшчэнным агнём сапраўднага натхнення, яны паўнацэнна ўзнаўляюць мастацкую рэчаіснасць беларускамоўных твораў, даносяць да ўкраінскага чытача глыбіню іх зместу, нацыянальную адметнасць. Пра гэта сведчыць, у прыватнасці, вялікі поспех асобных твораў беларускіх пісьменнікаў у перакладах Вігурскай. Так, пераклад трылогіі Якуба Коласа «На ростанях» на Украіне вытрымаў тры выданні (1958, 1970 і 1982 гг.), двойчы выходзіў па-ўкраінску раман П. Броўкі «Калі зліваюцца рэкі» (1961 і 1968 гг.), п'еса Кандрата Крапівы «Хто смяецца апошні» з нязменным аншлагам ішла ў дваццаці шасці ўкраінскіх тэатрах. Выдатныя беларускія пісьменнікі (М. Лынькоў, Янка Маўр, П. Броўка, Кандрат Крапіва і інш.) ахвотна аўтарызавалі пераклады Вігурскай, даючы тым самым высокую ацэнку яе працы, выказваючы павагу да самой перакладчыцы.

Чым жа быў абумоўлены творчы поспех перакладчыцы?

Зразумела, перш за ўсё самім перакладчыцкім талентам, які хоць і блізкі да таленту празаіка, паэта ці драматурга, але ўсё ж адрозніваецца ад яго (прыгадаем, што не ўсе арыгінальныя пісьменнікі адначасова і добрыя перакладчыкі або маюць схільнасць да перакладчыцкай працы). Вядома, дасканалым валоданнем беларускім словам, і не толькі літаратурным, але і народна-гутарковым, а таксама рознымі пластамі вузкаўжывальнай лексікі (архаічнай, прафесійнай, жаргоннай і інш.). Канечне, шчырай захопленасцю творам, які перакладаецца, любоўю да ўсёй літаратуры, да народа, які гэту літаратуру стварае. Аднак перакладчыцкія ўдачы Вігурскай, на маю думку, прадвызначаліся яшчэ адным: глыбокім веданнем беларускай літаратуры, гісторыі ўкраінска-беларускіх літаратурных узаемасувязей. Менавіта адсюль — дасканалая арыентацыя ў матэрыяле, веданне таго, што чакае ўкраінскі чытач якраз у гэты час, што патрэбна для нармальнага развіцця ўкраінскай культуры на гэтым этапе яе развіцця.

Сваю творчую пазіцыю перакладчыца нярэдка выяўляла і крытычна-публіцыстычным словам. Маю на ўвазе шэраг яе артыкулаў пра літаратурныя сувязі паміж Украінай і Беларуссю ў часопісах «Вітчизна», «Полымя», «Беларусь», у газетах «Літаратура і мастацтва» і «Літературна Укра'їна».

Галіна Вігурская сваімі перакладамі запоўніла не адзін прагал у культурным яднанні ўкраінцаў і беларусаў. Яна заўсёды імкнулася быць на быстрыні літаратурнага працэсу: сачыла за навінкамі ўсёй савецкай літаратуры, у тым ліку і перш за ўсё — беларускай, аналізавала сучасны ёй стан роднай украінскай літаратуры і культуры ў цэлым, каб зразумець яе патрэбы, яе «вітаміны росту». Гэта і прыводзіла яе да заканамерных творчых удач.

## ***Вытокі прыцягнення***

З чаго нараджаецца любоў чытача да пісьменніка? Перш за ўсё — з ведання яго творчасці. Няма гэтага ведання, няма і любові. Ісціна гэтая слушная, нягледзячы на тое, што далёка не кожная сустрэча з літаратурным творам прыносіць не тое што любоў, а нават звычайнае эстэтычнае задавальненне. З другога боку, любоў прадвызначае новае веданне, цягу да знаёмства з новымі творамі любімага празаіка, паэта, драматурга. Так яны і ходзяць у пары — веданне і любоў, узаемна дапамагаючы адно аднаму, узаемна стымулюючы адзін другога.

Творчасць Алеся Ганчара (нар. у 1918 г.) беларусы ўведалі (і палюбілі!) амаль аднachасова з землякамі пісьменніка — у першыя пасляваенныя гады. Асобныя шчасліўцы, хто больш-менш ведаў украінскую мову і мог дастаць украінскія выданні, сустрэліся з маладым тады пісьменнікам-франтавіком на старонках украінскай прэсы. Так, І. Шамякін у артыкуле «Ад салдацкіх акопаў да зорак» прыгадваў, што «Альпы» Ганчара прачытаў яшчэ ў 1946 годзе: адзін украінскі калега-настаўнік прыслаў яму «Вітчизну» з публікацыяй гэтага твора. І хаця ён «далека не дасканала валодаў украінскай мовай», аповесць яго вельмі ўразіла. Уразіла «асаблівым бачаннем вайны, так аб вайне яшчэ не пісалі — сурова, праўдзіва, узвышана».

Абсалютная большасць двухмоўных беларусаў знаёмілася (і знаёміцца) з творчасцю Ганчара па рускіх перакладах, якія ў Беларусі амаль такія ж даступныя, як і ў Расіі. Да перакладаў, што публікуюцца агульнасаюзнымі выдавецтвамі і перыядычнымі выданнямі, зрэдку далучаюцца і свае, мясцовыя. Як скажам, пераклад (В. Акунькова) урыўка з трылогіі пісьменніка «Дрэдноўты на гарызонце», апублікаваны 30 чэрвеня 1957 г. у газеце «Советская Белоруссия».

Існуе і трэці шлях, па якім беларусы прыходзяць да жыццядайнай крыніцы творчасці Алеся Ганчара. Ён пралягае якраз пасярэдзіне паміж першым і другім шляхамі. Гэта — уласнабеларускі пераклад, узнаўленне твораў пісьменніка сродкамі беларускай мовы.

Яшчэ ў 1947 г. у часопісе «Полымя» (№ 4) з'явілася навела Ганчара «Вясна за Маравай» ў кваліфікаваным перакладзе вядомага беларускага празаіка У. Краўчанкі. Крыху пазней той жа У. Краўчанка пераклаў і апавяданне «Суседзі» («Беларусь», 1949, № 8). Ён разам з І. Мележам узнавіў па-беларуску і славуты раман «Сцяганосцы», які выйшаў асобным выданнем у 1949 годзе.

Пачынаючы з тых пасляваенных гадоў, беларускія выдаўцы і супрацоўнікі перыядычных выданняў вельмі прыхільна ставяцца да творчасці майстра ўкраінскай прозы. Так, у беларускай перыёдыцы публікуюцца ўрыўкі з яго раманаў «Таўрыя» («Чырвоная змена», 1953, 30 ліпеня), «Перакоп» («Літаратура і мастацтва», 1957, 15 чэрвеня; пераклад І. Шамякіна), з кінааповесці «Партызанская іскра» («Чырвоная змена», 1958, 8 ліпеня), апавяданне «На дарозе» («Чырвоны сцяг», 1957, 30 чэрвеня) і інш. Услед за «Сцяганосцамі» з'яўляюцца на беларускай мове раманы пісьменніка «Тронка» (Мінск, 1974; пераклад У. Шахаўца), «Бераг любові» («Полымя», 1977, № 8—9; пераклад Л. Салаўя), «Твая зара» (Мінск, 1986). Бадай, ні да кога з сучасных украінскіх празаікаў так не ўважлівыя беларускія перакладчыкі, як да А. Ганчара, ніхто столькі колькі ён, не выдаваўся па-беларуску. І — ні

пра кога столькі не пісала беларуская крытыка, высока ацэньваючы ўклад пісьменніка ва ўсесаюзную літаратуру, аб'ектыўна арыентуючы чытачоў, стымулюючы пераклад твораў пісьменніка на мовы народаў СССР.

У беларускім ганчаразнаўстве, за выключэннем хіба што манаграфій, сустракаюцца працы рознага віду і характару: абагульняючы артыкулы (тыпу артыкула «Ад салдацкіх акопаў да зорак» І. Шамякіна, што ўвайшоў у яго кнігу «Карэнні і галіны», Мінск, 1986), юбілейныя публікацыі (Шамякін І. Ад імя беларусаў.— «Літературна Україна», 1978, 4 красавіка; Ключановіч І. Толькі праўда жыцця.— «Літаратура і мастацтва», 1978, 7 красавіка), спецыяльныя навуковыя даследаванні (Тараненко И. Названия цветов в произведениях О. Гончара.— У кн.: Актуальные проблемы лексикологии. Минск, 1970), сяброўскія водгукі-вітанні (Шамякін І. О товарище по перу.— «Литературная газета», 1984, 22 февраля), рэцэнзіі на кінафільмы па сцэнарыях Алеся Ганчара «Партызанская іскра» (Бондарава Е. Свяшчэннай памяці герояў.— «Звязда», 1958, 1 лютага; Андрэеў К. Мужнасць юных.— «Гродзенская праўда», 1958, 30 лістапада), «Таўрыя» (Высокі Я. «Таўрыя».— «Мінская праўда», 1960, 5 кастрычніка), «Палоскі няскошаных дзікіх кветак» (Крупеня Я. З верай у чалавека.— «Настаўніцкая газета», 1980, 6 лютага)... Зразумела, найбольш пашыраны жанр — водгук-рэцэнзія на літаратурныя творы. З гэтых твораў найбольшую ўвагу беларускіх крытыкаў зусім заканамерна прыцягнулі раманы «Сцяганосцы» і «Тронка». Пра першы раман пісалі І. Кудраўцаў (Сцяганосцы справядлівасці.— «Літаратура і мастацтва», 1948, 29 мая), У. Агіевіч («Знаменосцы».— «Советская Белоруссия», 1948, 15 июля), Я. Данскі («Злата Прага».— «Гродзенская праўда», 1949, 23 ліпеня). Другі раман высокую ацэнку атрымаў у рэцэнзіях У. Юрэвіча (Подых украінскага стэпу.— «Полымя», 1964, № 9), 1. Шамрэева (Тронка.— «Во славу Родины», 1964, 10 мая), Б. Ягорава (Прыгажосць душы чалавека.— «Магілёўская праўда», 1964, 21 ліпеня). У беларускай крытыцы своечасовую аб'ектыўную ацэнку атрымалі і іншыя раманы А. Ганчара: «Чалавек і зброя» (Савин Е. Собственной жизнью и кровью.— «Знамя юности», 1960, 29 ноября), «Бераг любові» (Шамякин И. Паруса времени.— «Литературная газета», 1977, 29 июня) і інш.

Як бачым, увага беларускіх перакладчыкаў і літаратурных крытыкаў да творчасці А. Ганчара даволі значная. Чым жа яе можна вытлумачыць?

Не буду займацца домысламі. Паспрабую адказаць на гэтае пытанне так, як яго адчуваю і разумею сам, зыходзячы хоць з

невялікага, але асабістага вопыту — вопыту перакладчыка на беларускую мову рамана «Твая зара».

Чым жа мяне як перакладчыка прыцягвае да сябе творчасць і асоба Алеся Ганчара? Не варта гаварыць прапісныя ісціны, указваць на высокую ідэйна-мастацкую вартасць яго твораў, іх актуальнасць, высокую грамадзянскасць. Хаця, безумоўна, гэта вабіць найперш. Але ж гэта ёсць і ў многіх творах беларускіх і рускіх пісьменнікаў. А ўвагу прыцягвае не тое, што аналагічнае іншаму, а тое, што адрознівае аднаго пісьменніка ад іншага.

Мяне Алесь Ганчар вабіць тым, што і ў творчасці, і ў сваіх чалавечых учынках, і ў прозе, і ў публіцыстыцы ён стаў, кажучы словамі Юрыя Шчарбака, «абаронцам маральных, культурных, гістарычных святынь, без якіх украінскі народ ператварыўся б на сярэднестатыстычнае «насельніцтва Украіны». «Нашим бы сих качеств. О боже, вот хорошо-то было бы!» — так нярэдка хочацца ўсклікнуць словамі Максіма Горкага, сказанымі ім калісьці пра Янку Купалу і Якуба Коласа. Хочацца ўсклікнуць, чытаючы асобныя мастацкія творы А. Ганчара, яго яскравыя публіцыстычныя выступленні ў абарону народнай памяці, роднай мовы, прыроды, Радзімы. Сёння Алесь Ганчар — гэта голас самой Украіны, яе сумленне, гонар, надзея. Пісьменнік мысліць дзяржаўнымі маштабамі. У асобе яго, выдатнага майстра слова і грамадскага дзеяча, гарманіча спалучаюцца талент мастака і грамадзяніна. Менавіта таму на такім высотам напале ў яго творчасці загучалі праблемы гуманізму, барацьбы за мір, аховы навакольнага асяроддзя, еднасці ўласнага і агульнаграмадскага, нацыянальнага і інтэрнацыянальнага.

Ад дзяржаўнасці мыслення пісьменніка ідзе яго жаданне ўпісаць Украіну ў кантэкст сацыяльных, дзяржаўна-палітычных, нацыянальных, маральна-этычных праблем усяго свету. Прычым Украіна выступае ў яго не толькі сама па сабе, але і як істотнейшая, неадменная частка гэтага свету.

Украінца Ганчар вывеў на авансцэну сусветнага эканамічнага і палітычнага жыцця, паказаў яго асобай высакароднай, дзейснай, гуманнай.

Заўважу, што беларуская літаратура адносна Беларусі і беларуса гэтага пакуль што яшчэ не зрабіла. І творчасць Ганчара ў гэтым сэнсе не толькі арганічна дапаўняе, але і стымулюе наша прыгожае пісьменства.

Станаўленне новай беларускай літаратуры гістарычна супала з росквітам рэалістычнага напрамку ў сусветнай і рускай літаратуры, ад якой беларуская вельмі многае пераняла. Нягледзячы на выразны

рамантычны пачатак творчасці Янкі Купалы, іншых рамантыкаў (А. Гарун, М. Чарот, У. Жылка і інш.), літаратура ў цэлым, і проза найперш, пайшла па рэалістычным коласаўскім шляху. У духу аб'ектыўна-рэалістычнага бачання свету выхаваны беларускі чытач. Суровай рэалістычнай заземленасцю моцная беларуская проза. Аднак часамі хочацца і рамантычнаўзвышанага, ідэальнага, выключнага, таго спецыфічнага спалучэння сучаснага рамантызму з рэалізмам, якое А. Фадзееў называў «крылатым рэалізмам». Іншымі словамі, хочацца рэалізму Алеся Ганчара.

Нельга сказаць, што я як беларускі чытач і перакладчык Ганчара абыякавы да іншых момантаў яго творчасці. Мяне радуюць цесныя кантакты ўкраінскага пісьменніка з Беларуссю, дзе ён неаднойчы бываў і мае нямала сяброў, яго выказванні пра Беларусь і беларускую культуру, асобных беларускіх літаратараў і іх творы. Я, як і тысячы беларускіх чытачоў, удзячны Ганчару за прывабныя вобразы беларусаў, намаляваныя ў яго творах,— ад «Сцяганосцаў» (Юрый Бранскі) і да «Успаміну пра акіян» (вобраз Пятра, паэта і фальклорыста). Несумненна, кожны перакладчык улічвае і чытацкі прэстыж перакладаемага аутара, што ў адносінах да Ганчара ніколі не выклікала ніякага сумнення. А для задавальнення перакладчыцкіх амбіцый (ёсць і такое пачуццё!) гэта таксама важна.

Відавочна, усё гэта, разам узятае, свядома і падсвядома ўлічвалася мной як перакладчыкам у момант прыняцца рашэння аб узнаўленні на беларускай мове «Тваёй зары», твора шматпланавага, глыбокага і самабытнага, напісанага паэтычна ўзнёсла, з арыгінальнай інтанацыяй мастака, захопленага прыгажосцю чалавечай душы. Прывабіла сучаснасць тэмы: беларуская проза ў 70-я гг., ды і цяпер, свой асноўны творчы патэнцыял скіравала на асэнсаванне падзей Вялікай Айчыннай вайны, а не сучасных праблем. Сімпатыю выклікаў вобраз савецкага дыпламата, украінца Кірылы Забалотнага.

У асобе Забалотнага — носьбіта ўсечалавечага гуманізму, арганічна сышліся шырокі інтэлект з передавым светапоглядам, патрыятызм з інтэрнацыяналізмам, глыбокая любоў да роднага стэпавага краю, да Украіны, з адданасцю ўсёй савецкай краіне, з трывогаю за лёс планеты, усяго чалавецтва. Аналагічнага вобраза беларуса нацыянальная беларуская проза, на жаль, яшчэ не намалявала.

Праўда, у час першай сустрэчы з раманам узнікла і пэўнае эмацыянальнае непрыняцце асобных яго момантаў. Скажам, не хацелася верыць, што Раман Віннік так шчасліва закончыць свой жыццёвы шлях — будзе на Салаўках вырошчваць гародніну ў пабудаваных ім цяпліцах. Не той быў час, не тыя былі ўмовы для

гэтага. Не хацелася згаджацца і з дараваннем Міне Амелькавічу, які пасля таго, што ён нарабіў у 30-я гады, спакойна дажывае век на былой сядзібе Вінніка, нават адраджае яе. Але паступова прыйшло ўсведамленне: гэта ўсё — не ад слабасці рэалістычнага пісьма, а ад своеасаблівасці гуманістычнага ідэалу пісьменніка, ад яго глыбокай веры ва ўдасканаленне чалавека.

Усё, што тут сказана,— з майго ўласнага вопыту далучэння да творчасці аўтара «Тваёй зары». Пра плён гэтага далучэння меркаваць не мне. Я казаў пра іншае — пра вытокі спасціжэння і вытокі прыцягнення. Прыцягнення пісьменніка Алеся Ганчара.

## На шалях перакладу

# ПЕРАКЛАД ЯК МОВАТВОРЧАСЦЬ

Што б і колькі мы ні гаварылі пра вялікае значэнне перакладу ў жыцці грамадства, нашы развагі будуць няпоўныя, калі мы пакінем па-за ўвагай моватворчую ролю гэтага віду духоўнай дзейнасці. У савецкім перакладазнаўстве даўно сцвердзілася думка, што пераклад «з'яўляецца не толькі спосабам узбагачэння духоўнага вопыту чытачоў, але і спосабам узбагачэння мовы, на якую той ці іншы твор перакладаецца». Гэта думка выдатнага ўкраінскага практыка і тэарэтыка перакладу Максіма Рыльскага (якая выказвалася, дарэчы, і да яго) знаходзіць надмацаванне ў канкрэтных назіраннях шэрагу перакладчыкаў і перакладазнаўцаў многіх рэспублік і краін. У прыватнасці, вядомы эстонскі перакладчык (у тым ліку — і беларускай літаратуры) Олеў Йыгі падкрэсліваў: «Перакладчык у аднолькавай ступені ахоўвае і развівае сваю мову — нават больш, чым пісьменнік. Найноўшая проза, у прыватнасці проза маладых аўтараў, дае падставу зрабіць вывад, што мова пісьменнікаў у выніку урбанізацыі бяднее, у той час як мова перакладчыкаў стала нават прадметам навуковага вывучэння — слоўнікавы склад лепшых перакладчыкаў нароўні з моваю пісьменнікаў уваходзіць у тлумачальны слоўнік эстонскай мовы».

Такім чынам, сцверджанне: пераклад развівае літаратурную мову — у наш час уяўляецца аксіёматычным. Задача перакладазнаўства, на нашу думку, павінна заключацца не ў простай канстатацыі гэтага факта, а ў высвятленні канкрэтных шляхоў і формаў узбагачэння нацыянальнай мовы праз пераклад у пэўную гістарычную эпоху. Самыя ж гэтыя шляхі і формы ў агульным выглядзе даўно вядомыя: па-першае, актывізацыя ўласных моўных рэсурсаў, схаваных нярэдка ў глыбінях народнай памяці (гістарызмы, архаізмы, дыялектызмы і г. д.); па-другое, неалагізацыя, г. зн. утварэнне новых слоў і моўных выразаў, у тым ліку на ўзор мовы арыгінала; па-трэцяе, прамыя моўныя запазычанні, перш за ўсё — назваў розных іншанацыянальных рэалій («неперакладальнага ў перакладзе» — па выказванні балгарскіх перакладазнаўцаў С. Влахава і С. Флорына). Прычым нельга забываць, што ў развіцці нацыянальнай мовы ў той ці іншай ступені ўдзельнічаюць усе віды перакладу — апрача літаратурна-мастацкага, яшчэ грамадска-палітычны, навукова-тэхнічны, афіцыйна-дзелавы.

Даследаваць уплыў перакладу на лексіку, граматыку і стылістыку мовы-ўспрымальніцы можа і звычайны лінгвіст. Што ж тады застаецца на долю перакладазнаўца?

Відавочна, моватворчая роля перакладу не абмяжоўваецца звычайным узбагачэннем (ці збядненнем — на жаль, часам бывае і гэта!) моўнай сістэмы. Калі мець на ўвазе мастацкі пераклад, то яго моватворная функцыя перакрыжоўваецца з іншымі: эстэтычнай, грамадска-палітычнай, літаратуратворчай і г. д. Мова ў мастацкім творы выступае ў сваёй эстэтычнай, формаўтваральнай сутнасці. І важна не толькі заўважыць «трансплантацыю» нейкага іншамоўнага элемента ў структуру мовы перакладу, але і ўсвядоміць функцыі гэтага элемента ў мастацкай структуры твора, больш таго — у сістэме роднай для перакладчыка культуры ў цэлым. А тут звычак чыста лінгвістычнай працы яўна недастаткова.

Багатая, у многім драматычная, як і лёс самога народа, гісторыя беларускага перакладу дазваляе гаварыць пра яго значную моватворчую ролю, зразумела, розную ў розныя гістарычныя эпохі. Акрэсліваюцца чатыры перыяды ў тысячагадовай гісторыі беларускага перакладу: агульнаўсходнеславянскі, або старажытнарускі (XI-XIII стст,), даўні (XIV-XVIII стст.), новы (XIX — пачатак XX стст.) і сучасны (пачынаючы з 1917 г.). Кожны з гэтых перыядаў вызначаецца як тым становішчам, якое займаў пераклад у літаратуры і грамадстве ў цэлым, так і інтэнсіўнасцю ўздзеяння яго на культуру і мову.

Пераклад самым непасрэдным чынам прычыніўся да ўзнікнення і развіцця большасці літаратур Еўропы. Паводле вобразнага выказвання Эдмона Кары, «пераклад быў бабкай-павітухай французскай літаратуры». Тое ж можна сказаць пра літаратуры нямецкую, англійскую і інш. Старажытнаруская, г. зн. Агульна-ўсходнеславянская, літаратура, з якой пасля выраслі тры братнія літаратуры — руская, украінская і беларуская,— таксама сваім нараджэннем абавязана перакладу. Яе фонд у сваёй галоўнай частцы складаўся з перакладаў грэчаскіх і візантыйскіх аўтараў на старaславянскую мову. Старажытнаруская літаратура, па словах акадэміка Д. Ліхачова, «нарадзілася з унутраных патрэб, але пры ўдзеле твораў, перанесеных да нас непасрэдна з Балгарыі і з Візантыі праз Балгарыю». Пачынаючы з XI ст. у Кіеўскай Русі з'явіліся і самастойныя пераклады замежнай літаратуры як на старaславянскую мову (з украпленнем у перакладныя тэксты ўсходнеславянскіх моўных элементаў), так і на мову старажытнарускую (агульнаўсходнеславянскую).

Перакладалася найперш царкоўна-рэлігійная літаратура (асобныя кнігі Бібліі, апокрыфы, жыціі і г. д.), што прадвызначалася

задачамі хрысціянізацыі Русі, умацавання на яе тэрыторыі рэлігійнай ідэалогіі. Аднак нямала сярод перакладаў было і твораў свецкага зместу — хранографаў (Хроніка Малалы, Хроніка Амартала), зборнікаў афарызмаў і крылатых выразаў («Пчала»), сустракаліся перакладныя раманы і аповесці (аповесці пра Варлаама і Іасафата, пра Акіра Прамудрага, раман «Дзяўгеніевы дзеі»), зборнікі энцыклапедычнага характару (напрыклад, перапісаны на Русі з балгарскага арыгінала «Зборнік 1073 г.», што прызначаўся для кіеўскага князя Святаслава і ўключаў творы прыродазнаўчыя, гістарычныя, філасофскія). Перакладная літаратура, як слушна сказана ў «гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры (1977), «садзейнічала пашырэнню кругагляду старажытнарускага чытача, узбагачэнню яго ведаў, маральных прынцыпаў і эстэтычных ідэалаў. Яна была таксама важным фактарам, што стымуляваў зараджэнне арыгінальнай літаратуры ва ўсходніх славян і аказаў плённы ўплыў на яе далейшае развіццё».

Сама ж старaславянская мова перакладаў доўгія гады захоўвала на ўсходнеславянскіх землях пануючае афіцыйнае становішча, а ў Маскоўскай Русі набыла нават статус літаратурнай мовы. Гэта, несумненна, не магло з часам не паўплываць на воблік як літаратурнай, так і гутарковай рускай мовы, у якой і цяпер можна ўбачыць нямала элементаў старaславянскіх, што з'явіліся на Русі дзякуючы найперш перакладным творам. Што ж да дзвюх другіх усходнеславянскіх моў — беларускай і ўкраінскай, то такіх элементаў у іх намнога менш, паколькі іх гістарычны лёс, пачынаючы з XIV ст., склаўся інакш...

Развіцце феадальных адносін, складаная палітычная сітуацыя (напады татара-манголаў і крыжакоў) прывялі да таго, што ў сярэднія вякі на тэрыторыі былой Кіеўскай Русі ўтварыліся дзве новыя дзяржавы: на ўсходзе — Маскоўская Русь, на захадзе — Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, ці Літоўская Русь, як называў яго Карл Маркс. У межах Вялікаіа княства Літоўскага, сэрцавіну якога складала сённяшняя беларуская зямля, склаліся літоўская, беларуская і ўкраінская народнасці, іх культуры і мовы. Літоўская Русь, такім чынам, стала агульнай дзяржавай для трох суседніх народаў — двух усходнеславянскіх і аднаго балтыйскага. Старабеларуская літаратурная мова, што грунтавалася на агульнаўсходнеславянскай моўнай аснове, набыла статус дзяржаўнай, на ёй у Наваградку, а пасля і ў Вільні (сталіцах княства) выдаваліся розныя акты, пісаліся граматы, вялося справаводства, стваралася багатая літаратура.

Сёння не вельмі лёгка — адсутнічаюць спецыяльныя даследаванні — меркаваць пра канкрэтны ўклад перакладных твораў ва ўзбагачэнне старабеларускай мовы. Бо павелічэнне арсенала моўных

сродкаў, уключэнне ў іх іншамоўных запазычанняў ішло не толькі праз пераклад, а і напрамую, без пасрэдніцтва перакладу. Тым не менш агромністы ўклад у развіццё старабеларускай мовы многіх ананімных, а таксама вядомых перакладчыкаў, такіх як Францыск Скарына, Васіль Цяпінскі, Мялецій Сматрыцкі, не выклікае сумнення. Разгорнем хоць бы складзены У. Анічэнкам двухтомны «Слоўнік мовы Скарыны» (1977-1984). У ім налічваецца каля 9500 рэестравых слоў і форм, вылучаных, за рэдкім выключэннем, менавіта з перакладных тэкстаў. Вядома, большасць гэтых лексем ужывалася ў беларускай мове яшчэ задоўга да Скарыны. Але, як піша У. Анічэнка ва ўступе да слоўніка, «некаторыя з такіх слоў упершыню адзначаюцца толькі ў Скарыны, а паасобныя з іх наогул не фіксуюцца іншымі помнікамі старабеларускай пісьменнасці». Каля 400 рэестравых слоў увайшлі ў кнігу А. Булыкі «Даўнія запазычанні беларускай мовы» (1972). Апрача арыгінальнага пісьменства (летапісы, мемуары, мастацкая публіцыстыка і інш.), крыніцаю слоўніка паслужыла і перакладная літаратура: гістарычныя аповесці і раманы, апокрыфы, жыціі і г. д. Сярод іх — «Александрыя», «Гісторыя аб Атыле», «Аповесць аб Баве», «Аповесць аб трох каралях-валхвах», «Жыціе Аляксея, чалавека божага», «Сказанне аб Мамаевым пабоішчы», «Аповесць аб Трыстане» і інш. А хіба не сведчыць пра вялікую моватворную ролю перакладу шматтомны «Гістарычны слоўнік беларускай мовы», звыш дзесятка тамоў якога (з агульных некалькі дзесяткаў) ужо ўбачылі свет? І ў яго ж аснове — мноства не толькі арыгінальных, але і перакладных тэкстаў.

Увогуле, у старабеларускай літаратуры пераклады не адасабляліся ў нейкі самастойны від літаратуры, а складалі з арыгінальнай адзінае цэлае. Яны значна пашыралі жанрава-стылістычныя магчымасці не толькі царкоўнага, але і свецкага пісьменства, самога мастацкага мыслення беларусаў. «Змяшэнню» арыгінальнай і перакладной літаратур садзейнічаў сам метад перакладу, калі нават да кананічных царкоўных твораў (напрыклад, Бібліі) перакладчыкі ставіліся без лішняга піетэту. Так, Скарына, які пераклаў і ў 1517-1519 гг. выдаў для суайчыннікаў 23 розныя кнігі біблейскага зводу, шырока ўжываў у перакладах узоры беларускай вусна-паэтычнай творчасці, народныя прыказкі і прымаўкі, карыстаўся разнастайнымі прыёмамі аратарскага пісьма, дадаваў да асобных кніг свае прадмовы і пасляслоўі, уласныя вершы і г. д. Іншыя праваслаўныя перакладчыкі выкідалі з жыцій святых месцы, дзе праслаўляўся рымскі папа, усхваляўся каталіцызм. Пропускі нярэдка запаўняліся інвектывамі перакладчыкаў у адрас каталіцкай веры і касцёла. Калі

такім чынам абыходзіліся з літаратурай рэлігійнай, то што ўжо казаць пра пераклады свецкіх твораў!

Сярэдневяковыя пераклады (як, зрэшты, і некаторыя пазнейшыя) выконвалі ў жыцці беларускага грамадства яшчэ адну — моваахоўную, культураахоўную функцыю. «Усялякі пераклад ажыццяўляецца, так сказаць, па абавязку самазахавання моўнага калектыву,— піша сучасны нямецкі даследчык перакладу Фослер.— Пераклад — зброя ў руках нашай мовы. Мастацка дасканалыя пераклады кожнай нацыянальнай літаратуры неабходна разглядаць і ацэньваць як стратэгічныя аванпосты, на якіх дух мовы дадзенага народа змагаецца з чужым, адваёўваючы ў таго так многа, колькі гэта магчыма». Пераклады Ф. Скарыны, В. Цяпінскага, М. Сматрыцкага і інш. былі выкліканы да жыцця не толькі жаданнем даць у рукі ўсіх «людей посполитых руського языка» зразумелыя ім кнігі, але і жаданнем супрацьстаяць польска-каталіцкай экспансіі, якая няўмольна насоўвалася з захаду і ўяўляла вялікую пагрозу духоўнай самабытнасці ўсходніх славян. Зразумела, супраць палітычнай і эканамічнай экспансіі аднымі перакладамі цяжка, ды і немагчыма было змагацца. Але ў гэтым змаганні ім таксама адводзілася свая, не малая роля.

Пачынаючы з другой паловы XVI ст. становішча беларускай культуры і беларускай мовы ў Вялікім княстве Літоўскім рэзка пагоршваецца. Пасля Люблінскай уніі 1569 г., якая ўзаконіла палітычнае аб'яднанне княства і Польшчы ў адзіную Рэч Паспалітую, яшчэ больш жорсткая стала эканамічная і духоўная агрэсія польскіх феадалаў на ўсходнеславянскіх землях. Адбываецца акаталічванне і — праз яго — апалячванне часткі беларусаў, перш за ўсё пануючых класаў. Беларуская мова паступова, але няўмольна траціць дзяржаўнае значэнне, а ў 1696 г. спецыяльным указам сейма наогул выцясняецца са справаводства, замяняецца польскаю. Пераклад як від нацыянальнага мастацтва пачынае існаваць толькі ў вуснай форме, калі народныя песні, найперш рускія, украінскія і польскія, уваходзяць — у адаптаваным перакладзе — у беларускі фальклор...

Так працягвалася да канца XVIII ст., да часу трох падзедаў Рэчы Паспалітай і ўваходжання беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі (1772-1795). І хаця шавіністычная палітыка рускіх цароў не ўступала нацыяналістычным памкненням польскіх каралёў (прыгадаем, што ў 1840 г. цар Мікалай I забараніў нават саму назву Беларусь, загадаў ужываць у афіцыйных дакументах «Северо-Западный Край»), усё ж апалячванне беларусаў пачало прыпыняцца. Прыйшоў XIX век, век рэвалюцый, нацыянальна-вызваленчых рухаў, век Маркса і Энгельса. І беларускі народ, услед за іншымі

запрыгоненымі народамі, пачаў спакваля абуджацца ад векавога летаргічнага сну.

Бацька новай беларускай літаратуры Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч стаў адначасова і бацькам новага беларускага мастацкага перакладу. Побач з арыгінальнай творчасцю ён пачаў ажыццяўляць грандыёзную па тым часе задачу — перакладаць эпічную паэму А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш» на беларускую мову. Такім чынам, і новая беларуская літаратура, якая, у адрозненне ад старой, вырастала ўжо не на былых літаратурных і моўных карэннях, а на вуснай народнай творчасці і на жывой народнай мове, сваім адраджэннем таксама ў многім абавязана перакладу. Літаральна ўсе беларускія пісьменнікі XIX — пачатку XX стст. паралельна з арыгінальнай творчасцю займаліся перакладам.

Як гэта ні парадаксальна, на пачатковым этапе развіцця нацыянальнай літаратуры пераклады нават у большай ступені, чым арыгінальныя творы, садзейнічаюць развіццю літаратурнай мовы. Арыгінальныя творы арыентуюцца на сялянскую псіхалогію, засноўваюцца перш за ўсё на фальклоры, а гэта значыць карыстаюцца, як правіла, размоўна-бытавым моўным пластом. Патрэбы развіцця літаратуры прадвызначаюць неабходнасць узнаўлення твораў, напісаных у іншым ідэйна-тэматычным жанравым, а тым самым — і моўным ключы. Застаецца адно: выпрабаванне і апрацоўка роднай мовы на вышэйшых, класічных літаратурных узорах.

Вось і выпрабоўвалі, апрацоўвалі сваю мову, гранілі яе беларускія перакладчыкі XIX — пачатку XX стст. Іх не спынялі ні афіцыйная забарона царскім урадам беларускай мовы, ні парады «сяброў» беларускай літаратуры не займацца перакладам, у прыватнасці— «Пана Тадэвуша»: беларуская мова, маўляў, «не здольная і не можа быць здольнай перадаць ва ўсёй яго моцы і прыгажосці літаратурны твор, натхнёны вышэйшым палётам думкі», ды і сам пераклад, быццам бы, нікому не патрэбны. Так, у прыватнасці, пісаў польскі часопіс «Tygodnik Ilustrowany» у 1887 годзе ў артыкуле нейкага А. С. «Пан Тадэвуш» на Беларусі». Цікава, што прыблізна ў той самы час (80-я гг. XIX ст.) гучалі такія ж заклікі і да ўкраінскіх перакладчыкаў, прычым нават з вуснаў людзей, увогуле зацікаўленых у развіцці ўкраінскай літаратуры: «Лепш пакінуць усіх Байранаў, Міцкевічаў etc. у спакоі і не звяртацца да прымусовага выкоўвання слоў і выразаў, якія народу незразумелыя, ды і самі творы, дзеля якіх яны выкоўваюцца, простанародзіну незразумелыя і пакуль што непатрэбныя». Сёння нават цяжка даць веры, што словы гэтыя належаць шчыраму ўкраінафілу М. Кастамараву. Аднак, на шчасце, ні бела-

рускія, ні ўкраінскія перакладчыкі не паддаліся такім заклікам. У прыватнасці, беларускія літаратары, рызыкуючы многім, нават галавой, шчыра ўнушалі роднаму народу, як рабіў гэта Аляксандр Ельскі ў прадмове да свайго перакладу «Пана Тадэвуша»: «Ваша старадаўняя беларуская мова, мусіць, варта чагось, калі можна на яе склад ператалумачыць найцальнейшыя паэтычныя творы вялікіх пісацеляў».

Моватворчая роля беларускага перакладу XIX ст. галоўным чынам і выяўлялася ў сцвярджэнні прэстыжу беларускай мовы, у доказе яе значных літаратурнамастацкіх магчымасцей. І гэтая роля ёю, у асноўным, была выканана. Знамянальна, што найбольшы паэт Беларусі Янка Купала ўсвядоміў сябе нацыянальна дзякуючы не толькі арыгінальнай, але і перакладной беларускай літаратуры. «Пісаў спачатку па-польску,— прыгадваў пясняр ужо ў савецкі час.— Але вось трапляюцца мне ў 1904 г. ці ў пачатку 1905 г. рэвалюцыйныя пракламацыі на беларускай мове і кніжкі «Дудка беларуская» Багушэвіча і «Гапон» або нейкая іншая кніжка Марцінкевіча, выдадзеная за мяжою, і ўся мая польская пісаніна пайшла ў глум. З таго часу я пачынаю пісаць толькі па-беларуску...» Варта зазначыць, што пад рэвалюцыйнымі пракламацыямі на беларускай мове меліся на ўвазе брашуры «Пра багацце ды беднасць» — выдадзены ў 1881 г. у Жэневе адаптаваны пераклад працы вядомага ўкраінскага сацыяліста С. Падалінскага, і «Дзядзька Антон» — тыльзіцкае выданне 1892 г. (таксама ў адаптаваным перакладзе) польскай агітацыйнай працы Т. Куяўчыка «Бацька Шыман»...

Пасля рэвалюцыі 1905-1907 гг. пачынаюць і на тэрыторыі Беларусі выходзіць беларускія выданні, нараджаецца легальная беларуская перыёдыка, узнікаюць першыя беларускія выдавецтвы. Перакладаюцца ў першую чаргу мастацкія творы — М. Някрасаў, М. Горкі, Т. Шаўчэнка, В. Стафанік, М. Крапіўніцкі, А. Міцкевіч, У. Сыракомля, Э. Ажэшка і інш. Аднак задачы сацыяльнага, нацыянальна-вызваленчага руху, духоўнага і палітычнага адраджэння беларускага народа ўсё часцей прадвызначаюць з'яўленне перакладаў грамадска-палітычнага і навукова-тэхнічнага характару («Зямельнае пытанне ў Новай Зеландыі», «Гутаркі аб небе і зямлі», «Гутаркі аб гаспадарцы» і г. д.). У значнай ступені дзякуючы перакладам ідзе паскоранае фарміраванне беларускай літаратурнай мовы — актывізацыя і нармалізацыя яе лексічных багаццяў, устанаўленне граматычных нормаў, акрэсліванне розных функцыянальных стыляў. У творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Багдановіча, Цёткі і іншых беларускіх пісьменнікаў пачатку XX ст. пераклад арганічна ўваходзіць у

арыгінальную творчасць. Нярэдка чыста моўныя і выяўленча-моўныя знаходкі арыгінальных твораў тут жа выпрабоўваюцца на «палігоне» мастацкага перакладу; з другога боку, знойдзенае ў перакладчыцкай творчасці зразу ж становіцца набыткам творчасці арыгінальнай. Мова ў цэлым пашырае і паглыбляе свае магчымасці, рыхтуючыся — пасля некалькіх стагоддзяў вымушанага перапынку, выгнання і непрызнання — стаць дзяржаўнаю.

Статус дзяржаўнай беларуская мова набыла толькі ў выніку перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Пачынаючы з 1917 г., асабліва — з утварэння 1 студзеня 1919 г. Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, грамадскія патрэбы выклікаюць неабходнасць рэзкага ўдасканалення і ўзбагачэння мовы, развіцця яе стылістыкі. Калі размоўна-бытавы і літаратурна-мастацкі стылі былі ўжо ў пэўнай ступені развітыя, то афіцыйна-дзелавы, навуковы і грамадска-палітычны патрэбна было выпрацоўваць ледзь не нанова. Тым больш што ў пачатку 20-х гг. згодна з партыйнымі рашэннямі пачала актыўна праводзіцца ў жыццё ленінская палітыка духоўнага адраджэння раней заняволеных царызмам нацый, якая ў Беларусі атрымала назву беларусізацыі. На беларускую мову пераводзяцца дзяржаўныя і партыйныя ўстановы, сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы, школы, па-беларуску пачынаюць выдавацца многія грамадска-палітычныя газеты і часопісы — беларуская мова становіцца сапраўды дзяржаўнаю. І вось тут неацэнную дапамогу пачынае аказваць грамадска - палітычны і навукова-тэхнічны пераклад.

Арыгільную беларускую навуковую, грамадска-палітычную, тэхнічную, дзелавую тэрміналогію за кароткі тэрмін, ды яшчэ ва ўмовах грамадзянскай вайны і пасляваеннай разрухі, стварыць было вельмі і вельмі цяжка. Таму толькі пераклад мог пачаць стылістычнае ўзбагачэнне мовы. Тэрмінова перакладаюцца (пераважна з рускай мовы) розныя падручнікі, даведнікі, творы К. Маркса, Ф. Энгельса, У. Леніна, дзеячаў Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы. Пры гэтым шырокае распаўсюджанне набывае спецыфічны (асабліва для ўмоў Беларусі) від перакладу — так званы скрытны пераклад, калі тэкст пішацца спачатку на рускай мове (адзіна ці найбольш для аўтара даступнай), а пасля — для друку або вуснага выказвання — перакладаецца з рукапісу на беларускую мову. Тэкст жа чытачом (слухачом) успрымаецца яе першапачаткова беларускі.

Агромністая перакладчыцкая праца праводзіцца па лініях БелТА, рэдакцыямі часопісаў, газет, выдавецтваў, радыё. У гарніле скрытнага і звычайнага перакладу выплаўляюцца — часам, праўда, на скорую руку, некампетэнтна — шматлікія новыя тэрміны, моўныя

клішэ, граматычныя формы. Вынікі моватворчасці замацоўваюць руска-беларускія, беларуска-рускія, асобныя тэрміналагічныя слоўнікі. І не толькі замацоўваюць. Самі мовазнаўцы актыўна ўдзельнічаюць у «каванні» новых слоў і выразаў. У беларускую мову пераважна з рускай (шляхам калькавання ці простага запазычання) прыходзяць многія словы, сінтаксічныя канструкцыі. Узбагачаецца і ўдасканальваецца стылістычная сістэма мовы, пашыраецца асацыятыўны арэал беларускага лексікону.

Пераклад (усе яго віды) у 20-я гг. добра папрацаваў, каб закласці трывалы фундамент беларускай літаратурнай мовы для яе арганічнага функцыянавання літаральна ва ўсіх сферах грамадскага і культурнага жыцця. На жаль, з пачатку 30-х гг. у выніку грубага парушэння ленінскіх прынцыпаў нацыянальна-культурнага будаўніцтва, адыходу ад накрэсленай У. Летным у яго палітычным завяшчанні («Да пытання аб нацыянальнасцях ці аб «аўтанамізацыі», 30-31 снежня 1922 г.) нацыянальнай палітыкі сфера афіцыйнага ўжывання беларускай мовы рэзка звужаецца. Нягледзячы на яе, замацаваны Канстытуцыяй БССР, статус дзяржаўнай мовы, яна перастае абслугоўваць адміністрацыйна-дзяржаўныя ўстановы, вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы, прыродазнаўчыя і нават — за невялікім выключэннем — гуманітарныя навукі, застаецца пераважна мовай перыядычнага друку, літаратурна-мастацкай творчасці і — часткова — школьнага навучання. Сталінскія рэпрэсіі фізічна знішчылі тысячы прадстаўнікоў народжанай Кастрычнікам беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, носьбітаў і гранільшчыкаў літаратурнай мовы — партыйных і савецкіх работнікаў, вучоных, дзеячаў літаратуры і мастацтва, настаўнікаў, аграномаў, інжынераў, урачоў. На моватворчыя намаганні гуманітарнай інтэлігенцыі, у тым ліку большасці перакладчыкаў, быў навешаны жупел «нацыяналізму» і «нацдэмаўшчыны». Зразумела, у такіх умовах паўсюднага звужэння выкарыстання беларускай мовы, падзення яе прэстыжу моватворчая роля перакладу надзвычай абмяжоўваецца. Хаця і ў 30-я гг. роля гэта так ці інакш адчуваецца. Праўда, вельмі часта са знакам «мінус» — калі ў пераклады, выкананыя выпадковымі людзьмі, шырокай лавінай хлынулі русізмы, нехарактэрныя беларускай мове словы і выразы, звычайная моўная непісьменнасць, ды яшчэ ўсё гэта пад выглядам барацьбы з «нацдэмаўшчынай», «збліжэння» беларускай мовы з рускай...

Цяжкі ўрон беларускай культуры, у тым ліку беларускаму перакладу, нанесла другая сусветная вайна. У змаганні з фашызмам загінулі некаторыя пісьменнікі-перакладчыкі, сам пераклад як від

творчай дзейнасці рэзка звузіў свае абсягі. Спатрэбілася, па сутнасці, дзесяць пасляваенных гадоў, каб творчы, у тым ліку перакладчыцкі, патэнцыял нацыі дасягнуў даваеннага часу (маюцца на ўвазе найперш колькасныя паказчыкі).

Апошнія трыццаць гадоў, бадай, самыя плённыя ў гісторыі беларускага перакладу XX ст. Выраслі адукаваныя, таленавітыя перакладчыцкія кадры. У параўнанні з 30-50-мі гг. павялічыліся магчымасці публікацыі перакладных твораў у выдавецтвах і перыёдыцы, з'явіліся ці значна пашырэлі іншыя шляхі іх прапаганды (тэлебачанне, радыё). Павысіўся прэстыж беларускай мовы, больш яна стала выкарыстоўвацца ў навуковых публікацыях літаратурна-мастацкай творчасці, у грамадскім жыцці ўвогуле. Векапомныя XX і XVII з'езды КПСС праазаніравалі грамадскую атмасферу ў краіне, пачаўся зварот да ленінскіх норм агульнажыцця.

Безумоўна, такая грамадска-палітычная і сацыя-культурная сітуацыя не магла не паўплываць і на моватворчую ролю перакладу. Выданне першых у гісторыі Беларусі агульных і галіновых энцыклапедый (дванаццацітомнай «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі», пяцітомнай энцыклапедыі «Беларуская ССР», пяцітомнай «Энцыклапедыі прыроды Беларусі», пяцітомнай «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі», энцыклапедычнага даведніка «Янка Купала» і інш.), шматтомных абагульняючых прац (пяцітомнай «Гісторыі Беларусі», чатырохтомнай «Гісторыі беларускай літаратуры», трохтомнай «Гісторыі беларускага тэатра» і інш.), першага акадэмічнага пяцітомнага (у шасці кнігах) «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» запатрабавалі новага ўзбагачэння і ўдасканалення навуковага, грамадска-палітычнага і афіцыйна-дзелавога моўных стыляў, што адбываецца не так заўважна, як у 20-я гг., і пераважна праз скрытны руска-беларускі пераклад. Прычым калі раней узбагачэнне мовы ішло за кошт перш за ўсё звычайнага запазычання, то цяпер пераклад усё часцей актывізуе ўласныя моўныя магчымасці, прымушае, перш чым запазычваць чужое, «абшарыць кішэні ўласнай памяці» (Якуб Колас), звярнуцца да неалагізацыі. Знешне моватворчая роля перакладу быццам бы знізілася. Аднак гэта — павярхоўнае меркаванне. Пераклад па-ранейшаму працягвае адыгрываць дадзеную ролю. Праз пераклад ідзе і працэс далейшага ачышчэння мовы, выдалення з яе не ўласцівых ёй слоў і словаспалучэнняў, наспех створаных ці жыўцом запазычаных у перадваенны час. Сведчанне гэтаму — многія тэрміны і выразы, якія замянілі няўдалыя даваенныя словы-калькі (дакладней — словы-калекі). Напрыклад, дзякуючы моватворчай практыцы (скрытны пераклад) калектыву «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі»

сёння мы замест няўклюднай «буравой шчыліны» маем зразумелую і мілагучную «свідравіну», замест «месцараджэння» — «радовішча». Цікава, што гэтыя словы, якія цяпер скрозь ужываюцца, яшчэ не былі зафіксаваны ў «Беларуска-рускім слоўніку» 1962 года.

Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што праз навукова-тэхнічны, грамадска-палітычны пераклад у яго скрытнай форме адбываецца і пэўнае абядненне беларускай літаратурнай мовы, пазбаўленне яе своеасаблівых рыс і ўласцівасцей. На першы погляд, гэта — вынік беларуска-рускай моўнай інтэрферэнцыі. На самай справе — вынік элементарнай моўнай непісьменнасці соцень ананімных «перакладчыкаў»: супрацоўнікаў рэдакцый газет, часопісаў, радыё і тэлебачання, БелТА... Не сакрэт, што большасць рускіх тэкстаў для розных беларускамоўных выданняў сёння перакладаюць звычайныя машыністкі, якія павярхоўна ведаюць беларускую мову. Ды і самі многія журналісты не валодаюць неабходнай культурай роднага слова, паколькі большасць іх — з гарадоў, дзе апошнія беларускія школы былі закрыты яшчэ ў пачатку 60-х гг., а навучальная праграма журфака Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна не разлічана на ліквідацыю недахопаў школьнай адукацыі...

Аднак вернемся да літаратурна-мастацкага перакладу.

Сёння для яго характэрна ўзрастанне моватворчай ролі. У выніку таго, што мова мастацкай літаратуры ўяўляе сабою найбольш поўнае ўвасабленне літаратурнай і — яшчэ шырэй — агульнанароднай мовы, у ёй, як ні ў адным з моўных стыляў, прадстаўлены шырока і ўсебакова ўсе структурныя бакі мовы — слоўнікавы склад ва ўсім багацці і разнастайнасці яго семантыкі, з усімі прамымі і пераноснымі значэннямі слоў, граматычны лад, асабліва сінтаксіс, са складанай і разгалінаванай сістэмай тыпаў сказаў, стылістычная структура, якая ўключае не толькі стылістычныя сродкі мовы, ад самых «нізкіх» да самых «высокіх», але і цэлыя фрагменты розных функцыянальных стыляў. Лепшыя беларускія перакладчыкі савецкага часу Янка Купала, Якуб Колас, У. Дубоўка, Ю. Гаўрук, А. Куляшоў, Максім Танк, Я. Семяжон, А. Зарыцкі, А. Вялюгін, Н. Гілевіч, Р. Барадулін, В. Сёмуха, Я. Сіпакоў, Я. Брыль, Э. Агняцвет, П. Макаль і інш. развіваюць не толькі родную культуру, літаратуру, але і саму беларускую мову, асабліва яе лексіку і стылістыку. Пераклады мастацкай літаратуры — і гэта асабліва важна — пашыраюць далягляды паэтычнага бачання чытача, удасканальваюць семантычную структуру беларускай мовы, прыўносячы ў яе новыя магчымасці вобразатворчасці, метафарызацыі, асацыятыўнасці. Дзякуючы перакладам у значнай ступені ўзбагацілася не толькі вобразная, але і рытма-

інтанацыйная палітра беларускай літаратуры, арсенал яе выяўленчых сродкаў, увасобленых у мове (жанры, архітэктоніка, метрыка, рыфма, рыфмоўка і г. д.). Сёння беларуская літаратура па сваім ідэйна-творчым патэнцыяле дасягнула ўзроўню самых развітых літаратур свету, актыўна ўзаемадзейнічае з імі, узбагачаючыся сама і ўзбагачаючы другіх. У гэтым — пэўная заслуга і мастацкага перакладу.

Перакладчыкі (а нярэдка яны адначасова і арыгінальныя пісьменнікі), каб перадаць асаблівасці зместу і паэтыкі першатвора, актывізуюць лексічныя, фразеалагічныя, сінтаксічныя, фанетычныя мажлівасці беларускага слова, прычым не толькі літаратурнага, але і народна-дыялектнага. У выніку часам ва ўласнай творчасці цяжка адшукаць такія каларытныя, сакаўныя народныя словы і выразы, якія, як жамчужыны, свецяцца ў перакладзе. І ў гэтым сучасным перакладчыкам паказваюць прыклад нашы класікі.

Звернемся да перакладчыцкай практыкі Янкі Купалы. Прычым да такой яе старонкі, якую ўсё яшчэ абыходзяць перакладазнаўцы. А менавіта — да яго празаічных перакладаў.

У 1928 г. паэт выдаў у сваім перакладзе апавяданне ўкраінскага пісьменніка П. Панча «Зямля». Глянем, як узноўлены па-беларуску паасобныя ўкраінскія словы і ідыёмы: Тільки не базікайте — Толькі не зюкайце; Закохано подивилась в його колючі очі — Любасна зазірнула ў яго калючыя вочы; Роман — сидів опукою на закопі — Раман... сядзеў апушчэннікам на купіне; Гнат покостричив чуба — Ігнат пахахоліў чуб; Роман ходив як тума — Раман хадзіў як адлюдак; Так чого ж ви писок вернете? — Дык чаго ж вы нюхі адварочваеце?; Микита у сусідах — Мікіта як і ня лыс; Роман звісив ноги через полудрабок і пустозоро дивився в землю — Раман звесіў ногі цераз драбкі і бязмысна глядзіць у зямлю. А вось яшчэ колькі вельмі каларытных, рэдкіх беларускіх слоў з гэтага ж купалаўскага перакладу: акаламуціцца, бліскавічны, дарэчны, досвіта, дацінаць, зацвігліла, збройнікі, зелянiстае, запаланецца, навослеп, недаторклівы, падуфалы, памрочны, своеадметны, старажліва, сторчгалавой, улучыць, ходнік, цяглiцы, ятрыцца... Калі выйдзе з друку «Слоўнік мовы Янкі Купалы» (а ён ужо складаецца), мы ўбачым, якія з гэтых (як і некаторых іншых) слоў сустракаюцца толькі ў купалаўскіх перакладах, якія — упершыню ў яго перакладах, а ўжо потым — ва ўласнай творчасці. Такім чынам мы навочна ўбачым канкрэтны ўклад перакладу ў развіццё мовы нашага песняра, а затым — і беларускай літаратурнай мовы ўвогуле. А што такі ўклад (прычым вельмі рэальны і важкі!) існуе, у гэтым няцяжка пераканацца. Варта толькі пагартаць слоўнікі сучаснай беларускай мовы.

Узор моўнай культуры, не да канца яшчэ засвоены нашымі пісьменнікамі, абыдзены беларускімі лексікографамі,— перакладчыцкая творчасць Уладзіміра Дубоўкі. У свой час высокую ацэнку рэспубліканскай і ўсесаюзнай крытыкі атрымаў яго пераклад «Санетаў» В. Шэкспіра (1964). З гэтай кніжкі можна выбраць вельмі рэдкіх, своеадметных слоў на цэлы слоўнічак. Амаль усе яны адносяцца да ўзвышанага разраду лексікі: адлюстровак, безрахубна, блоціць, водзірк, вынежны, вырак, дакляраваць, змуслівы, змуста, кветы, лятунак, ліхамысны, мудрагерац, пахібы, пакрыёма, рата, скрадніца, сцень, суздром, трунак, ублагаць, цаля, днота, яснавейны... Відавочна, асобныя з гэтых слоў — аўтарскія неалагізмы (аказіяналізмы), некаторыя — з народных гаворак, іншыя — з архаічнага пласта беларускай лексікі. Аднак усе яны як нельга лепш прыдаліся перакладчыку для перадачы мудрай шэкспіраўскай думкі і пачуцця. Як могуць прыдацца (і прыдаюцца!) і творцам беларускага прыгожага пісьменства, арыгінальным паэтам і празаікам.

Адны з найлепшых знаўцаў, ахоўнікаў і памнажальнікаў беларускага моўнага багацця — выдатныя перакладчыкі Язэп Семяжон і Васіль Сёмуха. Варта спецыяльнага даследавання моўная культура Я. Семяжона — так, як яна ўвасобілася ў яго перакладах «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча, «Песні пра зубра» М. Гусоўскага, твораў Р. Бёрнса, Дж. Радары і інш. Цэлыя россыпы самародных беларускіх слоў, якіх не часта сустрэнеш нават у арыгінальнай беларускай літаратуры,— у перакладзеных В. Сёмухам «Фаўсце» Гётэ, «Польскіх кветках» Ю. Тувіма, «Санетах Арфею» Р. М. Рыльке, у творах М. Канапніцкай, Я. Райніса, В. Вэлшавіцы і інш. Вось невялікі ўзор творчага і моўнага майстэрства перакладчыка — урывак з нізкі вершаў Р. М. Рыльке «Цары»:

Бацькі ўраблялі ляды і выжары,
цягалі з расцяробаў валуны,
а выйшаў сын і разбудзіў абшары
і разгарнуў аралам дзірваны.
Ён сек дубы, раскідваў камянюкі,
што вартавалі нерушы здаўна,
і з тых камлёў дрыготліва на рукі
карэнішчы спаўзалі, як гадзюкі,
угледзіўшы святло з свайго цямна.

Асабліва вялікае значэнне мае пераклад для пашырэння стылістычнага спектра беларускай літаратурнай мовы. У выніку вымушанага адрыву новай літаратурнай мовы ад старабеларускай у сучаснай беларускай мове, у адрозненне, скажам, ад рускай, аказаўся

збеднены слой узвышанай лексікі. Перакладчыкі, узнаўляючы творы высокай стылістыкі, праяўляюць сапраўдную вынаходлівасць, каб запоўніць гэты лексічны вакуум: ствараюць аказіяналізмы, актывізуюць невялікі разрад беларускіх гістарызмаў і архаізмаў, звяртаюцца да паэтызмаў, да стылістычных сродкаў марфалогіі і сінтаксісу. Так, Якуб Колас узвышаны стыль «Палтавы» А. Пушкіна перадаваў і пры дапамозе лексікі (дзянніца, слынны, одум, унікаць і г. д.), і пры дапамозе марфалагічных,стылістычных сродкаў, у прыватнасці кароткіх прыметнікаў (багат, блізак, славен, горд і г. д.). Калі некаторыя крытыкі сталі папракаць Якуба Коласа, што быццам бы кароткія формы прыметнікаў не характэрныя для беларускай мовы, паэт-перакладчык адказваў: «Я з гэтым не згодны. Кароткімі формамі беларуская мова багатая... Уводзячы гэтыя кароткія формы ў беларускую літаратурную мову, я проста меў не ўвазе рассунуць межы нашай літаратурнай мовы — няхай мова расце, развіваецца. І гэта на законнай падставе, паколькі аб гэтым кажуць тысячы прыкладаў фальклору».

Сучасны беларускі перакладчык «Слова пра паход Ігаравы» Р. Барадулін той жа ўзвышаны стыль старажытнарускага помніка ўзнаўляе пераважна лексічнымі сродкамі (славянізмы, архаізмы: вешчы, ракаталі, грыдніца, шаломы, харалужныя і інш.; рэдкаўжывальныя словы і паэтызмы: сувоі, борздкі, шчокат, цвяліць, абнылі і г. д.). Але адначасова ён звяртаецца да стылістычных сродкаў сінтаксісу (інверсія) і марфалогіі (клічны склон назоўнікаў, малаўжывальны ў сучаснай беларускай літаратурнай мове: Баяне, княжа, салавею, братове...).

Цікавы і павучальны ў гэтым сэнсе вопыт вядомага беларускага перакладчыка балгарскай літаратуры Ніла Гілевіча, увасоблены, у прыватнасці, у перакладах рэвалюцыйнай паэзіі Хрыста Смірненскага. Як падкрэслівае Н. Гілевіч, «таму, хто возьмецца перакладаць лірыку Смірненскага, некаторыя вершы гэтага выдатнага рэвалюцыйнага паэта дадуцца з немалымі мучэннямі. Давядзецца ж неяк перадаць на беларускай мове словазлучэнні, накшталт «огнедышащие розы бунта», «огнеликая буря», «огнеструйные реки», «огнедышащий демон войны» і г. д. На балгарскай мове, як і на рускай, гэтыя складаныя эпітэты стараславянскага паходжання («огнеликий», «огнеструйный») гучаць натуральна. У беларускай мове, таксама славянскай і вельмі блізкай да рускай, падобных эпітэтаў няма... Вось і паспрабуй у дадзеным выпадку перадаць той урачыста-прыўзняты тон паэтычнай мовы, які надаюць ёй гэтыя старажытнаславянскія

словазлучэнні, характэрныя для стылю царкоўна-літургічнай літаратуры».

Перакладчыкам Смірненскага Н. Гілевічу і А. Разанаву давялося мабілізаваць літаральна ўсе элементы структуры беларускай мовы — лексіку, фанетыку, фразеалогію, марфалогію, сінтаксіс. Спатрэбілася звярнуцца да народных гаворак, да неалагізацыі. Назву вядомага верша Смірненскага «Да бъде ден!» лёгка можна перакласці на беларускую мову: «Хай будзе дзень!». Інфармацыю семантычную такі пераклад перадае цалкам, ды і колькасць складоў у ім, размяшчэнне націскаў адэкватныя арыгіналу, што важна для вершаванага перакладу. Аднак у ім знікае важная асаблівасць першакрыніцы: узвышанасць, урачыстасць, паэтычнасць выказвання. Як прызнаецца Н. Гілевіч, ён «некалькі тыдняў ламаў галаву», перабіраў дзесяткі варыянтаў, пакуль не спыніўся на «Хай зорыць дзень!». «Зорыць» — такога слова няма ў беларускай мове, гэта неалагізм, утвораны ад назоўніка «зара». Семантычная празрыстасць дзеяслова «зорыць» і — адначасова — яго незвычайнасць, нязвычнасць, што прыўзнімае слова над узроўнем стылістычнага нейтральнай лексікі, як нельга лепш служаць перадачы не толькі семантыкі, але і стылістыкі балгарскага выразу

«Да бъде ден!». Цалкам магчыма, што гэты дзеяслоў увойдзе ў беларускую літаратурную мову, як увайшло ў 20-я гг. створанае У. Дубоўкам слова «адлюстроўваць»,— настолькі ён у духу беларускай мовы...

Беларускія мовазнаўцы, на жаль, яшчэ нават не прыступілі да спецыяльнага вывучэння ўкладу мастацкага і ўвогуле ўсяго перакладу ў развіццё нацыянальнай літаратурнай мовы. Больш таго, да гэтага часу яны, у адрозненне, напрыклад, ад эстонскіх і ўкраінскіх лінгвістаў, ігнаруюць пераклады як лексікаграфічную крыніцу, нават пераклады выдатнейшых майстроў беларускага слова (іх мы называлі вышэй). Ствараецца дзіўная сітуацыя: арыгінальныя творы пісьменнікаў (тых жа Купалы, Коласа, Дубоўкі, Барадуліна, Гілевіча, а таксама Танка, Броўкі, Куляшова і інш.) уважліва вывучаюцца мовазнаўцамі, лексіка іх уваходзіць у розныя лексікаграфічныя працы; у той жа час пераклады гэтых пісьменнікаў застаюцца па-за ўвагай вучоных-лексікографаў, быццам бы мова перакладаў нейкая іншая, горшая ад мовы арыгінальных твораў. Так, сярод дзесяткаў кніжных выданняў — крыніц акадэмічнага «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» зарэгістравана толькі адно перакладное выданне: кніжка перакладаў Ю. Гаўрука «Іскры з крэменя» (1969). Таму не дзіўна, што ў гэтым слоўніку адсутнічаюць амаль усе пералічаныя

вышэй каларытныя беларускія словы, што так надаліся ў перакладах Янкі Купалы, Якуба Коласа, У. Дубоўкі, Р. Барадуліна... Несумненна, гэта значна збядняе сам слоўнік, у няпоўным выглядзе паказвае сучасны стан беларускай літаратурнай мовы.

У перакладчыцкай сітуацыі сучаснай Беларусі моватворчая роля перакладу заключаецца яшчэ і ў некаторых іншых момантах: у мова-і культураахоўнай функцыі, у павышэнні грамадскага прэстыжу беларускай мовы і г. д. Аднак галоўным застаецца ўзбагачэнне і развіццё самой мовы.

Пра што, уласна, мы і гаварылі, што імкнуліся паказаць.

## З ФРАНКОВАЕ КРЫНІЦЫ

Перакладазнаўчыя дыскусіі і ў нас, і за мяжою ў апошні час сталі пастаяннымі, нават моднымі. Шмат цікавага і карыснага выказваецца ў такіх дыскусіях. Аднак дыскусійныя жорны, разам з рацыянальным зернем, надта ўжо часта мелюць і звычайны пясок. Кідаецца ў вочы адзін істотны недахоп нашых дыскусій пра пераклад, у тым ліку — і пра беларуска-ўкраінскі паэтычны пераклад: ігнараванне вопыту вялікіх папярэднікаў. Гэта адносіцца і да перакладчыцкага, а таксама перакладазнаўчага вопыту Івана Франка. У той жа час многія пытанні пра сутнасць, функцыі, мэты мастацкага перакладу знайшлі ў яго глыбокае і арыгінальнае рашэнне. Іван Франко, як сапраўдны геній, на многія дзесяцігоддзі апярэдзіў нас, перакладчыкаў і перакладазнаўцаў. Нам трэба ўзнімацца да Франка. Трэба больш актыўна асэнсоўваць яго вопыт.

Жыццяздольнасць, навуковая грунтоўнасць і актуальнасць Франковай перакладчыцкай канцэпцыі пацвярджаецца практыкай сучаснага савецкага, у тым ліку беларуска-ўкраінскага і ўкраінска-беларускага, перакладу. Спынімся на некаторых яе момантах, якія датычаць як практыкі, так і тэорыі мастацкага перакладу.

У сістэме поглядаў І. Франка на мастацкі пераклад, увасобленых і ў яго ўласнай перакладчыцкай дзейнасці, можна выдзеліць кампаненты, што характарызуюць: 1) знешнія, 2) унутраныя ўмовы перакладу, а таксама 3) саму мэту перакладу. Пад знешнімі ўмовамі перакладу мы разумеем усе аб'ектыўныя фактары (этнічныя, гістарычныя, сацыяльна-палітычныя, культурныя, моўныя і інш.), якія непасрэдна не звязаны з мастацкім перакладам, але так ці інакш уплываюць на яго колькасныя і якасныя паказчыкі. Унутраныя ўмовы

перакладу — гэта сума пазатэкставых аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў, якія ўжо непасрэдна звязаны з працэсам перакладу і прадвызначаюць яго вынікі. Сюды ўваходзяць: наяўнасць таленавітых і высокакваліфікаваных перакладчыцкіх кадраў, багацце нацыянальных перакладчыцкіх традыцый, ступень распрацаванасці тэарэтычных пытанняў перакладу, панаванне пэўнага перакладчыцкага стылю (стыляў), аператыўнасць і баявітасць крытыкі перакладу... Мэта перакладу — гэта пэўная задача (ці задачы), якую ставіць перад сабою перакладчык, узнаўляючы сродкамі роднае мовы іншамоўны арыгінал. Іншымі словамі — гэта канкрэтнае выкарыстанне тых ці іншых функцый перакладу.

Да вызначэыня знешніх, унутраных умоў і мэты перакладу перакладазнаўства падышло толькі ў апошні час. Літаральна ў апошнія гады пачалася і распрацоўка прапанаванай славацкім літаратуразнаўцам Д. Дзюрышыным канцэпцыі асобных форм міжлітаратурных супольнасцей. Аднак, як можна бачыць з перакладчыцкай практыкі і тэарэтычных выказванняў І. Франка, ён выразна ўсвядомліваў і наяўнасць у міжлітаратурным працэсе асобных форм міжлітаратурных супольнасцей, і неабходнасць уліку знешніх і ўнутраных умоў перакладу. У гэтым сэнсе важныя і могуць быць выкарыстаны яго шматлікія развагі пра месца і ролю ўкраінскай літаратуры ў такіх дзяржаўна-палітычных аб'яднаннях, як Расійская імперыя — з аднаго боку (калі мець на ўвазе ўсходнеўкраінскую літаратуру канца XIX — пачатку XX стст.), і Аўстра-Венгры я — з другога боку (маецца на ўвазе заходнеўкраінская літаратура). У артыкуле «Адам Міцкевіч ва ўкраінскай літаратуры» І. Франко звяртае ўвагу на парадаксальную сітуацыю: параўнальна невялікая колькасць перакладаў з Міцкевіча ва ўкраінскай літаратуры XIX ст. і — нягледзячы на гэта! — уплыў, «непасрэдны і працяглы», вялікага польскага паэта на ўкраінскую культуру. Нешта падобнае знаходзім мы і ў беларуска-ўкраінскіх літаратурных узаемаадносінах XIX — пачатку XX стст., у прыватнасці, у непасрэдным, без пасрэдніцтва перакладу, уплыве Тараса Шаўчэнкі на маладую тады беларускую літаратуру.

У пэўнай ступені парадаксальнасць сітуацыі, падмечаная І. Франком, відаць і ў сённяшніх нашых літаратурных узаемасувязях, калі шырыня і моц літаратурных узаемаўплываў не знаходзіцца ў прамой залежнасці ад наяўнасці (ці адсутнасці) перакладаў тых ці іншых твораў... У сістэме ўсходнеславянскай агульнасці беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемасувязі маюць свае асаблівасці: па-першае, яны ажыццяўляюцца і без дапамогі нацыянальнага

перакладу — непасрэдна ці праз рускі пераклад-пасрэднік; па-другое, перакладчыкі арыентуюцца (ці, прынамсі, павінны арыентавацца) на нацыянальна-рускі пераклад; па-трэцяе, у нас адсутнічае так званы падрадкоўны пераклад, у той час як асобныя пісьменнікі ці нават цалкам нацыянальныя літаратуры прадстаўлены на рускай мове менавіта ў такім перакладзе.

Што датычыцца ўнутраных умоў сучаснага беларуска-ўкраінскага перакладу, то тут актуальный ўказанні І. Франка на спецыфіку і асаблівую складанасць перакладу з блізкароднасных моў, на магчымасць публікацыі перакладных твораў, на наяўнасць перакладчыцкіх кадраў, таленавітых і эрудзіраваных.

Сучасны беларуска-ўкраінскі пераклад улічвае ў той ці іншай ступені і некаторыя іншыя традыцыі Франка-перакладчыка. Беларускія і ўкраінскія перакладчыкі стаяць на пазіцыях рэалістычнага (паўнацэннага) перакладу, які дакладна ўзнаўляе як змест, так і форму арыгінала; як і ў Франка, не знаходзяць падтрымкі перакладчыцкае сваволле, злоўжыванне спецыфічнай лексікай, скажэнне сэнсу арыгінала дзеля захавання рыфмы ці нейкіх іншых кампанентаў паэтыкі першакрыніцы.

Сёння, з васьмідзесяцігадовай перспектывы, асабліва яскрава відаць глыбіня і арыгінальнасць тэарэтычных разваг І. Франка, што ўвасобіліся ў артыкуле «Каменяры. Украінскі тэкст і польскі пераклад. Тое-сёе пра мастацтва перакладу». Па сутнасці, яшчэ ў 1911 годзе аўтар артыкула накрэсліў агульныя контуры параўнальнай паэтыкі, якая пачынае складвацца ў навуковую сістэму толькі ў наш час, становячыся надзейным фундаментам крытыкі перакладу. Да гэтага часу пры аналізе паэтычных перакладаў крытыкі жангліруюць бясплотным паняццем «дух арыгінала», які, маўляў, і павінен узнаўляць перакладчык, або, у лепшым выпадку, ужываюць залішне агульнае паняцце «форма» ці надта абстрактнае — «семантыка-стылістычная структура». Аднак наколькі больш плённым быў разгляд І. Франком паэтыкі арыгінала і перакладу, іх скрупулёзнае, удумлівае супастаўленне!

Што ж, услед за І. Франком, мы разумеем пад паэтыкай? Не толькі і не проста «сістэму выяўленчых сродкаў пісьменніка ці літаратуры», як вызначаюць яе С. Пінчук і Я. Рагушэўскі ў «Словнику літературознавчих термінів Івана Франка» (Кіеў, 1966, с. 181). Паэтыка — гэта сістэма структурных асаблівасцей мастацкага твора ў яе змястоўнай, сэнсавыяўленчай сутнасці. Гэта — матэрыялізацыя жыццёвага зместу ў пэўнай мастацкай форме, г. зн. змястоўная форма. У розных кампанентах паэтыкі верша ўвасабляецца змест

твора (ідэі, з'явы рэчаіснасці, псіхалагічны воблік паэта ці яго лірычнага героя), а таксама асаблівасці стылю пісьменніка, нацыянальнай літаратуры, культуры і мовы. І калі пераклад разумеюць як «адлюстраванне мастацкай рэчаіснасці арыгінала» (Г. Гачачыладзе), то найбольш відавочнай такой рэчаіснасцю з'яўляецца яго паэтыка.

У артыкуле «Каменяры...» І. Франко наглядна прадэманстраваў такое разуменне сутнасці паэтыкі твора. Паступова, страфа за страфой, супаставіў ён паэтыку перакладу з паэтыкай арыгінала, даўшы нам навочны ўрок перакладазнаўчага аналізу. У гэтай методыцы надзвычай важныя для нас многія аспекты: і ўлік паэтычнасці, так званага «паэтычнага рэчыва», твора паэзіі як самага рэальнага і галоўнейшага яго эстэтычнага кампанента; і суадносіны ў працэсе аналізу агульнага і прыватнага, цэлага і часткі; і ўказанне на прымат зместу ў дыялектычным адзінстве зместу і формы; і патрабаванне адэкватнасці ўзнаўлення ўсіх асноўных структурных кампанентаў арыгінала: паэтычнай лексікі, тропікі, метрыкі, фонікі, паэтычнага сінтаксісу, строфікі, жанру.

Пры гэтым І. Франко не толькі не забыўся пра ўнутраныя і знешнія ўмовы перакладу, але нават паставіў разгляд іх на першае месца. У прыватнасці, ён спыняецца на акцэнталагічных адрозненнях паміж украінскай і польскай мовамі, што аб'ектыўна прывяло да замены мужчынскіх рыфмаў арыгінала на жаночыя ў перакладзе, украінскай сілаба-тонікі — на польскую сілабіку (знешнія ўмовы); характарызуе ён перакладчыка «Каменяроў» С. Твэрдахліба — яго таленавітасць, эрудыцыю, веданне рэчаіснасці, валоданне польскай мовай, наяўнасць эстэтычнага густу (унутраныя ўмовы)...

І. Франко выкарыстаў і статыстычны метад — падлічыў і супаставіў колькасць лексем, словаформ, вершаваных радкоў у арыгінале і польскім перакладзе. Мы і сёння асцерагаемся шырока ўжываць гэты метад, баючыся абвінавачвання ў фармалізме. Але ж, як дасціпна заўважыў Ю. Тынянаў, «называть писателя, заботящегося о форме, непременно формалистом, это все равно что называть писателя, заботящегося о содержании,— содержанкой». Словы гэтыя цалкам стасуюцца і да перакладазнаўца, які турбуецца пра адэкватнасць узнаўлення формы арыгінала.

Здаецца, дарэчы тут будзе зрабіць адну тэксталагічную заўвагу. Чамусьці ні тэкстолагі-франказнаўцы, ні ўкраінскія літаратуразнаўды, якія займаліся вывучэннем спадчыны Франка-перакладазнаўца (А. Дамброўскі, Р. Зарыўчак і інш.) не звярнулі ўвагі на наступны алагізм у артыкуле «Каменяры...». Ва ўсіх публікацыях, уключаючы пяцідзесяцітомны Збор твораў, друкуецца: «В оригіналі всіх слів

ужито 388, а в перекладі 426, т. е. о 27 слів більше. Різниця, як бачимо, досить велика, бо переходить об'ем одно'і строфи, що мае пересічно 35 слів» (Франко І. Зібрання творів у п'ятидесяти томах. Т. 39. С. 19). Але ж 27 не «переходить» ліку 35! Зрэшты, калі ад 426 адняць 388, то атрымаецца не 27, як у артыкуле, а 38. Відавочна, тут мы маем справу з друкарскай памылкай, што паўтараецца з выдання ў выданне. Як, магчыма, і ў зыходных лічбах: па маіх падліках, у арыгінале не 388 слоў, а 394, у перакладзе не 426 слоў, а 435. Магчымы і іншыя ўдакладнейні ў «лічбавай частцы» артыкула І. Франка, якога, верагодна, падвялі тыя, хто артыкул друкаваў.

Украінскім тэкстолагам тут ёсць над чым падумаць.

Франкоўскую методыку перакладазнаўчага аналізу, як і шэраг яго іншых ідэй, яшчэ патрэбна ўвасобіць у жыццё. Беларуска-украінскі паэтычны ўзаемапераклад, тэорыя гэтага перакладу развіваюцца і будуць, несумненна, развівацца ў рэчышчы бессмяротных традыцый вялікага Каменяра.

## ДЗЕ ЎЗЯЦЬ ПЕРАКЛАДЧЫКА ДАНТЭ?

Нямецкі пісьменнік Іаганес Бэхер пісаў: «Значная нацыянальная літаратура немагчымая без добрай перакладной літаратуры. Стварэнне высокай культуры перакладу садзейнічае росту дадзенай нацыянальнай літаратуры і набыццю ёй свайго нацыянальнага характару». Гэтым, аднак, значэнне мастацкага перакладу ў жыцці грамадства і культуры народу не абмяжоўваецца. М. Рыльскі, у прыватнасці, слушна звяртаў увагу на пераклад, як на «бясцэнны палітычны і культурны фактар», сродак «зносін паміж людзьмі, сродак распаўсюджання перадавых ідэй, абмену культурнымі каштоўнасцямі, сродак умацавання і росту інтэрнацыянальнай свядомасці».

Мы, беларусы, можам ганарыцца, і заслужана ганарыцца, асобнымі перакладчыцкімі дасягненнямі. Паўтару: асобнымі. У той жа час, паклаўшы руку на сэрца, павінны прызнаць: у цэлым прэстыж беларускага мастацкага перакладу яшчэ не асабліва высокі, пакуль што ён як след не садзейнічае росту беларускай літаратуры, не задавальняе цалкам сённяшняга надзвычай патрабавальнага, адукаванага беларускага чытача. І калі рост арыгінальнай нашай літаратуры ўсё-такі адбываецца, калі чытач не выказвае адкрыта свайго незадавальнення адсутнасцю высокамастацкіх беларускамоўных узнаўленняў выдатных іншанацыянальных твораў, то гэта

дзякуючы пакуль што рускаму мастацкаму перакладу, рускім перакладным выданням, праз якія мы пераважна знаёмімся як з узорамі замежнай класікі, так і з дасягненнямі братніх савецкіх літаратур.

Што ж стрымлівае пакуль што развіццё беларускага нацыянальнага перакладу як самастойнай, палітычна і культурна важнай галіны творчай дзейнасці?

Можна назваць нямала прычын арганізацыйна-творчага характару. На некаторыя з іх указвалася ў друку і ў вусных выступленнях. Гэта і пралікі ў планаванні перакладных выданняў, і нейкае своеасаблівае стаўленне да перакладу як да другараднай літаратуры з боку асобных кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў і выдавецкіх работнікаў, і слабасць, неаператыўнасць крытыкі перакладу, і адсутнасць мер заахвочвання ў галіне мастацкага перакладу, у прыватнасці — спецыяльнай літаратурнай прэміі, і г. д. Большасць з гэтых пытанняў пры жаданні можна было б вырашыць, так сказаць, у рабочым парадку намаганнямі рады Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аднак, відавочна, галоўнае звяно ўсяго ланцуга перакладчыцкіх праблем — гэта праблема кадраў. Кадраў прафесійных перакладчыкаў — таленавітых, высокаадукаваных, тонкіх знаўцаў не толькі сваёй мовы, але і мовы арыгінала. І гэтую праблему намаганнямі адной пісьменніцкай арганізацыі не вырашыш. Тут патрэбны дзяржаўны падыход, падтрымка з боку самых высокіх інстанцый.

Калісьці В. Бялінскі са шкадаваннем зазначаў: у сучаснай яму рускай літаратуры не было чалавека, які б паўнацэнна ўзнавіў па-руску «Боскую камедыю» Дантэ. «Неистовый Виссарион» у дадзеным выпадку меў на ўвазе не столькі таленавітасць, майстэрства перакладчыкаў (успомнім хаця б Жукоўскага і Гнедзіча, якія прадавалі ў той час), колькі валоданне перакладчыкамі замежнаю, у дадзеным выпадку — італьянскаю, моваю. У сучаснай беларускай літаратуры нямала таленавітых пісьменнікаў, якія працуюць у галіне перакладу. Але, на жаль, цяжка назваць перакладчыка, які б, як мы кажам, кангеніяльна непасрэдна з мовы арыгінала ўзнавіў не толькі «Боскую камедыю», а «Іліяду» і «Адысею» Гамера, «Энеіду» Вергілія, «Дон Кіхот» Сервантэса, «Дэкамерон» Бакачыо, «Гарганцюа і Пантагруэль» Рабле і шэраг іншых шэдэўраў замежнай літаратуры. Пра шэдэўры літаратур народаў СССР, за выключэннем хіба рускай, украінскай ды яшчэ двух-трох, і гаварыць не даводзіцца, хоць на неабходнасць вывучэння моў народаў СССР у нас звярталася ўвага яшчэ ў 20-я гг. Ці не сорамна нам прызнавацца ў гэтым сёння? Вядома, сорамна. Чаму ж так атрымалася? А давайце глянем, дзе і як

мы рыхтуем, а дакладней сказаць — дзе і як не рыхтуем, страчваем патэнцыяльных перакладчыкаў і «Адысеі», і «Боскай камедыі», і «Шахнамэ», і многіх іншых шэдэўраў сусветнай літаратурнай класікі.

У сярэдняй беларускай школе адзіны прадмет, які дагэтуль не абеларушаны і выкладаецца, як і ў дарэвалюцыйных гімназіях Паўночна-Заходняга Краю, парускy — гэта замежная мова. Падручнікі па англійскай, нямецкай і французскай мовах для школ з беларускай мовай навучання да гэтага часу не напісаны або хаця б не перакладзены на беларускую мову з рускай, як гэта зроблена з усімі іншымі падручнікамі прыродазнаўчага і гуманітарнага профіляў. Не выпушчана ніводнага метадычнага дапаможніка па замежнай мове на беларускай моўнай аснове. Толькі ў апошні час, і то мізэрным тыражом, выдадзены нямецка і англа-беларускія слоўнікі. Вучням, каб зразумець замежны тэкст, нярэдка патрэбна рабіць двайны пераклад: з замежнай мовы на рускую, а з рускай — яшчэ на родную, беларускую. Той, хто канчаў беларускія школы, думаю, пагодзіцца са мной: якое гэта мучэнне, наколькі гэта ўскладняе задачу вывучэння замежнай мовы!

Задачу, рашэнне якой у сельскай мясцовасці і так абцяжарана шэрагам аб'ектыўных акалічнасцей. Выклікае здзіўленне, што на гэтую антыпедагагічную, антыметадычную і, па сутнасці, апалітычную сітуацыю спакойна глядзіць Міністэрства народнай адукацыі Беларусі. Ці не ў гэтым адна з прычын (хоць і не адзіная), што выпускнікі вясковых беларускіх школ непараўнана горш ведаюць замежную мову, чым выпускнікі гарадскіх рускіх школ? У нашым выпадку шкадаванне выклікае той факт, што многія здольныя вучні, ад прыроды надзеленыя своеасаблівым пёракладчыцкім талентам, не маюць магчымасці яшчэ ў школе суаднесці замежнае слова з родным, беларускім, паспрабаваць свае сілы ў замежна-беларускім перакладзе.

Страты, як бачым, пачынаюцца яшчэ ў сярэдняй школе. У яшчэ большай ступені мы губляем магчымых перакладчыкаў у школе вышэйшай.

Як вядома, сапраўдны перакладчык павінен валодаць дзвюма мовамі: той, з якой перакладае, і — асабліва дасканала — той, на якую перакладае, г. зн. замежнай і роднай. Дзе такія веды можна атрымаць патэнцыяльнаму беларускаму перакладчыку? Па сутнасці, няма дзе. У адрозненне ад большасці саюзных рэспублік, ні ў адным з трох універсітэтаў Беларусі няма факультэта ці хаця б аддзялення класічнай, а таксама славянскай філалогіі, на якіх рыхтавалі б спецыялістаў лацінскай, старажытнагрэчаскай, славянскіх моў і літаратур. Лепшая сітуацыя, на першы погляд, існуе з вывучэннем

сучасных рамана-германскіх моў. Выпускнік школы, які хоча авалодаць англійскай, нямецкай, французскай або іспанскай мовай, можа паступіць у Мінскі педінстытут замежных моў, у якім, дарэчы, ёсць асобны перакладчыцкі факультэт. Вось дзе, здаецца, гняздо беларускіх перакладчыкаў! Аднак чамусьці з гэтага гнязда за ўвесь час існавання інстытута выпырхнула ўсяго паўдзесятка перакладчыкаў, сённяшніх членаў СП Беларусі. Няўжо сярод студэнтаў інстытута няма адораных хлопцаў і дзяўчат, якія з часам маглі б узбагаціць беларускую культуру шэдэўрамі іншаземнага пісьменства? Безумоўна, ёсць, і асмелюся думаць,— нямала. Але справа ў тым, што ў Мінскім педінстытуце замежных моў да нядаўняга часу адсутнічала належная магчымасць, разам з вывучэннем замежнай мовы, удасканаліць веды на роднай мове. Ды якое там удасканальванне! У інстытуце, бадай, слова беларускага нельга было пачуць. Калісьці тут чыталіся спецыяльныя курсы беларускай мовы і літаратуры, нават асобная кафедра беларускай мовы і літаратуры існавала. Потым гэтыя курсы стараннямі былога рэктара інстытута Красновай перасталі чытацца, кафедру ліквідавалі. Пра выцясненне беларускай мовы са сцен Мінскага педінстытута замежных моў неаднаразова гаварылася на пісьменніцкіх сходах, пісалася ў друку, але ні рэктарат, ні Мінвуз Беларусі не прыслухоўваліся да голасу грамадскасці. І толькі ў самы апошні час, дзякуючы прыняццю Закона аб мовах у Беларусі, аб'яўленню беларускай мовы дзяржаўнай, а галоўнае — прыходу ў інстытут новага, прагрэсіўнага кіраўніцтва, пачалася асцярожная «беларусізацыя» навучальнага працэсу. У той ці іншай форме валоданне беларускай мовай правяраецца ў абітурыентаў, уводзяцца курсы беларускай мовы і літаратуры ў вучэбны інстытуцкі план, асобныя лекцыі ці нават прадметы пачынаюць чытацца па-беларуску, аднаўляецца кафедра беларускай філалогіі, навуковая работа выкладчыкамі скіроўваецца так, каб у ёй знаходзілі ўвасабленне факты беларускай мовы і культуры.

Разам з тым, думаецца, праблему кадраў беларускіх перакладчыкаў з яшчэ большым поспехам можна было б вырашаць праз падрыхтоўку спецыялістаў замежных моў і літаратур з універсітэцкай адукацыяй. Як вядома, універсітэцкі вучэбны план адрозніваецца значна ад педінстытуцкага сваёй разнастайнасцю і навуковай грунтоўнасцю, ён прадугледжвае абавязковае вывучэнне, побач з замежнымі, рускай і роднай моў і літаратур. Пры адным з універсітэтаў рэспублікі не складана было б арганізаваць факультэт замежнай філалогіі з аддзяленнямі класічным, славянскім і рамана-

германскім. Спецыялісты замежных моў і літаратур з універсітэцкай адукацыяй праявілі б сябе не толькі ў перакладчыцкай дзейнасці, але і ў народнай асвеце, культуры, навуцы.

Калі ў нас мала што робіцца з падрыхтоўкай беларускіх перакладчыкаў замежных літаратур, то што казаць пра перакладчыкаў з моў народаў былога СССР! Праўда, Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна пачаў саматугам зрушваць гэтую справу з месца.

На аснове двухбаковага пагаднення паміж ім, з аднаго боку, Тбіліскім і Ерэванскім універсітэтамі, з другога, у Мінску прайшлі курс навучання беларускай мове некалькі армянскіх і грузінскіх студэнтаў, якія цяпер даволі паспяхова перакладаюць і даследуюць беларускую літаратуру, а два з іх нават абаранілі кандыдацкія дысертацыі па грузінска-беларускіх літаратурных узаемасувязях. У той жа час беларускі студэнт, малады паэт і перакладчык У. Сіўчыкаў вывучыў у Тбіліскім універсітэце грузінскую мову. Беларускі універсітэт гатовы быў бы і далей абменьвацца студэнтамі для ўзаемнага вывучэння моў, прычым літаральна з усімі сталічнымі універсітэтамі прыбалтыйскіх, закаўказскіх і сярэднеазіяцкіх рэспублік. Аднак стрымліваюць дзве акалічнасці. Па-першае, Міністэрства народнай адукацыі Беларусі яшчэ афіцыйна не ўвяло такі абмен у практыку філалагічнага навучання. Па-другое, планавыя органы рэспублікі не вырашылі пытання рацыянальнага размеркавання на працу спецыялістаў-філолагаў — знаўцаў моў іншых народаў. У выніку справа дзяржаўнай важнасці дагэтуль вырашаецца, па сутнасці, самадзейна.

Аднак давайце ўявім: нягледзячы на складанасці ў вывучэнні моў у сярэдняй школе і ў інстытуце, пра якія гаварылася вышэй, чалавек з рэдкім перакладчыцкім талентам усё-такі авалодвае глыбока і замежнай, і сваёю мовамі, становіцца прафесійным перакладчыкам. Дзе і як яму практычна рэалізаваць свае здольнасці і веды?

На шляху перакладчыка паўстаюць новыя перашкоды. Яны звязаны ўжо з магчымасцю публікацыі перакладных твораў. Літаратурна- мастацкія часопісы, асабліва ў апошні час, неахвотна друкуюць пераклады, бо на сваёй абмежаванай папяровай жылплошчы не могуць даць прапіску нават лепшым арыгінальным творам. А як жа выдавецкія магчымасці? На першы погляд, нядрэнныя: у нас у рэспубліцы кожная чацвёртая беларуская кніга (усіх жанраў) — перакладная. Многа гэта ці мала? Калі ўзяць адпаведныя статыстычныя звесткі па Расіі і Украіне (а такія звесткі па ўсіх рэспубліках публікуюцца ў штогадовых даведніках «Печать в СССР»), то акажацца, што мы далека пераўзышлі гэтыя рэспублікі па

аб'ёме перакладных кніг у структуры выданняў на нацыянальнай мове. Сапраўды, у мінулыя два дзесяцігоддзі перакладнымі былі толькі кожная сёмая ўкраінская кніга і кожная трыццатая — руская. Тым не меньш пляскаць у ладкі ранавата. Тое, што на кніжныя паліцы ў нас штогод кладзецца нейкая сотня перакладных выданняў (з чатырохсот кніг і брашур на беларускай мове), цешыцца асабліва няма чым. Наадварот, ад гэтага нават сумнавата робіцца. Бо па агульнай колькасці кніг усіх відаў і жанраў (вучэбных, навуковых, тэхнічных, мастацкіх), перакладзеных на нацыянальную мову, Беларусь сярод незалежных рэспублік займае... перадапошняе месца, уступаючы па гэтым паказчыку апошняе месца толькі Туркменіі.

Пры значным росце ў пасляваенныя гады выданняў на рускай і замежных мовах, Беларусь па колькасці кніг на нацыянальнай (беларускай) мове знаходзіцца, па сутнасці, на ўзроўні 1940 года, адчувальна адстае па гэтым паказчыку амаль ад усіх саюзных (і нават некаторых аўтаномных) рэспублік. Асобныя нашы рэспубліканскія выдавецтвы нічым не адрозніваюцца, хіба што назваю, ад абласных выдавецтваў РСФСР: на беларускай мове кніг яны не выпускаюць увогуле або выдаюць у год дзве-тры назвы мізэрным тыражом. Ды гэта — асобнае пытанне... Што да саміх перакладных выданняў на нацыянальнай мове, то са ста перакладных беларускіх кніг усіх жанраў і відаў, уключаючы і школьныя падручнікі, толькі 35—38 кніг прыпадае на мастацкую літаратуру. Сюды ўваходзяць кнігі як для дарослага чытача, так і дзіцячыя. Звычайны перакладчык можа разлічваць выдацца ў лепшым выпадку раз у пяць-шэсць год. Пра якое ўдасканаленне перакладчыцкага майстэрства, не кажучы ўжо пра матэрыяльнае забеспячэнне яго жыцця, можа ў такім выпадку ісці гаворка! Мову, якую пяць гадоў вывучаў, за пяць гадоў можна і забыцца...

Відавочна, Дзяржкамвыду Беларусі трэба прадумаць сур'ёзныя захады для павелічэння выпуску, побач з арыгінальнай літаратурай на беларускай мове, перакладных выданняў. Разам з тым, несумненна, наспеў час, каб на аснове перакладных штогоднікаў «Далягляды», «Братэрства» і «Ветразь» (або паралельна з імі) пачаць выпуск спецыяльнага перакладнога часопіса, прысвечанага літаратурам розных іншанацыянальных краін. Аб неабходнасці такога рэспубліканскага перыядычнага выдання гаворка вядзецца ўжо даўно. У прыватнасці, яшчэ на 7-м з'ездзе пісьменнікаў СССР у 1981 г. сакратар праўлення СП СССР Ю. І. Сураўцаў у сваім дакладзе падкрэсліў: «Далягляды» ўпаўне дараслі да таго, каб ператварыцца ў выданне часопіснага тыпу». Такі часопіс не толькі адкрыў бы новыя

магчымасці ў выяўленні і станаўленні новых перакладчыкаў, але і дапамог бы выканаць задачу вялікай палітычнай важнасці — выхавання культуры міжнацыянальных адносін, пачуцця непарыўнага яднання беларускага народа з братнімі народамі нашай краіны і свету.

## «ЯНА ПА-РУСКУ ЗАПЯЕ...»

Отыщешь ключ — и птица
вскинется
И снова ринется в полет.
Счастливая, как именинница,
Она по-русски запоет.

*Якаў Хялемскі*

Гаворку пра пераклад паэзіі хацелася б пачаць з самой паэзіі. Дакладней — з верша Рыгора Барадуліна «Перакладчыкі», прысвечанага выдатнаму перакладчыку беларускай паэзіі, даўняму і шчыраму сябру нашай літаратуры Якаву Хялемскаму. Паколькі ж мы павядзем гутарку пра пераклады на рускую мову, дарэчы будзе, думаю, працытаваць верш па-руску, добрым словам успомніўшы яшчэ аднаго актыўнага і плённага прапагандыста беларускай паэзіі сярод рускамоўнага чытача, перакладчыка гэтага верша Навума Кісліка.

Переводчики
Не подрядчики
Ради почести и доходца.
Переводчики —
Путеукладчики,
Трудной трассы первоналадчики,
Не прохожие —
Первопроходцы.

Их источники —
Не подстрочники,
За душой — не запас словарный...
Не подстрочники —
Их источники:
Тянут лямкой любви оброчники
Большегрузный состав товарный.
Не шабашники,
Не шалберники,—

Пробивают проходкой скалы
Звездословного неба коперники,
Неподатливой музы соперники,
Почитатели оригинала.

Чтоб не наскоро,
Чтоб не начерно
Возрождались строкой отменной,
Первозданны и нерастрачены,
Плёсы Нарочи,
Сосны Ушаччины,
Волны Беседи незабвенной.

Гул глагола вбирают датчики
Чуткой сердцем бессонной службы.
Вечной тайны слова
Разгадчики,
Переводчики —
Путеукладчики
На великой дороге дружбы.

Беларуская літаратура вуснамі Р. Барадуліна, а ў дадзеным выпадку — яшчэ і Н. Кісліка, вельмі хораша, як мне здаецца, выказала сваё разуменне галоўнай сутнасці перакладчыцкай працы, а разам з тым — і шчырую ўдзячнасць гэтым руплівым, самааддынам «путеукладчикам на великой дороге дружбы», што пралягла з сінявокай Беларусі ва ўсе канцы Садружнасці Незалежных Дзяржаў, у многія краіны свету.

Безумоўна, нашай шчырай увагі і сардэчнай удзячнасці заслугоўвае праца літаральна ўсіх таленавітых перакладчыкаў беларускай літаратуры. Аднак асаблівыя словы прызнання і ўдзячнасці правамерна будзе адрасаваць перакладчыкам беларускага вершаванага слова на рускую мову, мову міжнацыянальных зносін, якой, паводле статыстычных дадзеных, свабодна валодала ў СССР звыш васьмідзесяці працэнтаў усяго насельніцтва, а таксама, як мы ведаем, многія мільёны людзей за межамі былога Саюза. Гаворачы словамі Максіма Танка, рускія пісьменнікі-перакладчыкі сваёй натхнёнай працай дапамагаюць Беларусі «быць на віду ва ўсёй планеты са сваёй легендарнай партызанскай славай, са сваімі сённяшнімі поспехамі, з праявамі пачуцця дружбы і братэрства».

Сучаснае перакладазнаўства падкрэслівае асаблівае становішча, якое займае сённяшні рускі мастацкі пераклад, асаблівую ролю, якую ён адыгрывае ў азнаямленні народаў Садружнасці аднаго з другім, а таксама з народамі і культурамі замежных краін. У выніку гэтай яго

асаблівай ролі колькасць рускамоўных перакладаў будзе, зразумела, заўсёды адносна большай, чым перакладаў на любую іншую мову рэгіёна. Пра гэта, зрэшты, гаворыць і статыстыка. Які б год за апошнія дзесяцігоддзі мы не ўзялі, на рускай мове выдадзена больш кніг беларускіх аўтараў, чым на ўсіх астатніх мовах народаў былога СССР, разам узятых.

Пералічу толькі асобныя, найбольш грунтоўныя і цікавыя, на мой погляд, перакладныя беларускія паэтычныя выданні апошніх дзесяці — пятнаццаці гадоў.

Гэта найперш падпісныя Зборы твораў, выдадзеныя «Художественной литературой»: у чатырох тамах — Якуба Коласа (1982-1983) і Петруся Броўкі (1981-1982), у трох тамах — Янкі Купалы (1982—1983) і Максіма Танка (1985-1986). У тым жа выдавецтве выйшлі двухтомнікі П. Панчанкі (1984) і А. Куляшова (1989), аднатомнікі выбранага А. Зарыцкага (1986), Н. Гілевіча (1987), Г. Бураўкіна (1987). У вялікай серыі «Библиотеки поэта» надрукаваны паэтычныя творы Якуба Коласа (1978) і А. Куляшова (1983; аналагічнае выданне твораў Янкі Купалы з'явілася ў свет раней, у 1973 годзе). За кнігу Максіма Танка «Нарочанские сосны» ў перакладзе Я. Хялемскага, выпушчаную ў 1977 годзе «Мастацкай літаратурай» і перавыдадзеную праз пяць гадоў «Художественной литературой», яе аўтару было прысвоена высокае званне лаўрэата Ленінскай прэміі. Дарэчы, Дзяржаўнай прэміяй СССР адзначана і перакладзеная на рускую мову кніга П. Панчанкі «Где ночует жаворонок» (1979).

Асабліва шмат рабіла па прапагандзе беларускай паэзіі сярод рускамоўных чытачоў маскоўскае выдавецтва «Советский писатель», якое засяродзілася на выданні твораў сучасных аўтараў. Прычым характэрна, што з кожным годам у гэтым выдавецтве (як і ў некаторых іншых) усё часцей выходзяць кнігі, перакладзеныя не некалькімі, а адным перакладчыкам. Гэта дазваляе пазбавіць пераклады ад стылёвай стракатасці, а калі ж да таго таленавіты перакладчык знаходзіць «свайго» аўтара, то — гарантаваць чытачам высокую мастацкую вартасць выдання. З такіх кніг назавём у першую чаргу зборнікі паэтычных твораў М. Лужаніна «Окна у дороги» (1976; пераклаў І. Шклярэўскі), П. Макаля «Прикосновение к земле» (1977; Б. Спрынчан), К. Цвіркі «Закон воды» (1978; І. Бурсаў), Веры Вярбы «Снежная горка» (1978; пераклала аўтарка), Е. Лось «Птица счастья» і Н. Мацяш «Неутолённость» (абедзве кнігі выйшлі ў 1979 годзе ў перакладзе С. Кузняцовай), Р. Барадуліна «Праздник пчелы» (1980; Н. Кіслік), А. Лойкі «Немига» (1981; С. Красікаў), С. Шушкевіча «Друзьям» (1981; Л. Завальнюк), А. Русецкага «Служба

света» (1982; Н. Кіслік), А. Бачылы «Плечо друга» (1982; С. Красікаў), В. Зуёнка «Молчание травы» (1987; І. Бурсаў), Н. Тулупавай «Я соловья искала» (1987; С. Яўсеева), Н. Гілевіча «Родные дети: Роман в стихах» (1988; У, Арцёмаў), М. Дуксы «Бессоница старых сосен» (1988; С. Красикаў), А. Грачанікава «Жить по-людски» (1989; В. Казакевіч), У. Караткевіча «Новая Атлантида» (1989; У. Арцёмаў), М. Арочкі «Листая памяти страницы: Драматические поэмы» (1990; У. Яруга), С. Грахоўскага «И радость, и боль...» (1990; У. Арцёмаў), Д. Бічэль-Загнетавай «Там, где ходят босиком» (1990; І. Бурсаў). Выйшаў шэраг цікавых кніг у калектыўных перакладах: Н. Гілевіча «Мой белый день» (1980), А. Зарыцкага «У вечернего костра» (1981), А. Вярцінскага «Вечный восход», Я. Сіпакова «Вече славянских баллад» (абедзве — 1982), А. Пысіна «Есть на свете мой олень» (1983), С. Законнікава «Встань раньше солнца» (1985), Ю. Свіркі «Путь к себе» (1986), В. Коўтун «Белый гром» (1987), Г. Каржанеўскай «Жила-была» (1988), П. Панчанкі «Крик сойки» (1977) і «На склоне века» (1989)...

Радзей, чым хацелася б, але сяды-тады радавала сваіх чытачоў выданнямі беларускіх паэтаў і «Молодая гвардия». Яшчэ ў 1979 годзе выдавецтва выпусціла даволі прадстаўнічы зборнік «Молодые поэты Белоруссии», куды ўвайшлі творы шасці аўтараў — Р. Баравіковай, С. Законнікава, Г. Каржанеўскай, П. Марціновіча, А. Салтука, У. Някляева. Пазней гэта ж выдавецтва надрукавала кніжкі Г. Бураўкіна «Верю полдню» (1981), А. Грачанікава «Полесский треугольник» (1986), Р. Барадуліна «Белая яблоня грома» (1988; дарэчы, пад такою назваю праз год выйшаў зборнік паэта на рускай мове і ў «Мастацкай літаратуры»). Можна было б паіранізаваць над «Молодой гвардией»: маўляў, знайшлі маладых паэтаў! Але што ж зробіш — выдаткі планавай гаспадаркі... Ды і ўсесаюзная вядомасць, тым больш — творчая сталасць, гэта не тое, што — рэспубліканская...

Нельга тут не адзначыць і мікраанталогію беларускай паэзіі «Беларусь моя» (1983), выпушчаную ў Ленінградзе ва ўзнаўленні ленінградскіх перакладчыкаў. У выданне ўвайшлі творы сямідзесяці двух пасляваенных беларускіх паэтаў — ад П. Броўкі і Максіма Танка да Н. Тулупавай і Я. Янішчыц. Кніга атрымала добры водгук у друку, хоць самі пераклады далека не аднолькавай вартасці.

Асаблівым стараннем і дбайнасцю ў прапагандзе беларускай літаратуры вызначаецца выдавецтва «Мастацкая літаратура». Не буду пералічваць тут нават найбольш значныя рускамоўныя паэтычныя кнігі, што выйшлі ў гэтым выдавецтве, хоць сярод іх ёсць такія неардынарныя, як, напрыклад, юбілейныя выданні твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа (1981), «Стихотворения и поэмы» Янкі Купалы ў

перакладах Н. Кісліка (1979), кнігі А. Куляшова «Скорость» (1978; Я. Халемскі і Н. Кіслік), П. Броўкі «И молодость и зрелость» (1979) і «Исток моей судьбы» (1981), Р. Барадуліна «Поэма признания» (1982) і «Белая яблоня грома» (1989), У. Някляева «Беда» (1989) і інш. Хочацца звярнуць увагу на іншае. На тое, чым «Мастацкая літаратура» ў галіне прапаганды беларускай паэзіі вылучаецца сярод іншых выдавецтваў.

Нягледзячы на некаторыя фармальныя перашкоды, выдавецтва адным з першых пачало выдаваць выбраныя пераклады лепшых майстроў гэтага віду мастацкага слова. Да беларускіх перакладчыкаў (Ю. Гаўрука, Я. Семяжона, А. Зарыцкага і інш.) неўзабаве далучыліся іх рускія калегі. Сёння мы ўжо маем цэлую бібліятэчку такіх кніг. Побач з выдадзенымі раней кнігамі выбраных перакладаў з беларускай паэзіі Я. Хялемскага і П. Кабзарэўскага з'явіліся томікі І. Васілеўскага «Извечной песни голоса» (1980), І. Бурсава «Слово по кругу» (1981), Н. Кісліка «Спелый бор» (1982), І. Шклярэўскага «Паром из Белоруссии в Россию» (1984), Б. Спрынчана «Стожары» (1984), В. Тараса «Запах мёда» (1986), А. Дракахруста «Журавлиная стая» (1988). На чарзе — аналагічныя выданні выбраных перакладаў М. Ісакоўскага, А. Пракоф'ева, С. Гарадзецкага, М. Браўна, У. Раждзественскага, П. Сямыніна, В. Астроўскага, Д. Кавалёва, Ф. Яфімава і іншых «розных і добрых» перакладчыкаў беларускай паэзіі.

«Мастацкая літаратура» распачала выданне сістэматызаванай перакладной серыі «Белорусская поэзия». У ёй ужо з'явіліся ў свет на рускай мове зборнікі паэзіі М. Лужаніна «Когда рождался новый мир» (1984), М. Багдановіча «Узор василька» (1985), А. Пысина «Сердцем добрым» (1985), П. Панчанкі «Белые яблони» (1986), Ф. Багушэвіча «Моя дудка» (1987), М. Калачынскага «Заповедь верности» (1987), С. Грахоўскага «Осенний свет» (1988), В. Таўлая «Я с вами» (1989), Кандрата Крапівы «Колючий строй» (1989). Хутка рускі чытач будзе мець ладную бібліятэчку лепшых твораў беларускай паэзіі, як класічнай, так і сучаснай. Калі ўлічыць, што ў гэтую бібліятэчку, як правіла, трапляюць выдатныя беларускія паэты і найлепшыя іх творы, ды яшчэ ў найбольш дасканалых рускамоўных узнаўленнях, то — будзем спадзявацца — у хуткім часе наша паэтычная класіка зойме вартае месца на ўсесаюзнай, а тым самым — і на еўрапейскай паэтычнай арэне.

За апошнія гады на рускай мове выйшла і некалькі цікавых дзіцячых паэтычных кніг (праўда, параўнальна мала), такіх, як «Савось-проказник» Якуба Коласа (1980; Н. Кіслік), «Сказка с былью пополам» А. Вольскага (1980), «Стихи» Максіма Танка (1981), «Кто помогает солнцу» Васіля Віткі (1982), зборнік «На золотом крыльце

сидели» (1985, 1986), «Кошка в лукошке» Р. Барадуліна (1985; І. Бурсаў), «Полесские легенды» А. Грачанікава (1986), «Солнечный клубочек» В. Зуёнка (1987) і некаторыя іншыя. Большасць з іх выйшла ў створаным у 1981 годзе выдавецтве «Юнацтва». Гэтае ж выдавецтва часам радуе беларускай паэзіяй на рускай мове не толькі дзяцей, падлеткаў, але і юнакоў. Тут можна назваць такія кнігі, выдадзеныя «Юнацтвам», як зборнік «Возвращение: Стихи белорусских поэтов, павших в годы Великой Отечественной войны» (1985), зборнік лірыкі М. Багдановіча «Венок» у перакладах Б. Спрынчана (1985), кнігу Цёткі «Избранное» ў перакладзе П. Кошаля (1986). Думаецца, такое знаёмства юнакоў і дзяўчат з беларускай паэзіяй — толькі сістэматычнае, мэтаскіраванае — выдавецтву трэба працягваць і далей.

Такі ў цэлым сучасны «банк» беларускай паэзіі на рускай мове.

Што можна сказаць, больш пільна знаёмячыся з ім?

Першая думка, якая ўзнікае,— гэты «банк» адчувальна пабагацеў. Пабагацеў на новыя творы, новыя імёны (у меншай ступені), на новае прачытанне класічных і проста добрых твораў (у яшчэ меншай ступені). Часцей, чым раней, пачалі з'яўляцца кнігі, цалкам перакладзеныя адным або двума перакладчыкамі (С. Красікаў, П. Кошаль, Ю. Морыц, Л. Завальнюк, варонежац У. Гардзейчаў, ленінградцы А. Чапуроў, Б. Кежун, І. Фанякоў, І. Сяргеева, У. Шошын, В. Кузняцоў). Часцей, чым у папярэднія гады (хоць, скажам адразу, яўна недастаткова), маскоўскія выдавецтвы і перыядычныя выданні пачалі прыцягваць да перакладчыцкай працы добрых рускіх паэтаў, якія жывуць у Мінску, ведаюць беларускую мову, гісторыю і культуру Беларусі,— Н. Кісліка, Б. Спрынчана, С. Яўсееву, В. Тараса, Г. Бубнава... У выніку ўсяго гэтага, відавочна, некалькі ўзнялася — у цэлым — і якасць паэтычных перакладаў з беларускай мовы, пра што сведчаць, у прыватнасці, прысуджэнне перакладным беларускім кнігам Ленінскай прэміі і Дзяржаўнай прэміі СССР, выхад падпісных збораў твораў на рускай мове, выданне выбраных перакладаў асобных рускіх перакладчыкаў.

Разам з тым сучасны стан перакладу беларускай паэзіі на рускую мову (як, зрэшты, і паэзіі многіх іншых савецкіх народаў), цалкам задаволіць нас не можа. І гэтае нездавальненне ідзе не ад нейкіх прыватных недахопаў, пралікаў, творчых няўдач (іх, зразумела, яшчэ нямала) і абумоўліваецца не нейкімі часовымі, тым больш кан'юнктурнымі, меркаваннямі. Яно, нездавальненне, прадвызначаецца прычынамі больш шырокага, можна сказаць, сацыякультурнага характару.

Любая інтэрнацыянальная культура не можа ўзнікаць і існаваць без актыўнага, сістэматычнага, плённага ўзаемадзеяння і ўзаемаўзбагачэння з іншымі нацыянальнымі культурамі. Мастацкі ж пераклад, як вядома,— галоўная форма літаратурнага ўзаемадзеяння і ўзаемаўзбагачэння, асноўны сродак інтэрнацыяналізацыі літаратурнага працэсу. Менавіта гэтая — інтэрнацыяналізуючая — функцыя мастацкага перакладу выходзіць сёння на першы план, адцясняючы некаторыя іншыя, у тым ліку — азнаямленчую.

Як вядома, на Першым з'ездзе савецкіх пісьменнікаў Максім Горкі вылучыў задачу «ўзаемнага шырокага азнаямлення з культурамі братніх народаў». За дзесяткі гадоў, што прайшлі з таго часу, з азнаямленнем шырокага савецкага чытача з літаратурамі народаў былога СССР мы ў асноўным справіліся: няма, бадай, ніводнага класіка або проста выдатнага нацыянальнага пісьменніка, якога б зацікаўлены чытач любой нацыі не мог прачытаць ці на роднай мове, ці на зразумелай яму рускай мове. Сёння, калі, дзякуючы перакладам, і перш за ўсё перакладам на рускую мову, рэальнасцю стала ўсесаюзная літаратурная агульнасць, актыўнае ўзаемаазнаямленне братніх літаратур перарасло ў іх актыўнае ўзаемаўзбагачэнне. Нездарма на двух з'ездах пісьменнікаў СССР (шостым і сёмым) нават у саміх назвах дакладаў пра пераклад слова «ўзаемаазнаямленне» не фігурыравала, затое падкрэслівалася «ўзаемаўзбагачэнне».

Савецкую літаратуру, што складалася з некалькіх дзесяткаў самабытных нацыянальных літаратур, успрымаць можна як адно цэлае, у якім першаступеннае значэнне маюць аб'ектыўныя ідэйна-мастацкія вартасці твора, яго, так сказаць, агульнасаюзны ўзровень. Калі раней на важнасць азнаямлення з братнімі літаратурамі нярэдка «спісваліся» як нядобраякаснасць асобных рускіх перакладаў, так і сам выбар для перакладу не зусім якасных твораў, то ў наш час, калі ўсе асноўныя нацыянальныя літаратуры ў выніку іх паскоранага развіцця сталі ўпоравень з рускай, калі ўзнікла ўсесаюзная літаратурная агульнасць, або, ужываючы тэрмін М. Новікавай, «усесаюзны літаратурны кантэкст», ніводная літаратура не можа разлічваць на нейкую скідку, нейкі эстэтычны аванс. І вось у гэтай — у значнай меры новай — літаратурнай сітуацыі асаблівае значэнне набывае якасць мастацкага перакладу. Бо менавіта ад якасці перакладу залежыць, ці застануцца «первозданны и нерастрачены» не толькі «плёсы Нарочи, сосны Ушаччины, волны Беседи незабвенной» (якраз ім у гэтым сэнсе пашанцавала найбольш), але і многія не такія славутыя, але, можа, не менш прыгожыя беларускія «плёсы», «хвалі» і «сосны». Якраз ад якасці рускамоўнага ўзнаўлення перш за ўсё

залежыць, што трапіць у агульнасаюзны літаратурны «банк»: чыстае золата паэзіі, метал высакародны, ці ўсяго толькі падробка пад золата, няхай сабе і надта майстэрская, але — падробка.

Калі браць агулам, то нам, беларусам, ні на колькасць, ні нават на якасць перакладаў паэзіі на рускую мову, здавалася б, наракаць няма чаго. Дзякуючы пэўным аб'ектыўным акалічнасцям: блізкасць беларускай мовы і паэзіі да рускай, веданне нашай мовы многімі рускімі перакладчыкамі, чытацкі кантроль, а ў выніку гэтага — павышаны творчы самакантроль перакладчыкаў і іншае,— дзякуючы ўсяму гэтаму агульны ўзровень рускіх перакладаў беларускай паэзіі параўнальна высокі: наша паэзія сёння ўзнаўляецца ў цэлым дакладна, паэтычны сэнс яе відавочна не скажаецца (што нярэдка здараецца ў перакладах па падрадкоўніку), прыклады выразнай перакладчыцкай непісьменнасці сустракаюцца не часта. Аднак «агульны ўзровень бывае ў спорце, а не ў мастацтве» (А. Межыраў). У той час як некалькі вышэйшым стаў агульны ўзровень перакладу беларускай паэзіі на рускую мову, «намнога вышэйшымі,— паводле слушнай заўвагі П. Топера,— сталі і патрабаванні да перакладу, і грамадская, чытацкая граматнасць у перакладчыцкіх пытаннях». Апрача гэтага, побач з добрымі, нават выдатнымі перакладамі нярэдка спакойненька ўжываюцца пераклады-сераднячкі, у якіх ёсць, на першы погляд, усё: і сэнсавая дакладнасць, і рытмічная, архітэктанічная адпаведнасць, няма толькі аднаго — Паэзіі. Асабліва гэта кідаецца ў вочы ў перакладных кнігах, дзе выпадкова, на падзаробак, сыходзіцца разам дзесятак ці больш перакладчыкаў. На жаль, такіх кніг, выдадзеных, як правіла, спешна, аўральна, яшчэ нямала.

Безумоўна, паэзія, як сказаў славуты паэт, «пресволочнейшая штуковина». Перасадзіць яе з адной вершаванай «клеткі» ў другую не заўсёды ўдаецца нават вопытным майстрам. Але ж менавіта ў такой «перасадцы» — галоўная мэта мастацкага перакладу, галоўнае апраўданне яго існавання ў літаратуры.

Добра перакладаць паэзію — гэта значыць перш за ўсё захоўваць паэтычную душу вершаванага твора. Няма гэтай душы — перакладчык не дасягнуў мэты, як бы знешне не быў падобны пераклад на арыгінал. На гэта, дарэчы, звяртаў калісьці ўвагу А. Твардоўскі ў адным сваім выказванні, у якім ён, палемічна завастраючы думку, казаў, што вартасць паэтычнага перакладу можна вызначыць і не супастаўляючы яго з арыгіналам.

Так, калі я чытаю адзін сучасны рускі пераклад славутай купалаўскай «Спадчыны»:

Наследник я давным-давно,
Наследство мое вечное.
Со мной всегда, везде оно
И поутру, и вечером,

а затым — другі пераклад:

Наследье прадедов моих,
Далёко или близко я,
Мне средь своих и средь чужих,
Как ласка материнская,—

то я, чытач, і не звяртаючыся да арыгінала, магу смела сказаць: другі пераклад больш дакладны, бо ён больш паэтычны. Зварот жа да першакрыніцы паказвае, што і паэтычная семантыка ў другім перакладзе захавана лепш, чым у першым. Зрэшты, адно з другім у перакладзе цесна звязана, бо, як вядома, паэзія найперш жыве ў слове.

Калі гаварыць пра надзённую і самую глабальную задачу, якая стаіць цяпер перад рускім перакладам беларускай паэзіі, то яна, гэта задача, як мне здаецца,— у павышэнні паэтычнага патэнцыялу перакладной літаратуры, яе эстэтычнага ўзроўню.

Зразумела, яшчэ ў некаторых перакладах не поўнасцю ўзнаўляецца семантыка арыгінала, часам не перадаецца як след індывідуальны стыль аўтара, не захоўваюцца асноўныя нацыянальныя прыкметы першакрыніцы — усё гэта пры жаданні не цяжка адшукаць і з гэтым, несумненна, трэба весці рашучую барацьбу — як самім аўтарам пры аўтарызацыі перакладаў, так і нашай крытыцы. Аднак калі мець на ўвазе стратэгію, а не проста тактыку блізкамоўнай перакладчыцкай творчасці, то яна, паўтараю,— у большай паэтызацыі, калі можна так сказаць, перакладных вершаваных твораў, у іх паэтычным «аджыўленні».

Задача, як бачым, не з лёгкіх. І вырашэнне яе залежыць не столькі ад розных навуковых сімпозіумаў і нарад, не ад выступленняў, нават самых разумных і дасціпных, на гэтых нарадах, не ад тэарэтычных даследаванняў, няхай сабе наймудрэйшых, колькі непасрэдна ад саміх перакладчыкаў. Усё сыходзіцца на перакладчыку. Усё ўпіраецца ў перакладчыка. У яго талент. Творчы вопыт. Добрасумленнасць. Працавітасць. Эрудыцыю.

Нямала, аднак, залежыць і ад творчай арганізацыі, у склад якой уваходзіць перакладчык. Чым жа яна можа дапамагчы павышэнню якасці перакладчыцкай творчасці?

Уласна, тым, чым яна і павінна займацца: перш за ўсё вырашэннем арганізацыйных пытанняў. Пытанняў, звязаных з

выхаваннем такіх таленавітых і добрасумленных, працавітых і эрудзіраваных перакладчыкаў, забеспячэннем іх патрэбнай грамадству працай, стварэннем для іх належных умоў творчасці.

Хацелася б звярнуць увагу, прынамсі, на дзве праблемы.

Першая непасрэдна звязана з выданнем перакладной літаратуры.

Ці не прыйшла пара выдаць на рускай мове грунтоўную, некалькітомную «Анталогію беларускай паэзіі»? Патрэба ў такой анталогіі даўно адчуваецца, перакладчыцкія сілы ў нас ёсць, ды і запас добрых перакладаў сабраўся, як мы бачым, не малы. Лепш за ўсё такую анталогію зрабіць двухтомнай, з паралельнымі тэкстамі на беларускай і рускай мовах, накшталт двухмоўных анталогій паэзіі сацыялістычных краін, што выйшлі ў Маскве. Дзеля выдання такой анталогіі можна было б аб'яднаць намаганні двух выдавецтваў — нашай «Мастацкай літаратуры» і, скажам, маскоўскай «Художественной литературы».

Увогуле, як мне думаецца, трэба падтрымаць і значна пашырыць практыку выпуску двухмоўных, а то і трохмоўных (беларуска-руска-ўкраінскіх) паэтычных выданняў. Апрача задавальнення практычных патрэб чытачоў, такія выданні — у выніку павышэння чытацкага кантролю над перакладчыкамі — дабратворна паўплываюць і на якасць саміх перакладаў.

Другая праблема, якая даволі востра стаіць на парадку дня,— гэта актывізацыя крытыкі і тэорыі мастацкага перакладу. Як бы высакамерна і нават грэбліва некаторыя перакладчыкі ні ставіліся да перакладазнаўства, тэорыя і — асабліва — крытыка надзвычай неабходныя для паўнацэннага жыцця мастацкага перакладу, неабходныя не менш, чым тэорыя і крытыка для самой мастацкай літаратуры. «Наўрад цяпер хто-небудзь стане сумнявацца ў неабходнасці тэорыі літаратуры на той падставе, што, вывучыўшы яе, нельга стаць пісьменнікам,— пісаў у «Литературном обозрении» армянскі вучоны і перакладчык Лявон Мкртчан.— Аднак да тэорыі перакладу прад'яўляюць часам патрабаванні чыста утылітарныя. Ставяць пытанне так: у якой меры тэорыя перакладу дапамагае перакладаць? Безумоўна ж, дапамагае, але не больш, чым тэорыя літаратуры дапамагае пісаць. Дапамагчы можна таленавітаму чалавеку, зрабіць чалавека таленавітым нельга ».

Не будзем прыбядняцца: па актыўнасці і ўзроўні крытычнай і тэарэтычнай перакладчыцкай думкі Беларусь сярод саюзных рэспублік займае далека не апошняе месца. Час ад часу друкуюцца даволі грунтоўныя рэцэнзіі на перакладныя выданні, выходзяць

навуковыя даследаванні па праблемах мастацкага перакладу, з'явіўся нават вялікі літаратурна-крытычны партрэт перакладчыка (Аркадзя Куляшова). І ўсё ж праца перакладчыкаў, асабліва рускіх перакладчыкаў беларускай літаратуры, па-ранейшаму застаецца ў значнай ступені абыдзенай.

Як ні дзіўна, у рэспубліцы, пры наяўнасці кафедр рускай літаратуры ў трох універсітэтах і пяці педінстытутах, а таксама асобнага сектара літаратурных узаемасувязей у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі, беларуска-рускія літаратурныя ўзаемасувязі (а пераклад — ядро гэтых узаемасувязей) як след не вывучаюцца. Што да некалькіх кафедраў перакладу, якія існуюць пры адзіным у рэспубліцы перакладчыцкім факультэце Інстытута замежных моў, то пра іх, як кажуць, ні слыху ні дыху.

Несумненна, на павышэнне якасці мастацкага перакладу і на ажыўленне самой крытыкі перакладу значна магло б паўплываць добра пастаўленае выдавецкае рэцэнзаванне перакладных выданняў. Такое рэцэнзаванне наладзіць, канечне, не вельмі проста. Напісаць рэцэнзію на рукапіс перакладу можа толькі чалавек, які добра ведае творчасць аўтара арыгінала, валодае дзвюма мовамі — арыгінала і перакладу, мае дастатковыя пазнанні ў тэорыі мастацкага перакладу. У Маскве або Ленінградзе такія спецыялісты па беларускай мове і літаратуры, магчыма, не заўсёды знойдуцца. Аднак пры існуючых сродках сувязі, цесных беларуска-рускіх кантактах можна адносна лёгка знайсці такога выдавецкага рэцэнзента ў Мінску або нейкім абласным беларускім горадзе. Абы толькі жаданне было...

Беларуская паэзія імкнецца, ляціць да рускага чытача. Ляціць крылата-молада, упэўнена, хоць падчас нялёгка, няпроста. Пажадаем жа ёй высокага і шчаслівага лёту! І дапаможам ёй у гэтым.

## І АДГУКНЕЦЦА СЛОВА Ў СЛОВЕ

У верасні 1988 года прайшоў першы міжнародны семінар перакладчыкаў беларускай літаратуры. Развіталіся з восеньскай Беларуссю, з маляўнічымі краявідамі Ракаўшчыны, з гасцінным Домам творчасці імя В. Дуніна-Марцінкевіча «Іслач» балгары і палякі, немцы і венгры, югаславы, чэхі і славакі. Павезлі з сабою не толькі веды, эмоцыі, але і новы зарад творчай энергіі, натхнення, жаданне з яшчэ большай настойлівасцю і мэтанакіраванасцю ўзводзіць трывалыя масты дружбы паміж народамі і краінамі.

Адкрываючы семінар, старшыня праўлення СП БССР Максім Танк так вызначыў яго асноўныя мэты: «Патрэба ў скліканні такога семінара — перакладчыкаў з беларускай мовы — даўно наспела, бо значна выраслі шэрагі новых шчырых пасрэднікаў-тлумачоў і стала больш паслядоўнай практычная іх дзейнасць, павышэла і само майстэрства перакладаў. Але і з'явілася шмат праблем і проста пытанняў, якія неабходна абмеркаваць за нашым пісьменніцкім «круглым сталом», выслухаць пажаданні сяброў-перакладчыкаў, абмяняцца ўзаемнымі меркаваннямі і прэтэнзіямі, сваімі радасцямі і трывогамі, планамі на бліжэйшую будучыню. Можа, гэта наша сустрэча дасць адчувальны штуршок і крытыцы, якая ўсё яшчэ абмінае перакладчыцкую дзейнасць...»

Адразу скажу: семінар удаўся. Першы прыплод, як кажуць, не пайшоў за плот. І гэта не толькі мая асабістая думка. Я размаўляў з многімі ўдзельнікамі семінара: Найданам Вылчавым (Балгарыя), Норбертам Рандавым (ГДР), Вацлавам Жыдліцкім (Чэхаславакія), Шары Карыг (Венгрыя), Мамчылам Джэркавічам (Югаславія), Фларыянам Няўважным, Чэславам Сенюхам (Польшча).. І ўсе яны ў адзін голас казалі: семінар прайшоў на высокім узроўні, даў надзвычай шмат і для розуму, і для сэрца. А гэта ж думка людзей, якія бывалі — і неаднойчы! — на аналагічных семінарах у розных славянскіх і не славянскіх краінах. Гэта ў нас ён, семінар, першы. А ў Балгарыі, Югаславіі, Чэхаславакіі, Польшчы падобныя семінары (толькі са значна большым прадстаўніцтвам і большай працягласцю — да месяца) праходзяць штогод практычна з пасляваеннага часу. Некаторыя з нашых «семінарыстаў» да гэтага часу пабывалі на такіх перакладчыцкіх сустрэчах у Маскве, Кіеве, Вільнюсе...

Асноўная ўвага на семінары, зразумела, была ўдзелена вучобе, азнаямленню перакладчыкаў з гісторыяй беларускай літаратуры, яе сучасным станам, некаторымі асаблівасцямі беларускай літаратурнай мовы, культуры, з беларусістыкай і Беларуссю ўвогуле. З вялікай цікавасцю былі ўспрыняты лекцыі прафесараў Д, Бугаева, У. Конана, А. Лойкі, Л. Шакуна, дацэнтаў Н. І. Гілевіч, Л. Сямешка, Л. Тарасюк, І. Шкрабы. А лектарам працаваць было не так проста, бо перад імі сядзелі слухачы з рознай беларусазнаўчай падрыхтоўкай: з аднаго боку, Рыта Браўн (ГДР), для якой толькі пачынае раскрывацца свет беларускамоўнай культуры, з другога — прафесар Карлава універсітэта, глыбокі знаўца беларускай літаратуры Вацлаў Жыдліцкі. Тым не менш я не пачуў ніводнага папроку ў адрас лектараў. Наадварот, усе перакладчыкі падкрэслілі карысць, якую прынёс ім такі сістэматызаваны курс беларускай мовы і літаратуры. Адзінае

пажаданне на будучае: прадугледзіць час і на абмеркаванне лекцый, на творчую дыскусію з лектарам. Штодзённа да абеда, з 10 гадзін да 14-ці, заслухоўваліся дзве, а то і тры лекцыі. Не тое што на зацікаўленую гутарку з лектарамі (а ўсе яны — людзі творчыя, цікавыя), а нават на звычайнае «пераварванне» інфармацыі часу амаль не ставала...

Вучоба праходзіла не толькі ў лекцыйнай зале. Нямала карыснага ўзялі для сябе перакладчыкі ў час гутарак з работнікамі Дзяржкамвыда БССР, выдавецтваў «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва». Зазначу, дарэчы, што дырэктар бялградскага выдавецтва «Нове дэла» М. Джэркавіч тут жа, у кабінеце дырэктара «Юнацтва» В. Лукшы, падпісаў дагавор аб сумесным выданні югаслаўскіх і беларускіх партызанскіх песень. Вось вам і першы канкрэтны вынік семінара!

Асаблівую карысць не толькі гасцям, але і арганізатарам семінара, думаю, прынесла пасяджэнне прэзідыума праўлення СП БССР сумесна з секцыяй мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязей, на якое былі запрошаны «семінарысты». Пытанне абмяркоўвалася не простае: «Стан і задачы беларуска-замежнага літаратурнага ўзаемадзеяння». Дакладчык кандыдат філалагічных навук У. Сакалоўскі паглядзеў на гэту праблему праз прызму сучасных беларуска-нямецкіх літаратурных сувязей. Даклад выклікаў ажыўленую гаворку, у якой прыняло ўдзел семнаццаць чалавек. Цяжка сказаць, што пераважала ў гэтай гаворцы: інфармацыя аб канкрэтных беларуска-іншанацыянальных сувязях, узаемаперакладах ці канкрэтныя прапановы аб шляхах далейшага мацавання гэтых сувязей, аб актывізацыі перакладчыцкай дзейнасці. Былі і цікавыя развагі агульнатэарэтычнага характару. Слушна, у прыватнасці, гаварыў В. Жыдліцкі пра лёс, горкі лёс літаратуры так званых малых народаў, або, дакладней, народаў, мова якіх мала вядомая ў свеце. У пэўнай ступені іх долю раздзяляе і беларуская літаратура. Да нядаўняга часу яна не мела сусветнага водгаласу, хаця здаўна многімі сваімі якасцямі стала, а тым больш зараз стаіць на сусветным узроўні. І вось тут на дапамогу літаратуры павінны прыйсці (і прыходзяць!) перакладчыкі. Часам усе лаўры еўрапейскага і нават сусветнага прызнання беларускай славеснасці пажынаюць адны перакладчыкі, іх узносяць «амаль як святых». Аднак, падкрэсліў В. Жыдліцкі, «нашы перакладчыцкія заслугі абумоўлены вашай літаратурай. Калі б не яна зацікавіла свет, не было б і перакладчыкаў». За «круглым сталом» канферэнц-залы СП БССР, дзе праходзіла пасяджэнне, В. Жыдліцкі перадаў «вялікае дзякуй беларускай літаратуры, якая знаёміць свет з беларускім народам, са шматпакутным яго лёсам і гераізмам, а

значыць, узбагачае ўяўленне свету пра сябе. Усяму свету яна нясе свой дар, як марыў калісь Максім Багдановіч».

Пра тое, як перакладаць, уголас разважаў Н. Вылчаў. На яго думку, перакладаць трэба таленавіта. Што гэта значыць? Гэта значыць, што ты паважаеш аўтара, якога перакладаеш, а не творыш за яго або па ўзору яго. Балгарскі перакладчык, на рахунку якога — дзесяткі сапраўды таленавіта ўзноўленых беларускіх паэтаў, дзяліўся сваім вопытам: «Я імкнуся захаваць асобу паэта, не парушыць яго паэтыкі, яго метрарытмічнага ладу. Калі перакладзеш добра, аўтар застанецца ў культуры тваёй краіны, калі блага перакладзеш, гэта надоўга перакрые шлях да твайго чытача».

М. Джэркавіч падкрэсліў неабходнасць падрыхтоўкі новых, маладых перакладчыцкіх кадраў, выказаў шкадаванне, што ў Югаславіі пакуль што не вывучаецца ва універсітэтах беларуская мова, у той час як у Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна вывучэнне сербскахарвацкай мовы стаіць на высокім узроўні. Чэслаў Сенюх (ПНР) прапанаваў наладзіць непасрэднае цеснае супрацоўніцтва паміж СП БССР і Саюзам польскіх перакладчыкаў, з 350 членаў якога больш за сто чалавек займаецца перакладам з моў народаў СССР. Анна Сабецка (Польшча), перакладчыца аповесці Янкі Брыля «Золак, убачаны здалёк», з горыччу паведаміла пра тое, што ў Польшчы вельмі цяжка знайсці беларускую кнігу: «У нашай краіне шмат кнігарняў, дзе прадаецца замежная літаратура, там можна купіць рускую, часам украінскую і нават літоўскую кнігу, але кнігі беларускай не купіш».

Усё, што гаварылася перакладчыкамі за «круглым сталом» у Саюзе пісьменнікаў, так ці інакш тычылася беларуска-замежных літаратурных узаемасувязей. Гаворка прайшла ажыўлена, канструктыўна.

Насычанай была і культурная праграма семінара. Нават для тых, хто не ўпершыню ў Беларусі, карыснымі былі паездкі ў Вязынку і Мікалаеўшчыну, у Раўбічы і Заслаўе, агляд новабудоўляў і старажытных мясцін Мінска, наведанне калгаса «Светлы шлях» Маладзечанскага раёна і вытворчага аб'яднання «Белкераміка» ў Радашковічах. Хочаш лепш зразумець пісьменніка — наведай яго Радзіму! Гэты запавет вялікага Гётэ, відаць, прыгадваўся не аднаму перакладчыку беларускай літаратуры. Прыгадваўся і на шырокім праспекце адроджанага Мінска, і на журботным ходніку Хатынскага мемарыяла...

Культурная праграма ўключала і наведанне музеяў, майстэрняў скульптара А. Анікейчыка і мастака В. Шаранговіча, прагляд

беларускіх фільмаў і спектакля «Мудрамер» у Беларускім дзяржаўным тэатры імя Я. Купалы... Канечне, не ўвесь мацярык беларускай культуры адкрыўся перакладчыкам. Ды і ці магчыма гэта за дзесяць дзён? Аднак значная частка гэтага мацерыка стала для іх сваёй, абжытай...

Так, першы міжнародны семінар перакладчыкаў беларускай літаратуры ў цэлым удаўся. І гэта не толькі прыватнае меркаванне, думка арганізатараў і ўдзельнікаў семінара, але і афіцыйная ацэнка, што прагучала пад час уручэння Ганаровых грамат Вярхоўнага Савета БССР М. Джэркавічу, П. Рандаву, П. Кыневай (Балгарыя) і Ф. Няўважнаму «за вялікі ўклад у прапаганду беларускай літаратуры сярод працоўных сацыялістычных краін і актыўную перакладчыцкую дзейнасць». У поспеху семінара — заслуга многіх арганізацый і канкрэтных асоб, ад партыйных і ўрадавых органаў рэспублікі і да Саюза пісьменнікаў Беларусі, беларускага аддзялення Усесаюзнага агенцтва па аўтарскіх правах.

І ўсё ж сёння, у час дэмакратызацыі і перабудовы дзяржаўнага і грамадскага жыцця, хочацца гаварыць не толькі пра поспехі. Вынікі, урокі семінара даюць падставу павесці гаворку шырэй, і не адно толькі ў апалагетычным плане. І не пра адзін толькі семінар, а ўвогуле пра стан беларуска-іншанацыянальных літаратурных узаемасувязей.

Вось некаторыя меркаванні і прапановы ўдзельнікаў семінара, да якіх, думаю, варта прыслухацца ўсім нам. Найперш — пра сам семінар, яго арганізацыю, праграму і г. д.

Літаральна ўсе ўдзельнікі семінара горача падтрымалі саму ідэю яго правядзення, прасілі праводзіць такі семінар рэгулярна, не радзей чым раз у два-тры гады: знайшлі адабрэнне таксама працягласць і час перакладчыцкай вучобы (да двух тыдняў, у верасні). Не выклікала прынцыповых пярэчанняў і праграма семінара (пра яе вялася гутарка вышэй). З заўваг прыватнага характару адзначым наступнае:

Праграма семінара была цікавая, але завельмі насычаная рознымі мерапрыемствамі. Зусім не было вольнага часу. «Узяла ў бібліятэцы цікавыя для мяне кніжкі, але не знайшла часу пачытаць іх» (П. Кынева). «Хацелася б пачытаць, паглядзець тэлевізар, проста падыхаць свежым лясным паветрам, але не хацелася нічога прапускаць з таго, што прапанавалі нам» (Ч. Сенюх). «З сябрамі — беларускімі пісьменнікамі даводзілася сустракацца «па-партызанску», інакш гэта і не назавеш. З «абдымкаў» праграмы вырвацца не проста» (В. Жыдліцкі).

Заўважу: ніхто не выказаўся супраць зместу праграмы, асобных яе пунктаў. Усё цікава, патрэбна. Але ж калі перавесці дух, калі

пасядзець з кнігай, пазнаёміцца з творам, які тут жа, на семінары, падарыў табе аўтар, проста адпачыць? Выхадных не было. Вечары таксама былі заняты. А ўлічыць трэба і далёкую дарогу, і працэс акліматызацыі, і не малады ўзрост большасці перакладчыкаў...

Замала было сустрэч з беларускімі пісьменнікамі. Аб гэтым шкадавалі, бадай, усе перакладчыкі. Канечне, не выпускалі з поля зроку семінар сакратары СП БССР, апекаваліся гасцямі асобныя члены бюро секцыі мастацкага перакладу, у «Іслач» наведваліся яшчэ два-тры пісьменнікі. А рэшта?.. Аднаго Янку Брыля хіба што можна згадаць добрым словам: ён і афіцыйна сустракаўся з перакладчыкамі, і суправаджаў іх у некаторых экскурсіях па Беларусі.

Несумненна, у гэтым — пэўная недапрацоўка арганізатараў семінара. Меў рацыю В. Адамчык, калі на «круглым стале» ў Саюзе пісьменнікаў папракаў сакратарыят СП БССР за недастатковую і спозненую інфармацыю пісьменніцкай грамадскасці рэспублікі аб правядзенні семінара. Але ж і тады, калі гэта інфармацыя да пісьменнікаў дайшла, хіба яны праявілі належную актыўнасць у наладжванні кантактаў з перакладчыкамі, у прапагандзе калі не чужых, то хаця б сваіх твораў? Няўжо «Іслач» так далёка ад Мінска? Па-ранейшаму большасць з нас «ленивы и нелюбопытны»...

Я апытаў многіх перакладчыкаў: якую яны хацелі б бачыць праграму будучых такіх семінараў? Янка Дзімаў (Балгарыя) прапанаваў праводзіць «круглыя сталы» з найбольш цікавымі сучаснымі беларускімі паэтамі, празаікамі і крытыкамі. Але каб гэтыя «сталы» былі неафіцыйнымі, каб на іх можна было не толькі пачуць нешта цікавае, але і самому выказацца пра пачутае, а часам і паспрачацца з пісьменнікам.

Мечыслаў Яцкевіч (Польшча) хацеў бы паслухаць лекцыі пра дасягненні беларускай літаратуры ў асобных жанрах. П. Кынева параіла ўдзяліць больш увагі літаратуры 20-х гг., асобныя лекцыі прысвяціць творчасці нейкага аднаго майстра беларускай прозы, паэзіі, драматургіі. Вельмі хацелася б пачуць лекцыі дасведчаных спецыялістаў па гісторыі Беларусі (В. Жыдліцкі). Пэўную карысць прынеслі б лекцыі па тэорыі перакладу, своеасаблівасці ўзаемаперакладу з роднасных славянскіх моў (Дарота Блашчык, Польшча). На такіх семінарах варта наладжваць адкрытыя выстаўкі беларускіх кніг у перакладах на замежныя мовы, каб перакладчыкі маглі ўбачыць, што перакладзена, як выдадзена, пераняць вопыт сваіх замежных калег (П. Кынева).

У гутарках з перакладчыкамі, у іх выступленнях за «круглым сталом» і нават на вялікім інтэрнацыянальным літаратурным вечары,

які адбыўся ў Доме літаратара, высветлілася, што яшчэ перашкаджае даходзіць беларускай літаратуры да замежнага чытача. Як ні дзіўна, галоўнай перашкодай аказаліся не цяжкасці чыста творчага характару, нават не малалікасць перакладчыцкіх кадраў. Такой перашкодай, адолець якую не могуць да канца і вопытныя перакладчыкі, з'яўляецца поўная або значная адсутнасць аб'ектыўнай аператыўнай інфармацыі пра новыя беларускія выданні, немагчымасць своечасова атрымаць гэтыя выданні ні ў сябе на радзіме, ні праз пасрэдніцтва зацікаўленых арганізацый у Савецкім Саюзе. А такіх арганізацый і ўстаноў нямала: «Международная книга», Усесаюзнае агенцтва па аўтарскіх правах (ВААП), Кніжная палата, Дзяржбібліятэка, Дзяржкамвыд, Бюро прапаганды мастацкай літаратуры...

Асабліва шмат нараканняў у перакладчыкаў на ВААП. Дана Легутава (Чэхаславакія) вось ужо пяць гадоў не можа атрымаць «На імперыялістычнай вайне» М. Гарэцкага. Гэты твор разам з пісьмамі сына пісьменніка ваеннага часу хацелі б выдаць славакі. М. Яцкевіч вось ужо амаль год як паслаў пісьмо ў Мінск, на адрас беларускага аддзялення ВААП, але адказу да гэтага часу не атрымаў. Польскі перакладчык, які перакладае таксама і з літоўскай літаратуры, падкрэслівае: начальнік літоўскага аддзялення ВААП асабіста ведае ўсіх замежных перакладчыкаў літоўскай літаратуры, рэгулярна пасылае ім кніжныя навінкі, розныя рэкламныя матэрыялы. Змен патрабуе і ганарарная сітуацыя, што не садзейнічае імкненню пісьменніка выдацца за мяжой. «Я пераклаў аўтара,— расказаў Н. Вылчаў,— атрымаў 2000 рублеў. Потым даведаўся, што сам аўтар атрымаў праз ВААП 60 рублёў. Як гэта зразумець?»

«Международная книга» амаль не гандлюе беларускай кнігай, не зацікаўлена ў яе прапагандзе за мяжой: клопату з ёй шмат, а «навар» слабы. Што ж, у такім разе, можа, стварыць фірму «Беларуская кніга», забраўшы адпаведныя функцыі ў «Международной книги», далучыўшы сюды права ВААПа, рэкламныя магчымасці Дзяржкамвыда, выдавецтваў «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва»? Цяпер жа асобным прадпрыемствам дазволена выходзіць на прамы кантакт з зарубежнымі партнёрамі. Такі статус патрэбны быў бы і «Беларускай кнізе»...

Несумненна, большую ролю ў прапагандзе твора ў беларускіх пісьменнікаў за мяжой магло б адыграць і Бюро прапаганды мастацкай літаратуры пры СП Беларусь. Хіба не магло б яно частку сваіх не малых прыбыткаў патраціць на закупку і пасылку замежным перакладчыкам (прычым регулярную закупку і пасылку!) розных мастацкіх выданняў, бібліяграфічных даведнікаў, што выпускаюцца

Кніжнай палатай рэспублікі і цэнтральнымі бібліятэкамі Беларусі, на выданне ўласнай рэкламнай прадукцыі?

Пара падумаць ужо пра выданне ў рэспубліцы рэгулярнага штогодніка на рускай (а можа, яшчэ і на англійскай) мове, у якім бы даваўся аналітычны агляд дасягненняў беларускай літаратуры літаральна ва ўсіх жанрах за папярэдні год. Такія агляды, дарэчы, ужо даўно рэгулярна выпускаюцца ў Літве. Іх атрымліваюць перакладчыкі, даследчыкі літаратуры, кнігагандлёвыя работнікі; яны служаць сваю добрую службу на міжнародных кніжных кірмашах у Маскве і ў іншых гарадах Еўропы і свету. Не дзіва, што літоўская літаратура значна больш, чым беларуская, перакладаецца на мовы народаў свету.

Існуюць і іншыя магчымасці ў прапагандзе роднай літаратуры. Нельга не згадзіцца з Максімам Танкам, што «ў сувязях з зарубежнымі літаратурамі шмат маглі б дапамагчы нам нашы прадстаўнікі ў ЮНЕСКА, Арганізацыі Аб'яднаных Нацый». А хіба прыватныя кантакты паміж беларускімі і замежнымі літаратарамі менш важаць? Летапіс сувязей ведае нямала прыкладаў таго, як дасланая ў час прыватным шляхам кніга затым аператыўна перакладалася, становячыся яскравым фактам міжлітаратурнага працэсу. Праўда, у апошнія гады паслаць кнігу за мяжу па пошце стала ў нас і даволі дорага, і — галоўнае — клопатна: на міжнародную кніжную бандэроль трэба браць спецыяльны дазвол у гарвыканкоме. Супраць такога правіла, заведзенага яшчэ ў гады застою, выступалі пісьменнікі на сваім апошнім з'ездзе. Але воз ні з месца! Цяжка палічыць, колькі страт мы панеслі ў выніку ўскладнення пасылкі савецкіх кніг за мяжу, колькі новых перакладаў гэтых кніг, рэцэнзій на іх, даследаванняў пра іх не далічыліся.

Многія перакладчыкі наракалі на адсутнасць беларуска-іншамоўных слоўнікаў: беларуска-польскага, беларуска-чэшскага, беларуска-сербскахарвацкага, беларуска-славацкага... Праўда, В. Жыдліцкі заступіўся за беларусаў: маўляў, не іхні, а наш гэта клопат — выдаць такія слоўнікі, клопат польскіх, чэхаславацкіх, югаслаўскіх, нямецкіх лексікографаў. Мне ж хочацца падказаць кампраміснае вырашэнне праблемы: няхай бы адно з выдавецтваў рэспублікі, скажам, БелСЭ імя П. Броўкі, заключыла пагадненне на выданне такіх слоўнікаў з пэўнымі выдавецтвамі сацыялістычных краін. Прычым пад адной вокладкай можна было б змясціць і беларуска-іншамоўны, і іншамоўна-беларускі слоўнікі, выданне распаўсюджалася б у дзвюх рэспубліках адначасова. Такія слоўнікі чакаюць не толькі перакладчыкі, але і студэнты, вучоныя, звычайныя чытачы...

Я ўжо згадваў, што чатыры ўдзельнікі семінара атрымалі вышэйшыя ўзнагароды рэспублікі — Ганаровыя граматы Вярхоўнага Савета БССР. У гэтым хораша выявілася стаўленне былога кіраўніцтва Савецкай Беларусі да дзейнасці замежных прапагандыстаў роднай літаратуры. Чым жа ўзнагародзіў сваіх паўнамоцных прадстаўнікоў Саюз пісьменнікаў Беларусі? Тым, чым змог: сваімі граматамі, кніжнымі падарункамі (у тым ліку пяцітомным «Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы» і пяцітомнай энцыклапедыяй «Беларуская ССР»). Але ж, відаць, пара ўжо і нам, накшталт шэрагу савецкіх рэспублік, мець сваю спецыяльную пісьменніцкую прэмію для заахвочвання прапагандыстаў беларускай літаратуры. Рускія літаратары рэгулярна прысуджаюць сваім замежным перакладчыкам прэмію імя Максіма Горкага, украінскія — прэмію Івана Франка... Як бы дарэчы было ўстанавіць аналагічную прэмію Францыска Скарыны! І рэгулярна прысуджаць яе не толькі замежным перакладчыкам, але і актыўным прапагандыстам нашай літаратуры сярод народаў СНД. Скажам, па адной прэміі тым і другім раз у два гады...

І яшчэ пра адно.

Семінар 1988 года, як сказана вышэй, трымаўся на плячах дзвюх арганізацый: СП БССР, які ўзваліў на сябе ўвесь цяжар па арганізацыі працы семінара і яго матэрыяльным забеспячэнні, і беларускага аддзялення ВААП, якое афіцыйна запрасіла перакладчыкаў. Працу летніх школ мовы і культуры, якія праводзяцца ў славянскіх краінах, забяспечваюць разам некалькі высокіх устаноў і арганізацый: міністэрствы асветы, вышэйшай адукацыі і культуры, таварыства сувязі з замежнымі краінамі, саюз пісьменнікаў, саюз перакладчыкаў (калі ён існуе), акадэмія навук, вядучы універсітэт (на базе якога, як правіла, і праводзіцца такая школа)... У нас жа амаль усе названыя ўстановы да арганізацыі семінара рук не прыклалі. А хіба іх не павінен абыходзіць лёс культуры рэспублікі — той культуры, якая сёння ў значнай ступені прадвызначае і добрую славу, і паўнакроўнае жыццё, і, урэшце, саму будучыню Беларусі? Дык давайце ж сумесна дбаць пра гэты лёс, давайце сумесна праводзіць і семінары... А яшчэ лепш — шырокапрадстаўнічыя сімпозіумы прапагандыстаў беларускай культуры, удзел у якіх прымалі б не толькі перакладчыкі, але і ўсе, хто цікавіцца нашай мовай, літаратурай, культурай, гісторыяй. Думаю, на правядзенне такіх сімпозіумаў калектыўнай моцы ў нас хопіць. Хопіць нават на тое, каб рэгулярна склікаць не толькі адных замежных перакладчыкаў, але і прапагандыстаў беларускай культуры з СНД.

Тут, зразумела, я расказаў далека не ўсё, пра што гаварылася і думалася на працягу дзесяці семінарскіх дзён. Урокі семінара надзвычай павучальныя, карысныя. Для сённяшняга і будучага дня нашай культуры. Для далейшага мацавання міжнацыянальнай еднасці.

## ПА ПРАВУ ПАБРАЦІМСТВА

Крыўдна, да болю крыўдна, што сёння, калі мы збіраемся на свята Вялікай Перамогі, няма сярод нас Аляксея Пысіна — салдата, які, набліжаючы гэту Перамогу, прайшоў франтавымі дарогамі з першага і да апошняга дня вайны, паэта, які да канца сваіх дзён застаўся верны франтавому «пабрацімству паўшых і жывых». Ніхто ў пасляваеннай беларускай паэзіі, мабыць, так арганічна, як ён, не выявіў духоўную знітаванасць былога франтавіка, нашага сучасніка, з мільёнамі вядомых і невядомых савецкіх салдат, якія палеглі на роднай і няроднай зямлі, вызваляючы свет ад фашысцкай навалы. Нейкая нібы вінаватасць адчуваецца ў многіх вершах А. Пысіна: вось ты, хто «на паўміга смерць маю адвёў», ляжыш у зямлі, а я — жыву... Гэтае адчуванне ён пераадольваў усведамленнем сваёй нявечнасці на гэтым свеце, хуткага «ўз'яднання» са «сваёй дывізіяй» («...Я гляджу на даўняе курганне, На траву, На рыжых мурашоў. Ведайце: калі мяне не стане — Я ў сваю дывізію пайшоў»), а таксама — і гэта галоўнае — усведамленнем абавязку перад паўшымі: быць не толькі іх слыхам і зрокам, але і вуснамі, выказваць іх разуменне жыцця, іх адносіны да падзей ваеннага часу і сённяшняга дня.

Яшчэ ў сярэдзіне 60-х гг. А. Пысін прызнаваўся:

Удалося і мяне жалезу
Мігам надзяліць ненажавым.
З той мяжы няблізкай я належу
Ў пэўнай меры — не адным жывым.
Хай жыццё пяе, смяецца, плача,
Вучыць прыгажэй і лепш любіць.
На зямлі — адзіная удача:
Ў вечным слове чалавекам быць.

Зваблівых удач густую паву
Пакідаю для лаўцоў другіх.
Ўсё прымаю, ўсё цаню па праву
Пабрацімства
мёртвых і жывых.

Гэтым правам паэт карыстаўся як у сваіх штодзённых паводзінах (а быў ён па-салдацку прамы, чэсны ў выказваннях і паступках), так і ў паэзіі, імкнучыся ўсюды і заўсёды «чалавекам быць».

Адчуванне прыналежнасці «не адным жывым» абвастрыла ўспрыманне А. Пысіным жыцця як шчасця, адзін раз падараванага лёсам чалавеку, засцерагала паэта ад пустых вершаваных забавак, звычайнай балбатні «ў рыфму», слоўнага штукарства — усяго таго, што аддаляла яго ад ідэалаў справядлівасці, дабра, высакародства.

Выдатны савецкі паэт, цяпер ужо (на жаль, пасмяротна) і лаўрэат Ленінскай прэміі Кайсын Куліеў, які вучыўся разам з А. Пысіным на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве (а ў адной групе з імі былі яшчэ Ч. Айтматаў, М, Львоў і інш.), вылучыў «сціпласць і душэўную чысціню беларускага сабрата». Разам з тым ён зусім слушна заўважыў, што «ў вершах Пысіна няма ніякай позы, мітусні, пустога красамоўства, мудрагельства, яны натуральныя, як гутарка аратых, што вярнуліся вечарам з поля, людзей, якія добра ведаюць цану хлеба, працы, чалавечай радасці і болю. Пры гэтым у вершах Алякоея Пысіна заключана самабытная вобразнасць, ён можа скупымі сродкамі перадаць рух чалавечай душы, яе боль і трывогі».

Рух чалавечай душы, яе боль і трывогі... Ці не гэта галоўны прадмет сучаснай паэзіі? Ці не гэтым паэзія лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, заслужанага работніка культуры рэспублікі А. Пысіна так прыцягвае да сябе ўвагу беларускіх чытачоў, літаратурных крытыкаў (а пісалі пра яе Р. Бярозкін, У. Калеснік, С. Гаўрусёў, П. Макаль, У. Гніламёдаў, І. Шпакоўскі, В. Карамазаў і інш.), гісторыкаў літаратуры (у 1981 г. выйшла манаграфія Л. М. Гарэлік «Аляксей Пысін», якую яшчэ паспеў пабачыць сам паэт)? Ці не гэта ў творчасці А. Пысіна цікавіць у першую чаргу і чытачоў з іншых рэспублік, замежных краін?

На рускай мове ўбачыла свет каля дзесяці паэтычных кніг А. Пысіна, у тым ліку ў такіх шырокавядомых серыях, як «Библиотечка избранной лирики» (А. Пысин. Избранная лирика. Москва, «Молодая гвардия», 1971), і «Библиотека советской поэзии» (А. Пысин. Стихи. Москва, «Художественная литература», 1976). А ў 1984 годзе з выдатнай паэзіяй беларускага пабраціма змаглі шырока пазнаёміцца і ўкраінскія чытачы. У папулярнай серыі «Братэрства», у якой выйшла ужо не адна кніга лепшых савецкіх пісьменнікау, з'явіўся томік выбранай паэзіі А. Пысіна «Жураўліныя сурмы».

У кнігу, якую ўважліва і грунтоўна ўклаў чарнігаўскі паэт Станіслаў Рап'ях і любоўна (з партрэтам, у цвёрдай вокладцы) выдала кіеўскае выдавецтва «Радянський письменник», увайшло звыш

паўтары сотні вершаў беларускага паэта і адна з яго лепшых паэм «Белы камень». Над перакладамі натхнёна працавалі сам укладальнік, а таксама такія вядомыя прапагандысты беларускага паэтычнага слова на Украіне, як Дзмітро Білавус, Тамара Каламіец, Уладзімір Забаштанскі, Мая Львовіч, Уладзімір Каламіец, Сцяпан Лытвін. У цэлым добра справіўся са сваёй задачай Уладзімір Гуцаленка, якому належыць нямала ўзнаўленняў пысінскіх вершаў. Па некалькі твораў пераклалі Барыс Алійнык, Пятро Засэнка, Абрам Кацнельсон, Барыслаў Стэпанюк, Мікола Пятрэнка, Сцяпан Пінчук, Анатоль Глушчак.

Якім жа паўстае перад сённяшнім украінскім чытачом беларускі паэт, літаратурная дзейнасць якога, паводле трапнай заўвагі Л. Гарэлік, «у літаратурным працэсе з'яўляецца нібы звязваючым звяном паміж творчасцю старэйшых і тых, хто ўваходзіў у літаратуру ў канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў,— Р. Барадулін, П. Макаль, А. Вярцінскі, А. Лойка, Н. Гілевіч, Г. Бураўкін, В. Вярба, Д. Бічэль-Загнетава і інш.»? Тым больш гэта цікава, што на карце беларускай паэзіі — так, як яна малюецца ва ўяўленні сучаснага ўкраінца — менавіта спалучальнага звяна і недастае. Ёсць пераклады твораў старэйшых — паводле творчага стажу — майстроў нашай паэзіі (П. Броўка, А. Куляшоў, М. Танк, П. Панчанка), пачалі даволі актыўна з'яўляцца кнігі «шасцідзесятнікаў» (Р. Барадулін, Н. Гілевіч, Е. Лось, П. Макаль, Г. Бураўкін, анталогія «Калінавыя масты»), а вось творчасць беларускіх паэтаў франтавога пакалення, за выключэннем, бадай, А. Вялюгіна (яго кніга «Белая Вежа» выйшла ў той жа серыі «Братэрства» яшчэ ў 1980 г.), украінскаму чытачу амаль невядомая. А хіба старанна ўкладзеныя і перакладзеныя асобныя выданні А. Бачылы, А. Бялевіча, С. Дзяргая, М. Аўрамчыка, В. Віткі, К. Кірэенкі, А. Русецкага і інш. не ўзбагацілі б новымі матывамі, фарбамі, інтанацыямі не толькі мастацкую палітру ўкраінскай паэзіі, але і духоўны свет палтаўскага хлебароба ці івана-франкоўскага нафтавіка?..

Можна смела сказаць: усё асноўнае, што вызначае творчую самабытнасць А. Пысіна, яго індывідуальны стыль, знайшло ўвасабленне ў творах, якія склалі кнігу «Жураўліныя сурмы». Усе галоўныя адзнакі стылю, абумоўленыя тэматыкай, праблематыкай пысінскіх твораў (пра што мы ўжо збольшага вялі гаворку), а таксама іх мастацкай своеасаблівасцю, адлюстраваліся на кніжных старонках з належнай паўнатой і выразнасцю. Украінскі чытач можа атрымаць пра А. Пысіна-паэта прыблізна такое ж уяўленне, як і чытач беларускі. Зразумела, «партрэт» паэта ў першым выпадку будзе не такі дэталізаваны, падрабязны — можна сказаць, сілуэтны. Гэта і не дзіўна; на беларускай мове толькі выбраныя творы паэта занялі два

тамы. А тут — кніжка ў пяць з паловаю аркушаў... І ўсё ж «сілуэт» увогуле дакладна, праўдзіва перадае паэтычны воблік беларускага вершатворца, свет яго думак і адчуванняў, упадабенняў і клопатаў, болі і радасці, яго гуманістычны пафас.

Перад намі перш за ўсё вялікі патрыёт і інтэрнацыяналіст, з якім усё жыццё неразлучна была «рамантыка рэвалюцыйнага сцяга, дзяцінствам узгадаваная і пранесеная праз агонь» (Р. Бярозкін). Пра гэта гавораць многія творы, сярод якіх «Віншавальныя паштоўкі», «...Дала мне маці гэту мову», «Пячэрскі парк», «Чарнігаўцы», паэма «Белы камень» і інш. Высокапаэтычна і высокапатрыятычна, як і ў арыгінале, гучыць, напрыклад, верш А. Пысіна «Сцяг» у перакладзе С. Рап'яха:

Пружисте древко на плечі,
Саме життя в руках.
Дзвени, мій стяже, клекочи
На чотирох вітрах.
Ти — вищий від усіх невдач
І від усіх неправд.
Я сам загорнутий в кумач
Від голови до п'ят.

Під кулями відважно йшли
Через усі фронти.
Густою червінню цвіли
В боях мо'і бинти.

Ты невмирущий у віках,
Бо ми тебе несем
В сво'їй крові, в сво'іх кістках —
З життям передаем!

Магчыма, дзеля надання вершу яшчэ большай пафаснасці, узнёсласці перакладчык некалькі адступіў ад графічнага вобліку першакрыніцы — прабелам размежаваў верш на чатырохрадкоўі (у арыгінале асобныя строфы не вычляняюцца). Адступленне гэта, зразумела, неістотнае. І ўсё ж, думаецца, рабіць гэта было няварта, як і ў іншых выпадках (увогуле нешматлікіх), калі астрафічны верш арыгінала па тых ці іншых прычынах (няхай сабе чыста «тэхнічных», дакладней — тэхрэдактарскіх) у перакладзе становіцца страфічным або, наадварот, страфічны верш друкуецца без разбіўкі на строфы (як, напрыклад, верш «...Я веру, быццам сваякам»). У сапраўднай паэзіі падзел верша на строфы мае выяўленчае значэнне, дапамагае лепш выявіць паэтычны сэнс, эмоцыю. Безумоўна, не заўсёды сувязь

паміж графічным воблікам вершаванага твора і яго паэтычнай семантыкай выразна заўважаецца, але яна існуе, і грэбаваць ёй не варта. Тым больш гэта неабходна падкрэсліць, што ў цэлым пысінскі верш ва ўкраінскіх перакладах узноўлены дакладна. Усюды захаваны метрыка арыгінала, характар рыфмоўкі, будова страфы, у пераважнай большасці выпадкаў удалася імітацыя вершаванага рытму. Усё гэта, несумненна, дапамагло адэкватна перадаць паэтычную інфармацыю першакрыніцы сродкамі ўкраінскага паэтычнага слова. Зразумела, адэкватна ў той ступені, у якой гэта ўвогуле можна зрабіць у паэтычным перакладзе, дзе нярэдка ў імя захавання эстэтычна важкай вершаванай формы даводзіцца трансфармаваць паэтычную семантыку: відазмяняць яе, ад нечага адмаўляцца, нешта дадаваць сваё.

Аднак давайце вернемся да самога зборніка. Арганічна ўваходзіць у яго ленінская тэма, увасобленая ў вершах «Жураўліная горка», «...Час набліжаючы, бачым Леніна», у «Баладзе пра зялёную лямпу». Высокаму гучанню гэтых і ім падобных твораў не супярэчаць выдатныя лірычныя мініяцюры пра дружбу, каханне, сям'ю («...Вось дарога — дажджавыя пырскі», «...Лёс даступны быў усім вятрам», «...Мы верылі ў жалезныя масты», «...Неўталоннік»), пейзажныя замалёўкі («...Хвалі возера люлялі», «...Рачулка рыжая ў пасцелі»). Іх дапаўняюць глыбокія медытацыі А. Пысіна — вершы-развагі над праблемамі чалавечага існавання, жыцця і смерці, свайго месца ў бясконцым ланцугу чалавечага роду. Прычым «па праву пабрацімства» паэт ускладае на сябе абавязкі сувязнога не толькі паміж паўшымі і жывымі ўдзельнікамі апошняй вайны. Ён выразна адчувае сябе і спалучальным звяном паміж мінулым і наступным увогуле, спадкаемцам продкаў і спадчынадаўцам нашчадкаў («Забыта многае ў жыцці», «...Свет блакітна-ружова-зялёны», «...Над небам бацькаўшчыны многа», «...Верталёт — анёл жалезны»).

І ўсё ж галоўную плошчу кнігі заканамерна займаюць вершы-ўспаміны, вершы-роздумы пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны. Якраз у іх — «...Далёкі тупат кананады», «Станцыя Гушчына», «Балада пра каску», «Мінута маўчання», «Валуеў», «...А хтосьці з той стралковай роты», «Балада пра камбата», «Іван-чай» і многія іншыя — адлюстраваліся самыя характэрныя рысы паэзіі А. Пысіна: яе праўдзівасць, грамадзянскасць, філасафічнасць. А яшчэ — унутраная канфліктнасць, паказ салдацкага подзвігу як трагедыйнай героікі ці гераічнай трагедыі. І ўсё гэта выяўлена праз элегічнашчымлівую, спавядальную інтанацыю чалавека, не верыць якому немагчыма. Бо

памяць яго — гэта памяць сэрца, бо словы яго — гэта споведзь самае душы.

Перакладчыкі здолелі данесці да ўкраінскага чытача пысінскі голас, які выразна вылучаецца ў беларускім паэтычным хоры і, трэба думаць, не загубіцца сярод паэтычных галасоў украінскай літаратуры. Як, думаецца, не загубіцца вось гэты хрэстаматыйны верш ва ўзнаўленні Т. Каламіец:

Знов махру моршанську смалим гірко,
Знов дніпровську бачимо гряду.
Буде нині бій. На тім узгірку,
Може, я так само упаду.

Будуть трави на могилі.
Будуть відлітать у вирій журавлі.
Нас, напевно, в світі не забудуть,
Нас іще згадаюць на землі.

...Я дивлюсь на давне поховання,
Де мурахи, де трава як шовк.
Знайте, люди: як мене не стане —
Я в свою дивизию пішов.

Т. Каламіец, вопытная і таленавітая інтэрпрэтатарка беларускай паэзіі, вылучаецца творчым падыходам да справы, уменнем знайсці функцыянальна аналагічны адпаведнік іншамоўнаму вобразу, лексеме, рэаліі. Гэта адчуваецца і ў шэрагу яе перакладаў з А. Пысіна («...Наче ангел, душі в небо», «Балада про каску», «...Узять поміняти б квартиру» і інш.).

Да лепшых перакладаў украінскай кнігі А. Пысіна (апрача ўжо цытаваных ці проста названых) можна аднесці таксама мастацкія ўзнаўленні Д. Білавуса («Вузол», «Дід Ярошка»), С. Рап'яха («Станція Гуіціне», «...Перед фотографом Килина»), У. Забаштанскага («...Знов безкрило б'е повінню Птич», поэма «Білий камінь»), М. Львовіч («Іван-чай», «...Далекий гуркіт канонади»), У. Гуцаленкі («...Відцвітае і німіє мова», «...Тебе, як пущу, відкріваю»), У. Каламійца («Балада про комбата»), П. Засэнкі («Елегія самотню'і гриви»)... Па сутнасці, ва ўсіх перакладчыкаў ёсць творчыя ўдачы, якія прадвызначаюць у цэлым высокамастацкае гучанне «Жураўліных сурмаў».

На гэтай высокай ноце хацелася б і закончыць расказ пра А. Пысіна і ўкраінскія інтэрпрэтацыі яго твораў. Ды справядлівасць патрабуе адзначыць і некаторыя недахопы, якімі грашаць асобныя пераклады. Адносяцца яны не так да неадэкватнай перадачы семантыкі арыгінала (хоць сустракаецца часам і такое), як да

скажэння або не ўзнаўленне яго арыгінальнай вобразнаэмацыянальнай і стылявой сутнасці. Вось некалькі прыкладаў: ***Дыхнулі*** ўніз нябесныя «кацюшы» — Униз небесні ***вдарили*** «катюші»; На ***горкім*** вяселлі дачкі — ***Отут*** на весіллі дочки; А ўспомніцца ***яршысты*** снег — Але згадається той сніг; Вось ***бескапытная*** дарога Звініць у бесканечнасць дня — Ось **неукатана**(?) дорога Дзвенить у безкінечність дня; Хоць трошачкі б былога снегу, ***Птушынай босасці тае!*** — Ще б по тому снігу пробігти Хоч раз так само, Босоніж!..

Нічым іншым, як перакладчыцкай нядбайнасцю можна вытлумачыць «прыпісванне» А. Пысіну наступных «рыфмаў»: вуст — схоменусь; шелест — кишенях; немало — печалить; в гіпсі — обпеклися і г. д.

Рэдка, але здараецца: сціплы, шчыры, «жураўліны» голас беларускага паэта ўзмацняецца, як праз гучнагаварыцель, да грамавержнага «гласа». Так, у арыгінале чытаем:

Пойдзем не ад людзей — да людзей.
Мы радкі пакідаем з жывымі,
І паслужаць яны сувязнымі
Нашых дум і сумленных надзей.

Ці не таму ў вершах А. Пысіна так часта ўжываецца паняцце «сувязь», што на фронце ён быў сувязістам? Паэт ведае сапраўдную цану сувязі — паміж вайсковымі падраздзяленнямі, жывымі і паўшымі, чалавечымі сэрцамі...

У перакладзе ж сувязіст становіцца... палкаводцам:

Ми йдеймо не від серць, а до серць.
Мы рядки залишаемо людям,
Ті слова полководцами будуть,
Що вестимуть нащадків на герць.

Гучна, бадзёра сказана, але зусім не па-пысінску!

Я наўмысна не называю тут перакладчыкаў. Бо асобныя недакладныя радкі і выразы часам сустракаюцца ў перакладах увогуле неблагіх, нават добрых. Бо такіх радкоў і выразаў як на цэлую кнігу не так ужо і шмат. Бо, урэшце, яны калі і ўплываюць на агульную якасць перакладнога выдання, то далека не ў той ступені, каб вызначыць яго мастацкі ўзровень.

Падтрымаем шчырую веру С. Рап'яха, выказаную ім у цёплай прадмове да «Жураўліных сурмаў»: «...Як ён марыў пра сваю кніжку на ўкраінскай мове! І вось такая кніжка ёсць. Хочацца верыць, што паэзія Аляксея Пысіна, слаўнага песняра братняга народа, знойдзе шлях да чалавечых сэрцаў».

# З НАТАТКАЎ ПЕРАКЛАДАЗНАЎЦА

*Максім Багдановіч*
*загаварыў па-асецінску*

18 кастрычніка 1972 года Паўночна-Асецінскае радыё ў перадачы «Літаратура сяброў» перадало ў эфір нізку вершаў Максіма Багдановіча. Дату варта запомніць: гэта было першае знаёмства асецінцаў з перакладзенымі на іх родную мову творамі аднаго з выдатнейшых беларускіх паэтаў XX стагоддзя. Перадачу вёў — рабіў уступную гутарку, чытаў пераклады — вядомы ў Асеціі паэт, прадстаўнік сярэдняга пакалення асецінскіх літаратараў Пятро Урумаў (Уырымты Петя). Менавіта ён дапамог Максіму Багдановічу на восемдзесят другім годзе яго бессмяротнасці загаварыць яшчэ на адной, пасля многіх еўрапейскіх, мове — нешматлікай прадстаўніцы іранскай групы моў.

Пяты нумар органа Саюза пісьменнікаў Паўночна-Асецінскай АССР часопіса «Мах дуг» (г. Арджанікідзе) за 1973 год прынёс новую прыемную вестку: яго раздзел «Паэзія сяброў» знаёміць асецінскіх чытачоў з перакладамі вершаў Максіма Багдановіча. У творчым, дакладным мастацкім узнаўленні Пятра Урумава, зробленым, дарэчы, непасрэдна з мовы арыгінала, загучала сем лірычных жамчужын беларускага паэта: «Мне снілася», «З песень беларускага мужыка», «Песняру», «...Кінь вечны плач свой аб старонцы», «...Ужо пара мне дадому збірацца», «...Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог» і «Беларусь, твой народ дачакаецца...» У невялікай прадмове да публікацыі вершаў перакладчык знаёміць чытачоў часопіса з асноўнымі момантамі жыцця і творчай дзейнасці Максіма Багдановіча, гаворыць, што паэт займае самае ганаровае месца ў гісторыі беларускай літаратуры — побач з Янкам Купалам і Якубам Коласам. Творчасць яго, падкрэслівае П. Урумаў, блізкая і дарагая асецінскаму чытачу сваёй выразнай грамадзянскай скіраванасцю, пафасам народнасці, яскравасцю паказу жыцця беларускага народа ў дарэвалюцыйным мінулым, прастатой і, разам з тым, адточанасцю мастацкай формы. Усімі гэтымі якасцямі вызначаецца і паэзія класіка асецінскай літаратуры, асецінскага Леанарда да Вінчы, як назваў яго Аляксандр Фадзееў,— Коста Хетагурава. Максім Багдановіч і Коста Хетагураў — духоўныя пабрацімы, постаці аднолькавага творчага характару, нацыянальна-культурнай вартасці.

Менавіта таму перад песняром зямлі беларускай расчынены насцеж сэрцы ўсіх насельнікаў краіны Хетагурава.

Пераклады твораў Максіма Багдановіча на асецінскую мову — цікавая старонка сучасных беларуска-асецінскіх літаратурных сувязей, яшчэ адно сведчанне актыўнага культурнага ўзаемаўзбагачэння народаў.

1973

## *З сэрца — у сэрца*

З кім ні параўноўваюць цябе, перакладчык!

З акцёрам, які пераўвасабляецца ў нейкі вобраз...

З музыкантам-выканаўцам...

З донарам, які аддае іншамоўнаму аўтару частку ўласнай крыві...

Толькі ўсе параўнанні гэтыя, яскравыя і ўвогуле слушныя,— усё ж няпоўныя і аднабаковыя. Бо ты адначасова — і акцёр, але той, што не іграе на сцэне, а жыве паўнакроўным жыццём; і музыкант, што выконвае не чужыя, а свае творы; і донар, які кожны раз аддае не частку, а ледзь не ўсю кроў. Таму і сам пераклад, дакладны, творчы,— не правіла, а «заўсёды выключенне» (С. Маршак). Але няхай жа заўсёды жывуць такія выключэнні, становячыся правілам!

Наша гаворка — не пра пераклад наогул, а пра самы складаны від перакладу — паэтычны. Больш таго — пра пераўвасабленне на іншую мову паэзіі кахання.

Каханне!.. Цэлыя стагоддзі многія і розныя вучоныя — і сацыёлагі, і філосафы, і біёлагі — ловяць у цянёты навуковага азначэння гэтую загадкавую жарптушку. Але дагэтуль нікому з іх так і не ўдалося яе злавіць. Рухнулі ўсе спробы вызначыць каханне з чыста біялагічнага пункту гледжання. Далёка няпоўнымі ў сваіх вызначэннях аказаліся і філосафы.

Аднак тое, што не змагла навука, змагло мастацтва, здолела паэзія. (Зрэшты, паэзіі, як і каханню, пакуль што таксама няма дакладнага азначэння.) Паслухайце:

Позови меня.
                    Позови.
Затеряемся в хмельном лете.
На зеленой этой планете
Начинается все с любви.
Лишь в пути душой не криви,
В жизнь входи с надеждой и верой,

Начинается все с любви —
Первый шаг и успех твой первый.
Приручаются соловьи
Там, где лип голубые тени.
Начинается все с любви —
Радость, ненависть, отчужденье...
Позови меня.
Позови.
Пусть дорогу сердце подскажет.
Начинается все с любви,
А иначе и жить-то как же?

Вы адчуваеце, як мацней затахкала сэрца, часцей забіўся пульс? Так, гэта яно, каханне, шчыра і паўнагучна прамовіла — непасрэдна да вашага сэрца. Як велічны малюнак прыроды. Як музыка.

Вершам Яўгеніі Янішчыц «...Ты пакліч мяне. Пазаві» пачынаецца вялікі паэтычны цыкл «Радкі кахання. З беларускай лірыкі», якім адкрываецца восьмы нумар часопіса «Неман» за 1974 год. У гэтай своеасаблівай мікраанталогіі беларускай інтымнай лірыкі мы сустракаемся з пятнаццаццю вядомымі паэтамі. Тут — старэйшыны нашай паэзіі Пятрусь Броўка, Максім Танк і Пімен Панчанка, вечна малады Леанід Гаўрылаў, песню якога, як і каханне, абарвала вайна. Самае светлае, запаветнае выказваюць Пятрусь Макаль і Хведар Жычка, Рыгор Барадулін і Ніл Гілевіч, Алег Лойка і Янка Сіпакоў, Юрась Свірка і Васіль Зуёнак, Кастусь Цвірка і Анатоль Грачанікаў. Кожны па-свойму, але ўсе гаворацъ, па сутнасці, пра адно і тое ж: непаўторнае, шчымліва-радаснае свята чалавечай душы. Іх пачуццё, узведзенае ў ступень Паэзіі, становіцца і нашым духоўным надбаннем, і нашым эмацыянальным вопытам.

Я кажу «нашым», маючы на ўвазе перш за ўсё ўласна беларускага чытача. Але дзякуючы мінскім літаратарам Браніславу Спрынчану і Генадзю Бубнаву дзесяткі радкоў кахання пятнаццаці беларускіх паэтаў нябачнымі вектарамі скіруюцца з гэтага часу і да сэрцаў дзесяткаў тысяч рускамоўных чытачоў часопіса ва ўсіх кутках нашай краіны. А што гэты чытач любіць такія вершы, можна не сумнявацца: выдадзеная некалькі гадоў таму назад двухтомная анталогія «Стихи о любви» ўмомант знікла з кніжных прылаўкаў.

Браніслаў Спрынчан, які піша на рускай мове,— вядомы ў рэспубліцы паэт. Радасна, што ў апошні час ён усё часцей пачаў як перакладчык звяртацца да творчасці беларускіх паэтаў. Жывучы ў Беларусі, ён і творчасць іх ведае не па чутках, і беларускую мову знае не толькі па слоўніку, і з нацыянальнай рэчаіснасцю знаёмы грунтоўна. А як гэта ўсё важна для перакладчыка! Без дасканалага

ведання і таго, і другога, і трэцяга на значныя творчыя здабыткі разлічваць не даводзіцца. Нават наяўнасць значнага паэтычнага таленту не выручыць. Таму, думаецца, роля рускіх перакладчыкаў нацыянальнай паэзіі, якія жывуць непасрэдна ў асобных рэспубліках, у будучым павінна ўзрасці яшчэ больш.

«Тэкстуальную дакладнасць ад паэтычнага перакладу могуць вымагаць толькі людзі, якія не разумеюць сутнасці справы. З імі і спрачацца не варта»,— пісаў калісьці Максім Рыльскі. Не капіруе, а даволі вольна абыходзіцца з арыгіналам і Спрынчан. Аднак вольнасць у яго не пераходзіць у адвольнасць, у дадумванне і дапісванне за паэта. Гэта ўжо, у прыватнасці, відаць з нагаданага перакладу верша Яўгеніі Янішчыц. У ім заменены некаторыя неістотныя рэаліі арыгінала, але паэтычнае напружанне пры трансфармацыі яго нічуць не зменшылася. Гэтаксама захаваў сваю прывабную паэтычнасць і верш Леаніда Гаўрылава «...Запахнуць ноччу духавітай травы»:

Когда луга, за речкою синея,
На росах настоят цветочный мед,
Все, что вокруг,— становится роднее,
Еще сильнее за душу берет.

Лучи луны меж ветками березы
И тыкв тугие плети на плетнях
Снуют запев, и легкой дымкой грезы
Овита песня о цветущих днях.

И выплывает, вижу я воочью,
Из ароматной дали полевой
Под звездами волшебной этой ночи
Такой живой и близкий образ твой.

Вершы Л. Гаўрылава, як слушна пісаў у прадмове да адзінага зборніка паэта К. Кірэенка,— «творы юнацкія, часам яшчэ не зусім дасканалыя, але з такім глыбокім роздумам, з такой замілаванасцю, з такой улюбёнасцю ў жыццё... якія пакідаюць глыбокае ўражанне». Пакідае глыбокае ўражанне і гэты верш паэта на рускай мове. Хоць арыгінал і пераклад не супадаюць літара ў літару. Каб убачыць гэта, варта працытаваць хаця б першую страфу:

Запахнуць ноччу духавітай травы,
Лагоднасцю павее ад ракі,—
І блізкае становіцца яскравым,
Хвалюючым, кранаючым такім.

Найбольшы поспех, як мне здаецца, выпаў на долю Б. Спрынчана пры перакладзе верша Петруся Броўкі «Пахне чабор».

Гэты хрэстаматыйны ўжо твор мае некалькі рускіх адпаведнікаў, у тым ліку такіх прызнаных работнікаў «службы сувязі», як Павел Кабзарэўскі і Якаў Хялемскі. Лепшы, безумоўна, пераклад Я. Хялемскага, які ўключаецца, бадай, ва ўсе рускія выданні выбраных твораў народнага паэта. Зразумела, што на творчае спаборніцтва ў такой сітуацыі Б. Спрынчану адважыцца было не проста. Але ён усё ж адважыўся і даў чытачам яшчэ адзін рускі варыянт верша, які не толькі не ўступае перакладам Кабзарэўскага і Хялемскага, але ў асобных месцах і пераўзыходзіць іх сілай паэтычнага выяўлення.

Вось толькі два невялікія супастаўленні-каментарыі — другой і апошняй строфаў верша. Арыгінал: «Лёгкія крокі на вузкай сцяжынцы, Дзяўчына ў белай іскрыстай хусцінцы, Быццам абсыпана промнямі зор...» Павел Кабзарэўскі: «Шаг еле слышный на узкой тропинке... Девушка в белой искристой косынке, Словно до звезд развернулся узор» (?). Якаў Хялемскі: «Легкая поступь на узкой тропинке, Вижу я девушку в белой косынке, Росы мерцают, как звездный ковер...» Браніслаў Спрынчан: «Стройная девушка, узкая тропка...Радость надежды затеплилась робко, Блики на блузке рисуют узор». Першыя два перакладчыкі бліжэй стаяць да формы арыгінала (нават захавалі яго рыфму), але вобразна-сэнсавая сутнасць яго (іншым словам — «дух») дакладней узноўлена ў трэцім перакладзе. У Кабзарэўскага сустракаем далёкую ад арыгінала невыразную вобразную дэталь («словно до звезд развернулся узор»), у Хялемскага — дэталь фізічна і псіхалагічна нематываваную («росы мерцают, как звездный ковер» — раннім летнім вечарам расы няма, ды калі б яна і была, то ці мог лірычны герой верша, уся ўвага якога палонена дзяўчынай «у белай іскрыстай хусцінцы», заўважыць яе?). Апошняя страфа. Браніслаў Спрынчан: «Вспомню тот вечер — и вновь по тропинке Тихо идет она в белой косынке... Кликну — лишь эхом откликнется бор». Як бачым, сюды, у канец верша, прыйшла касынка, «згубленая» напачатку. Пераклад у цэлым дакладна перадае сэнс і настрой арыгінала: «Час той схаваўся за дальняй гарою, Здасца хвілінай — яна прада мною... Выйду. Гукаю. Маўклівы прастор». У Хялемскага ж тут — лагічная недакладнасць: «Вечер тот скрылся за дальней горою. Встреча былая мне снится порою. Выйду. Окликну безмолвный простор». Пасля «снится» — адразу «выйду». Як зразумець?..

Ёсць у перакладзе Спрынчана і невялікія страты. У прыватнасці, страчаны такі каларытны вобраз арыгінала, як параўнанне сонца з жар - птушкай. Але страты кампенсаваны належнымі знаходкамі. У

цэлым жа верш П. Броўкі гучыць па-руску ў тым жа рэгістры, з той жа сілай, што і ў арыгінале.

Творчы почырк у Генадзя Бубнава некалькі .іншы. Ён мацней трымаецца арыгінала, бліжэй стаіць да яго літары, прытрымліваецца запавета В. Бялінскага: патрэбна, каб у перакладзе быў відаць паэт, а не перакладчык. Усюды ён строга вытрымлівае форму першатвора. Скажам, надта нялёгка было дабіцца ідэнтычнасці ў пераўвасабленні шасцірадкоўяў Хведара Жычкі з іх арыгінальнай рыфмоўкай: абббба. Але будова страфы ўсюды захавана. У шасці перакладзеных Бубнавым вершах нідзе не парушаны аўтарскі памер, рыфмоўка або архітэктоніка.

У гэтым сэнсе большы папрок мы можам адрасаваць Спрынчану, які ў перакладзе верша Максіма Танка «Добры дзень» змяніў і памер, і сінтаксічны малюнак. І хоць верш, здаецца, гучыць і няблага, усё ж танкаўскага ў ім малавата...

Лепшыя пераклады Бубнава («Рабінавы гай» П. Панчанкі, «Пад дажджом» М. Макаля, «...Ад «не трэба, не трэба» Р. Барадуліна) сведчаць, што з часам атрад таленавітых рускіх перакладчыкаў беларускай паэзіі можа папоўніцца яшчэ адным здольным творцам. Яму трэба толькі набірацца вопыту, творча сталець і — смялей ставіцца да арыгінала, пазбыцца яго гіпнозу, што назіраецца, у прыватнасці, у перакладзе верша Алега Лойкі «...Любоў прыходзіць не ў семнаццаць». Гэта — пры той добрай увазе да ўсіх галоўных кампанентаў формы твора, якая ёсць у перакладчыка.

Пачуццё сапраўднага кахання не ведае нацыянальных меж. Адна з галоўнейшых моў кахання — паэзія — такія межы, на жаль, знае. Але што яны значаць перад сілай арыгінальнага паэтычнага слова, памножанай на любоў перакладчыка?..

*1974*

### ***Невядомы пераклад з Адама Міцкевіча***

У фондах беларускага гісторыка і этнографа М. Доўнар-Запольскага, што захоўваюцца ў Цэнтральным гістарычным архіве УССР (Кіеў), трапіўся мне ў рукі лісток паперы з напісаным лацінкай вершам на беларускай мове: «Бура на моры. Санет Адама Міцкевіча, пералажыў з польскага на беларускі язык А. Ельскі». Зварот да арыгінала паказаў, што гэта — пераклад санета А. Міцкевіча «Бура», які ўваходзіць у славуты цыкл «Крымскіх санетаў». Давайце ўчытаемся ў радкі, што ляглі на паперу ледзь не сто гадоў таму назад:

Ўзарвала жаглі, руль прыснуў, вада раве, страх родзе,
Грамада плача, помпы енчаць — грук!
Астатнія ліны выпалі людзям з рук —
Разам з крывавым сонцам надзея заходзе!..
Завыў віхар, вална ўзнялася, а на яе горы,
Паўстаўшыя з марскога разлогу,—
ўзышоў анёл смерці і мчыць на залогу,
Як той ваяка, што да штурму бегчы скоры...
Ляжаць многі морам мёртвы, то рукі ўзносяць у натлоку,
Той паў да заве прыяцелей сваіх,
Іншыя моляцца, каб ад смерці адкасацца;
Адзін жа, ціха седзячы гдзесь збоку,
Ўздумаў: Шчаслівы, хто сілы траціць і без іх:
Ён, бач, да бога шчыры, да і мае з кім жагнацца...

Архіўныя дакументы наводзяць на думку, што пераклад санета А. Міцкевіча, па ўсёй верагоднасці, прызначаўся для «Календаря Северо-Западного края на 1889 г.», складзенага і выдадзенага М. Доўнар-Запольскім, але чамусьці туды не трапіў (там, дарэчы, былі змешчаны ўрывак з «Гапона» В. Дуніна-Марцінкевіча, беларускія вершы «Ноччу ў сяле» Н. Ф. і «Могілкі» Д. К — ко). Як на сённяшні ўзровень нашай паэзіі, мастацтва паэтычнага перакладу, самой літаратурнай мовы, то гэты пераклад санета А. Міцкевіча мае пераважна гістарычную цікавасць. Але хіба гэта так ужо мала — гістарычная цікавасць?

«Бура на моры» — першы санет на беларускай мове. Хай сабе яму не стае яшчэ мастацкай дасканаласці, гарманічнай узгодненасці формы і зместу (у адрозненне ад арыгінала), аднак жа — першы!..

«Бура на моры» — адзін з нямногіх паэтычных перакладаў, якія пакінула нам скупое на літаратурны плён XIX стагоддзе. У ім ёсць адначасова тое, што адмаўляе наш сённяшні рэалістычны пераклад: літаралізм і адвольнасць (асабліва ў заключным трохрадкоўі). Але ж і ўвесь тагачасны пераклад, і не толькі беларускі, хварэў на гэта!

«Бура на моры», нарэшце, яшчэ раз неаспрэчна сведчыць пра вялікую цікавасць беларусаў да творчасці іх геніяльнага земляка.

Як вядома, першым беларускім перакладам з А. Міцкевіча з'яўляецца ўзнаўленне пачатковых раздзелаў «Пана Тадэвуша», ажыццёўленае В. Дуніным-Марцінкевічам у 1859 годзе. Пасля гэтага да творчасці польскага паэта звярталіся А. Абуховіч, Ю. Ляскоўскі, А. Гурыновіч, А. Ельскі. Аднак, на вялікі жаль, амаль нічога з іх перакладаў не было ў свой час апублікавана і, відаць, страчана для нас беззваротна. Сёння вядомы толькі пачатак «Пана Тадэвуша» ў трактоўцы В. Дуніна-Марцінкевіча і А. Ельскага, а таксама верш А.

Міцкевіча «Вілія» ў перакладзе А. Гурыновіча. Вось амаль і ўсё — з усяго XIX стагоддзя!

«Бура на моры» далучаецца да гэтых твораў.

Застаецца толькі растлумачыць паасобныя паланізмы, што сустракаюцца ў перакладзе А. Ельскага. Дарэчы, яны мелі пэўнае пашырэнне і ў іншых творах XIX ст., напісаных на беларускай мове,— па словах самога А. Міцкевіча, «самай гарманічнай і з усіх славянскіх моў найменш зmenенай».

Жаглі — парусы; ліны — канаты; залога — экіпаж, каманда; у натлоку — у цеснаце; жагнацца — развітвацца.

*1979*

### ***Мацаванне братэрства***

Відаць, няма зараз у літаратурным абыходку слоў больш папулярных, чым «дружба», «сувязі», «кантакты». Канкрэтнае ж выяўленне гэтых сувязей — самае living рознае. Гэта — і даволі частыя паездкі асобных пісьменнікаў і цэлых пісьменніцкіх брыгад з адной рэспублікі ў другую на розныя літаратурныя дні, тыдні, дэкады (яны, дарэчы, выклікалі ў свой час добразычлівую ўсмешку Максіма Рыльскага: «Калі я чую слова «дружба», рука адразу цягнецца да келіха»). І напісанне твораў — нарысаў, эсэ, падарожных нататак, цыклаў вершаў, аповесцей, раманаў — пра зямлю і справы сяброў. І водгукі ў прэсе на значныя юбілейныя даты, выхад выдатных кніжак, іншыя знамянальныя падзеі ў жыцці той ці іншай «не сваёй» рэспублікі. І пераклад на родную мову здабыткаў мастацкага слова іншых народаў. І многае іншае...

У мінулай пяцігодцы ў руху былі, бадай, усе формы міжлітаратурных сувязей: і паездкі, і дэкады, і водгукі, і творчыя ўзаемаўплывы, і пераклад... Спатрэбіўся б, відаць, спецыяльны падліковец, каб усё гэта выявіць, улічыць, належным чынам падрахаваць. Аднак, зразумела, асноўны плён дружбы — не ў колькасці сустрэч і ўзаемаперакладаў. Важней іншае — духоўная роднасць нацыянальных літаратур і савецкіх культур у цэлым. Тая роднасць, якая вядзе да трывалай ідэйнапалітычнай еднасці, духоўнага адзінства ўсяго савецкага народа.

Найбольш дзейсная форма міжлітаратурных сувязей — мастацкі пераклад. Пераклад вельмі часта з'яўляецца вынікам інтэнсіўнага развіцця розных відаў творчых кантактаў: асабістага знаёмства пісьменнікаў, пісьменніцкіх паездак у братнія рэспублікі, вывучэння

іншамоўнага прыгожага пісьменства і г. д. У сваю чаргу, ён сам адчувальна ажыўляе, актывізуе іншыя віды літаратурных узаемасувязей. Усё гэта прадвызначае асаблівае месца мастацкага перакладу ў сістэме духоўнага ўзаемаабмену нацый.

Як жа развівалася ў нас перакладчыцкая справа ў апошняй пяцігодцы?

У 1975 годзе ў рэспубліцы пачаў выдавацца штогадовы альманах перакладной літаратуры «Далягляды». На старонках альманаха, які набыў ужо сталую прыхільнасць чытачоў, знайшлі месца многія ўпершыню ўзноўленыя па-беларуску паэтычныя, празаічныя і драматургічныя творы савецкіх і замежных аўтараў. У выдавецтве «Мастацкая літаратура» (дарэчы, адзіным, у якім выходзілі мастацкія кнігі ў перакладзе на беларускую мову) пабачылі свет такія капітальныя перакладныя выданні, як двухтомныя анталогіі ўкраінскай і літоўскай савецкай паэзіі (у калектыўным перакладзе), выдатна ўзноўлены В. Сёмухам «Фаўст» Гётэ, анталогія славенскай паэзіі XIX — XX стст. «Маці мая, Славенія» (пераклад Н. Плевіча), асобныя зборнікі серыі «Паэзія народаў СССР» і «Паэзія народаў свету» і інш. Пачаўся выпуск даўно чаканых выбраных твораў майстроў беларускага мастацкага перакладу. Выйшлі зборнікі «Агні ў прасторах» Юркі Гаўрука, «Сем цудаў свету» Язэпа Семяжона і «У свет па песні» Аляксея Зарыцкага. Увогуле ж у другой палове 70-х гг. у рэспубліцы выдавалася штогод у сярэднім 30—35 перакладных кніг мастацкай літаратуры (у тым ліку дзіцячых). Разам з іншымі перакладнымі выданнямі (грамадска-палітычнымі, навукова-тэхнічнымі) яны склалі амаль чвэрць (дакладна — 23,2 %) усяго аб'ёму друкаванай прадукцыі на беларускай мове. Гэта значна больш, чым, скажам, у Расіі ці на Украіне, дзе колькасць перакладных кніг (усіх жанраў) займае адпаведна 3,4 % і 14,6 % ад усёй колькасці кніг, выдадзеных на рускай і ўкраінскай мовах.

Сапраўды, зрабілі і робім мы нямала. Можна было б, як кажуць, і спачыць на лаўрах. Аднак штораз большыя маштабы нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў нашай краіне, патрэбы беларускай савецкай літаратуры, якая няспынна развіваецца, узбагачэнне нацыянальнай культуры, урэшце, дабратворны прыклад сяброў і суседзяў вымушаюць нас не спыняцца на дасягнутым. Больш таго, цяперашні этап развіцця культурных узаемасувязей савецкіх нацый і народнасцей патрабуе якасна новага падыходу да высакароднай працы па мацаванні братэрства. Працу, якую мы павінны супрацьпаставіць настырным патугам некаторых колаў раз'яднаць

народы, абудзіць у іх шавіністычныя і нацыяналістычныя настроі, узаемную варагоўлю.

Да міжлітаратурных узаемасувязей неабходна падыходзіць з усёй сур'ёзнасцю. Прычым падыходзіць да іх як да адзінай, цэласнай сістэмы, што ахоплівае ўсе віды і формы творчых кантактаў і ажыццяўляецца на самых розных узроўнях: ад асабістых знаёмстваў пісьменнікаў розных нацый і да ўзаемадзеяння цэлых нацыянальных літаратур. У нас жа, на жаль, пакуль што няма ні выразных адносін да міжлітаратурных узаемасувязей менавіта як да сістэмы (вялікай, складанай і ў той жа час цэласнай сістэмы!), ні спецыяльнага органа, які б займаўся толькі і выключна справамі Узаемасувязей роднай літаратуры з іншанацыянальнымі. Што да апошняга, то, думаецца, узорным для нас мог бы стаць прыхільна сустрэты ў сакратарыяце СП СССР вопыт грузінскіх таварышаў.

Гадоў сем назад па пастанове ЦК КП Грузіі і СМ Грузінскай ССР пры рэспубліканскім Саюзе пісьменнікаў была створана спецыяльная калегія па ўзаемасувязях літаратур. Штат калегіі зараз налічвае 78 чалавек, з іх 35 — перакладчыкі. Калегіі было выдзелена на год па 100 друкаваных аркушаў у кожным з чатырох выдавецтваў і прыдадзены альманах перакладной літаратуры «Сауджэ» (6 нумароў у год па 15 аркушаў кожны). У складзе калегіі — чатыры асобныя рэдакцыі. Рэдакцыя інфармацыі і тэорыі перакладу адразу занялася выяўленнем таго, што з грузінскай літаратуры перакладзена на рускую мову, мовы народаў СССР і замежныя і што з іншых літаратур перакладзена ў розны час на грузінскую мову. Зразумела, такая праца ў канчатковым выніку мела на мэце выявіць усё тое, што патрэбна перакласці: з грузінскай мовы — на іншыя і з іншых —на грузінскую. Каб практычна дапамагчы перакладчыкам, калегія пачала рыхтаваць так званы банк падрадкоўнікаў: падрадковых перакладаў вядомейшых іншанацыянальных твораў (для грузінскіх перакладчыкаў) і твораў грузінскіх аўтараў (для магчымых перакладчыкаў з грузінскай літаратуры). Гэтым, а таксама даследаваннем гісторыі і тэорыі грузінска-іншанацыянальных літаратурных кантактаў занялася рэдакцыя літаратурных узаемасувязей. Трэцяя рэдакцыя — мастацкага перакладу і каардынацыі — стала займацца ўжо непасрэднай практыкай мастацкага перакладу і разам з гэтым — работай з творчай моладдзю. Нарэшце, рэдакцыя «Руставелеўскай бібліятэкі» запачаткавала выданне на грузінскай мове помнікаў сусветнай культуры, заснавала серыю «Бібліятэка сусветнай літаратуры» ў 80-ці тамах. Выданні помнікаў культуры пачалі змяшчаць не толькі грузінскі пераклад таго ці іншага твора, але і пашыраны навуковы каментарый да яго, а таксама

выказванне перакладчыка пра арыгінал, перакладчыцкія прынцыпы, увасобленыя пры перакладзе.

Вось што такое сістэмны падыход да літаратурных узаемасувязей на практыцы!

Безумоўна, у выніку своеасаблівасці ўмоў, у якіх развіваецца беларуская савецкая культура, у нас маецца свая спецыфіка ў сістэме міжлітаратурных узаемасувязей. У прыватнасці, дзякуючы блізкасці беларускай мовы да рускай нам, відаць, няма неабходнасці ствараць спецыяльны банк падрадковікаў. Магчыма, тое сёе яшчэ з грузінскага вопыту можа не прыдацца. А ў астатнім — чаму б не пераняць добрае, карыснае, жыццёвае?

Скажам, ці не пара разумна скласці і хораша выдаць па-беларуску бібліятэку сусветнай класікі? Калі і не ў 80-ці тамах, як выдаюць грузіны, то хаця б у 50-ці (столькі тамоў, дарэчы, будзе мець аналагічная казахская бібліятэка). Няцяжка спланаваць такую бібліятэку, улічыць перакладзенае ўжо на належным узроўні, загадзя заключыць дагаворы з пісьменнікамі на пераклад твораў, якія па-беларуску не ўзнаўляліся наогул ці пераклады якіх устарэлі. Апрача ўсяго, гэта ўнесла б неабходны навукова-планавы пачатак у выданне перакладной літаратуры ў нашай рэспубліцы.

Далей. Грузінская калегія ўзяла ў свае рукі ўсю справу ажыццяўлення і публікацыі перакладаў. У нас жа секцыя мастацкага перакладу Саюза пісьменнікаў Беларусі не надзелена, па сутнасці, ніякімі правамі. Яна не можа ні абавязаць выдавецтва надрукаваць той ці іншы пераклад, ні забараніць друкаванне нейкага слабога перакладу. Яна можа толькі параіць. Але хто асабліва да той парады прыслухоўваецца? Калегія пры Саюзе пісьменнікаў Грузіі рэцэнзуе літаральна ўсе мастацкія пераклады яшчэ да выхаду іх у свет. Зразумела, у гэтым выпадку існуе магчымасць палепшыць пераклад, а то і зусім яго адхіліць (калі ён не варты публікацыі). У нас жа адзіны жанр літаратуры, які чамусьці не рэцэнзуецца ў выдавецтве,— гэта мастацкі пераклад...

Я называў штогоднік «Далягляды». Колькі разоў, і ў вусных выступленнях і ў друку, узнімалася пытанне, каб ператварыць яго хаця б у штоквартальнік! Але справа ні з месца. А «Сауджэ» выходзіць шэсць разоў у год!..

Ды не толькі грузінскі вопыт можа быць нам карысны.

У шэрагу рэспублік даўно існуюць спецыяльныя прэміі за лепшыя здабыткі ў творчай працы па ўмацаванні міжлітаратурных узаемасувязей. Так, на Украіне штогод прысуджаюцца дзве літаратурныя прэміі — адна імя Паўла Тычыны «Пачуццё сям'і

адзінай» (за творы і дзейнасць па інтэрнацыянальным выхаванні) і другая імя Максіма Рыльскага (за мастацкі пераклад).

Ёсць такія ж прэміі і ў іншых рэспубліках. У нас пытанне пра аналагічную прэмію імя Максіма Багдановіча ўзнімалася яшчэ на пленуме праўлення СП БССР у 1976 годзе. Аднак дагэтуль яно не знайшло свайго вырашэння.

У Латвіі пытанні перакладу выкладаюцца нават у сярэдняй школе, не кажучы ўжо пра ВНУ (у вучэбных планах універсітэтаў і педінстытутаў БССР такіх навуковых курсаў няма). Міністэрствам асветы і Саюзам пісьменнікаў Латвіі праводзяцца штогоднія творчыя конкурсы маладых перакладчыкаў. Пераможцы ўзнагароджваюцца, іх пераклады публікуюцца рэспубліканскімі выданнямі (у нас, бадай, не было выпадку, каб «чыстага» перакладчыка запрасілі на семінар творчай моладзі, які штогод праводзіцца СП БССР сумесна з ЦК ЛКСМБ). Ва Узбекістане ўжо шосты год выходзяць літаратурна-крытычныя штогоднікі «Майстэрства перакладу», у якіх узнімаюцца праблемы гісторыі і тэорыі перакладу, пытанні перакладчыцкай практыкі (мы пакуль што не можам пахваліцца ніводным такім зборнікам). У маленькай Эстоніі перакладаюць з арыгінала больш чым з шасцідзесяці моў, вырашыўшы, такім чынам, праблему падрыхтоўкі перакладчыкаў — знаўцаў тых ці іншых моў (мы ўсё яшчэ думаем, як гэта зрабіць). У той жа Эстоніі мовазнаўцы з павагай ставяцца да мовы перакладной мастацкай літаратуры, вывучаюць яе, уключаюць у розныя слоўнікі, даведнікі (беларускія мовазнаўцы нават найвыдатнейшыя пераклады ігнаруюць: у «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» няма ніводнай ілюстрацыі з перакладнога выдання). Выдавецтвы ўсіх саюзных рэспублік імкнуцца выдаць як мага больш перакладных кніг (па колькасці перакладных выданняў БССР сярод саюзных рэспублік заняла ў 1979 годзе апошняе месца). Ва ўсіх саюзных рэспубліках можна падпісацца практычна на любое рускае перыядычнае або асобнае выданне (у Беларусі нельга выпісаць збор твораў пісьменніка, што выдаецца ў Кіеве, Вільнюсе або Рызе, як і наадварот: у Кіеве, скажам, нельга падпісацца на Збор твораў Купалы ці Коласа, што выдаецца ў Мінску)...

У сістэме міжлітаратурных узаемасувязей важнае кожнае звяно, кожны кампанент. Таму патрэбна дбаць і пра агульнае, і пра прыватнае. Бо агульнае — сістэма — складаецца з прыватных момантаў. У той жа час кожнае прыватнае вядзе да агульнага. Як сяброўская усмешка — да вялікай дружбы. Як шчыра працягнутая рука — да сапраўднага братэрства.

*1980*

### ***Тэорыя і практыка перакладу***

Штогод у свеце з'яўляюцца дзесяткі кніг, сотні газетных і часопісных артыкулаў, прысвечаных розным пытанням гісторыі, тэорыі і крытыкі навукова-тэхнічнага, грамадска-палітычнага і мастацкага перакладу. У розных краінах сёння выдаецца звыш трыццаці спецыяльных перакладазнаўчых часопісаў, рэгулярна выходзяць зборнікі, накшталт маскоўскіх «Мастерства перевода», «Тетрадей переводчика» або кіеўскай «Теорії і практики перекладу». І ўсё ж у сучасным перакладазнаўстве існуе адно вузкае месца, свая «ахілесава пята». Гэта — даследаванне сутнасці, своеасаблівасці, жывога працэсу перакладу з роднасных моў.

З усіх славянскіх рэспублік, бадай, толькі для Балгарыі характэрна асаблівая ўвага да гэтага пытання. Балгарска-рускі і балгарска-іншаславянскі ўзаемапераклад мае тут сваю даўнюю даследчыцкую традыцыю, яму прысвечана нямала навуковых публікацый. Сярод такіх прац вылучаецца кніга дацэнта Сафійскага універсітэта імя К. Охрыдскага Іванкі Васевай «Тэорыя і практыка перакладу» (София: Наука и изкуство, 1980). Гэта кніга, цалкам пабудаваная на блізкамоўным балгарска-рускім узаемаперакладзе, з'яўляецца, па сутнасці, першай у славянскім свеце прыватнай лінгвістычнай тэорыяй перакладу з блізкароднасных моў.

Па сваім мэтавым прызначэнні кніга І. Васевай — падручнік, адрасаваны студэнтам-русістам, якія вывучаюць тэорыю перакладу згодна універсітэцкага вучэбнага плана. Разам з тым манаграфія цікавая і карысная ўсім, хто мае адносіны да тэорыі і практыкі вуснага і пісьмовага перакладу з рускай мовы на балгарскую і з балгарскай — на рускую. Відавочна, у чымсьці яна можа дапамагчы нават вопытнаму перакладчыку мастацкай, а не толькі навукова-тэхнічнай літаратуры. Аднак непасрэдны адрасат выдання прадвызначыў і кола пытанняў, якія ў кнізе разглядаюцца, і нават яе пабудову. Пад адной вокладкай знайшлі сабе месца праблемы як прыватнай, так і агульнай тэорыі перакладу — у тым выглядзе, у якім яны распрацаваны ў працах буйнейшых савецкіх перакладазнаўцаў (А. В. Фёдарава, Л. С. Бархударава, Я. І. Рэцкера, В. Н. Камісарава, А. Д. Швейцара і інш.). І. Васева дае азначэнне перакладу, называе яго віды, расказвае пра значэнне перакладу ў сучасным свеце, спыняецца на навуцы пра пераклад. Прычым усё гэта яна імкнецца звязаць з практыкай балгарскага перакладу, праілюстраваць прыкладамі, блізкімі для балгарскага чытача. Тое ж можна сказаць і пра раздзелы манаграфіі, у якіх расказваецца пра пераклад як

двухмоўны камунікатыўны акт, пра ўплыў на перакладазнаўства новых дасягненняў сучаснага мовазнаўства (трансфармацыйная граматыка, семіётыка, кампанентны аналіз і інш.), пра асноўныя напрамкі ў тэорыі перакладу: тэорыю заканамерных суадпаведнасцей Я. Рэцкера, тэорыю ўзроўняў эквівалентнасці В. Камісарава, семантыка-семіятычную мадэль Л. Бархударава.

Калі першая частка кнігі І. Васевай, прысвечаная агульнай тэорыі перакладу, з'яўляецца, па сутнасці, пераказам асобных перакладазнаўчых палажэнняў (зрэшты, падчас гэтыя вядомыя палажэнні ў тым-сім удакладняюцца, развіваюцца), то другая частка, што займае дзве трэці аб'ёму ўсяго выдання,— гэта ўжо канцэптуальна самастойнае, новае ў прыватнай тэорыі перакладу даследаванне. Безумоўна, і тут аўтарка «Тэорыі і практыкі перакладу» выкарыстоўвае паасобныя навуковыя і метадалагічныя адкрыцці буйных перакладазнаўцаў (напрыклад, тэорыю функцыянальных суадпаведнасцей А. Фёдарава, яго ж класіфікацыю разыходжанняў у граматычным ладзе моў і г. д.). І тут яна абапіраецца на шматлікія працы мовазнаўцаў, спецыялістаў у галіне рускай і балгарскай лексікалогіі, марфалогіі, сінтаксісу і стылістыкі. Аднак строгая канкрэтнасць праблематыкі даследавання (руска-балгарскі ўзаемапераклад), своеасаблівасць фактычнага матэрыялу (прыклады з перакладаў рускіх пісьменнікаў на балгарскую мову і балгарскіх пісьменнікаў — на рускую мову) абумовілі арыгінальнасць, навізну і практычную каштоўнасць перакладазнаўчай працы І. Васевай.

Усе праблемы, што вынікаюць з практыкі руска- балгарскага ўзаемаперакладу, І. Васева дзеліць на тры групы: лексіка-семантычныя і фразеалагічныя пытанні перакладу, граматычныя пытанні перакладу, стылістычныя пытанні перакладу. Перад намі, па сутнасці, кантрастыўная лексікалогія, граматыка і стылістыка рускай і балгарскай моў, якая ўзнікае непасрэдна з практыкі перакладу і, у сваю чаргу, гэтай практыцы адрасуецца. «Тэорыя і практыка перакладу» (перш за ўсё яе другая частка) становіцца на пагранiччы паміж чыстай лінгвістыкай і ўласна тэорыяй перакладу, у аднолькавай ступені аказваючы добрую паслугу і той, і другой. Калі ўлічыць, што мэта кнігі — вучэбная, то менавіта такі яе характар здаецца найбольш прымальным. Ва ўсякім разе аналагічныя савецкія дапаможнікі па перакладу з англійскай, французскай, нямецкай і іншых моў на рускую якраз і дапамагаюць студэнтам не толькі набыць неабходныя навыкі навукова-тэхнічнага і грамадска-палітычнага перакладу, але і паглыбіць веданне як замежнай, так і сваёй, роднай мовы. Упэўнены, той, хто пройдзе вывучку «па Васевай», не толькі

авалодае неабходным мінімумам перакладчыцкіх сродкаў і прыёмаў, але і спасцігне такія семантычныя, граматычныя і стылістычныя нюансы рускай і балгарскай моў, на якія, пры раздзельным вывучэнні гэтых моў, не заўсёды і звяртаецца ўвага.

Як падкрэслівае сама І. Васева, у кнізе «разглядаюцца толькі асноўныя пытанні лінгвістычнай тэорыі перакладу. У ёй зусім не закранаецца спецыфіка перакладу літаратуры». Аднак усе палажэнні даследавання ілюструюцца прыкладамі не з навукова-тэхнічнага ці грамадска-палітычнага, а, за рэдкім выключэннем, з мастацкага перакладу. Аўтарка манаграфіі пры гэтым не ўлічвае (як, зрэшты, і ўсе прадстаўнікі чыста лінгвістычнай тэорыі перакладу) такія кампаненты зыходнага тэксту, як аўтарскі стыль, нацыянальная своеасаблівасць арыгінала, яго мастацкая структура. А ўзнаўленне менавіта гэтых кампанентаў мастацкага тэксту — задача падчас больш важная і складаная, чым захаванне ў перакладзе семантыкі і стылістыкі (у вузкім значэнні) першакрыніцы. Вось чаму тады-сяды не зусім можна згадзіцца з тэарэтычнымі развагамі перакладазнаўца, яго папрокамі або, наадварот, пахвальбой перакладчыкаў. Калі б перад намі был і тэксты навукова-тэхнічныя, тады ўсё стала б на свае месца. Што да тэкстаў мастацкіх, то падчас пры іх узнаўленні сродкамі іншай мовы намнога большае значэнне, чым захаванне семантыкі, мае перадача якога-небудзь кампанента мастацка-вобразнай структуры.

Часам выклікае пярэчанні трактоўка некаторых вобразаў рускай прозы і паэзіі. Так, згодна Васевай, у вершы М. Лермантава «Утес» «хмарка залатая» ўвасабляе легкаважную жанчыну. А чаму б у вобразах «утеса-великана» і «тучки золотой» не ўявіць сабе закаханых? Тады б, магчыма, па-іншаму ўспрымаўся даследчыцай пераклад лермантаўскага верша П. Славейкавым, у якім ужо «легкаважным» з'яўляецца мужчына (руская «тучка» стала балгарскім «облаком»),

Зрэшты, мы ўжо пачалі гаварыць пра пытанні, якія прама не адносяцца да гэтай манаграфи. Пра іх яшчэ будзе нагода паразважаць. Бо, як піша ў заключэнні да кнігі сама І. Васева, «пытанні перакладу паэзіі, драматургіі, прозы... будуць распрацаваны ў асобнай кнізе». *1980*

### ***Шлях да рускага чытача***

У апошні час увагу даследчыкаў усё больш прыцягваюць літаратурныя ўзаемасувязі, што дапамагаюць глыбей асэнсаваць як

нацыянальную своеасаблівасць узаемадзеючых літаратур, так і ступень іх блізкасці і роднасці, пункты судакранання. Адной з такіх прац з'яўляецца манаграфія А. Рысака «Животворный источник духовного вдохновения: Поэзия Леси Украинки в русских переводах» (Львоў: Вища школа, 1981), у якой на шырокім фактычным матэрыяле, падчас зусім новым, даследуецца працэс успрымання паэзіі Лесі Украінкі ў дарэвалюцыйнай Расіі, разглядаюцца шляхі асваення яе творчасці ў паслякастрычніцкі перыяд як праяўленне творчых узаемасувязей украінскай і рускай літаратур, вызначаюцца важнейшыя аспекты ў іх інтэрнацыянальным збліжэнні. Аўтар манаграфіі намеціў новыя праблемы ў пастаноўцы некаторых пытанняў тэорыі мастацкага перакладу.

Манаграфія складаецца з прадмовы, уступу («Некаторыя пытанні тэорыі мастацкага перакладу»), трох раздзелаў і заключэння з прылажэннем спісу перакладаў твораў Лесі Украінкі на рускую мову, спісу літаратуры, а таксама імяннога паказальніка.

Шырока і даволі грунтоўна разгледжаны дарэвалюцыйныя пераклады твораў Лесі Украінкі на рускую мову, ажыццёўленыя П. Грабоўскім, М. Старыцкім, І. Рукавішнікавым, Е. Левінай-Сысоевай, В. Смірновым, Л. Собалевым, А. Белазёравым, І. Лічко, П. Дзятланым і інш. Аўтар даследавання слушна звяртае ўвагу на тую вялікую ролю, якую адыграў у папулярызацыі творчасці Лесі Украінкі пецярбургскі часопіс «Жизнь», на старонках якога выступаў У. І. Ленін, друкаваліся творы М. Горкага, А. Чэхава, А. Серафімовіча, В. Верасаева, І. Франка, М. Кацюбінскага і інш. Увогуле пераканальнай з'яўляецца спроба А. Рысака даказаць, што аўтарам перакладу ўрыўка з верша ўкраінскай паэтэсы «Слова, чаму ты не сталь баявая...», выкарыстанага ў якасці эпіграфа для лістоўкі Аргкамітэта РСДРП (4 сакавіка 1903 г.), была менавіта Е. Левіна-Сысоева.

Слушныя сцверджанні аўтара манаграфіі і там, дзе ён, аналізуючы пераклады І. Рукавішнікава, у якіх вялікі працэнт адвольнасці, прыходзіць да заканамернай высновы: супрацьлегласць ідэйна-эстэтычных пазіцый мастакоў слова адмоўна адбіваецца на якасці перакладу. У сваіх перакладах І. Рукавішнікаў імкнуўся падагнаць тэксты Лесі Украінкі, паэтэсы глыбокага грамадзянскага тэмпераменту, пад свае эстэцка-дэкадэнцкія погляды. Цікавыя назіранні над перакладамі, што належаць А. Белазёраву (гэта імя ўпершыню ўводзіцца ў круг перакладчыкаў Лесі Украінкі), П. Дзятлаву і інш. Можна цалкам згадзіцца з аўтарам кнігі, што творы ўкраінскай паэтэсы, перакладзеныя на рускую мову ў дарэвалюцыйны час, значна пашырылі сферу свайго ўздзеяння на

чытачоў, нярэдка непасрэдна служылі агітацыйным задачам РСДРП, былі першымі крокамі на шляху да аб'ектыўнага, рэалістычнага ўзнаўлення ідэйна-вобразнага зместу першакрыніцы, яе мастацкіх асаблівасцей.

Другі і трэці раздзелы манаграфіі прысвечаны перакладам твораў Лесі Украінкі ў паслярэвалюцы перыяд. У савецкі час успрыманне рускім чытачом твораў Лесі Украінкі, як і іншых нацыянальных майстроў мастацкага слова, адбывалася на зусім іншай аснове, краевугольным камнем якой сталі прынцыпы нацыянальнай палітыкі. Гэта садзейнічала як росту маштабаў, так і павышэнню якасці перакладаў. Назіранні А. Рысака дазволілі яму зрабіць вывад, што ўжо ў даваенны час намаганнямі такіх паэтаў-перакладчыкаў, як М. Камісарава, М. Браўн, М. Алігер, П. Антакольскі, Е. Благініна і інш. была ў пэўнай ступені выпрацавана стылявая дамінанта перакладу, якая патрабуе асабліва беражлівага ўзнаўлення зместу арыгінала, гармоніі яго гучання, акцэнтаваных вобразаў-сімвалаў, уласцівых творчай манеры ўкраінскай паэтэсы.

Пасляваенны перыяд рускіх перакладаў твораў Лесі Украінкі — гэта перыяд паглыбленага прачытання яе вершаў і паэм ва ўсім багацці іх ідэйна-мастацкага зместу, значнага пашырэння чытацкай аўдыторыі, узмацнення ролі рускіх перакладаў у справе перастварэння слова Лесі Украінкі на іншыя мовы народаў СССР, у тым ліку — і на беларускую. Заўважым, дарэчы, што асваенне творчасці Лесі Украінкі рускай літаратурай разглядаецца не ізалявана ад агульнага працэсу асэнсавання ўкраінскага мастацкага слова. Кваліфікавана вядзецца размова пра асобныя праблемы перакладчыцкага мастацтва, пра творчую садружнасць рэдактараў рускіх перакладаў Лесі Украінкі — М. Рыльскага, А. Дэйча і М. Браўна.

Кнігу «Животворный источник духовного вдохновения» пранізвае думка: рускія пераклады паэзіі Лесі Украінкі — праяўленне аб'ектыўнай заканамернасці працэсу інтэрнацыяналізацыі, узаемадзеяння і ўзаемаўзбагачэння братніх літаратур нашай краіны, важкі фактар фарміравання ідэйна-эстэтычнага адзінства савецкай многанацыянальнай літаратуры. Гэты аспект дазваляе ўключыць дадзеную работу ў кантэкст сучаснай шырокай размовы аб узаемадзеянні літаратур.

Хацелася б падкрэсліць яшчэ: манаграфія А. Рысака, несумненна, з карысцю можа быць успрынята гісторыкамі і тэарэтыкамі беларускага перакладу. Яна можа (і павінна) аказаць стымулюючае ўздзеянне на з'яўленне аналагічных прац у нашым перакладазнаўстве.

*1981*

## *З клопатам пра пераклад*

Як вядома, колькасць перакладных мастацкіх выданняў у нас невялікая. У сярэднім у перакладзе на беларускую мову выдаецца штогод каля сарака вершаваных і празаічных кніг для дарослых і дзяцей. Сярод кніг для дарослых палову складаюць празаічныя творы і палову — паэтычныя. Звыш паловы выданняў літаратура народаў СССР, астатняе — літаратура сацыялістычных і капіталістычных краін (найперш — еўрапейскіх).

Прыведзены лічбы надзвычай красамоўныя. Яны, як кажуць, гавораць самі за сябе. Нам ячшэ расці і расці да сярэднесаюзных паказчыкаў — і па агульнай колькасці перакладных выданняў, і па іх тыражы, і па колькасці перакладных кніг на аднаго чытача...

Аднак гаворачы пра ўсё гэта і гаворачы з адзіным клопатам — пра далейшы рост беларускага нацыянальнага перакладу, я менш за ўсё хацеў бы скардзіцца, наракаць. Скаргамі наогул справе не дапаможаш. Важна іншае: цвяроза ацаніць сітуацыю, сур'ёзна разабрацца ў нашых патрэбах і магчымасцях, адшукаць зусім нявыяўленыя або мала скарыстаныя рэзервы.

Што ж, на мой погляд, трэба зрабіць, каб пры існуючых цяжкасцях з паперай (а перш за ўсё гэта не дазваляе зрабіць рэзкі скачок у павелічэнні колькасці перакладных выданняў) усё ж шчыльней далучыць беларускага чытача да здабыткаў іншакраінных літаратур, каб мацней паўздзейнічаць праз мастацкі пераклад на родную літаратуру, культуру ў цэлым?

Зразумела, найпрасцей было б павялічыць колькасць перакладных кніг за лік беларускамоўных выданняў. Але ж іх выпускаецца ў сярэднім 16 % ад усёй друкаванай прадукцыі рэспублікі! І ў такім выпадку мы сталі б падобныя да таго персанажа вядомай крылоўскай байкі, які, латаючы вопратку, выразаў латку на рукаве, каб залатаць ёю крысо. Замест такога малаплённага занятку можна было б з карысцю для справы выкарыстаць магчымасці, якія сёння маюць літаральна ўсе выдавецтвы рэспублікі, што выпускаюць (перш за ўсё з фінансавых меркаванняў) замежную класіку ў перакладзе на рускую мову. Беларускі чытач аднолькава вольна валодае і беларускай, і рускай мовамі. Яму, па сутнасці, няма вялікай розніцы, на якой мове чытаць Шэкспіра або Гётэ. Галоўнае, каб мастацкае ўзнаўленне твораў было выдатным. Пры наяўнасці высакаякасных перакладаў (а ў цэлым шэрагу выпадкаў такія пераклады ў нас ёсць), пры належнай рэкламе беларускія «Дэкамероны», «Дон Кіхоты» і «Фаўсты» будуць раскупляцца дзесяткамі

тысяч. І прыбыткі выдавецтваў выростуць, і — што самае важнае — чытачы застануцца задаволеныя, а нацыянальная культура атрымае патрэбную ёй духоўную «ін'екцыю». На Беларусі няма часопіса тыпу «Иностранной литературы», украінскага «Всесвіту» або грузінскай «Сауджэ», цалкам прысвечаных іншанацыянальным літаратурам. Ёсць адно выданне, што па сваім характары нагадвае названыя часопісы,— штогоднік «Далягляды». Шасцігадовы ўзрост «Даляглядаў» дазваляе выразна бачыць у штогодніку прамаці аналагічнага беларускага часопіса. Карысць, якую прынёс бы такі часопіс роднай культуры, інтэрнацыянальнаму яднанню народаў, з гакам акупіла б выдаткі на яго ўтрыманне. Часопіс зэканоміў бы пэўную частку кніжнага лістажу, што адводзіцца цяпер на перакладныя выданні, паколькі для многіх перакладаў дастаткова было б адной часопіснай іх публікацыі. Разам з тым перыядычнае выданне адчувальна ажывіла б крытыку перакладу, стан якой выклікае цяпер апраўданую трывогу.

Такім чынам, ператварэнне штогодніка «Далягляды» ў перыядычнае выданне, публікацыя беларускіх перакладаў замежнай класікі ва ўсіх рэспубліканскіх выдавецтвах значна павялічыла б магчымасці друкавання перакладной літаратуры. Тым не менш, відавочна, аднымі гэтымі захадамі праблемы вырашыць нельга. На маю думку, патрэбен якасна новы падыход да планавання перакладных выданняў, які ўлічваў бы сучасны стан развіцця мастацкага перакладу і перакладазнаўства ў рэспубліцы і ва ўсёй краіне, развіццё беларускай літаратуры, мовы, культуры ў цэлым, запатрабаванні сённяшняга чытача — дапытлівага, высокаадукаванага, двухмоўнага.

Рускія тэарэтыкі і практыкі мастацкага перакладу нястомна падкрэсліваюць: так званы азнаямленчы пераклад менш за ўсё патрэбны сучаснаму чытачу. Вядома, рускі пераклад з яго агромністымі магчымасцямі (творчымі і выдавецкімі) яшчэ можа дазволіць сабе тады-сяды раскошу простага азнаямлення чытачоў з нічым не прыкметнымі іншанацыянальнымі творамі. Для беларускага ж перакладу апусканне да звычайнай інфармацыйнасці, і не больш, раўназначна пагібелі. У той жа час колькі азнаямленчых перакладаў, перакладаў «з выпадку», «для галачкі» і г. д., выходзіць яшчэ з-пад друкарскага станка! Дастаткова глянуць на паліцы сталічных кнігарняў, спрэс устаўленыя нераскупленымі за некалькі гадоў перакладамі, каб упэўніцца ў гэтым.

Сённяшняга чытача эрзацам не спадманеш. Ён, чытач, адразу адрозніць чыстае золата ад металу бліскучага, але не каштоўнага. Зусім не было рэкламы ў перакладзенага В. Сёмухам «Фаўста» Гётэ, а

кніга разышлася за лічаныя дні. Гэтак жа хутка зніклі з кнігарняў «Лісце травы» Уітмена ва ўзнаўленні Я. Сіпакова, «Сто гадоў, сто паэтаў, сто песень» у перакладзе з балгарскай мовы Н. Гілевіча, «Песня пра зубра» Гусоўскага, перакладзеная Я. Семяжонам, і інш. А вось дзесяткі кніг, перакладзеныя бязмоўнымі паліглотамі «з казахскай», «з малдаўскай», «з кіргізскай», «з узбекскай» і іншых моў спакойна адлежваюцца на кніжных паліцах. Чытач ведае: перакладчыкі і выдаўцы пускаюць пыл у вочы, пераклад зроблены з шырокадаступнага рускага (звычайна падрадковага) перакладу, на агрэхі і хібы рускага ўзнаўлення наслаіліся новыя...

Сучасны беларускі перакладчык, узнаўляючы той ці іншы твор (а выдавец — плануючы твор да друку), павінен абавязкова ўлічваць не толькі наяўнасць і якасць ранейшых беларускіх перакладаў гэтага твора, але і яго магчымых рускіх перакладаў. У беларускага перакладу, зразумела, маюцца чыста свае, унутрыкультурныя і ўнутрымоўныя, задачы. Аднак гэта ніяк не пярэчыць таму, што любы такі пераклад адразу ўпісваецца ў беларуска-рускі перакладны кантэкст, уступаючы ў творчае спаборніцтва не толькі з «родным», але і з аналагічным рускім узнаўленнем твора. Статус дапаўняльнасці ніколькі не закрэслівае мастацкай самастойнасці беларускага нацыянальнага перакладу. Ён толькі вымагае, каб пры перакладзе арыентавацца перш за ўсё на творы, якія ні па-беларуску, ні па-руску яшчэ не гучалі. У тым жа выпадку, калі ёсць рускія адпаведнікі іншамоўнага твора,— каб беларускі пераклад з гонарам вытрымліваў творчае спаборніцтва з гэтымі адпаведнікамі. Як, скажам, семяжонаўскі Берне вытрымлівае спаборніцтва з Бёрнсам маршакоўскім, а гаўрукоўскі «Кароль Лір» — з больш чым дваццаццю рускімі ўзнаўленнямі гэтай класічнай трагедыі Шэкспіра. І, зразумела, статус дапаўняльнасці зводзіць на нішто вартасць так званых двайных перакладаў — перакладаў іншанацыянальных аўтараў не з арыгінала, а з іх рускіх мастацкіх узнаўленняў.

Усё сказанае патрэбна было б улічыць пры планаванні шматтомнай падпісной бібліятэкі сусветнай класікі на беларускай мове, неабходнасць якой асабліва востра адчулася ў апошні час. Такія бібліятэкі ўжо выдадзены або выдаюцца зараз у многіх саюзных і аўтаномных рэспубліках. Так, натхнёныя 200-томнай «Библиотекой всемирной литературы», узбекі выпускаюць аналагічную сваю. Сто тамоў у ёй адводзіцца літаратурам народаў СССР і столькі ж — літаратурам замежных краін. Выданне разлічана на дзесяць гадоў. Шматтомная бібліятэка сусветнай літаратуры друкуецца ў Грузіі. Нават у маленькай Абхазіі распачата выданне такой бібліятэкі ў 46-ці

тамах. Каб нам, беларусам, зноў не апынуцца на апошнім месцы (цяпер не па колькасці перакладных выданняў, а па іх структуры, сістэмнасці), трэба ўжо цяпер паклапаціцца пра такое выданне: абгаварыць і зацвердзіць спіс класічных твораў, што ўвойдуць у яго, улічыць лепшыя ранейшыя пераклады, заключыць доўгатэрміновыя дагаворы з перакладчыкамі на новыя пераклады і г. д. Зразумела, адной «Мастацкай літаратуры» выданне такой бібліятэкі будзе не па сіле. Да гэтага павінны падключыцца ўсе іншыя выдавецтвы рэспублікі.

І апошняе.

Думаецца, самы час нам падумаць пра выданне двух-, а то і трохтомнай «Анталогіі беларускага паэтычнага перакладу». Такая анталогія падвяла б рысу пад дасягненнямі новага беларускага перакладу, паказала б нязздзейсненае, накрэсліла б шляхі на будучае.

*1981*

## *У пошуках крытэрыя*

Пошукі крытэрыя дакладнасці (адэкватнасці, паўнацэннасці) мастацкага перакладу — адна з самых актуальных праблем сучаснага перакладазнаўства. Не дзіва, што ў свой час на старонках часопіса «Дружба народов» некалькі гадоў вялася вострая палеміка-дыскусія на гэтую тэму. Пошукам крытэрыя дакладнасці перакладу прысвяцілі свае навуковыя працы — кандыдацкія дысертацыі ўкраінец Віталій Радчук і грузінка Аіда Абуашвілі.

Праца В. Радчука так і называецца: «Праблема дакладнасці (верности) мастацкага перакладу» (1980). Аўтар яе ўвогуле аб'ектыўна і доказна падышоў да рашэння гэтай праблемы. Паклаўшы ў аснову сваёй навуковай канцэпцыі некаторыя думкі пра мастацкі пераклад Валерыя Брусава, даследчык паслядоўна развівае палажэнне пра дынамічную гнуткасць прынцыпаў перакладу, якія залежаць ад цэлага шэрагу фактараў: мастацкай спецыфікі арыгінала, прызначэння і нацыянальна-гістарычнай нормы перакладу, сугучнасці літаратурных традыцый, вопыту папярэдніх узнаўленняў пэўнага твора і г. д. Нельга не згадзіцца з адной важнейшай думкай навукоўца: «Калі твор мастацтва каштоўны сваёй мастацкай непаўторнасцю, то мастацтва ўзнаўлення заключаецца ва ўліку гэтай непаўторнасці. Прынцып перакладу прадвызначаецца самім арыгіналам».

Праблема дакладнасці мастацкага перакладу звязана з цэлым шэрагам іншых, не менш важных і не да канца вырашаных у

перакладазнаўстве, пытанняў. Сярод іх — вызначэнне аб'екта, жанру і метаду перакладу, раскрыццё яго культурнага значэння, пазнавальнай і эстэтычнай прыроды, даследаванне працэсу асваення арыгінала і дынамічнага характару граніц перакладальнасці і многае іншае. Мэты, пастаўленыя перад сабой даследчыкам, могуць здацца нават залішне шырокімі. Тым не менш сама пастаноўка гэтых пытанняў, імкненне калі не вырашыць, то хаця б унесці пэўны ўклад у іх вырашэнне, не можа не выклікаць адабрэння.

Цалкам можна падтрымаць вывад даследчыка аб тым, што паўнацэнны толькі той пераклад, у якім блізкасць да арыгінала і эстэтычная дзейснасць вынікаюць адно з другога: ён, пераклад, прыгожы, таму што дакладны, і дакладны, таму што прыгожы. Вывад гэты, думаецца, упаўне аб'ектыўны, паколькі лагічна вынікае з цэлай сістэмы ўсемагчымых доказаў, што ўлічваюць як лінгвістычны, так і эстэтычны аспекты перакладу.

Сама ж навука пра пераклад бачыцца даследчыкам як сінтэтычная, самастойная філалагічная навука, якая мае свой асобны прадмет, свае спецыфічныя праблемы і свой метад.

Што ж разумее пад крытэрыем дакладнасці мастацкага перакладу А. Абуашвілі, аўтарка даследавання «Лірычны герой і паэтыка перакладу» (на матэрыяле перакладу паэзіі Н. Бараташвілі, Важа Пшавелы, Г, Табідзе) (1982)? У якасці такога крытэрыя яна абірае воблік лірычнага героя ў яго непарыўнай сувязі з паэтыкай і стылістыкай вершаванага твора. Зразумела, гэты крытэрый не можа з'яўляцца меркай паўнацэннага ўзнаўлення твораў літаральна ўсіх паэтычных відаў і жанраў. Але ж А. Абуашвілі і не разглядае ўсю паэзію, а толькі чыстую лірыку, ідэйна-мастацкую сутнасць якой сапраўды прадвызначае воблік лірычнага героя. З другога боку, наўрад ці плённымі могуць быць пошукі ўсёахопнага крытэрыя дакладнасці перакладу, г. зн. крытэрыя, які падыходзіў бы да ўсіх родаў, відаў і жанраў літаратуры. І таму зусім рэзоннае сцвярджэнне сучаснага перакладазнаўца, што паняцце «дакладнасць» кожны раз, у залежнасці ад мастацкай своеасаблівасці арыгінала, набывае некалькі іншы сэнс. Апрача таго, даследчыца разглядае воблік лірычнага героя не сам па сабе, не ізалявана ад іншых кампанентаў зместу і формы лірычнага твора, а ў ненаўторнай сувязі з імі. Гэты момант з'яўляецца ледзь не самым істотным у вызначэнні крытэрыя дакладнасці мастацкага перакладу.

Вельмі важна, што да сваіх асноўных навуковых высноў даследчыца прыйшла не ў выніку нейкіх чыста тэарэтычных разваг, а на аснове глыбокага аналізу канкрэтных фактаў. Яе меркаванні пра

вартасці і недахопы асобных рускіх перакладаў з Н. Бараташвілі, Важа Пшавелы і Г. Табідзе пераканаўчыя, аргументаваныя. Аналіз перакладаў яшчэ раз з усёй відавочнасцю паказвае, што паэтычнасць і дакладнасць перакладу — паняцці не зусім ідэнтычныя. Дакладнасць (у шырокім сэнсе гэтага слова) уключае ў сябе і ўзнаўленне паэтычнасці арыгінала (калі, зразумела, яна першапачаткова прысутнічала ў ім). Але далёка не кожны паэтычны пераклад, тым больш той, які выкананы з падрадкоўніка ці перакладу-пасрэдніка, можа лічыцца дакладным. Перакладчыцкая версія можа быць толькі варыяцыяй, часам нават цікавай, на тэму арыгінала. Такія варыяцыі (а не ўласна пераклады) надзвычай распаўсюджаны ў перасатварэннях асобных сярэднеазіяцкіх, закаўказскіх, у тым ліку грузінскай, літаратур. Яны затушоўваюць, скажаюць воблік не толькі некаторых буйных паэтаў, але і цэлых нацыянальных літаратур. Даследаванне А. Абуашвілі сваім крытычным пафасам якраз і накіравана супраць такіх перакладчыцкіх «варыяцый на тэму». І ў гэтым — яшчэ адна яе несумненная вартасць.

Пошукі крытэрыя дакладнасці мастацкага перакладу працягваюцца...

*1982*

### *Пераклад — пасол міру*

Стрэлка барометра ў самым канцы лістапада 1988 года раптоўна пайшла на пацяпленне. У Маскве вокамгненна сышоў з асфальту снег, па стрэхах забарабанілі па-веснавому буйныя кроплі дажджу.

Гэту анамалію ў прыродзе ўдзельнікі 6-й Маскоўскай міжнароднай сустрэчы перакладчыкаў савецкай літаратуры ўспрынялі сімвалічна. Самы разгар халоднай вайны. Рэйган заклікае да «крыжовага паходу» супраць Савецкага Саюза і краін сацыялістычнай садружнасці, у Заходняй Еўропе размяшчаюцца «Першынгі» і крылатыя ракеты. А тут варта было сабрацца перакладчыкам, гэтым пасланцам міру і дружбы паміж народамі, як нават само надвор'е пацяплела, палагоднела. Ці не падказка гэта людзям: альтэрнатыва любому «холаду» — наладжванне даверу, узаемаразумення паміж народамі і краінамі?!

Каля ста чалавек з трыццаці краін Еўропы, Азіі, Амерыкі і Афрыкі некалькі дзён вялі зацікаўленую размову на тэму: «Гуманізм мастацкага перакладу. Пераклад як сродак дасягнення ўзаемаразумення паміж народамі, як важны фактар у барацьбе за прадухіленне

вайны». Несумненна, тэма гаворкі была падказана як сучасным — надзвычай трывожным — палітычным становішчам у свеце, так і асноўным «прадметам» размовы. Агульнавядомы гуманістычны пафас савецкай літаратуры, якая ствараецца сёння на 78 мовах, яе дружалюбны і міралюбны характар. Ёй арганічна непрымальна чалавеканенавісніцтва, прапаганда разбою, садызму, вайны. І той, хто бярэцца ўзнаўляць сродкамі роднай мовы такую літаратуру, тым самым ужо становіцца своеасаблівым рэтранслятарам гуманістычных ідэй дружбы і міру. Становіцца барацьбітом за гэтыя ідэі.

Сустрэча пачалася ўрачыстым пасяджэннем у вялікай зале Цэнтральнага Дома літаратараў імя А. Фадзеева, якую адкрыў сакратар праўлення СП СССР М. Федарэнка. Пра вялікую гуманістычную ролю мастацкага перакладу і ўдзел перакладчыкаў у барацьбе за мір гаварылі сакратары праўлення СП СССР С. Баруздзін, Ф. Кузняцоў і Ю. Сураўцаў, прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі перакладчыкаў балгарка А. Лілава, сакратар праўлення Савецкага фонду міру народная артыстка СССР Р. Ніфантава і інш. Канкрэтная, зацікаўленая размова пра пераклад працягвалася на пяці пасяджэннях «круглага стала», у якіх ад Беларусі прынялі ўдзел перакладчык Карлас Шэрман і аўтар гэтых радкоў. Выступіла ж усяго пяцьдзесят сем чалавек, у тым ліку такія вядомыя перакладчыкі і перакладазнаўцы, як В. Ганіеў, Л. Мкртчан, М. Новікава, П. Топер (СССР), Я. Дзярноўская, І. Сікерыцкі (Польшча), М. Крно, Д. Слабаднік (Чэхаславакія), Соня Брава (Куба), Дж. Дэвіс, Х. Перхам (Англія), М. Мортан (ЗША), Г. П. Вімал (Індыя), Х. М. Гуэль (Іспанія), Э. Баццарэлі (Італія), Гао Ман, Гэ Баоцюань (Кітай), Л. Рабэль (Францыя), Р. Тытцэ (ФРГ), У. Пальмер, С. Сторк (Швецыя), Б. Бажылаў, Н. Вылчаў (Балгарыя) і інш.

Выказванні пра ролю перакладу і мастацкай літаратуры ўвогуле ў прадухіленні тэрмаядзернай катастрофы перамяжоўваліся чыста прафесійнымі развагамі пра крытэрыі адэкватнасці мастацкага перакладу, стыль перакладчыка, своеасаблівасць перакладу ў межах пэўных моўных пар, перадачу творчай індывідуальнасці аўтара арыгінала і г. д. Плённасць гутаркі за «круглым сталом» была ў многім прадвызначана маштабнасцю «запеўных» дакладаў В. Озерава і А. Дзяменцьева — пра савецкую прозу і паэзію канца 70-х ;— пачатку 80-х гг.

Удзельнікам маскоўскага форума перакладчыкаў, асабліва замежным гасцям, значную карысць прынеслі сустрэчы з вядомымі рускімі пісьменнікамі і крытыкамі С. Залыгіным, Г. Бакланавым, В. Каверным, С. Дангулавым, А, Міхайлавым, В. Аскоцкім, І. Маця-

шовым, а таксама з супрацоўнікамі Інстытута рускай мовы імя А. Пушкіна на чале з яго дырэктарам прафесарам В. Кастамаравым.

Нам, беларусам, было прыемна, што і ў выступленнях удзельнікаў сустрэчы, і ў кулуарных размовах нярэдка гучалі прозвішчы асобных беларускіх пісьменнікаў, называліся творы беларускай мастацкай літаратуры, якія, дзякуючы перакладу, сталі ці толькі становяцца вядомымі замежнаму чытачу. Так, балгары з радасцю — і за нас, і за сябе — паведамілі, што ў Сафіі неўзабаве выйдзе томік выбраных твораў Максіма Багдановіча. Ігар Сікерыцкі ў сваім выступленні расказаў, што за два апошнія дзесяцігоддзі ў Польшчы (галоўным чынам у Лодзінскім выдавецтве) выйшла больш трыццаці кніг беларускіх аўтараў. З вялікай цеплынёю назваў ён прозвішча Язэпа Семяжона, які выдае зараз «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча ў сваім перакладзе на беларускую мову. Венгр Дзьердзь Рада, цяперашні галоўны рэдактар «Бабеля» — органа Міжнароднай федэрацыі перакладчыкаў, з прыемнасцю ўспамінаў сваю пабыўку на Беларусі ў 60-я гг., сказаў, што трэці нумар часопіса «Савецкая літаратура» за 1984 г., які выходзіць на венгерскай мове, амаль цалкам будзе прысвечаны беларускай літаратуры. У часопісе, дарэчы, публікуецца і артыкул самога Д. Рада, у якім ён расказвае пра свой шлях да беларускай зямлі і яе літаратуры, пра сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі. «Ведаеце, хто мой самы любімы беларускі паэт? — спытаў Д. Рада і тут жа сам адказаў: — Францішак Багушэвіч. Яго верш «Мая дудка» я ўключыў у сваю новую кнігу перакладаў, у якой, побач з арыгіналамі, друкуюцца пераклады твораў дваццаці паэтаў свету».

У перапынку паміж пасяджэннямі «круглага стала» да мяне падышоў перакладчык з ГДР К. Д. Голь. Аказваецца, ён перакладае цяпер на нямецкую мову аповесць І. Шамякіна «Гандлярка і паэт». Шкадуе, што не ведае беларускай мовы, што перакладаць даводзіцца праз рускую мову. «Па-мойму, Беларусь — адзіная славянская рэспубліка,— кажа ён,— якая не праводзіць летніх курсаў для замежнікаў па вывучэнні сваёй мовы. А як бы прыдаліся такія курсы не толькі славістам увогуле, але і нам, перакладчыкам беларускай літаратуры!..»

На Міжнародную нараду перакладчыкаў у Маскву ўпершыню прыехалі кітайцы. З прэсы мы ведаем, што новае кіраўніцтва Кітая пачынае перагляд асобных момантаў гісторыі краіны, у тым ліку — перыяду так званай «культурнай рэвалюцыі». Кіруючыя колы Кітая не могуць не ўлічваць імкнення шырокіх народных мас больш ведаць пра культурнае жыццё краін сацыялістычнай садружнасці і ў першую чаргу — Савецкага Саюза. Галоўны рэдактар часопіса «Шыцзе вэнсюэ» («Сусветная літаратура») Гао Ман і член праўлення Саюза

кітайскіх пісьменнікаў Гэ Баоцюань (дарэчы, абодва яны ў свой час перакладалі вершы Максіма Танка, а адзін з іх нават быў рэдактарам кнігі Янкі Купалы на кітайскай мове) прывезлі ў дар СП СССР даволі вялікі пакунак кніг рускіх савецкіх пісьменнікаў на кітайскай мове. Як паведаміў Гэ Баоцюань, у апошні час у Кітаі перакладзены і асобныя творы беларускіх аўтараў — В. Быкава і І. Шамякіна, а таксама выйшаў па-кітайску поўны «Кабзар» Т. Шаўчэнкі. Прычым пераклады зроблены з арыгіналаў — у Кітаі з'явіўся перакладчык, які валодае трыма ўсходнеславянскімі мовамі.

У выступленнях асобных удзельнікаў сустрэчы прагучала крытыка ў адрас Усесаюзнага агенцтва па аўтарскіх правах (ВААП) і «Міжнароднай кнігі» за недастаткова аператыўную і аб'ектыўную прапаганду за мяжой савецкай літаратуры, найперш — значных дасягненняў нацыянальных аўтараў. Скажам, сярод розных рекламных выданняў ВААП, прапанаваных замежным перакладчыкам на гэтай сустрэчы, з матэрыялаў па беларускай літаратуры былі толькі рэкламны лісток на п'есы А. Петрашкевіча і публікацыя пра «Знак бяды» В. Быкава ў штоквартальніку ВААП «Книга и искусство в СССР» (1983, № 4; выдаецца на рускай, англійскай, французскай, іспанскай і нямецкай мовах). Праўда, «выручыць» ВААП паспрабаваў Саюз пісьменнікаў СССР, разлажыўшы на гасцявых століках «беларускі нумар» часопіса «Савецкая літаратура» (1983, № 3), што выпускаецца пісьменніцкай арганізацыяй на некалькіх еўрапейскіх мовах. Усяго гэтага было, зразумела, яўна недастаткова, каб пазнаёміцца хаця б з самымі значнымі дасягненнямі беларускага мастацкага слова апошняга часу. Таму замежныя перакладчыкі з такой зацікаўленасцю ўспрымалі інфармацыю пра беларускую літаратуру, якая была ў нашых з К. Шэрманам выступленнях, за «круглым сталом», падыходзілі да нас у кулуарах а самымі рознымі, падчас нечаканымі, пытаннямі: «Чаму вы лічыце А. Адамовіча беларускім пісьменнікам, калі ён піша па-руску?», «Што азначае беларускае слова «неруш»?», «Што можна прачытаць пра беларускі верш?», «Ці выйдзе да юбілею Ф. Скарыны факсімільнае выданне яго кніг» і г. д.

Сімпозіумы, накшталт Міжнароднай сустрэчы перакладчыкаў савецкай літаратуры, карысныя не толькі ўзаемным абменам інфармацыі, своеасаблівай духоўнай узаемападзарадкай, але і асабістымі знаёмствамі, творчымі кантактамі, якія звычайна прыводзяць да больш трывалых кантактаў паміж самімі літаратурамі. На папярэдняй, пятай, сустрэчы перакладчыкаў у Маскве, што адбылася роўна чатыры гады таму назад, я прапанаваў прадстаўнікам замежных літаратур прыняць удзел у стварэнні кнігі аднаго верша — «А хто там

ідзе?» Янкі Купалы на мовах свету. Асобныя перакладчыкі ахвотна адгукнуліся на гэтую прапанову. Нарвежац Марцін Наг, скажам, адразу ж пераклаў верш на родную мову, а калі пасля Масквы яму давялося ў складзе перакладчыцкай дэлегацыі наведаць Мінск, то прачытаў свой пераклад на літаратурным вечары ў Інстытуце замежных моў, упісаў яго ў кнігу водгукаў мемарыяльнага Музея Янкі Купалы ў Вязынцы. На жаль, Марцін Наг сёлета не здолеў прыехаць у Маскву, не змог убачыць свой пераклад сярод іншых васьмідзесяці двух у выдатна выдадзенай «Мастацкай літаратурай» кнізе Янкі Купалы. Кніга яму будзе даслана поштаю. Аднак балгарын Найдан Вылчаў, партугалец Мануэль дэ Сеабра, некаторыя іншыя перакладчыкі не толькі шчыра абрадаваліся, убачыўшы кнігу, але і атрымалі яе ў падарунак.

Перакладчыцкая канферэнцыя, на жаль, была азмрочана і некаторымі горкімі падзеямі. Так, удзельнікі «круглага стала» хвілінаю маўчання ўшанавалі памяць двух чалавек, якія абявязкова павінны былі быць на форуме перакладчыкаў у Маскве,— старшыню Савета па мастацкім перакладзе пры СП СССР, класіка ўкраінскай савецкай літаратуры Міколу Бажана і шчырага прыхільніка савецкай літаратуры, перакладчыка з ФРГ Ігара Кастэцкага. Думаю, не варта казаць, што са смерцю М. Бажана страціла не толькі ўкраінская, але і ўся савецкая, у тым ліку беларуская, літаратура. Што да І. Кастэцкага, з якім мне пашчасціла пазнаёміцца на такой жа папярэдняй канферэнцыі ў Маскве, то гэта менавіта пры яго пасрэдніцтве Элізабет Котмайер (жонка І. Кастэцкага) пераклала — цудоўна пераклала! — верш «А хто там ідзе?» на нямецкую мову і затым выпусціла сваім коштам гэты пераклад асобнай кніжкай-лістком у серыі «На паэтычным узвышшы» (кніжачка экспануецца ў Літаратурным музеі Янкі Купалы). Сам жа І. Кастэцкі з вялікай цікавасцю ставіўся да беларускай літаратуры, сачыў уважліва за развіццём беларускага мастацкага перакладу, імкнуўся, па яго словах, «паслужыць беларускай культуры». Апошнім часам ён збіраў матэрыял для вялікага агляднага артыкула пра беларускую Шэкспірыяну для штогодніка заходненямецкага Шэкспіраўскага таварыства, дзе перад гэтым апублікаваў такі ж агляд армянскай Шэкспірыяны. І вось няма І. Кастэцкага... Пайшоў з жыцця праз некалькі месяцаў пасля смерці жонкі.

Не змог прыехаць у Маскву і перакладчык «А хто там ідзе?» на турэцкую мову вядомы турэцкі пісьменнік Атаол Бехрамаглу. Яго, актывіста Таварыства прыхільнікаў міру, лаўрэата міжнароднай літаратурнай прэміі «Лотас», нядаўна па прыгавору турэцкага суда

пасадзілі за краты. Адзіная «віна» яго, як падкрэсліў у сваім пратэсце, накіраваным міністру ўнутраных спраў Турцыі генеральны сакратар Асацыяцыі пісьменнікаў Азіі і Афрыкі Алекс Ла Гума, «заключаецца ў адданасці высокім ідэалам літаратуры, у вернасці справе міру і дружбы паміж народамі» («Литературная газета», 7 снежня 1983 г.).

Лёс Атаола Бехрамаглу як нельга лепш паказвае, што лепшыя перакладчыкі свету — гэта актыўныя барацьбіты за мір і дружбу, за сацыяльны прагрэс. У імя светлых ідэй чалавецтва яны нярэдка ідуць на розныя нягоды, на свядомыя самаахвяры. Бо, як слушна падкрэсліла ўдзельніца маскоўскага перакладчыцкага форуму, сёлетні лаўрэат прэміі СП СССР імя Максіма Горкага амерыканка Мірыям Мортан, «мы, перакладчыкі, павінны пазбягаць вежаў са слановай косці, мы павінны супрацьстаяць падпальшчыкам вайны, быць актыўнымі барацьбітамі за мір».

*1983*

## *За свае пяцьдзесят*

Не прызнаю перакладчыкаў-«усяедаў», гэтакіх бязмоўных паліглотаў, якія ахвотна бяруцца перакладаць з любой мовы па... падрадкоўніку.

Не разумею «чыстых» перакладчыкаў, якіх не хапае на нешта сваё, уласнае, хаця б на невялікую нататку пра аўтара, якога яны перакладаюць, на развагі пра свой перакладчыцкі метад.

На шчасце, Ванкарэм Нікіфаровіч не належыць ні да першых, ні да другіх. Знаўца балгарскай мовы і літаратуры, ён вось ужо чвэрць веку захоплена, я б сказаў, нават апантана, прапагандуе ў Беларусі балгарскую прозу. Прапагандуе найперш самімі майстарскімі перакладамі гэтай прозы на беларускую мову. Але ў няменшай ступені — і артыкуламі пра балгарскую літаратуру, даследаваннямі творчасці асобных балгарскіх пісьменнікаў, рэцэнзіямі на іх найбольш значныя творы.

Адзін пералік твораў, якія ў розны час пераклаў В. Нікіфаровіч на родную мову, выклікае пачуццё радаснага здзіўлення (ого, і гэта зрабіў адзін чалавек!), шчырай удзячнасці. Гэта — раманы і аповесці Крума Грыгорава «Танча з Гарацвета» (1961), Камена Калчава «Закаханыя птушкі» (1964) і «Люба» (1984), Георгія Караславава «Нявестка» (1966), Багаміла Райнава «Бразільская мелодыя» (1970), Грыгора Угарава «Кліча Радопскі бор» (1972), Георгія Мішава «Матрыярхат» (1978), кніга нарысаў Стэфана Паптонева «Беларусь —

белая балада» (1979, разам з Р. Барадуліным), п'есы (дарэчы, перакладзеныя ўпершыню ў СССР) Леды Мілевай «Калі лялькі не спяць» і Валерыя Пятрова «Тэатр — любоў мая», асобныя анталогіі, зборнікі: балгарскага апавядання «Скарб» (1967, разам з Н. Гілевічам), балгарскай гумарыстычнай прозы «Адпачынак з байкапісцамі» (1980), «Улыбки друзей» (1981) і інш. Апрача гэтага, колькі з'явілася з-пад пяра В. Нікіфаровіча водгукаў, артыкулаў пра балгарскіх літаратараў Г. Вылчава, Н. Вылчава, С. Паптонева, С. Уладзімірава, М. Мітоўскую, П. Кыневу і іншых! Не, нездарма ў 1978 годзе ён стаў кавалерам ордэна Кірыла і Міфодзія — вышэйшай урадавай узнагароды Балгарыі за дасягненні ў галіне культуры.

Сапраўдны перакладчык — не бяздумны «талмач», які ўзнаўляе ўсё, што толькі пад руку трапіцца. Ён абавязкова ўлічвае патрэбы роднага пісьменства, робіць усё дзеля яго далейшага росквіту. Ён улічвае ўсесаюзны і нават сусветны літаратурны кантэкст, прымае да ўвагі ўзровень і патрабаванні гэтага кантэксту. Адсюль — аб'ектыўнасць перакладчыцкага выбару, разуменне таго, што якраз у гэты час неабходна ўнесці ў беларускую літаратуру з сусветнай і ў сусветную — з беларускай.

Перакладчыку-практыку нямала дае і добрае веданне тэорыі перакладу, глыбокае знаёмства з творчым вопытам лепшых майстроў гэтага віду літаратуры.

Пра ўсё гэта думаецца, калі чытаеш кнігі «Усяму свету — свой дар» (1973) і «Дарогі ў шырокі свет» (1979), у якіх В. Нікіфаровіч прасочвае выхады беларускай літаратуры за межы нашай краіны, імкнецца вызначыць галоўныя рысы беларускай школы мастацкага перакладу, малюе творчыя партрэты вядомых беларускіх перакладчыкаў — А. Куляшова, У. Дубоўкі, Ю. Гаўрука, Я. Семяжона, Н. Гілевіча, Р. Барадуліна. А ўвогуле крытычная праца В. Нікіфаровіча ахоплівае не толькі названыя тэмы і імёны, але і ўласна беларускую літаратуру. Маю на ўвазе яго артыкулы і рэцэнзіі на паасобныя творы М. Танка, В. Быкава, А. Кулакоўскага,І. Пташнікава, П. Макаля, Р. Барадуліна і многіх іншых паэтаў і празаікаў.

Гаворка пра творчы даробак В. Нікіфаровіча будзе няпоўнай, калі не нагадаць яго васьмігадовую (1957-1965) працу ў Дзяржаўным выдавецтве БССР (з 1961 г.— выдавецтва «Беларусь») і васемнаццацігадовую (1965-1983) — на Беларускім тэлебачанні. У выдавецтве В. Нікіфаровічу пашчасціла быць рэдактарам першых (ці адных з першых) кніг Р. Барадуліна, С. Блатуна, Г. Бураўкіна, Ю. Голуба, В. Зуёнка, П. Макаля, І. Пташнікава, Р. Тармолы, дылогіі А. Адамовіча «Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой», дакументальных аповесцей

І. Новікава «Руіны страляюць ва ўпор» і «Гэта было ў Мінску», двухтомніка Выбраных твораў У. Дубоўкі і яго вядомых перакладаў «Санетаў» В. Шэкспіра. У часе ж працы ў Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання пісьменнік распачаў цыкл цікавых перадач «У адзінай сям'і» — пра літаратурныя і культурныя сувязі БССР з братнімі саюзнымі і аўтаномнымі рэспублікамі, надаў сістэматычнасць перадачам тэлевізійнага літаратурнага тэатра, сам зрабіў для тэлеспектакляў шэраг удалых інсцэніровак (напрыклад, рамана І. Мележа «Завеі. Снежань», аповесцей П. Броўкі «Разам з камісарам», Я. Сіпакова «Крыло цішыні» і інш.), арганізаваў тэлевізійныя літаратурныя цыклы «Запрашаем у кнігарню», «Мой родны кут», «У тэлевізійных тэатрах краіны» і інш.

Так, нямала зрабіў за свае пяцьдзесят Ванкарэм Нікіфаровіч, які нарадзіўся ў Мінску 15 лістапада 1934 года, скончыў філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна і цяпер плённа працуе на пасадзе загадчыка літаратурнай часткі мінскага Тэатра кінаакцёра.

*1984*

### *«Прекрасен наш союз»!*

Савецкае перакладазнаўства як асобная філалагічная навука ў апошнія дзесяцігоддзі самасцвярджаецца ўсё больш упэўнена і настойліва. Доказ таму — і кніга «Прекрасен наш союз: Література — переводчик — жизнь» (Кіев: Радянський письменник, 1986) прафесара Сімферопальскага універсітэта Марыны Аляксееўны Новікавай, якая добра вядомая сваімі цікавымі публікацыямі не толькі ва ўкраінскім, маскоўскім, але і ў беларускім друку. Прыгадаем хаця б яе артыкулы «Служба памяці» і «Калектыўны партрэт з Барадуліным», апублікаваныя ў свой час у газеце «Літаратура і мастацтва».

Кніга складаецца, апрача невялікіх уступу і заключэння, з чатырох раздзелаў: «Круглы стол: стваральнікі перакладаў, выдаўцы перакладаў»; «Інтэрпрэтацыя ці рэпрадукцыя?»; «Перакладчыцкая ўстаноўка: сола для аркестра»; «Перакладчыцкі тэкст: ці толькі слова?». Ужо самі назвы раздзелаў сведчаць як пра сутнасць навуковай гаворкі, так і пра яе стыль жывы, нязмушаны, вобразны. Сапраўды, пры усёй глыбіні і неардынарнасці ўзнятых пытанняў, пры, здавалася б, «сухасці» чыста навуковых праблем, кніга чытаецца лёгка, без асаблівых намаганняў з боку нават так званага «шырокага чытача». Марына Новікава выдатна валодае перакладазнаўчым матэрыялам, пачэрпнутым з гісторыі, тэорыі і практыкі мастацкага

перакладу, і гэта дае ёй магчымасць вольна аперыраваць дзесяткамі фактаў, імён, навуковых канцэпцый. Зразумела, гэтыя факты, імёны, канцэпцыі бяруцца перш за ўсё з рускага і ўкраінскага перакладу і перакладазнаўства, але даследчыца нярэдка звяртаецца да творчага і навуковага даробку іншых народаў СССР і замежных краін. Не абыходзіць яна ўвагай і беларусаў.

Так, у кнізе «Прекрасен наш союз» асобныя старонкі адведзены аналізу рускага (Я. Хялемскага) і ўкраінскага (А. Навіцкага) перакладаў верша П. Броўкі «Багата, родная ты мова». Даследчыца падрабязна і ўхвальна разглядае беларускі пераклад Р. Барадуліна балады вядомага ўкраінскага паэта І. Драча «Крылы». Параўноўваючы рускі (М. Цвятаевай) і ўкраінскі (М. Рыльскага) пераклады балады Ё. В. Гётэ «Лясны Цар», Новікава звяртаецца і да беларускіх перакладаў гэтага твора — Ю. Гаўрука і А. Лойкі. Яна супастаўляе ўкраінскае (Д. Паўлычкі) і беларускае (Н. Гілевіча) узнаўленні класічнага верша балгарына Х. Боцева «Хаджы Дзімітр», украінскі (П. Тычыны) і беларускі (Ю. Гаўрука) пераклады «Зімовага вечара» А. Пушкіна, рускі (С. Маршака), украінскі (М. Лукаша) і беларускі (Я. Семяжона) варыянты славутага «Фіндлея» Р. Бёрнса. «Беларуская тэма» кнігі паглыбляецца спасылкамі на творчы вопыт, на выказванні пра мастацкі пераклад В. Сёмухі, А. Яскевіча, І. Ласкова, Н. Кісліка, Б. Спрынчана і інш.

Адна з галоўнейшых праблем, якой прысвечаны многія працы Новікавай (у тым ліку яе доктарская дысертацыя) і якая заняла значнае месца і ў гэтым даследаванні,— стыль перакладчыка. Сёння мы можам смела гаварыць і пра стыль самой даследчыцы, куды ўваходзяць такія чыннікі, як шырокая эрудыцыя, даследчыцкі талент, імкненне да тактоўнай, аргументаванай навуковай спрэчкі, уменне арганічна спалучыць тэорыю з перакладчыцкай практыкай, жыва і вобразна выказаць свае думкі. Як правіла, з вучоным пагаджаешся нават у самых складаных выпадках, не можаш не пагадзіцца. Разам з тым кніга наводзіць на роздум, адкрывае прастор для новых навуковых пошукаў. Нават нязгода з асобнымі палажэннямі, выказваннямі аўтара прымушае шукаць важкія аргументы, факты, довады — гэта значыць,правацыруе актывізацыю навуковай думкі.

Марына Новікава сваім даследаваннем уносіць адчувальны ўклад у навуку пра мастацкі пераклад. І гэты ўклад ідзе найперш па лініі распрацоўкі такіх разуменняў, як адзначаны ўжо стыль перакладчыка, перакладчыцкі кантэкст (кантэксты), інтэрпрэтацыйная ўстаноўка перакладчыка, інтэрпрэтацыйныя магчымасці твора. Тут, па сутнасці, даследчыца выступае як

першапраходзец, першаадкрывальнік, які нават самі гэтыя паняцці ўводзіць у перакладазнаўства ўпершыню. Разам з тым у кнізе ўздымаецца і цэлы шэраг праблем, звязаных з сучаснай практыкай мастацкага перакладу, у тым ліку — арганізацыйных. Даследчыца, засноўваючыся на ўласных шматлікіх гутарках з перакладчыкамі, падтрымлівае, абвяргае, цытуе многіх з іх: Д. Білавуса, Д. Паўлычку, В. Каротыча, І. Драча, Л. Вышаслаўскага, В. Качэўскага, Д. Паламарчука, С. Жолаб і інш. Менавіта ў гэтым імпэтным дыялогу з апанентамі найлепш высвечваюцца і навуковая ўсеўзброенасць, і страснасць даследчыцы, і яе палкае жаданне паўплываць на сучасную практыку ўкраінскага і ўсяго савецкага мастацкага перакладу.

Пастаўленай мэты даследчыца, несумненна, дасягнула. Кніга «Прекрасен наш союз» — адна з самых яскравых перакладазнаўчых прац апошняга дзесяцігоддзя.

*1986*

### *Крытыцы перакладу — быць!*

Многія хваробы перакладной літаратуры, як і літаратуры ўвогуле, можна было б хутчэй падлячыць, а то і зусім вылечыць, калі б у нас існавала баявітая, патрабавальная, незалежная крытыка перакладу. На старонках друку час ад часу з'яўляюцца рэцэнзіі на перакладныя выданні, артыкулы па праблемах перакладу — М. Арочкі, Ю. Канэ, В. Нікіфаровіча, К. Шэрмана, А. Яскевіча і інш. Нават тады-сяды выходзяць кнігі, прысвечаныя мастацкаму перакладу. Так, у 80-я гады апублікаваны «Майстэрства Аркадзя Куляшова-перакладчыка» М. Кенькі (1983), «Жыццёвасць традыцый» Я. Клімуця (1985), «Выхад за круг» А. Яскевіча (1985), «Беларуска-рускі паэтычны ўзаемапераклад 20-30-х гадоў» А. Вераб'я (1990), перавыдадзена даследаванне Д. Палітыкі «Янка Купала — перакладчык» (1985), артыкулы пра пераклад увайшлі ў зборнікі выбранай крытыкі А. Зарыцкага «За словам-падарункам» (1985) і Ю. Гаўрука «Ступень адказнасці» (1986). Па актыўнасці і ўзроўні крытычнай і тэарэтычнай перакладчыцкай думкі Беларусь сярод саюзных рэспублік займае далёка не апошняе месца. І ўсё ж, відаць, крытыкі перакладу як сістэмы, як асобнай галіны літаратурнай дзейнасці ў нас пакуль што яшчэ няма.

Прычын тут шмат. Галоўная з іх, на маю думку,— адсутнасць спецыяльнай трыбуны, перыядычнага выдання, цалкам прысвечанага перакладной літаратуры. Ды што там асобны перакладчыцкі часопіс

— у нас дагэтуль, у адрозненне ад усіх славянскіх рэспублік, адсутнічае спецыяльны агульнафілалагічны часопіс. Такія выданні выходзяць, бадай, ва ўсіх рэспубліках СССР. На Украіне, напрыклад, выдаецца некалькі такіх часопісаў: «Радянське літературознавство», «Мовознавство», «Народна творчість та етнографія», «Укра'інська мова і література в школі». Апрача гэтага, два разы ў год выпускаецца зборнік «Теорія і практіка перекладу». Не дзіва, што і перакладазнаўцам, у тым ліку крытыкам перакладу, ёсць там дзе разгарнуцца, ёсць дзе аператыўны ўмяшацца ў перакладчыцкі працэс (я тут наўмысна не называю літаратурна-мастацкія часопісы, якіх на Украіне непараўнана больш, чым у нас, і найперш — «Всесвіт», спецыяльнае перакладное выданне).

Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што ў нас падчас не выкарыстоўваюцца як след нават тыя абмежаваныя магчымасці, якія існуюць. Не проста, скажам, работнікам «Літаратуры і мастацтва» або іншых перыядычных выданняў знайсці крытыка, каб заказаць яму рэцэнзію на нейкае перакладное выданне. Напісаць рэцэнзію (кваліфікаваную!) на пераклад можа толькі чалавек, які, апрача здольнасцей літаратурнага крытыка, валодае дзвюма мовамі — арыгінала і перакладу, добра ведае творчасць аўтара арыгінала, мае дастатковыя пазнанні ў тэорыі мастацкага перакладу. Не заўсёды знойдзецца такі крытык. А калі знаходзіцца — не заўсёды ахвотна адгукаецца на прапанову рэдакцыі: яго праца ацэньваецца гэтак жа, як і праца звычайнага крытыка, што мае справу з адным, а не двума тэкстамі, з адной, а не дзвюма мовамі... Вось чаму і не з'яўляюцца рэцэнзіі на большасць перакладных выданняў. А калі і з'яўляюцца, то часцей за ўсё гэта не аналіз перакладу, а развагі — больш ці менш цікавыя — пра сам арыгінал. Такі крытык звычайна гаворыць пра творы, што ўвайшлі ў кніжку, ацэньвае іх ідэйную скіраванасць, праблематыку, нават можа ўказаць на асобныя мастацкія асаблівасці, але пра тое, як ператалумачаны гэтыя творы на беларускую мову, якая якасць самого ўзнаўлення — ні слова ці, у лепшым выпадку, пару слоў у канцы рэцэнзіі, накшталт: «Перакладчыку X. у цэлым удалося перадаць своеасаблівасць арыгінала сродкамі роднага слова». І ўсё!..

Думаецца, на пэўнае ажыўленне крытыкі і павышэнне якасці мастацкага перакладу магло б паўплываць добра наладжанае выдавецкае рэцэнзаванне рукапісаў літаральна ўсіх перакладаў. Цікава, чаму, у адрозненне ад арыгінальных твораў, рукапісы перакладных кніг, за невялікім выключэннем, не рэцэнзуюцца? А калі і рэцэнзуюцца, то чаму прозвішчы рэцэнзентаў не паказваюцца, як

гэта прынята, на адвароце тытулаў? Няўжо пераклад добрай кніжкі (а перакладаюцца ў нас, сапраўды, пераважна добрыя кнігі) — гэта абавязкова добры пераклад? Наіўнае заблуджэнне!..

Перыёдыка, у тым ліку «Літаратура і мастацтва», нярэдка скардзіцца на няхват жывых і аб'ектыўных водгукаў на факты бягучага літаратурнага жыцця. Маецца на ўвазе рэцэнзаванне кніжных навінак, пра што я ўжо казаў. Але чаму б у такім разе не публікаваць рэгулярна скарочаныя стэнаграмы (менавіта стэнаграмы, а не адвольна адрэдагаваныя пераказы) пасяджэнняў творчых секцый, нарад, пленумаў, на якіх абмяркоўваюцца гэтыя кніжныя навінкі? Прычым абмяркоўваюцца, як правіла, зацікаўлена, жыва, палемічна сапраўды крытычна! Ці не ідзе нежаданне асобных рэдакцый часопісаў і газет «выносіць смецце з хаты» ад іх залішняй заспакоенасці і прыхаванага чынапаклонства? Калі гэта так, то пара не толькі літаратурна-мастацкай крытыцы, але і органам друку скінуць з сябе гэты непатрэбны груз.

*1990*

# З М Е С Т

## *Папярэднікі і сучаснікі*



## *На скрыжаванні культур*



## *На шалях перакладу*